Комісія Ц.В.К. Б.С.С.Р.
па організацыі сьвяткаваньня
20 годзьдзя рэволюцыі 1905 г.
Істпартаддзелу Ц.К.К.П. (б) Б.

# 1905 у Беларусі




Менск
1925

КАМІСІЯ ЦВК БССР ПА ОРГАНІЗАЦЫІ СЬВЯТКАВАНЬНЯ 20-годзьдзя РЭВОЛЮЦЫІ 1905 году і ГІСТПАРТАДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

# 1905 год у Беларусі

## ЗБОРНІК АРТЫКУЛАЎ, УСПАМІНАЎ І МАТЭРЫЯЛАЎ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
М. ШУЛЬМАНА

МЕНСК—1925

# ПРАДМОВА.

Зборнік гэты не прэтэндуе на тое, каб даць гісторыю рэвалюцыйнага руху 1905 г. ў Беларусі, ні тым больш — гісторыю значнага ліку партыйных груп, існаваўшых у нашым краі. Гэта зборнік, галоўным чынам, сырых матэрыялаў для гісторыі 1905 году ў Беларусі, але такіх, якія, аднак, могуць даць некаторае ўяўленьне чытачу аб характары, умовах і, калі можна сказаць, „побыце“ рэволюцыйнай барацьбы 1905 г. ў Беларусі.

Зборнік зложаны шляхам адбору з тых матэрыялаў, якія былі прысланы мясцовымі гістпартамі. Але ня ўсе яны выявілі патрэбную энэргію ў зьбіраньні матэрыялаў. Калі ў кнізе адсутнічае апісаньне руху ў некаторых акругах, дык гэта тлумачыцца тым, што акругі гэтыя альбо зусім нічога ня прыслалі ці несваячасова прыслалі матэрыял, альбо прыслалі слабы матэрыял, ня зусім падыходзячы.

Гэты зборнік зьяўляецца, такім чынам, па сутнасьці толькі першым зборам матэрыялаў па гісторыі 1905 г. ў Беларусі. 2-гі збор матэрыялаў аб 1905 г., які падрыхтоўваецца Гістпартам высьветліць, галоўным чынам, рух, у вакругах, не прадстаўленых у гэтым зборніку.

Грунтоўным, найбольш каштоўным артыкулам кнігі зьяўляецца артыкул Е. Беленькага аб працы Менскай організацыі РС-ДРП. Ён дае малюнак агульных абставін, міжпартыйных адносін, узаемаадносін партыі і профруху і г. д., прычым малюнак, які праўдзіва адбівае і характарызуе становішча не ў адным выключна Менску, але і ў іншых гарадох Беларусі.

Па сутнасьці сваёй, такім чынам, артыкул зьяўляецца як-бы ўводным і палягчае разуменьне ўсёй кнігі.

У Беларусі параўнальна рана пачынае шырака разьвівацца масавы социял-дэмократычны рух, але адбываўся ён да канца 1903 году амаль выключна пад сьцягам „Бунду“, ахапляючы толькі яўрэйскіх рабочых.

„Бунд“, як організацыя, склаўся на год раней Расійскай Социял-Дэмократычнай Рабочай Партыі („Бунд“ у 1897 г., а 1-шы зьезд РС-ДРП у 1898 г.).

У васнову організацыі „Бунду“ ляглі забастовачныя касы ў цэхах (гл. „Материалы по истории еврейского рабочего движения“, вып. выд. „Трибуна“ 1906 г.). Профэсыянальных саюзаў, апроч гарбароў і шчаціншчыкаў, да 1905 г. ня было. Цэхавыя сходы, бундаўская організацыя замянялі яўрэйскім рабочым профсаюзы. Забастовачная барацьба займала галоўнае месца ў дзейнасьці „Бунду“.

У першы пэрыод свайго існаваньня ён быў блізкім да „экономістых“. Гэта ідэёвая блізкасьць тлумачыць той факт, што на II зьезьдзе партыі „экономістыя“ падтрымоўвалі бундаўскія запатрабаваньні па організацыйным пытаньні.

Уцягненьне яўрэйскіх рабочых Беларусі ў організацыі „Бунду“ мела спачатку адносна больш масавы характар, чымся ўцягненьне расійскіх рабочых буйных прамысловых цэнтраў краіны ў організацыі РС-ДРП. Гэта тлумачыцца мноствам прычын.

Яўрэйскі рабочы Беларусі ў той пэрыод—гэта рабочы ня буйнай, фабрычна-заводзкай, а дробнай, пераважна кустарнага альбо рамесьніцкага тыпу, прамысловасьці. У гэтай прамысловасьці становішча рабочых было асабліва цяжкім, экспліёатацыя асабліва нязноснай. Рабочы дзень даходзіў да 15—17 гадзін у суткі. У другой палове 90-х гадоў агітатары заклікалі яўрэйскіх рабочых змагацца за захаваньне „закону Кацярыны II“, па якому рабочы дзень не павінен быць звыш 12 гадзін...—дробненькая, але характэрная рыска, якая дае магчымасьць уявіць экспліёатацыю таго часу. Заработак быў надзвычайна малы, раўняючыся ў большасьці галін саматужнае прамысловасьці 50—60 руб. у год.

Апрача экономічнага і політычнага ўціску, ад якога мучыліся рабочыя іншых нацыянальнасьцяй, яўрэйскі рабочы пакутаваў яшчэ ад уціску нацыянальнага, цесна зьвязанага з політычным. Бяспраўе яўрэяў нарадзіла масу лішняга насельніцтва, пазбаўленага сродкаў для існаваньня. Шырокая эміграцыя не магла ахапіць усю масу, што шукае працы. Убоства ўтварае абставіны спрыяючыя, з аднаго боку, разьвіцьцю рэволюцыйных плыняў, з другога—нацыяналістычных, сіонісцкіх імкненьняў, мараў аб яўрэйскай дзяржаве ў Палестыне.

Больш лёгкаму ўцягненьню ў рэволюцыйны рух яўрэйскіх рабочых, апрача паказаных вышэй абставін, спрыяла таксама і тое, што агульнакультурны ўзровень яўрэйскіх рабочых быў некалькі вышэй, чымся ў расійскіх рабочых.

Да выхаду „Бунду“ з РС-ДРП (на II зьезьдзе партыі ў 1903 г.) організацый РС-ДРП у Беларусі не існавала, і яны пачынаюць узьнікаць усяго толькі пасьля расколу ў канцы 1903 г. і пачатку 1904 году. „Бунд“ тут быў монополістым, і гэтую монополію ён жадаў замацаваць за сабою ў сваім запатрабаваньні пабудаваць партыю на фэдэрацыйных пачатках і прызнаць яго, „Бунд“, „адзіным прадстаўніком яўрэйскага пролетарыяту“, дзе-б апошні не знаходзіўся.

II зьезд партыі адхіліў высунуты „Бундам“ організацыйны прынцып-фэдэрацыю па тэй прычыне, што ўмовы рэволюцыйнай барацьбы патрабавалі больш сьціслага аб'яднаньня соц-дэмократаў усіх нацый. Фэдэрацыйнае пабудаваньне партыі зрабілася-б перашкодаю да яднаньня сьвядомых пролетараў розных нацый і давяло-б да раздрабленьня і паслабленьня сіл рэволюцыйнага пролетарыяту.

Выхад „Бунду“ з партыі быў вынікам нацыяналістычнай ідэолёгіі яго правадыроў з інтэлігенцыі. Апошнім прыходзілася аддаваць шмат энэргіі на тое, каб выхаваць бундаўскіх рабочых у нацыяналістычным духу і апраўдаць у іхных вачох раскол. Пра гэта сьведчыць шэраг фактаў.

Вось, напрыклад, Г. Шклоўскі ў сваіх успамінах расказвае пра адносіны да позыцыі „Бунду“ ў організацыйным пытаньні бундаўскіх рабочых у Бабруйску:

> „Большасьць з тых сьвядомых яўрэйскіх рабочых, з якімі мне прыходзілася сустракацца, энэргічна і рашуча працівяцца тым тэндэнцыям, якія ім стараюцца навязаць прадстаўнікі „Бунду“—інтэлігенты. Самі-ж інтэлігенты-пропагандыстыя мне скардзіліся, што рабочыя аказваюцца зусім няўспрыймальнымі да тых артыкулаў „Арбэйтэр Штымэ“ (орган „Бунду“), у якіх праводзяцца нацыяналістычныя погляды“.

Гэтыя радкі былі напісаны аўтарам не цяпер, а пад уплывам непасрэдных уражаньняў у прыватным лісьце, ня вызначаным да друку.

У паведамленьні аб утварэньні Паўночна-Заходняга Камітэту РС-ДРП паказвалася на тое, што „Бунд“ у барацьбе з сіоніцкімі і іншымі нацыяналістычнымі элемэнтамі на яўрэйскай вуліцы („Поалей-Цыон“, „сіоністыя-соцыялістыя“ і г. д.), імкнучыся ўцягнуць у сваю організацыю ўсе опозыцыйныя элементы яўрэйства, усё больш і больш прасякаўся іх ідэолёгіяй і настроямі. Соцыял-дэмократычныя прынцыпы організацыі тупіліся, і яна ўсё больш афарбоўвалася ў нацыянальна-дэмократычныя колеры.

Вядомую ролю ў разьвіцьці нацыяналістычных настрояў у „Бундзе“ адыгралі нацыянальны ўціск, яўрэйскае бяспраўе і вырастаючае на гэтым грунце хваравітае пачуцьцё.

Выхаваньне масы ў нацыяналістычным духу доўга палягчалася для „Бунду“ тым, што яўрэйская рабочая маса літаратуры на расійскай мове не разумела, а РС-ДРП на яўрэйскай мове мала, альбо амаль што нічога не выдавала.

Імкнучыся апраўдаць у вачох масы патрэбу нацыянальнай абасобленасьці, „Бунд“ усё больш і больш падкрэсьлівае нацыянальныя моманты і асаблівасьці, аддаючы ім больш увагі, чымся агульна-палітычным пытаньням. Ён высоўвае запатрабаваньне нацыянальна-культурнай аўтономіі, стараючыся давесьці, што ён ня менш жадае захаваць яўрэйскія масы ад асыміляцыі, чымся іншыя яўрэйскія партыі. Так „Бунд“ стаў левым крылом яўрэйскіх дробна-буржуазных нацыяналістычных партый.

Опортунізм „Бунду“ выяўляецца ня толькі ў яго позыцыі ў організацыйным і нацыянальным пытаньнях, але і ва ўсіх агульна-палітычных. „Бунд“ у васнове далучаўся да правых плыняў соцыял-дэмократыі, спачатку да „экономістых“, затым да меншавікоў.

Характэрна, што на сваім IV зьездзе ў 1901 годзе „Бунд“ праводзіць абмежаваньне наступальных стачак.

У шмат якіх карэнных пытаньнях рэволюцыі „Бунд“ пасьля выхаду з партыі далучаецца да меншавікоў і наогул займае згодніцкую позыцыю ў пытаньні аб рэволюцыйна-дэмократычнай дыктатуры пролетарыяту і сялянства (удзел у часовым рэволюцыйным урадзе), аб блёку з кадэтамі, аб саветах і г. д.

У шмат якіх выпадках пад уплывам мас мясцовыя організацыі займалі больш рэволюцыйную позыцыю, чымся вярхі.

Для палітычнага аблічча „Бунду“ характэрны яго згодніцкія, опортуністычныя адносіны да закону Сталыпіна ад 15 лістапада 1906 году аб рэгуляваньні рабочага дня і сьвяточным адпачынку. Ня гледзячы на тое, што закон даручаў вырашэньне пытаньня гаспадаром, якія ў большасьці знаходзіліся ў мешаных камісіях і буржуазных гарадзкіх думах, „Бунд“ заклікаў рабочых да ўдзелу ў гэтых камісіях, спадзяючыся дабіцца ад іх палепшаньня становішча рабочае клясы, прычым ваяцкімі, цэнтральнымі лёзунгамі ён зрабіў ня клясавыя запатрабаваньні, а запатрабаваньні аб дазволе гаварыць у камісіях на яўрэйскай мове і барацьбу за суботні адпачынак для яўрэйскіх прадпрыемстваў і гандлёвых установаў. Паказальна таксама тое, што ў 1905 годзе, калі сталі нараджацца шматлікія профэсыянальныя організацыі, „Бунд“ адстойваў такую рэакцыйную ідэю, як утварэньне нацыянальных партыйных профсаюзаў.

Калі ў партыі адбывалася барацьба з „ліквідатарамі“, дык „Бунд“ далучаецца да апошніх, увашоўшы разам з імі ў „аўгустоўскі блёк“ (у 1912 г.).

Опортунізм „Бунду“ тлумачыцца, з аднаго боку, уплывам правадыроў „Бунду“, а з другога—характарам яўрэйскага пролетарыяту ў нашым краі і асяродзішча, у якім ён знаходзіўся. Беларусь—краіна землямробская, прамысловасьць у ёй была дробная, буйных прамысловых прадпрыемстваў было мала, яўрэйскія рабочыя амаль што ня мелі туды доступу (гэтыя цяжкасьці для яўрэйскіх рабочых прасягнуць у буйную прамысловасьць, між іншым, сталі для левых сіоністычных груп аргумэнтам для пэсымістычнай ацэнкі пэрспэктыў пролетарызацыі яўрэйскіх мас). Яўрэйскія рабочыя ў большасьці былі прымушаны працаваць у дробных рамесьніцкіх і кустарных майстэрнях. Гэта быў, такім чынам, у васнове пролетарыят рамесьніцка-саматужніцкага тыпу. Рабочыя працавалі побач з гаспадарамі, часта жылі ў іхнай хаце, шмат хто з рабочых спадзяваліся стаць з працягам часу самастойнымі гаспадарамі. Абкружаючае іх дробна-буржуазнае асяродзішча рабіла на іх вядомы ўплыў.

Ня гледзячы на гэта, трэба прызнаць, што сярод бундаўскіх рабочых быў вялікі лік адданых рэволюцыянэраў-змагальнікаў, з якіх шмат хто дапамог, а іншыя сталі героямі ў барацьбе з царызмам. „Бунд“ даў ім політычнае выхаваньне, організаваў іх, прабудзіў іхнюю рэволюцыйную энэргію, і не на гэтых рабочых, а на іх правадыроў ускладаецца віна за тое, што гэтая рэволюцыйная энэргія ня была накіравана, выкарыстана належным чынам.

У хуткім часе пасьля расколу, ня гледзячы на натугі кіраўнікоў, частка бундаўскіх рабочых, не жадаючы пагадзіцца з позыцыяй „Бунду“, выходзіла з яго і закладала групы РС-ДРП.

Гэтыя групы ў нашым краі зваліся „іскраўскімі“. іх сябры—„іскраўцамі“. Так зваліся тут і бальшавікі, і ня толькі непасрэдна пасьля II зьезду, але і пазьней, калі „Іскра“ зрабілася меншавіцкай, і „іскраўцамі“ можна было зваць выключна меншавікоў. Такая назва была тут вельмі пашырана. Тлумачыцца гэта тым, што распаду груп на бальшавіцкія і меншавіцкія організацыі ў Беларусі ня было: бальшавікі і меншавікі знаходзіліся ў аднэй організацыі.

Організацыі РС-ДРП былі ў нашым краі невялікія. Амаль што ўсюды ў склад груп РС-ДРП уваходзілі і бальшавікі, і меншавікі. Бальшавіцкімі лічыліся Менская і Бабруйская групы. Але і ў Менскай групе былі і меншавікі (гл. „Вперед“ і „Пролетарий“ вып. 5-ы, ст. 109), а Бабруйская група была бальшавіцкай усяго толькі ў першы пэрыод свайго існаваньня, а з пераменай складу сваіх кіраўнікоў яна зрабілася меншавіцкай. У іншых групах бальшавікі былі альбо адзінкамі, альбо складалі вядомую частку організацыі, якую іменна цяпер цяжка вызначыць. У некаторых організацыях сілы меншавікоў і бальшавікоў былі амаль што роўныя, напрыклад: у Дзьвінску, Віцебску, дзе часамі пераважвала адна частка, часамі другая. Наогул кажучы, Беларусь ня мела добрай глебы для значнага ўзросту бальшавізму.

Можна лічыць, што бальшавікі знаходзіліся у складзе груп РС-ДРП у ніжэйпералічаных мясцох: Менск, Бабруйск, Дзьвінск, Віцебск, Ворша, Магілеў, Барысаў, Копысь, Мсьціслаўль і Мазыр. Са ўсіх гэтых мясцовасьцяй мы знаходзім допісы ў бальшавіцкіх выданьнях „Вперед“ і „Пролетарій“.

Ня гледзячы на свой малы лік, групы РС-ДРП адыгралі вялікую ролю ў разьвіцьці рэволюцыйнага руху ў Беларусі. Апрача далучэньня да рэволюцыйнага руху рабочых не яўрэяў, сярод якіх да ўзьнікненьня груп РС-ДРП працы аніякай не вялося, соцыял-дэмократы разгарнулі энэргічную працу сярод сялянства.

Вельмі нязначную працу праводзілі соцыялістыя-рэволюцыянэры і „Беларуская Соцыялістычная Грамада“. Эсэры мелі нязначны ўплыў ня толькі ў гарадох, але і ў вёсцы дзе, ў іх было вельмі мала сувязяй. Што датычыць „Беларускай Соцыялістычнай Грамады“, дык яе ўплыў быў вельмі слабы. Гэта была інтэлігенцкая па свайму складу нешматлікая група, дзейнасьць якой была ў большасьці літаратурнага характару, выяўляючыся ў выданьні брошур, проклямацый, лістовак. Гэта нацыяналістычная партыя, якая па сваёй програме далучалася да ППС (Польскай Партыі Соцыялістычнай), была мала вядомай у рэволюцыйных сфэрах.

З дакумантаў, якія маюцца ў распараджэньні Гістпарту ЦК КП(б)Б, ня відаць нават, каб яна прыцягвалася да агульных політычных выступленьняў рэволюцыйных партый, напрыклад, пры ўтварэньні аб‘ядналых камітэтаў з мэтай правядзеньня вызначаных рэволюцыйных падзей. Усё гэта кажа пра нязначную ўдзельную вагу партыі і слабую яе дзейнасьць.

Трэба сказаць некалькі слоў пра адносіны буржуазіі да рэволюцыйных партый.

Лібэральная буржуазія была супроць царызму, дабівалася „свабод“, „констытуцыі“, але змагацца за гэта была няздольнай па тэй прычыне, што не жадала рызыкаваць, прыносіць сур‘ёзныя ахвяры, спадзяючыся, што царызм спалохаецца ўзрастаньня рэволюцыйнай хвалі і самаахвотна пойдзе на ўступкі. Буржуазія больш мэтазгодным лічыла заграбаць жар чужымі рукамі. Таму яна „спачувала“ змаганьню рэволюцыйных організацый, пры дапамозе якіх можна было „націснуць“ на царызм, але яна была, зразумела, далёкай ад спачуваньня тым мэтам, якія рабочыя-рэволюцыянэры перад сабою ставілі. Буржуазія „ахвяроўвала“ на карысьць рэволюцыі грошы, давала матэрыяльнае падтрыманьне рэволюцыйным організацыям, а рабочыя ахвяроўвалі сваё жыцьцё, рызыкуючы ў лепшым выпадку апынуцца ў турме ці ў ссылцы на катаргу.

Але і гэты асабісты „падзел працы“ ў момант разгару рэволюцыйных падзей пачаў даваць шчыліну. І паказальна тое, што буржуазія спыніла матэрыяльна падтрымоўваць бальшавікоў, працягваючы даваць грошы эсэрам і меншавіком. Калі яна ўгледзела, што бальшавікі заклікаюць рабочых да змаганьня ня толькі супроць царызму, але і супроць буржуазіі, дык яе „спагада“ адразу выветрылася. У эсэрах-жа і меншавікох яна клясавым пачуцьцём угадвала адданых абаронцаў буржуазнага гаспадараньня, яна разумела, што *яны яе падтрымліваюць* і ў нагароду за гэта, яна працягвала аказваць матэрыяльную дапамогу.

**М. Шульман.**



Група членаў Менскай арганізацыі бальшавікоў 1903—905 г.

1-ы рад: Л. Б. Каменеў, Г. Я. Беленькі, Н. І. Гурэвіч (мянюшка „Іван“), А. М. Беленькая
2-і рад: Н. І. Міхайлава (мянюшка „Маруся“), Я. Е. Беленькі (мянюшка „Сяргей“), О. Д. Каменева, Г. Л. Шклоўскі.

**Ях. Беленькі (Сяргэй).**

# Успаміны аб бальшавіцкай організацыі ў г. Менску ў 1903—1909 г.

## I.

С.-д. бальшавіцкая організацыя заснавалася ў Менску ў восень 1903 г.[1]). Да гэтага часу ў Менску і наогул у Паўночна-Заходнім краі (за выключэньнем Вільні, дзе парт. організацыя заснавалася раней), адзінай організацыяй, якая вяла с.-д. работу сярод яўрэйскіх рамесьнікаў, была яўрэйская с.-д. організацыя „Бунд“[2]).

Трэба аддаць справядлівасьць „Бунду“: яўрэйскі рабочы ў яго шэрагах атрымаў вельмі добрае рэволюцыйнае выхаваньне. Але ўжо з 1902 г., а асабліва ў 1903 г., к моманту скліканьня II зьезду РС-ДРП, у самай бундаўскай організацыі, сярод асобных рабочых груп, пачынаюць выяўляцца плыні, якія нязгодны з агульнай позыцыяй „Бунду“[3]). Як вядома, яшчэ да 1902 г. на яўрэйскай вуліцы зьяўляюцца амаль адначасна, з аднаго боку, зубатаўшчына[4]), а з другога—сыонізм ва ўсіх яго рознастайных плынях, пачынаючы з самай правай, так зв. ортодоксальнага сыонізму, і канчаючы тэй плыньню, якая пазьней вызначылася, як левая-„соцыялістычная“ сыоніцкая—„Поалей-цыон“ і інш.

Зубатаўцы, не хаваючыся, наладжвалі свае сходы ў Менску ў салі „Парыж“. На шматлюдных сходах зубатаўцаў голасна расьпявалася іх песьня: „Клінг, Глокк“ („Звані, звон“). Дзіўным і ненатуральным уяўлялася існаваньне легальнай нагла-вызываючай (асабліва ў асяродку яўрэйскай аселасьці) зубатаўшчыны, якая кіравалася ў Менску жандарскім палкоўнікам Васільлевым, роўналежна з нелегальнай організацыяй „Бунду“.

Адначасна з зубатаўшчынай, на сцэну ўсё болей легальна выступае сыонізм. Адзін час, а іменна, на агульна-расійскім сыоніцкім зьезьдзе, які адбыўся ў Менску, калі не памыляюся, у 1902 годзе, ідэя сыонізму дасягла свайго кульмінацыйнага пункту, ахапіўшы ўсе пласты яўрэйскага жыхарства. і, здавалася, што „нацыянальная ідэя“ аб‘яднала і „багача і бедняка“. Але адзіная нацыянальная сыоніцкая організацыя пасьля сыоніцкага зьезду хутка распалася на шмат розных груповак. Вылучаюцца ортодоксальныя сыоністыя, культурнікі („Ахад-Гаам“). Апошнія яшчэ раней, да сыоніцкага зьезду, вялі сваю агітацыю; вылучаюцца і інш., болей левыя плыні.

„Бунду“ прыходзіцца адважна змагацца з нацыяналістычнымі тэндэнцыямі, якія ахапілі ў той час ня толькі дробна-буржуазныя пласты яўрэйскага жыхарства, але і пролетарскія элемэнты. Усьведамленьню гэтага нацыянальнага настрою нават сярод яўрэйскага бед-

---

[1]) Паводле корэспондэнцыі, зьмешчанай у „Пролетарии“ № 4 ад 17(3) чэрвеня 1905 г., Менская група РС-ДРП утварылася ў сакавіку 1905 г. *Увага рэдакцыі.*

[2]) Аб заснаваньні „Бунду“ і яго працы гл. арт. Н. А. Бухбіндэра „Еврейское рабочее движение в Минске в 1893 г.—1905 г.“. „Красная Летопись“. Дзярж. Выд. 1923 г. *Увага рэдакцыі.*

[3]) Падрабязнасьці гл. там-жа. *Увага рэдакцыі.*

[4]) Гл. арт. Н. А. Бухбіндэра: „Независимая еврейская рабочая партия“. „О зубатовщине“. „Красная Летопись“, № 2-3 и 4. *Увага рэдакцыі.*

нага жыхарства і рамесьнікаў, вядома, ня мала спрыяла самаўладзтва сваімі прасьледваньнямі яўрэяў і організацыяй яўрэйскіх пагромаў. Але пакольні барацьба гэта канчалася посьпехам для „Бунду“, патолькі яна мела і адмоўныя вынікі для апошняга; калі асобныя элемэнты сыоністычных груповак, адшчапляючыся ад сваіх організацый, далучаліся да бундаўскай організацыі, дык, з другога боку, „Бунд“, уступаючы ў паядынак з сыоністычнымі організацыямі, успрымаў ад сваіх ідэёвых ворагаў шмат з іх ідэёвага багажу. Ідэёвая барацьба і пастаянныя дыскусіі амаль у кожнай майстэрні, на вульцы і на сходах з зубатаўцамі і сыоністымі, а таксама пастаянныя спрэчкі па пытаньнях програмы і тактыкі ўцягваюць яўрэйскага рабочага ў пэўнае кола ідэй і спрыяюць яго сьвядомай орыентацыі ў барацьбе, якая адбывалася.

Вось наогул тыя акалічнасьці ў Беларусі і ў паасобку ў Менску, якія былі перад II зьездам РС-ДРП.

К моманту скліканьня II зьезду РС-ДРП усё болей востра паўставала пытаньне аб узаемаадносінах „Бунду“ з РС-ДРП. Як вядома, розналосьсі паміж „Бундам“ і партыяй („Искрой“) датычыліся ня толькі організацыйнага пытаньня, але і нацыянальнага. Полеміка па гэтых пытаньнях у „Искре“ йшла поплеч з дыскусіяй у самай бундаўскай організацыі і ў бундаўскім друку—„Арбайтар штыме“ і інш.

Да гэтага часу ў Менскай орг. „Бунду“ існавалі ўжо асобныя групы перадавых рабочых, якія сталі ў опозыцыю да бундаўскай організацыі, а к часу выхаду „Бунду“ з РС-ДРП гэтыя групы, якія не падзялялі пункту погляду „Бунду“ ў організацыйным пытаньні, адышлі ад бундаўскай організацыі[1]).

Вось якраз гэтыя перадавыя рабочыя былі першым каменем для пабудовы партыйнай бальшавіцкай організацыі ў Менску, організацыі, якая пазьней адыграла значную ролю ў 1905 г. і якая кіравала рэволюцыйным рухам ва ўсёй Менскай губ.

З асобнымі рабочымі з гэтых груп мне ўдалося зьвязацца яшчэ раней. У восень 1903 г. невялікі гурток рабочых, на якім прысутнічала чалавек 7-8, пасьля майго дакладу па організацыйным пытаньні, ухваліў афіцыяльна далучыцца да РС-ДРП. Гэты гурток быў першым ядром будучай нашай організацыі ў Менску. Пасьля цэлага шэрагу такіх дакладаў на невялікіх рабочых сходах, якія рабіліся з дапамогай першай групы рабочых і дыскусій па партыйных пытаньнях, да нашае організацыі ў працягу нядоўгага часу далучылася ўжо каля 35-40 актыўных рабочых, якія раней былі ў „Бундзе“. Хутка мне ўдалося зьвязацца з некаторымі інтэлігэнтамі с.-д., якія жылі тады ў г. Менску і паміж сабой організацыйна ня былі зьвязанымі. Першае маё знаёмства было з т. Кузьняцовым (Яхім), інжынэрам Ліб.-Ром. чыгункі (з т. Кузьняцовым мы затым разам працавалі ў Менскай організацыі да пачатку 1906 году). Хутка мне ўдалося пазнаёміцца з Сяргеем Аляксеевічам і Верай Ильлінічнай Валынскімі. Валынскія пазьней прымалі актыўны ўдзел, як бальшавікі, у працы Менскай організацыі і зрабілі ёй і асобным таварышом шмат услуг у працягу 1903 і 1906 г.г.[2])

З першай групы яўрэйскіх рабочых, якія далучыліся ў Менску да РС-ДРП, я назаву наступных: тав. Самуіл (прозьвішча ня ведаю, пекар, вельмі сьвядомы і перадавы рабочы; ён быў добрым агітата-

[1]) Распад бундаўскай організацыі пацьвярджае наступная корэспондэнцыя: Менск, студзень. На рэфэрацe „Выход „Бунда“ из партии“, які выклікаў доўгія і грунтоўныя спрэчкі, мы, яўрэйскія рабочыя г. Менску, у ліку 21 супроць 3 устрымаўшыхся выявілі сваю солідарнасьць з РС-ДРП і далучыліся да апошняй. „Искра“, № 61. 5 сакавіка 1904 г. *Увага рэдакцыі.*

[2]) У сучасны момант Валынскія адышлі ад нашай партыі.

рам); прыказчык Шмуэль-Хаім—вельмі жывы і актыўны таварыш, які зрабіў нашай арганізацыі вялікія ўслугі як для сувязі з масай, так і для тэхнічнай работы, краўчыхі—Двэйра, Міра, Нахамка (у „Бундзе“, звычайна, рабочыя і работніцы называлі сваіх таварышаў зьмяншальнымі імёнамі: Двэйрка, Мірка, Нахамка і г. д.[1]) Аднымі з першых далучыліся да нашай арганізацыі наступныя рабочыя: Залман—бляхар, Ідэль—шапачнік, Рувім—гарбар, Мірон—прыказчык і інш. (Большасьць з гэтых таварышаў пазьней эміграваалі ў Амэрыку).

Праз некаторы час пасьля майго першага спатканьня з т. Кузьняцовым я зашоў да яго на кватэру. У яго я застаў аднаго таварыша, які прыехаў з Піцеру, тав. „Аляксея“ (прозьвішча ня ведаю). Тут-жа т. Кузьняцоў мяне з ім пазнаёміў. Праз тав. Аляксея мы арганізацыйна зьвязаліся з ЦК РС-ДРП. „Аляксей“ прабыў некаторы час у Менску і разы два прысутнічаў на нашых сходах. Мы атрымалі ад яго некаторую колькасьць літаратуры, а пасьля яго ад‘езду пачалі атрымліваць сыстэматычна бягучую партыйную літаратуру. Апрача партыйнай і наогул нелегальнай літаратуры на расійскай мове, на руках у нашых рабочых была і яўрэйская літаратура. Гэтай літаратурай мы часткова маглі здаволіць рабочых нашай арганізацыі, а запатрабаваньне на літаратуру з боку рабочых было вялікае.

На першым арганізацыйным сходзе ўхвалена было Менскую арганізацыю назваць „Менскай групай РС-ДРП“. Пазьней, калі арганізацыя пашырылася і ўзмацавалася, і нават тады, калі ёй прышлося кіраваць рухам ва ўсёй Менскай губ., гэту назву арганізацыі ўхвалена было не зьмяняць.

У кіраўнічы орган—„Цэнтральную групу“ (Комітэт) увашлі: тав. Кузьняцоў (Яхім), тав. Самуіл (рабочы-пекар) і я. Пазьней склад цэнтральнай групы павялічыўся і даходзіў да пяці і больш членаў: туды ўваходзілі адказны організатар, сакратар, загадчык пропагандыцкай групы, скарбнік, загадчык тэхнікі і г. д. Сур‘ёзна гаварыць аб дакладным разьмеркаваньні функцый у арганізацыі ня прыходзіцца, бо ў залежнасьці ад асабовага складу парт. арганізацыі (а склад працаўнікоў, з прычыны нелегальнай работы, быў звычайна нясталым), трэба было даручаць таму ці другому таварышу тыя або другія функцыі. Мне, напрыклад, асабліва ў першыя часы, як быўшаму да арышту адказным організатарам, даводзілася даволі часта займацца і весьці рабочыя гурткі, самому пісаць і друкаваць на гэктографе і, нават, мець сувязь з нашай падпольнай друкарняй. На пропагандыцкім гуртку я і быў арыштованы летам 1904 году. Бязумоўна, такое становішча трывала толькі да таго часу, пакуль у арганізацыі яшчэ ня было пастаяннага наплыву людзей. Але як толькі наша арганізацыя узмацавалася, стала магчымым разьмеркаваць партработу болей стала паводле спэцыяльнасьцяй[2]).

З самага пачатку аформленьня нашае арганізацыі партыйная работа ў Менску пашла двума кірункамі: з аднаго боку, барацьба з „Бундам“ за ўплыў на яўрэйскую рабочую масу і за адваяваньне гэтай масы ад „Бунду“, а з другога—наладжваньне сувязі з расійскімі рабочымі гарадзкіх фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў і чыгунак. У Менску буйных фабрык тады ня было, апрача чыгуначных майстэрань

---

[1]) Апошняя 18 кастрычніка 1905 г. была забіта ў ліку шмат другіх таварышаў на вокзальным пляцы ў часе мітынгу царскім катам—губарнатарам Курловым.

[2]) Палажэньне з ператасаваньнем і падборам працаўнікоў у Паўночна-Заходнім краі значна палепшылася к канцу 1905 году, г. зн. пасьля ўзмацаваньня заснаваўшагася ў 1904 годзе Паўночна-Заходняга Комітэту, абавязкі якога, „галоўным чынам“, былі ў разьмеркаваньні партсіл у гэтым раёне.

(як Ліб.-Ром., так і Маск.-Брэсцк. чыгункі), болей значная колькасьць рабочых была занята на дражджавым заводзе, тытуновай фабрыцы, вадаправодзе, электрычнай станцыі, гарадзкой концы і г. д. Наша імкненьне з самага пачатку заснаваньня парторганізацыі ў бок барацьбы з „Бундам“ тлумачыцца вастрынёй рознагалосьсяў, якія існавалі паміж „Бундам“ і РС-ДРП у такіх сур'ёзных пытаньнях, як арганізацыйнае і нацыянальнае. Гэтыя рознагалосьсі адчуваліся ў асяродку аселасьці больш і вастрэй, чым дзе-б там ні было. Часткова прычына асаблівай вастрыні барацьбы з „Бундам“ у Паўночна-Заходнім краі тлумачыцца тым, што „Бунд“ вельмі воража спаткаў зараджэньне нашай організацыі якраз на „тэрыторыі“ сфэры дзейнасьці „Бунду“. На Поўдні, напрыклад, барацьба мела болей умеркаваны характар: у Беларусі „Бунд“ доўга, аж да самага 1905 году, не жадаў прызнаваць існаваўшыя нашы парторганізацыі ні „дэ-юрэ“, ні „дэ-факто“. Даходзіла да сьмешнага: ухіляючыся прызнаць існаваньне РС-ДРП у Беларусі, бундаўцы ўвесь час, нават пасьля 1905 году, звалі бальшавікоў „іскраўцамі“, ня гледзячы на тое, што „Искра“ пасьля II зьезду была органам толькі меншавікоў.

Імкненьне ў бок барацьбы з „Бундам“ мела яшчэ і тое апраўданьне, што ізоляванасьць і організацыйная адасобленасьць яўрэйскага пролетарыяту ў організацыю „Бунду“ не ўкладаліся з агульным тэорытычным палажэньнем і лёзунгам РС-ДРП: „Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!“ Апрача гэтага, існаваньне адасобленай організацыі яўрэйскага пролетарыяту ў Беларусі перашкаджала кіраўніцтву экономічнай і політычнай барацьбой, якая патрабавала адзінства кіраўніцтва.

Трэба мець на ўвазе, што работа РС-ДРП сярод яўрэйскага пролетарыяту мела яшчэ і тое важнае значэньне, што гэтай работай партыя на справе магла давесьці яўрэйскаму пролетарыяту, а таксама пролетарыяту іншых нацыянальнасьцяй, што РС-ДРП у сваёй рабоце па асьвеце і аб'яднаньні расійскага пролетарыяту бяз розьніцы нацыянальнасьцяй можа падыходзіць да пролетарыяту кожнай нацыянальнасьці на роднай і зразумелай яму мове, лічыцца з індывідуальнай псыхолёгіяй пролетарыяту розных нацыянальнасьцяй. Здольнасьць весьці такую работу РС-ДРП „Бунд“ у сваёй полеміцы адмаўляў[1]).

Першая гэктографаваная лістоўка, выпушчаная ў пачатку 1924 г. „Менскай групай РС-ДРП“ пад фірмай партыі на яўрэйскай мове да бастуючых прыказчыкаў, мела посьпех. Пазьней, у 1905 г., калі наша тэхніка атрымала яўрэйскі шрыфт, адначасна з лістоўкамі на расійскай мове, зьявіліся ад імя Паўночна-Заходняга Комітэту і ад імя „Менскай групы“ лістоўкі на яўрэйскай мове. Між іншым, значна пазьней, летам 1905 году, была выдадзена Паўночна-Заходнім Комітэтам програма РС-ДРП на яўрэйскай мове. Гэту програму партыі пералажыў член Паўночна-Заходняга Комітэту Нягоеў (адзіны меншавік у Паўночна-Заходнім Комітэце), хоць пераклад гэты быў ня зусім здавальняючым, але зьяўленьне програмы партыі на яўрэйскай мове пад знакам РС-ДРП зрабіла вялікае ўражаньне на яўрэйскіх рабочых.

---

[1]) У сваіх полемічных выступленьнях „Бунд“ называў РС-ДРП таксама „Русской С-ДРП“, а не „Российской“. Гэтым „Бунд“ падкрэсьліваў свае адносіны да пытаньняў організацыі партыі, якія зводзіліся да таго, што РС-ДРП павінна быць організована на фэдэрацыйных пачатках, і што „Бунд“ павінен зьяўляцца фэдэрацыйнай часткай партыі. Супроць гэтага пункту погляду змагалася „Искра“, а асабіва т. Ленін; гл. т. IV збору твор. У. І. Леніна, арт.: Положение „Бунда“ в партии, „Нужна ли самостоятельная партия еврейскому пролетариату“.

## II.

Менская група да пачатку 1904 г. выяўляе сабою зусім складзеную організацыю. Організацыя з кожным днём расьце і мацнее. Пакрысе да нашай групы рабочых пачынаюць далучацца асобныя інтэлігэнты. Пры цэнтральнай групе (Комітэт) у хуткім часе організуецца пропагандыцкая колегія, у якую ўваходзіць цэлы шэраг добра падрыхтованых с.-д., пропагандыстых і агітатараў. Да гэтага часу Менская група пасьпела пашырыць і ўзмацніць організацыйныя сувязі сярод рабочых большасьці прадпрыемстваў, а гэтак сама з мясцовай беспартыйнай інтэлігэнцыяй. З пропагандыстых, якія працавалі ў Менску ў 1914-1915 г., адзначаю ніжэйшых: Гайліца (Аляксея), братоў Любімавых (Уладзімера, Васіля і Леаніда), Фаму (прозьвішча ня памятую), Чапінскага[1]) (Фаму), Ленскага і інш. Апрача гэтых асоб, у якасьці пропагандыстых у гэты час працавалі Пятрусевіч і Румянцаў[2]).

У пачатку 1905 г. пераехаў з Бабруйску ў Менск тав. Шклоўскі (Юры). Тав. Шклоўскі прымаў дзейны ўдзел ва ўсёй працы Менскай організацыі; ён загадваў пропагандыцкай групай і ў той-жа час зьяўляўся сакратаром Цэнтральнай групы. 3 мая 1905 г. ў Менску працаваў Мікалай Гурвіч (Іван) у якасьці пропагандыстага і агітатара; ён з посьпехам выступаў сярод рабочых і вучнёўскай моладзі. У якасьці пропагандыстага ў гэты час гэтак сама працаваў былы бундавец Барыс Рабіновіч, які ўрэшце эміграваў у Амэрыку.

Да першага пэрыоду дзейнасьці Менскай групы трэба аднесьці гэтак сама і замацаваньне організацыйных сувязяй з парторганізацыямі павятовых гарадоў Менскай губэрні: Бабруйску, Барысаву і інш. У Барысаве тады было шмат рабочых, занятых на запалкавай фабрыцы, на лесапільных заводах і г. д. Організацыя заклалася там у пачатку 1904 году. Бабруйская організацыя РС-ДРП узьнікла гэтак сама, прыблізна, у пачатку 1904 году. Заклаў яе Шклоўскі (Юры). Пазьней нашы організацыйныя сувязі пашырыліся, ахапіўшы большасьць мястэчак і розных сельскіх мясцовасьцяй.

Да ліку характэрных зьявішчаў—пэрыоду 1904-1905 г. г. адносіцца вялікі пацяг да організацыі з боку рабочых, а гэтак сама імкненьне маладых організацый мець сувязь паміж сабою. Асобныя таварышы на свой страх і рызыку наладжваюць сувязь з рамесьнікамі, сялянамі, новабранцамі і салдатамі. Былі выпадкі вядзеньня агітацыі нават сярод гарадавых. Мне ўспамінаецца ніжэйшае: аднойчы мы з Рыгорам Беленькім праходзілі па Шырокай вуліцы. Насустрэч намі ідзе малады гарадавы. Нечакана для мяне, Рыгор адыходзіць ад мяне

---

[1]) Чапінскі зьяўляецца рэнэгатам высокай маркі. Пасьля 17 кастрычніка 1905 г., карыстаючыся некаторай палёгкай цэнзурных умоў, ён пачаў перакладаць творы К. Маркса. Некаторыя брошуры вышлі ў яго перараkладзе ў выдавецтве „Молат". Урэшце выявілася, што Чапінскі перакладаў творы К. Маркса пасвойму: ён браў ужо выдадзеныя на расійскай мове творы. К Маркса і пераапрацоўваў асобныя словы і выразы, а затым, друкуючы выданьне, як сваю працу, атрымліваў за яе адпаведны гонорар. Такі „переклад" псаваў творы К. Маркса. У сьнежні 1905 г. Чапінскі быў арыштаваны ў ліку другіх т. т. па справе сьнежнеўскай забастоўкі. Далейшая дзейнасьць гэтага „перакладчыка" твораў К. Маркса адбываецца ў Чэха-Славаччыне, дзе Чапінскі зьяўляецца адным з лідэраў ППС. Чапінскі быў дэлегатам ад ППС у Амэрыцы, дзе вёў агітацыю супроць Савецкай улады і Комінтэрну. Ня так даўно імя Чапінскага мільганула ў газэтах. Роста паведаміла, што Чапінскі разам з эсэрам В. Черновым, накіраваўся ў Варшаву дзеля якіхсьці скрытых перамаўленьняў з ППС аб выступе супроць СССР.

[2]) Пятрусевіч і Румянцаў былі зьвязаны з працай I зьезду РС-ДРП, які адбыўся ў Менску ў 1898 годзе. Пятрусевіч, па профэсіі прысяжны паверааны, вёў пропагандыцкую працу ў Менску і выступаў у якасьці абаронцы па палітычных справах Урэшце, у часы окупацыі палякамі Менску, ён перайшоў на працу да белапалякаў і, замест абаронцы, абярнуўся ў абвінаўцеля, заняўшы пасаду менскага прокурора.

і сардэчна вітаецца з гарадавым. „Гэта наш“, тлумачыць ён мне. Выяўляецца, што, седзячы ў паліцэйскім вучастку, Рыгор пасьпеў з'агітаваць двух гарадавых і абярнуць іх у „сваіх“; яны з працягам часу дапамагалі нам.

Распачатая Расійска-японская вайна зрабіла ўплыў на кірунак дзейнасьці організацыі. Спачатку вайна выклікала сярод абываталяў, а часткай і сярод адсталых рабочых, патрыотычны настрой. Паліцыі ўдаецца выклікаць гарадзкіх абываталяў, а гэтак сама адсталых рабочых, на вулічныя маніфэстацыі з абразамі і царскімі портрэтамі. Але ў хуткім часе, пад уплывам ваенных няўдач, гэты патрыотычны чад пачынае праходзіць. Партыйная праца ў пачатку вайны становіцца цяжэйшай. Прыходзілася вынаходзіць асаблівыя спосабы падыходу да масы. Асабліва складаная праца ў гэтых адносінах была ў „черте“ яўрэйскай аселасьці. Там кожная мобілізацыя і адпраўка салдат і мобілізованых на вайну выклікалі пагромны настрой і перапалох сярод жыхарства. З гэтае прычыны асаблівую ўвагу організацыі прышлося аддаць тады пытаньню аб агітацыі сярод рэкрутаў і мобілізованых салдат, якія адпраўляліся на фронт. Пазьней Менская організацыя выпушчала да рэкрутаў адозвы і лістоўкі, пашыраючы адначасна сярод іх і іншую партыйную літаратуру. Такім чынам, маладой Менскай організацыі прышлося з самага пачатку сваёй дзейнасьці аддаць вялікую ўвагу працы сярод салдат.

Менская організацыя ў аснове сваёй складалася з рабочых, якія ўжо мелі практычную рэволюцыйную падрыхтоўку ў сэнсе партыйнай дысцыпліны, консьпірацыі і вытрываласьці. Гэты здаровы асяродак даў сталасьць бальшавіцкай позыцыі, якую Менская організацыя вытрымала ў часы вострай партыйнай барацьбы з меншавікамі, а таксама дапамагаў правільнаму падыходу да пабудовы партыйнай працы ў організацыі.

Структура і форма Менскай організацыі ўвогуле адпавядалі становішчу прамысловасьці ў горадзе з пераважнасьцю рамесьніцкай і дробна-фабрычнай вытворчасьці і невялікага ліку больш значных фабрычна-заводзкіх прадпрыемстваў. Структура стыхійна складзенай організацыі была ніжэйшая: асноўнай ячэйкай організацыі зьяўлялася цэхавая сходка. Гэтая цэхавая сходка складалася з прадстаўнікоў розных майстэрань аднаго й таго-ж цэху альбо профэсіі. Такім чынам, гарадзкая організацыя складалася са сходак: краўцоў, шаўцоў, сталяроў, шапачнікаў і г. д. Чарговай вышэйшай організацыяй зьяўлялася цэнтральная сходка, якая складалася з прадстаўнікоў цэхавых сходак (альбо іх аб'яднаньняў). У цэнтральную сходку ўваходзіў гэтак сама прадстаўнік цэнтральнай групы. Звычайна, апрача адказнага організатара, туды ўваходзіў яшчэ адзін або два члены цэнтральнай групы; аднак, апошнія ўваходзілі неофіцыяльна, з прычыны консьпірацыйных умоў: цэнтральнай сходцы ня было вядома, што яны зьяўляюцца членамі цэнтральнай групы. Улетку 1905 г., а асабліва пасьля кастрычніка, Менская група перашла на дэмократызацыю організацыі, і пасьля гэтага цэхавыя сходкі сталі абіраць сваіх прадстаўнікоў у цэнтральную сходку, а цэнтральная сходка абірала адказнага організатара ў цэнтральную групу. На фабрычных прадпрыемствах, у дэпо чыгункі, на вадаправодзе і г. д., г. зн. там, дзе вытворчасьць была найбольш цэнтралізована, цэхавыя сходкі замяняліся рабочымі гурткамі, якія былі зьвязаны не з цэнтральнай сходкай, а пропагандыцкай групай праз агітатараў і пропагандыстых. Гэтыя гурткі адрозьніваліся ад цэхавых сходак, галоўным чынам, у тым, што гурток на фабрыцы яднаў усіх рабочых аднэй і тэй-жа фабрыкі з аднолькавымі

ўмовамі працы, у той час як цэхавая сходка выяўляла сабою рабочых розных майстэрань, хаця-ж аднае і тае профэсіі, але не з аднальковымі ўмовамі працы. Трэба мець на ўвазе, што сходкі і нават гурткі па фабрыках, да закладаньня профэсыянальных саюзаў, павінны былі замяняць і запаўняць адсутнасьць профсаюзаў. Сходкі і фабрычныя гурткі, апрача агульна-палітычных пытаньняў і дыскусій па партыйных пытаньнях (гэтыя пытаньні ня зыходзілі з парадку дня рабочых сходаў), павінны былі абмяркоўваць і пытаньні, зьвязаныя з умовамі працы і побытам рабочых: даўжыня рабочага дня, узровень заработнай платы і г. д. Тая акалічнасьць, што організацыя і рабочыя сходкі хутка здабылі вялікі ўплыў на рабочую масу, тлумачыцца выключна тым фактам, што нашая організацыя праз гэтыя сходкі прымала гарачы ўдзел у абгавараньні і вырашэньні ўсіх, часам зусім дробных пытаньняў профэсыянальнага і асабістага жыцьця рабочых і ўмела падыходзіць да масы, выкарыстоўваючы бытавое і экономічнае становішча рабочых, як вытычны пункт для сваёй штодзеннай агітацыі і пропаганды; пры адсутнасьці профэсыянальных саюзаў партыйная організацыя павінна была замяняць профсаюзы і фактычна замяняла іх.

Для больш дакладнага ўразуменьня агульнага стану партыйнай працы ў Менску, трэба памятаць, што ў Паўночна-Заходняй краіне, заселенай трыма нацыямі: беларускай, яўрэйскай і польскай, часам у аднэй і тэй-жа майстэрні працавалі прыхільнікі рознастайных партый. Наогул лік партый у горадзе даходзіў да 5, а часам і больш. Апрача РС-ДРП і „Бунду", у Менску працавалі эсэры, сыоністыя розных кірункаў, як поалей-сыоністыя, эсэсаўцы і інш., а з канца 1905 г. і анархістыя разманітых ґруповак. У Вільні, акрамя гэтых партый, працавала і ППС [1]). Дзякуючы гэтаму, рабочыя прымушаны былі больш сур'ёзна разабрацца ў паміжпартыйных спрэчках і рознагалосьсях, перш чым вырашыць пытаньне аб выбары тэй ці іншай партыі. Але наогул, на першы час, рабочая маса аддавала перавагу тэй партыі і організацыі, якая найлепш за другія тлумачыла ёй палітычныя пытаньні дня і якая лепш, з большым посьпехам магла абараняць яе „экономічныя" штодзенныя інтарэсы, і якая мела магчымасьць лепш організоўваць экономічныя забастоўкі, лепш выказваць яе запатрабаваньні і больш стала выносіць барацьбу. Популярнасьць Менскай групы бязумоўна зьвязана з працай ў гэтым кірунку. Цэлы шэраг забастовак, як забастоўка прыказчыкаў, пекароў, краўцоў і г. д., з посьпехам праведзеных, узмацніў уплыў Менскай організацыі ў горадзе. Часта былі выпадкі, калі тая ці іншая майстэрня, ня меўшая яшчэ сувязі з партыяй, адшуквала „Іскраўскую організацыю" праз якога-небудзь з сваіх рабочых, каб паведаміць аб тым, што майстэрня пастанавіла наладзіць забастоўку і што рабочыя жадаюць, каб забастоўкай кіравала „Іскраўская організацыя". Пасьля папярэдніх перамаўленьняў з прадстаўнікамі рабочых організацый склікаўся агульны сход рабочых, на якім выяўляліся ўмовы працы і апрацоўваліся асноўныя запатрабаваньні, якія павінны былі падавацца гаспадару прадпрыемства. На гэтым-жа сходзе абіралася забастовачная комісія, якая, разам з прадстаўніком організацыі, кіравала забастоўкай. Між іншым, у 1915 годзе ў Менску ня было ніводнай забастоўкі пад кіраўніцтвам Менскай організацыі, якая, побач з экономічнымі запатрабаваньнямі, ня высоўвала і чыста палітычных запатрабаваньняў. Ва ўсіх запатрабаваньнях абавязкова было запатра-

[1]) Аўтар успамінаў не ўпамянуў пры пералічэньні партый аб Беларускай Соцыялістычнай Грамадзе, якая, побач з другімі, праводзіла вялізную працу сярод рабочых і сялянства. *Перакладчык.*

баваньне 8-гадзіннага рабочага дня. Трафарэтным зьяўлялася запатрабаваньне, што „ніхто не павінен пацярпець за ўдзел у забастоўцы“; гэтак сама запатрабаваньне аб вызваленьні арыштаваных, калі арышты мелі месца, і „выплата за час забастоўкі“ і г. д. Наогул, тая акалічнасьць, што запатрабаваньні гаспадару падаваліся ад імя Менскай арганізацыі, мела ў большасьці выпадкаў з самага пачатку забастоўкі амаль вырашаючае значэньне для забастоўкі ў сэнсе задавальненьня запатрабаваньняў бастуючых.

Імкненьне да партыі з самага пачатку ўзьнікненьня арганізацыі значным чынам было і з боку моладзі і, асабліва, з боку вучнёўскай моладзі і інтэлігэнцыі. Вакол арганізацыі згуртаваўся цэлы шэраг асоб, прыхільных да партыі, дапамагаўшых ёй кватэрамі для явак, для заховы літаратуры, паказаньнем надзейных адрасоў для консьпірацыйных лістоў, замежнай нелегальнай літаратуры і цэнтральнага органу партыі і г. д. Гэтыя колы жыхарства рабілі руху вялікія паслугі, і ў той час, калі рабочы рух яшчэ не разьліўся масавым струменем, бяз гэтых прыхільнікаў бадай ці магчыма было-б пры тагочасных цяжкіх паліцэйскіх умовах выявіць такую карысную рэволюцыйную працу.

Адносіны да нас мясцовага яўрэйскага жыхарства, нават дробнабуржуазнага, былі ў большасьці прыхільныя. З гэтага боку бадай ці маглі мы чакаць які-небудзь падарунак у сэнсе згодніцтва. На аколіцы-ж гораду, сярод „галоты і бядноты“, мы заўсёды маглі знайсьці прытулак і часта дастаць памяшканьне для нелегальных сходаў, а таксама атрымаць папярэджаньне ў выпадку небясьпекі з боку паліцыі. Я памятую адну такую кватэру на рубяжы гораду, дзе мы першы час часта наладжвалі сходы. Гэтая кватэра асталася нявыкрытай, ня гледзячы на тое, што мы часта карысталіся ёю. У гэтай кватэры ня было амаль што ніякай мэблі і можна было толькі дзівіцца, як тут жывуць людзі. Наогул, да 1905 г., г. зн. да таго часу, калі рух прыняў масавы характар, кватэрнае пытаньне часамі адчувалася асабліва востра. Улетку арганізацыя прабавала наладжваць сходы на лодках, а таксама ў лесе. Але як першы спосаб, так і другі былі нявыгоднымі. Першы масавы дыскусыйны сход, наладжаны ў лесе, ледзь ня быў выкрыты. На гэтым сходзе павінен быў выступаць Б. Столпнер. Апошні працаваў у 1904-1905 г. ў Беларусі і досыць часта запрашаўся Менскай арганізацыяй, асабліва па нацыянальным пытаньні і па барацьбе з „Бундам“. За Б. Столпнерам у Беларусі ўсталявалася нават мянюшка „бундаеда“,— і сапраўды, Столпнер раней, да выхаду „Бунду“ з партыі, вядучы барацьбу з сыонізмам, зьявіўся потым адным з самых жорсткіх супраціўнікаў „Бунду“. Апрача Менску, Столпнер чытаў даклады ў Вільні і, здаецца, нават быў там арыштаваны на адным са сходаў. Будучы меншавіком, пасьля рэволюцыі 1905 году захапіўся „богашуканьнем“.

Кватэрнае пытаньне ў жыцьці арганізацыі было адным з самых важных пытаньняў у працы. Цяжка было мець кватэры для ўсіх патрэб, а патрэб было шмат, пачынаючы з кватэры для складу, для явак, для гурткоў і канчаючы кватэрай для сходаў. Арганізацыі прыходзілася выдзяляць спэцыяльныя комісіі дзеля нарыхтоўкі кватэр. З кватэрным пытаньнем было многа вёльмі цікавых здарэньняў. У 1904 г. перад 1 мая нам патрэбна было нарыхтаваць для распаўсюджаньня першамайскую літаратуру і лістоўкі і адначасна аслабаніць склад. Усё гэта патрэбна было зрабіць консьпірацыйна. Мы парашылі з адным таварышом разабраць ўначы літаратуру і падабраць лістоўкі для распаўсюджаньня. З гаспадыняй кватэры, спачуваўшай нашай арганізацыі, мы позна ноччу селі за працу. Папрацавалі мы гадзіны са дзьве. Падабраная літаратура была раскладзена на сталох і крэслах вялікага,

добра абсталёванага пакою. Вакол была цішыня, і мы не жадалі нічым парушаць яе, стараючыся няпрыметна скончыць распачатую працу. Гадзіне а 2-3 у ночы, калі мы былі заняты цалком працай, раптам адчыняюцца дзьверы, і высокі біблейскага тыпу стары мужчына, бацька гаспадыні кватэры, у сподняй бялізьне з крыкамі і пагрозамі ўлятае ў пакой. Мы прымушаны былі пайсьці, пакінуўшы дачку сам-на-сам з бацькам; аднак, былі ўпэўнены, што да паліцыі справа ня дойдзе з тае прычыны, што стары будзе баяцца за далейшы лёс сваё дачкі. На другі дзень прышлося забраць гэты склад ад негасьціннага гаспадара.

У 1905 годзе, калі рух разгарнуўся і стаў прымаць масавы характар, кватэрнае пытаньне было вырашана організацыяй рэволюцыйным спосабам. Гэты спосаб упяршыню быў намі ўжыты ўлетку 1905 г. ў часы забастоўкі гарадзкой конкі. Канечна трэ' было наладзіць сход рабочых і служачых конкі, але памяшканьня ня было. Група рабочых нашай організацыі вырашыла пытаньне такім чынам: абкружыла школьны двор у Менску, арыштавала служку і старасту школы, выставілапатрулі каля ўсіх уваходаў, вядучых у двор і школу, упускаючы на двор, але не выпускаючы адтуль. У школе ў гэты дзень адбыўся многалюдны сход бастуючых рабочых конкі, а таксама рабочых іншых прадпрыемстваў, на якім тав. Іван зьвярнуўся да прысутных з гарачай прамовай. Тут-жа мы апрацавалі і запатрабаваньні бастуючых, пададзеныя затым Менскаму гарадзкому галаве. У далейшым часе такім чынам наладжвалі сходы і іншыя партыі—с.-р. і „Бунд“, і на тэрыторыі школьнага двара асталявалася ў пэўнай меры сталая партыйная сфэра ўплыву.

Пасьля гэтага ўдачна праведзенага сходу ўсе вялікія мітынгі Менскай організацыі рабіліся ў сынагозе, і нават выбары ў організацыі і дыскусіі рабіліся там-жа. Між іншым, ня гледзячы на тое, што сходы рабіліся ў сынагозе часта, яны не правальваліся. Паліцыя некалькі раз прабавала змагацца і прыпыніць гэтыя сходы, але нічога не магла зрабіць, бо трудна было прадбачыць час сходаў,—на двары заўсёды была грамада народу.

Сярод партыйнай масы ў асяродку організацыі ўвесь час ішла сур'ёзная работа. Апрача дакладаў аб „Бундзе“, аб эс-эр і меншавікох, ставіліся даклады і аб клясавай барацьбе, аб унутраных падзеях і г. д. Але галоўныя пытаньні, якім організацыя ўдзяляла асаблівую ўвагу, гэта спрэчка з „Бундам“ і пытаньне аб тактыцы меншавікоў. У Менску яўрэйскія рабочыя любілі гэтыя дыскусіі. Замілаваньне да партыйных спрэчак і дыскусій яўрэйскія рабочыя, ня йначай, унасьледвалі ад пэрыоду барацьбы з зубатаўцамі і сыоністымі. У кожным выпадку, трэба адзначыць, што яўрэйскія рабочыя мелі асаблівую ахвоту да ўсякага роду дыскусій; маса была настолькі актыўна, што партыйную спрэчку яна самастойна вяла ўсюды. Заўсёды маса ахвотна слухала спрачаючыхся, і трэба прызнаць, што ў гэтай барацьбе рабочы загартаваў свой погляд і перакананьне.

На чарзе дня Менскай організацыі стала пытаньне аб тэхніцы. Яшчэ ў пачатку заснаваньня Менскай організацыі т. Шмуэль-Хаім паведаміў мяне, што ў іх дзесьці на консьпірацыйнай кватэры захаваны друкарскі шрыфт і розныя часткі друкарні. Праз некаторы час ён павёў мяне на кватэру, дзе былі гэтыя сьвятыя прадметы. Ён прывёў мяне ў старую аднапавярховую камяніцу, якая знаходзілася ў якімсьці завулку, недалёка ад Нямігі, у кірунку да дўхоўнай сэмінарыі. У гэтым доме была сьлясарная майстэрня, а ход з двара вёў цераз кухню ў пакой, у якім былі захаваны друкарскія прылады. Гэты пакой быў

выгодны тым, што быў зусім адасобнены ад майстэрні, бо ў кухні варылі для майстэрні чамусьці раніцай, а днём і ўночы на кухні нікога з гаспадароў ня было. Тут некалькі рабочых ухітрыліся ў ночы разабраць падлогу, выкапаць яму і там схаваць шрыфт і другія часткі друкарні. Гэты пакой рабочыя бераглі, як сваё вока. Калі каму-небудзь з жывучых у пакоі трэба было выехаць, дык кватэра перадавалася выключна каму-небудзь з тэй-жа групы рабочых. Трэба толькі дзівіцца энэргіі і спрытнасьці, якую мелі азначаныя таварышы.

Дла абсталяваньня і прывядзеньня ў парадак друкарні быў накірованы да нас ЦК адзін тэхнік—гомельскі рабочы. Гэты таварыш доўга вазіўся з гэтай справай, але няўдачна. Кватэру для друкарні ён знашоў на ціхай і бязьлюднай вуліцы, на акрайне гораду, недалёка ад губарнатарскага саду, у падстрэшным памяшканьні дзеравянага дому, куды ён пераехаў з тэхнікай. Але калі мы разам з ім агледзелі памяшканьне, дык вышла, што яно зусім няпрыгодна для друкарні: папершае, таму, што пры друкаваньні кожны стук валіка быў-бы чуваць жыхаром ніжняга паверху, а падругое, і вуліца была не падыходзячая для друкарні, бо кожны чалавек быў на гэтай ціхай і бязьлюднай вуліцы прыкметны, што было супроць самых элемэнтарных правіл консьпірацыі. Нам было вядома, што друкарню лепей усяго абсталяваць у ніжнім паверху, прычым заўсёды перавага аддавалася болей ажыўленай частцы гораду, чым ціхай і бязьлюднай.

Да гэтага часу ў Менск прыехаў Аляксандар Расьніцын[1]), якога я ведаў раней па працы ў Магілеўскай губэрні. Расьніцын згадзіўся працаваць у друкарні, хоць да гэтага часу ніякіх адносін да друкарскай справы ня меў, бо да гэтага быў настаўнікам. Аляксандар, разам з друкаршчыцай Соняй з Вільні, пад відам малжонкаў зьнялі новае памяшканьне недалёка ад рынкавага пляцу, у ніжнім паверху дзеравянага дома. Гэта кватэра была выгоднай тым, што да яе можна было папасьці з 4 вуліц. Блізкасьць кватэры да рынку таксама зьявілася станоўчым бокам. Стары цёмны двухпавярховы дзеравяны флігель, дзе зьмяшчалася друкарня, знаходзіўся ў глыбіні невялікага саду. З вуліцы гэты дом быў мала прыметны. Для таго, каб папасьці ў друкарню, трэба было прайсьці зусім цёмныя сходы. Апрача невялічкіх сяней, у гэтай кватэры былі яшчэ два маленькія пакоікі: у вадным з гэтых пакоікаў, акно якога выходзіла ў сад, зьмясьцілася друкарня. Аляксандар раней, чым узяцца за друкарскую работу, пачаў вывучаць наборную справу ў сябе ў друкарні. Праз нейкі час ён мне сказаў, што ўжо асвоіўся з профэсіяй і можа ўзяцца за работу. Паперу і другія прылады Соня вольна прыносіла ў кошыку, у якіх гаспадыні звычайна носяць провізію.

Першым лістком, надрукованым у нашай друкарні, было паведамленьне аб заснаваньні Паўночна-Заходняга Комітэту[2]). Заснаваньне П-ЗК належыць да пачатку 1904 году (прыблізна, сакавік—красавік). У Паўночна-Заходні Комітэт увашлі наступныя організацыі: Віленская, Менская, Віцебская і Дзьвінская, а затым далучылася і Смаргонская. Ад Менскай організацыі ў склад П.-З. Ком. увашоў Міхаіл (Карынеўскі)[3]).

---

[1]) Аляксандар Расьніцын адышоў ад нашай партыі.

[2]) Гэта паведамленьне П-ЗК-ту, надрукованае ў Менскай друкарні, нядаўна апублікована ў часопісі „Пролет. Рэвол." № 8-9 (31-32).

[3]) Міхаіл па профэсіі — доктар. Працаваў у Менску нядоўга. З таго часу я з ім нідзе не спатыкаўся. Ёсьць весткі, што Міхаіл адзін час працаваў у Адэсе ў 1905 г. Адзін таварыш мне перадаў, што быццам Міхаіл працуе дзесьці ў Маскве і даўно адышоў ад партыі.

На адным з пасяджэньняў цэнтральнай групы аб заснаваньні П-ЗК абгаварвалася пытаньне аб мэтах і задачах новай організацыі і аб узаемаадносінах яе з пэрыфэрыямі.

Членамі П-ЗК, якія былі мне тады вядомы, апрача Міхаіла, былі: Страшынскі (Антось), офіцэр,—ад Вільні, т. Фрумкін (Мінай)—ад Віцебску, Кузьняцоў (Яхім)—ад Менску, Нягоеў і тав. Троцкі (Сямён); апошнія працавалі ў канцы 1905 году таксама ў Менску, дзе фактычна і знаходзіўся ў гэты час і П-ЗК.

Пытаньне аб тым, ці быў П-ЗК „цьвёрдым“ або далучаўся да „прымірэнчага“ пункту погляду, ставілася не адзін раз і рознымі таварышамі асьвятлялася парознаму. П-ЗК у пачатку свайго заснаваньня стаяў на пункце погляду „большасьці“. Ухіл у бок „прымірэнства“ П-ЗК выяўляе, прыблізна, к momanту скліканьня III партыйнага зьезду. Аб гэтым ухіле сьведчыць рэзолюцыя Менскай групы па пытаньні аб выбарах на III зьезд. Як вядома, вакол пытаньня аб скліканьні III зьезду вялася вялікая барацьба ў асяродку партыі. П-ЗК заняў нерашучую позыцыю. Менская-ж група, далучаючыся да пункту погляду БКБ (Бюро Комітэтаў Большасьці), выказалася за скліканьне зьезду, разам з тым выказала, што не давярае ПЗК-ту, як прымірэнчаму, і хадайнічала аб дазволе пасылкі на зьезд ад Менскай групы асобнага дэлегата. Менская група, як організацыя, што ўваходзіла ў склад П-ЗК, ня мела права пасылкі асобнага дэлегата на зьезд, бо гэта права было выключна П-ЗК. Бюро Комітэтаў Большасьці дало права Менскай організацыі паслаць асобнага дэлегата. Менская група паслала на III зьезд дэлегатам таварыша Шклоўскага (Георгія), якому затым зьезд даў дарадчы голас. Дэлегатам-жа П-ЗК на III зьезьдзе быў Вадзім (Пасталоўскі), які працаваў у Беларусі ў якасьці агэнта, а затым і члена ЦК. Вадзім на працягу 1904-1905 г.г. часта бываў у Менску і быў цесна зьвязаны з Менскай організацыяй.

Пасьля сканчэньня зьезду П-ЗК таксама выявіў нястойкую позыцыю, выказаўшыся, аднак, за наладжаньне організацыйных сувязяй з нанова выбраным на зьезьдзе Цэнтральным Комітэтам. На гэта ЦК згадзіўся.

Пытаньне, якое ня сходзіла ўвесь час з парадку дня мясцовых організацый аж да 1906 году,—гэта пытаньне аб функцыях і задачах П-ЗК. Ці павінен П-З Комітэт зьяўляцца ідэёвым кіраўніком, або яго роля павінна быць болей вузкая і абмяжованая чыста тэхнічнымі функцыямі, г. зн. справай разьмеркаваньня партыйных сіл у Беларусі, дастаўкай літаратуры, разьмеркаваньнем матэрыяльных сродкаў і г. д.? Пытаньне гэта пазьней прыняло болей агульную форму ў сувязі з агульнай пастаноўкай пытаньня ў партыі, а іменна: аб узаемаадносінах мясцовых організацый і цэнтральных і аб аўтономнасьці мясцовых організацый. П-ЗК увесь час меў тэндэнцыю лічыць сябе органам, які аб'ядноўвае вядомую тэрыторыю, на якой ён ня толькі мае чыста тэхнічныя функцыі, але зьяўляецца і органам ідэёвага кіраўніцтва. Мясцовыя-ж організацыі, асабліва Менская група, знаходзілі, што П-ЗК павінен быць толькі тэхнічным органам і што ідэёвае кіраўніцтва прыналежыць выключна Цэнтральнаму Комітэту партыі. Тыя асабліва нязгодлівыя адносіны да пытаньня аб ідэёвым кіраўніцтве тлумачацца тэй вастрынёй ідэёвай работы з меншавікамі, якая тады была па ўсёй партыйнай лініі. Баязьлівасьць, што меншавікі, якія пасьля таго, як пытаньне аб адзінстве партыі стала на чарзе, здолеюць выкарыстаць права ідэёвага кіраўніцтва ў сваіх фракцыйных інтарэсах, прымусіла нашы організацыі, у тым ліку і Менскую, адносіцца да пытаньня аб ідэёвым кіраўніцтве надзвычайна асьцярожна. Рознае тлумачэньне прэрогатыў

П-ЗК летам 1905 году выклікала шмат конфліктаў і непаразуменьняў паміж Менскай групай і прадстаўніком П-ЗК, або, як звычайна яго ў нас называлі, „намесьнікам П-ЗК“—Нягоевым.

Адозва аб утварэньні П-ЗК складзена Міхаілам. Лісток вышаў вельмі доўгі і непопулярны. Паведамляючы аб утварэньні новай організацыі, лісток разам с тым тлумачыць, чаму зьявілася патрэба ў Паўночна-Заходнім краі, поплеч з „Бундам“ і ПС-Д, новае соц.-дэмократ. організацыі.

Паведамленьне я перадаў для надрукаваньня ў друкарню. Але з прычны таго, што наш тэхнік Аляксандар яшчэ ня зусім налаўчыўся друкарскай справе, яго паведамленьне набіралася даволі доўга. Нарэшце, у ўмоўленым месцы Аляксандар перадаў мне адбітку першай палавіны набранага ім паведамленьня П-ЗК для перагляду. Гадзіны цераз дзьве пасьля майго спатканьня з Аляксандрам я быў арыштаваны. Арышт мой адбыўся пры наступных акалічнасьцях. Накіроўваючыся на кватэру, я спаткаў аднаго з нашых рабочых, які паведаміў мяне, што ў яго сабраўся рабочы гурток, а пропогандысты не зьявіўся. У гэты час Менская організацыя перажывала кватэрны крызыс. Нашы гурткі пачалі пакрысе распадацца. Вось чаму таварыш, які мяне спаткаў, пачаў упрашаць, каб я пашоў на гэты гурток, бо йнакш цяжка будзе склікаць гурток яшчэ раз. Ня гледзячы на тое, што ў мяне быў лісток, я згадзіўся пайсьці на гурток, маючы на ўвазе, што мне ўдасца згаварыцца з членамі гуртка і ўмовіцца ўсяго аб дні заняткаў.

Я застаў гурток у поўным зборы. Разам з рабочымі на заняткі прышлі і работніцы. Я пастанавіў выкарыстаць выпадак і правесьці гутарку. Але нядоўга мне прышлося весьці гутарку з гуртком. Праз нейкі час нехта з жыхароў дому вярнуўся ў пакой, дзе мы займаліся, і паведаміў, што паліцыя абступіла дом. Зараз-жа зьявілася і паліцыя. Апрача адбіткі адозвы, якую мне перадаў Аляксандар, у мяне нічога з сабой ня было. Адбітку-ж я пасьпеў скамячыць і выкінуць у далёкі вугал пакою. Паліцыя, абшукаўшы паасобку кожнага з нас, чамусьці протоколу аб вобыску і арышце не пакінула. Апошняе можна было вытлумачыць тым, што паліцыя забрала ў мяне пры вобыску портмонэт і хацела скарыстацца ім, што сапраўды і зрабіла. У турме-ж некаторыя таварышы тлумачылі гэты паступак паліцыі пры нашым арышце тым, што паліцыя і жандармэрыя былі ў Менску ў той час у нацягненых адносінах і стараліся адзін другому нашкодзіць. Паліцыя пранюхала аб нашым сходзе і парашыла самастойна, без жандармэрыі, зрабіць вобыск і арышт і таму зрабіла шмат памылак. Цяжка сказаць, наколькі апошняя здагадка была праўдзівай; наадварот—далейшае накіраваньне справы не дало поваду пацьвердзіць азначаную дагадку таварышоў.

Мяне больш усяго непакоіла думка аб тым, што гэты незакончаны лісток можа навесьці паліцыю і жандармэрыю на думку аб тым, што ў Менску маецца тэхніка (звычайна, для адцягненьня ўвагі жандармаў ад гораду, дзе маецца друкарня, надрукованыя лісткі распаўсюджваліся ў гэтым горадзе пазьней, чымся ў другіх мясцох). У кожным выпадку, трэба было, каб організацыя даведалася аб маім арышце. З гэтае прычыны, канечна трэ' было зацягнуць час з высьвятленьнем маёй асобы. Я назваў сябе першым папаўшым прозьвішчам і паказаў непраўдзівую кватэру. Калі нас, усіх арыштаваных, абкружаных атрадам гарадавых, павялі па Губарнатарскай вул., я, к маёй радасьці, пабачыў, што па тротуары, крыху паводаль ад нас, за намі сьледам ідзе цэлая група нашых таварышаў-рабочых, на чале з Шмуэль-Хаімам, бо яны адкульсьці ўжо даведаліся аб арышце. Ну, цяпер я мог быць спакойным, што ўсе

захады будуць у свой час зроблены. Я толькі сумняваўся, ці ўдасца ім знайсьці і ачысьціць маю кватэру, бо мой адрас ведаў толькі абмежаваны лік асоб.

У поліцэйскім вучастку мяне аддзялілі ад другіх арыштаваных таварышаў. Але па дарозе ў вучастак мы пасьпелі зусім згаварыцца паміж сабою аб паказаньнях. Без усялякіх тлумачэньняў мяне трымалі ў вучастку доўга, але чамусьці нават не за кратамі. Пасьля я зразумеў, што поліцыя адшуквае маю кватэру. Нарэшце, поліцэйскія вывелі мяне на вуліцу, пасадзілі на рамізьніка з дамаганьнем паказаць рамізьніку, куды везьці. Прашло шмат часу з тае пары, як таварышы нас праводзілі на Губарнатарскай,—час, выстарчаючы для ачысткі маёй кватэры. Зашоўшы з поліцыяй у мой пакой, я пераканаўся, што таварышы былі тут і ўжо зрабілі чыстку. Мае кватэрныя гаспадары былі зусім зьдзіўлены ўсім, што здарылася, і маім арыштам, бо да гэтага яны лічылі мяне „парадачным чалавекам". Вельмі хутка поліцыя мне жорстка адамсьцілася за тое, што зьбіў яе з панталыку.

Позна ў ночы я з маёй кватэры быў дастаўлены ў 3-ці поліцэйскі вучастак на Ракаўскай вуліцы. Клапоўнік, куды мяне пасадзілі да гэтага часу, быў ужо перапоўнены. На нарах і на падлозе ляжалі людзі. Маё зьяўленьне нікім з гэтай кануры ня было прымечана. Раніцай усіх арыштаваных чамусьці з гэтай цёмнай камэры адразу кудысьці перавялі, пакінуўшы тут толькі мяне аднаго. Праз некаторы час да мяне ў камэру гарадавыя пусьцілі двух п'яных суб'ектаў і зачынілі дзьверы на замок. Гэтыя суб'екты былі вартаўнікамі [1]). Гэтыя п'яныя вартаўнікі зараз-жа накінуліся на мяне і бяз усякіх гутарак пачалі жорстка мяне біць. Гэта цягнулася доўгі час. Гарадавыя стаялі за дзьвярыма і, чуўшы ўсё, што адбывалася ў засьценку, не зьвярталі на гэта ўвагі. Затым гарадавыя спакойна адчынілі дзьверы і выпусьцілі гэтых вартаўнікоў. У організацыі біцьця поліцыя выявіла д'ябальскі спакой і прадугледжанасьць, пазбыўшыся загадзя якіх-бы там ні было сьведак. У жандарскай управе, куды мяне праз два дні завялі пасьля гэтага, я застаў ужо ўсіх таварышаў, арыштаваных разам са мною. Менская жандарская ўправа мне была ўжо знаёма, бо я „запрашаўся" туды раней па справе сьвяткаваньня 14 (1) сакавіка 1902 г. [2]) Хутка мяне з жандарскай управы накіравалі ў турму, бо паказаньне я адмовіўся даваць у відзе протэсту за маё зьбіеньне. Рэшту таварышаў аслабанілі ў той-жа дзень. Справа, як відаць, пакуль што прыняла ня зусім сур'ёзны характар. Да таго часу ужо ў Менскай турме было шмат палітычных. Як вядома, турма ў Расіі заўсёды дакладна адбівала праўдзівы стан рэволюцыйнай барацьбы ў тым або іншым гістарычным пэрыядзе. Політычныя менскай турмы былі выключна бундаўцы або асобныя эс-эры і сыоністыя; членаў РС-ДРП або „іскраўцаў" (як „Бунд" нас называў) у менскай турме яшчэ ня было. Наша організацыя толькі што пачала разьвінаць сваю масавую партыйную работу. Загэтым я зьявіўся першым „іскраўцам" у менскай турме. Толькі да канца 1904 г. „іскраўцы" ўжо настолькі павялічылі свае кадры ў менскай турме, што яны ўжо і ў турме маглі конкураваць з „Бундам".

У турме я нашоў некаторых старых знаёмых, з якімі я раней спатыкаўся. Тут сядзеў Тэпэр (Мірон), адзін з вядомых тады ў П.-З.

[1]) Да гэтага часу, калі не памыляюся, выключна ў Менскай губэрні поліцыяй быў уведзены новы інстытут т. зв. вартаўнікоў. Гэтыя „вартаўнікі" служылі не для ахраны абываталяў ад грабяжу і г. д., а выключна зьяўляліся памоцнікамі поліцыі, для барацьбы з крамолай і рэволюцыйным рухам.

[2]) Сход 14 (1) сакавіка, наладжаны „Бундам" у 1902 г. ў аднэй дачы за горадам, быў накрыты поліцыяй. З усяго шматлюднага сходу па ўказаньні дворнікаў арыштавана было толькі некалькі чалавек, якія атрымалі адміністрацыйную ссылку.

краі бундаўскіх прамоўцаў; яшчэ да гэтага арышту ён пачаў схіляцца да анархізму. У менскай турме ў гэты час адбывалі кару політычныя катаржане—пінскія рабочыя-бундаўцы: Масей Цытрон, Дворкін і трэці, прозьвішча якога ня памятую. прысуджаныя ваенна-акруговым судом на 8—10 год катаргі за забойства ў Пінску бундаўскага провокатара. У ліку вязьняў былі бундаўцы: Рэйзін, Ібкін, Аронсон і інш.

Пры дапамозе рознастайных сувязяй з горадам, політычныя мелі магчымасьць сачыць за падзеямі, што адбываліся за сьцяной турмы. Сувязь з горадам адбывалася шмат якімі шляхамі: цераз асоб, якія прыходзілі на спатканьне з вязьнямі, цераз перамаўленьні праз акно турмы, цераз крымінальных, якія працавалі ў горадзе і варочаліся штодзень к вечару ў турму.

Турма жыва адгукалася на ўсе падзеі дня і ўспрымала ўсё гэта болей чула, чымся за сьцяною турмы. Ня дзіва, што ў турме адчувалася больш востра таксама і тая барацьба, якая адбывалася ў партыі, з аднаго боку, паміж РС-ДРП і „Бундам“, а з другога—паміж бальшавікамі і меншавікамі. Гэта барацьба пачала разгарацца ў турме асабліва пасьля таго, калі ў амаль аднастайны політычны склад „Бунду“ пачалі ўваходзіць у якасьці турэмных вязьняў і партыйцы.

У турме, апрача звычайных спрэчак на політычныя пытаньні, наладжваліся дыскусіі з дакладамі на розныя баявыя пытаньні програмы і тактыкі. Асабліва вострыя спрэчкі з бундаўцамі пачаліся пасьля таго, як у турме было атрымана паведамленьне аб заснаваньні Паўночна-Заходняга Комітэту. Бундаўцы асабліва злавалі, што паведамленьне П-ЗК трактавала бундаўскі нацыяналізм, як „дробна-буржуазную тэндэнцыю“ і як „звужэньне шырыні тэорытычных палажэньняў марксызму“. Я ўжо, з выпускам і распаўсюджваньнем паведамленьня П-ЗК, зусім супакоіўся адносна нашай друкарні. Відаць было, што поліцыя і жандармэрыя не раскусілі гісторыі з лістком. У вагульным для ацэнкі лістка, складзенага Міхаілам, трэба адзначыць, што гэты першы лісток П-ЗК быў напісаны літаратурнай і незразумелай для масы інтэлігэнцкай мовай Ня йначай, і менская поліцыя ня была падрыхтавана да зразуменьня гэтага літаратурнага твору з такімі выразамі як, напрыклад: „специфически острыми особенностями“, „пролетариат, который развивался под влиянием разных общественно-психологических моментов“ і г. д.

Аб нарастаньні рэволюцыйнага руху ў краі мы ведалі ня толькі з газэт і паведамленьняў з волі, мы гэта адчувалі таксама па перамене адносін да нас, якія выявіліся ў аслабленьні турэмнага рэжыму. Адчувалася гэта таксама і па ўважлівых адносінах да політычных з боку т. зв. мясцовага лібэральнага грамадзянства і політычнага Чырвонага Крыжу.

## III.

1905 год застае Менскую організацыю акрыяўшай і значна вырасшай. Да гэтага часу крыху зьмяніўся і кадр партыйных працаўнікоў Менскай організацыі, бо П-ЗК спрыяў перакіданьню працаўнікоў. Апрача тав. Троцкага (Сямёна) і Нягоева, якія працавалі ў Менскай організацыі ў якасьці членаў П-ЗК (работа іх у Менску адносіцца к восені 1905 г.), у Менску ў пачатку 1905 г. працавалі Абрам—сталяр і Павал—інтэлігэнт (прозьвішч іх ня помню) з Віцебску. Летам 1905 г. быў прысланы да нас на работу і тав. Тамаш—екацерынаслаўскі рабочы, сьлёсар[1]). За выключэньнем Нягоева, усе гэтыя таварышы зьяўляліся

[1]) Тав. Тамаш (прозьвішча ня ведаю) працаваў у Менску. прыблізна, з ліпня да сьнежня 1905 г. Ён вёў работу, галоўным чынам, сярод чыгуначных рабочых, а таксама сярод рабочых болей буйных прадпрыемстваў; т. Тамаш выдзяляўся сваім вялізарным ростам.

бальшавікамі. Пазьней у менскай групе працавалі Баўшаверавы, Язэп і Ларыса. Язэп адзін час быў адказным організатарам, а Ларыса скарбнікам. Як Язэп, так і Ларыса былі меншавікі. Работа іх у Менску належыць да пэрыоду верасень-сьнежань, г. зн. ужо пасьля таго, як пытаньне аб аб'яднаньні РС ДРП стала на чаргу, і рэволюцыйныя падзеі прымушалі на справе і меншавікоў і бундаўцаў ісьці поплеч з бальшавікамі.

Пасьля 22 (9) студзеня была спроба з боку Менскай групы наладзіць агульную політычную забастоўку, але забастоўка вышла не агульнай. Баставалі ў горадзе толькі ўсе прамысловыя прадпрыемствы, але не ўдалося прыцягнуць да забастоўкі і зьняць з работы рабочых болей буйных фабрычных прадпрыемстваў, бо поліцыя ахоўвала фабрыкі. У час так званай земскай кампаніі лібэральныя гласныя Менскай гарадзкой думы наладзілі ў гарадзкой думе банкет. Нашы прамоўцы, а таксама бундаўцы выкарысталі гэты банкет для выступленьня і прачытаньня с.-д. рэзолюцыі.

З таго часу забастоўкі амаль што ня спыняюцца, ахопліваюцца паступова ўсе прадпрыемствы,—як буйныя, так і дробныя. Бастуюць гарбары, мельнікі, рабочыя бровару, пекары і г. д., нават адзіночкі прачкі вытрымоўваюць амаль двухтыднёвую забастоўку. Для кіраўніцтва гэтай забастоўкай Менскай організацыі прышлося патраціць вялікую энэргію, бо такія дробныя прачашні былі раскіданы па ўсім горадзе і цяжка было наладзіць контроль над гаспадарамі прачашных прадпрыемстваў. Міропу-прыказчыку, у бацькі якога была невялікая прачашня, прышлося для падтрыманьня забастоўкі зьняць з работы прачак у прачашні свайго бацькі. Летам многа шуму выклікала ў горадзе забастоўка гарадзкой конкі, аб якой я ўспамінаў вышэй. Нязвычайныя акалічнасьці, у якіх прашоў першы сход канюхоў і інш. рабочых у памяшканьні сынагогі, дамаганьні забастоўшчыкаў, якія былі пададзены гарадзкому галаве ад імя Менскай групы РС-ДРП,—усё гэта выклікала шмат гутарак у горадзе і прыцягвала ўвагу рабочых да нашай організацыі. Разам з выбарнымі ад канюхоў для прад'яўленьня дамаганьня гарадзкому галаве, зьявіўся і прадстаўнік нашай організацыі. Гарадзкі галава спачатку адмаўляўся весьці з прадстаўніком організацыі перамаўленьні, як з „прыватнай і пабочнай асобай". Але, урэшце, ён прымушаны быў весьці ня толькі перамаўленьні з „пабочнай асобай", але здаволіць усе дамаганьні забастоўшчыкаў. Звычайна пасьля кожнай удачна праведзенай забастоўкі шэраг болей актыўных рабочых далучаўся да шэрагаў нашай партыі. Таксама пасьля забастоўкі конкі цэлы шэраг талковых рабочых увашоў у нашу партыю, і яны затым прымалі дзейны ўдзел у руху. Агульны настрой ня мог не адбіцца і на настроі вучнёўскай моладзі. Шматлікі вучнёўскі сход усіх школ гораду прыняў нашы рэзолюцыі і, протэстуючы супроць арышту поліцыяй вучняў, абвясьціў забастоўку. Пад кіраўніцтвам нашай організацыі вучні наладзілі дэмонстрацыю, да якой далучылася шмат гарадзкой публікі і рабочых. Наша організацыя мела шмат прыхільнікаў сярод усіх навучальных устаноў гораду. Ва ўсіх школах былі с.-д. організацыі. Вучнёўская організацыя была зьвязана з цэнтральнай групай цераз прадстаўніка Ц. групы. Трэба адзначыць, што Менская вучнёўская організацыя была ідэёва вытрыманай і моцнай організацыяй. Гэта організацыя вяла сыстэматычна і з посьпехам ідэёвую барацьбу з эсэрамі, бундаўцамі і сыоністымі. Вучні зрабілі руху вялікую дапамогу.

З канца ліпня падзеі ў Менску пачынаюць праходзіць болей шпаркім тэмпам, чым да гэтага часу. Політычная забастоўка, абвеш-

чаная ў горадзе нашай організацыяй разам з „Бундам“, у знак протэсту супроць расправы царскага ўраду з рабочымі ў дзень 1 траўня ў Варшаве і Лодзі, насіла агульны характар. Былі зачынены ўсе крамы, не працавалі, нават, фабрыкі і заводы. „Бунд“, апрача забастоўкі, сэпаратна, бяз удзелу нашай організацыі, рашыў наладзіць у дзень забастоўкі таксама і дэмонстрацыі. Менская-ж група лічыла, што момант не падыходзіць да такога выступленьня, і старалася ўгаварыць „Бунд“ адмовіцца ад дэмонстрацыі. „Бунд“, ня лічачыся з поглядам Менскай групы, самастойна заклікаў масы на дэмонстрацыі. Выступіўшая на Багадзельнай (Комсамольскай) вул. невялікая група рабочых, якая спачувала „Бунду“, была абкружана паліцыяй і казакамі. Апрача жорстка зьбітых і арыштаваных, сярод дэмонстрантаў былі раненыя. У ліку арыштаваных былі і некаторыя таварышы—члены нашай організацыі.

Цераз некалькі дзён пасьля расправы з дэмонстрантамі на Багадзельнай вуліцы была кінута бомба ў дом менскага губарнатара Курлова, а затым цераз некалькі тыдняў невядома кім была кінута бомба ў казарму, якая знаходзілася за горадам і ў якой жылі казакі. У горадзе гаварылі з прычыны гэтых бомб, што губарнатар Курлоў іх сам сабе падкінуў, жадаючы зьвярнуць на сябе ўвагу царскага ўраду. Бомбу, кінутую ў казарму казакаў, таксама ўсе лічылі провокацыяй і жаданьнем раззлаваць казакаў і наогул салдат супроць рэволюцыянэраў.

Другі замах на жыцьцё Курлова быў зроблены ў сьнежні 1905 г., пасьля расстрэлу Курловым мітынгу на Вокзальным пляцы 31 (18) кастрычніка. Але і гэты другі замах на жыцьцё быў няўдачным — Курлоў застаўся, нават, ня раненым. Зрабіўшыя замах на яго жыцьцё с.-р. Ізмайловіч і Пуліхаў былі прысуджаны на кару сьмерці. Ізмайловіч сьмерць была заменена 20-гадовай катаргай, а Пуліхава павесілі ў менскай турме ў 1906 годзе.

Першая менская друкарня, у якой працаваў Аляксандар, праз нейкі час пасьля майго арышту была організацыяй зьліквідавана. Новая тэхнічна была куды лепей абстаўлена. У ёй працавалі сапраўдныя друкары-спэцыялістыя: бабруйскі друкар (быўшы бундавец) з сястрой і жонкай. Памяшканьне новай друкарні было большае—складалася з трох вялікіх сьветлых пакояў, якія выходзілі ў сад. Зьмяшчалася гэта друкарня на Архірэйскай вуліцы, у поўсутарэньні. Верхні паверх займаў якісьці гэнэрал. Друкарня працавала з посьпехам, але ўсё-ж такі не пад сілу ёй было надрукаваць патрэбны для Менскай групы і П-ЗК лік лісткоў і інш. літаратуры. З гэтае прычыны організацыя пачала ў палове лета ўжываць рэволюцыйныя меры: захопліваць друкарні. Першы раз група таварышаў захоплівае друкарню газэты „Северо-Западный Край“ і з дапамогаю нашых друкароў набірае там лісток. На набраным лістку пасьля тэксту быў прыбаўлены такі подпіс: „Напечатано в типографии „С.-З. Край“ по распоряжению Минской группы РС-ДРП“. Пазьней, асабліва пасьля кастрычнікаўскіх дзён, да гэтага спосабу Менская організацыя зьвярталася час-ад-часу, выбіраючы для гэтага то адну, то другую друкарню. За наш лісток, які надрукаваны ў газэце „Сев.-Зап. Край“, пацярпеў рэдактар гэтай газэты Мысоўскі, якога губарнатар Курлоў западозрыў у спачуваньні рэволюцыянэрам і выслаў адміністрацыйным парадкам у Валагодзкую губэрню.

Лісткі і адозвы шырока распаўсюджваліся тады рознымі спосабамі. Летам, апрача звычайных спосабаў распаўсюджваньня, раздавалі



Меньскія чыгуначнікі, засуджаныя за ўдзел у забастоўцы ў 1905 годзе на сасланьне.
Сядзяць зьлева направа абвінавачаныя: Нікольскі, Гамзагурдзі, Жабо, Рэвэрэлі, Валынскі, Мятлін, Кузьняцоў і Лявінскі.



Група РС-ДРП ў Менску/ў 1907 годзе.

лісткі па руках і распаўсюджвалі іх у тэатры ў часе спэктаклю. Месцам частага выступленьня нашых і бундаўскіх прамоўцаў зьявілася Менскае Таварыства прыхільнікаў вобразнага мастацтва, дзе пасьля дакладу, а часамі і ў часе яго, распаўсюджвалі лісткі і карысталіся аудыторыяй для палітычных выступленьняў нашых прамоўцаў.

Уплыў Менскай групы ў сярэдзіне 1905 г. вельмі павялічыўся сярод усяго жыхарства гораду. Пастановы арганізацыі сталі абавязковымі ня толькі для членаў партыі, але таксама выпаўняліся і жыхарствам, калі гэтыя пастановы датычыліся яго. Бывалі, нават, выпадкі, калі арганізацыя накладала грашовы штраф на карысьць арганізацыі або на карысьць Чырвонага Крыжу за розныя ўчынкі прадпрыемцаў і гаспадароў у адносінах да сваіх рабочых. Прывяду такі факт. Па ўказаньні гаспадароў салі „Париж“, былі заарыштаваны два рабочыя. Арганізацыя налажыла за гэта штраф на гаспадароў салі, а таксама абавязала іх прыняць захады к аслабаненьню арыштаваных. Пастанова гэта была выпаўнена поўнасьцю. Быў такі характэрны выпадак, калі арганізацыя наклала на аднаго гаспадара штраф на пэўную суму грошай. Гэты гаспадар зьявіўся да поліцэйскага прystава за радай, што яму рабіць. Прыстаў парадзіў—заплаціць грошы. Такія выпадкі былі ня раз. Але аўторытэт арганізацыі насіў выключна моральны характар і ніякага тэрорыстычнага ўплыву пры гэтым ня ўжывалася.

Адзін час у Беларусі, да зараджэньня партыйных арганізацый, у „Бундзе“, сярод рабочых, пераважваў настрой на карысьць ужываньня т. зв. экономічнага тэрору, як спосабу ўплыву на прадпрыемцаў пры экономічных забастоўках. Мэтод экономічнага тэрору быў у прыстасаваньні фізычнай сілы супроць прадпрыемцы ў час забастовак, калі ён адмаўляўся задаволіць дамаганьні рабочых (мэтод гэты ўжываўся і ў адносінах да штрэйкбрэхэраў). С-д., у тым ліку і „Бунд“, да экономічнага тэрору таксама, як і да палітычнага тэрору, адносіліся адмоўна, кіруючыся на арганізацыю і аб'яднаньне масы і яе асьвету.

Менская група — адна з першых арганізацый у Беларусі правяла дэкрэтызацыю і выбарнасьць арганізацыі. Усе пытаньні агульна-партыйнага жыцьця абгаварваліся ўсімі членамі партыі. Таксама шырока абгаварваліся тыя цыркуляры, якія арганізацыя атрымоўвала ад ЦК [1]). Сувязь з ЦК партыі асабліва ўмацавалася пасьля III зьезду. Абгаварваліся чарговыя цыркулярныя пасланьні ЦК па розных пытаньнях моманту, як, напрыклад, па пытаньні аб Булыгінскай Думе, аб часовым рэв. урадзе і г. д.; Менскую арганізацыю адведалі прадстаўнікі і агэнты ЦК. На працягу 1905 году ня раз прыяжджалі ў Менск т. т. Каменеў, Пасталоўскі (Вадзім), Іван Самер (Ізмаіл). Вясною жыў у Менску т. Арсені (прозьвішча апошняга ня ведаю).

Як вышэй зазначана, Менская група фактычна выпаўняла ролю губэрскай арганізацыі, дастаўляючы літаратуру павятовым і местачковым арганізацыям, час-ад-часу накіроўваючы сваіх агітатараў і на вёску. Асобнай аграрнай або сялянскай групы для работы на вёсцы пры Менскай арганізацыі ня было. Гэтую функцыю выконвала пропогандыцкая група. Летам адбываліся сялянскія беспарадкі ў некаторых паветах Менскай губ.; стычкі з панамі адбываліся ў Ігуменскім павеце.

---

[1]) Летам 1905 г. была спроба з боку некаторых інтэлігэнтаў, як Барыс Рабіновіч і інш., утварыць опозыцыю Менскай арганізацыі. Але гэта спроба ня мела посьпеху, дзякуючы тэй масавай рабоце, якую вяла Менская арганізацыя па ўцягненьні ўсіх членаў арганізацыі да абгаварваньня і вырашэньня партыйных пытаньняў.

Для работы сярод салдат організацыя ўдачна карысталася дапамогай работніц і асабліва партыйных служанак. Гэтыя служанкі вельмі добра завязвалі знаёмствы з салдатамі і ўдачна вялі агітацыю сярод салдат і нават сярод казакоў. Пры дапамозе гэтых служанак організацыя мела зносіны з казармамі.

Асабліва шырокі размах работа Менскай організацыі набыла з разьвіцьцём і ўзмацненьнем рабочай біржы. Рабочыя біржы зьявіліся аднэй з найцікавейшых формаў масавага руху, стыхійна паўстаўшых у працэсе нарастаньня рэволюцыйнай барацьбы рабочае клясы. Рабочыя біржы зьявіліся ў Беларусі яшчэ да 1904 г. Сьпярша біржы былі месцам, куды беспрацоўны рабочы і рамесьнік прыходзіў для прапанаваньня сваіх рабочых рук прадпрыемцу. Гэтыя біржы затым няпрыметна і стыхійна абярнуліся ў новую форму організацыі рабочага руху і пазьней зьявіліся неабходнай часткай усёй організацыі. Біржы былі пастаяннай, самай шырокай масавай аудыторыяй для распаўсюджваньня рэволюцыйных ідэй, а таксама рэзэрвуарам, адкуль партыя чэрпала прыхільнікаў і нават барацьбітоў. На біржы часта распаўсюджваліся літаратура і лісткі. Гэта быў самы лепшы і надзейны спосаб распаўсюджваньня. Біржы ў патрэбны момант перайначваліся ў маніфэстацыі з чырвоным штандарам. Такія выпадкі ў 1905 годзе былі ня раз.

Стыхійна паўстаўшым біржам трэба было адваёўваць права на легальнае існаваньне. Шмат раз паліцыя рабіла спробы зьнішчыць і і разагнаць біржы, але ўсё бескарысна; пасьля разгону біржы на аднэй вуліцы, рабочыя пераходзілі на другую. Біржу было цяжка зьнішчыць і таму, што звычайна на першы погляд біржу цяжка было адрозьніць ад звычайнай гарадзкой вуліцы, на якой гуляе публіка. Нарэшце паліцыя махнула рукой на біржы. Біржы асталяваліся на самых галоўных вуліцах гораду, выціскаючы сваім зьяўленьнем гуляючую буржуазную публіку. Рабочыя біржы, апрача Беларусі, існавалі таксама на поўдні: у Адэсе, Кіеве, Елізаветградзе і інш. гарадох. Наколькі біржы заваявалі сабе моцнае месца, можна судзіць з таго факту, што, нават, у пэрыод найбольшае рэакцыі, ваеннага палажэньня і ваеннапалявых судоў у канцы 1906 году ў Екацерынаслаўлі рабочая біржа не прыпыняла свайго існаваньня.

Тэрыторыяй біржы Менскай групы (або як яе бундаўцы называлі — „іскраўскай біржы“) зьяўляўся правы бок Губарнатарскай (Ленінскай) вуліцы, пачынаючы з рогу Прэображэнскай і займаючы частку Захар'еўскай (Савецкай) вуліцы. Далей пачыналася тэрыторыя „Бунду“ і „Клэйн-Бунду“ (Малога Бунду). На процілеглым баку Захар еўскай вул. былі біржы эсэраў і сыонстых. Апошнія біржы былі нязначнымі.

Біржы былі наглядным паказчыкам сілы і ўплыву організацыі, бо звычайна беспартыйная рабочая маса хадзіла на біржу тэй організацыі, якой яна спачувала. На біржах вялася інтэнсыўная агітацыйная і дыскусыйная работа. Да ліку характэрных зьяў Беларусі трэба аднесьці вялікую актыўнасьць шырокай рабочай масы і радавых членаў партыі. Гэтыя члены партыі вялі пастаянную актыўную ідэёвую барацьбу і агітацыю за сваю партыю і баранілі ўсюды інтарэсы сваёй партыі, што асабліва праяўлялася ў энэргічных спрэчках на біржы. Наша біржа прыцягвала да сябе ўвагу рабочых хоць-бы й тым, што на ёй былі згуртаваны рабочыя розных нацыянальнасьцяй: яўрэі, беларусы, палякі і г. д., у той час як на бундаўскай біржы знаходзіліся толькі яўрэйскія рабочыя.

Агітацыйная работа на біржы вялася зусім адкрыта. Паліцыя як быццам на яе не зьвяртала ўвагі. Бывала, паставы гарадавы ўночы, **а**

12 гадзіне, зьвяртаючыся да гуляючых на біржы таварышаў, спакойна гаварыў: „Эй, „іскра“, пара дамоў! „Бунд“ ужо даўно пашоў спаць“. Або зьвяртаючыся да бундаўскай біржы казаў: „Бунд, расходзься, ужо і „іскра“ пашла дамоў“.

Добра выкарыстаў біржу Грыша Беленькі. Ён ад часу да часу рабіў налёты і вылазкі то на бундаўскую, то на сыоніцкую біржы і, выбраўшы сабе ахвяру ў асобе таго або іншага маладога члена „Бунда“ або сыоністага, доўга вазіўся з сваёй „ахвярай“, пакуль не перацягваў яе на „іскраўскую“ біржу. Дзякуючы лоўкай агітацыі і дыскусіі на „варожых“ нам біржах, нашым рабочым удавалася „перацягнуць“ у нашу організацыю лепшую частку бундаўскай і сыоніцкай моладзі і шмат членаў гэтай партыі, якія затым зьяўляліся добрымі працаўнікамі-партыйцамі.

IV.

Дні напярэдадні 30 (17) кастрычніка праходзілі ў абставінах забастовачнай барацьбы. Яшчэ ля пачатку кастрычніка на арэну барацьбы вышлі чыгуначнікі. Менскі аддзел Усерасійскага чыгуначнага саюзу організаваўся ў сярэдзіне кастрычніка. 20 (9) кастрычніка першы дэлегацкі зьезд чыгуначных служачых аднагалосна вырашыў прад'явіць наступныя дамаганьні: васьмігадзінны працоўны дзень, права організацыі, бяскарнасьць забастовак, безадкладнае звальненьне арыштаваных за забастоўкі, скасаваньне ваеннага палажэньня і ўзмоцненай ахраны, скасаваньне жандарскай паліцыі, палітычныя саветы, агульнае выбарнае права, нацыянальнае самавызначэньне і яшчэ цэлы шэраг іншых дамаганьняў. Здарэньні насоўваліся шпарка. Чыгуначная забастоўка пачалася 26 (13) кастрычніка. З гэтага часу фактычна пачалася і агульная забастоўка ў Менску, да якой адразу-ж далучыліся ўсе фабрыкі, заводы і дробныя майстэрні, а таксама і вучнёўская моладзь усіх навучальных устаноў. У забастовачны комітэт чыгуначнікаў увашлі наступныя чыгуначнікі: Гамзагурдзі (с.-р.), Жаба, Кузьняцоў (с.-д.), Рэвэрэльлі, Валынскі (с.-д.) і інш.

Пачынаючы з 26 (13) кастрычніка, мітынгі чыгуначнікаў адбываліся штодзень у трэцяй клясе Лібава-Роменскага вокзалу. Тут на сходах абгаварваліся дамаганьні і статут саюзу чыгуначнікаў, тут-жа паведамляліся даныя аб ходзе чыгуначнай забастоўкі ва ўсёй Расіі. Гэтыя сходы сталі больш цікавымі пасьля таго, калі ў іх пачала прымаць удзел наша організацыя. Толькі 29 (16) кастрычніка ў забастовачны комітэт чыгуначнікаў афіцыяльна ўвашоў прадстаўнік ад Менскай групы, ня гледзячы на тое, што ў ліку забастовачнага комітэту чыгуначнікаў былі члены цэнтральнай групы, як Кузьняцоў і Валынскі.

Першыя крокі чыгуначнікаў былі яшчэ нясьмелымі. Вельмі цікавым зьяўляецца той факт, што забастовачны комітэт чыгуначнікаў прасіў, каб нашы прамоўцы „ўнікалі ў прамовах сваіх страшных слоў і не дыскрэдытавалі саюзу чыгуначнікаў“.

Аб чорнай сотні ў Менску як-та ўсе загаварылі адразу ў дні кастрычнікаўскай забастоўкі, ня гледзячы на тое, што і раней, да 1905 г., чорныя элемэнты і пагромных спраў майстры існавалі ва ўсіх гарадох, і царскі ўрад ня толькі абараняў іх, але карыстаўся гэтымі падонкамі грамадзянства для наладжваньня пагромаў. Гэтыя пагромы на некалькі год раней адбыліся на поўдні Расіі. Пагромы былі ў Кіеве, Кішанёве, Гомлі і шмат інш. гарадох. Нарэшце, у пачатку расійска-японскай вайны, царскі ўрад выкарыстаў гэтыя цёмныя элемэнты для наладжваньня патрыотычных маніфэстацый і для зьбіцьця рабочых, інтэлігэнтаў і асабліва яўрэяў. Але ўсё-ж такі да кастрычнікаўскіх дзён гэтыя элемэнты ня былі організованы і ня мелі сталых кіраўнікоў.

У часы кастрычнікаўскіх мітынгаў у памяшканьні Лібава-Роменскага вокзалу я ўпяршыню меў дачыненьне з чорнай сотняй. Чорнасоценцы, знаходзячыся ў залі, не выступалі, нават, не вялі контр-агітацыі сярод грамады, але неяк дзіўна, як сабакі на прывязі, з скрыгатаньнем зубоў туліліся да сьцяны. Толькі адзін раз, у часе выступленьня нашага прамоўцы, адзін чорнасоценец прабаваў выступіць з пропозыцыяй „отслужить молебен о здравии возлюбленного монарха“. Пасьля аднаго яскравага выступленьня прамоўцы соцыял-дэмократа старшыня сходу зьвярнуўся да чорнасоценцаў з пропозыцыяй, што ён ім дае слова для выступленьня ў адказ на гэту соцыял-дэмократычную прамову. Калі-ж у працягу некалькіх мінут чорная сотня не адклікнулася, увесь сход па яе адрасу закрычаў: „ганьба“ [1]).

Яшчэ да кастрычнікаўскае забастоўкі мы рыхтавалі атрады самаабароны на выпадак зьяўленьня пагромаў. У Менску і другіх гарадох хадзілі розныя чуткі аб тым, што паліцыя патаемна рыхтуецца да пагромаў. Былі чуткі, што ў Менск зьехаліся з другіх гарадоў цёмныя асобы. Сталі гаварыць, што на такі вось тэрмін рыхтуецца яўрэйскі пагром і што агэнты вядомага бесарабскага пагромшчыка Крушавана ўжо снуюць па вуліцах гораду Менску.

Менская група яшчэ раней узялася за організацыю атрадаў самаабароны і правяла шэраг сходаў на заводах і ў дэпо чыгунак з прычыны рыхтаваўшагася пагрому. Рабочыя ўсюды аднадгодна выносілі рэзолюцыі аб тым, што ў выпадку пагромаў яны ўсе, як адзін, выступяць на абарону (Менская група мела на ўвазе падрыхтаваць організацыю самаабароны, як баявую дружыну, калі прыдзе час для выступленьняў). Рабочыя ўзяліся зарыхтоўваць халодную зброю. Рэзолюцыя рабочых Менскай групы была надрукована ў лістках і распаўсюджана па гораду, а таксама выстаўлена ва ўсіх вітрынах магазынаў. Атрады самаабароны складаліся з 15-20 чалавек. Усе атрады былі ўвесь час напагатове. Узброены атрады былі даволі добра, хоць у кожным атрадзе зброя была розных сыстэм, пачынаючы ад браўніга і канчаючы бульдогам. Дзеля консьпірацыі атрады ўвесь час знаходзіліся на асобных консьпірацыйных кватэрах, каб не зьвярнуць на сябе ўвагі шпіёнаў. На некаторых таварышах ляжаў абавязак дастарчаць гэтым атрадам харчы. У горадзе асобна існавалі атрады бундаўцаў і сыоністых. Менская інтэлігэнцыя і яўрэйская буржуазія давалі грашовую дапамогу на ўтрыманьне і ўзбраеньне гэтых атрадаў. Наогул-жа атрады мелі значэньне ня толькі для абароны, але і для наступу пры разьвіцьці рэволюцыі.

У Менску была поўная і агульная забастоўка, але асобных стычак з паліцыяй, ні з казакамі, якія яшчэ ў пачатку лета былі вытрабаваны Курловым пад выглядам абароны парадку ў Менскай губ., не адбылося. Весткі аб ходзе агульнай і чыгуначнай забастоўкі па ўсёй Расіі мы атрымвалі рэгулярна.

30 (17) кастрычніка быў прыгожы сонечны дзень. Па Губарнатарскай і Захар'еўскай вуліцах вялікія грамады народу запаўнялі тротуары і брук. Пасярэдзіне вуліц ланцугом разьяжджалі патрулі казакоў. Паліцыі ня было відаць на вуліцах. Гаварылі, што паліцыя схована і знаходзіцца нарыхтаванай на падворках. Грамада ішла павольна па Губарнатарскай вуліцы і сабою запоўнілі і Захар'еўскую вуліцу. Грамада была абурана і наэлектрызавана: яна чакала распараджэньня. На Лі-

---

[1]) З прычыны выступленьня чорнай сотні, весткі ўзяты з даных абвінаваўчага акту па справе Менскага аддзяленьня ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў.

бава-Роменскім вокзале цэлы дзень адбываліся мітынгі. Выступалі, як звычайна, прамоўцы, выносіліся рэзолюцыі. Уначы вуліцы гораду агарнуліся змрокам.

У гэтыя дні, пры вельмі дзіўных умовах, у Менску зарадзілася кадэцкая партыя. Хтосьці з членаў цэнтральнай групы паведаміў мне, што прыехаўшы з Піцеру прысяжны паверангы Моргуліес прачытае лекцыю. Моргуліес прапанаваў запрасіць на гэту лекцыю і мясцовую беспартыйную інтэлігэнцыю. Гэты сход быў наладжаны адным з членаў нашай організацыі. У кожным выпадку, факт наладжваньня гэтага сходу быў пазьней прадметам абгаварваньня ў цэнтральнай групе. Даклад Моргуліеса адбыўся на якойсьці арыстократычнай кватэры. На дакладзе прысутнічалі „сьліўкі“ мясцовага лібэральнага грамадзянства: адвокаты, дактары і г. д. Прысутнічала і партыйная публіка. Як мне помніцца цяпер, увесь даклад Моргуліеса быў накірованы на наш бок; ён стараўся давесьці, што с.-д. ў істоце павінны быць зацікаўлены ў організацыі трэцяй сілы, гэта значыць інтэлігэнцыі: інтэлігэнцыя ня можа прыняць програму с.-д. у цэлым. У паасобку, інтэлігэнцыя ня можа прыняць без агаворак такія радыкальныя дамаганьні, якія ёсьць у аграрнай програме РС-ДРП. Уся інтэлігэнцыя ня можа прыняць програму-максымум і соцыялізм без паправак. Але інтэлігэнцыя можа зьявіцца сілай і саюзьніцай у барацьбе з самаўладзтвам. Але таму, што інтэлігэнцыя да гэтага часу яшчэ на організована, у інтарэсах РС-ДРП спачуваць яе організацыі ў кадэцкую партыю. Затым Моргуліес узяўся асьвятляць артыкулы програмы кадэцкай партыі. Завязалася дыскусія [1]). Гэты сход, у кожным выпадку, зрабіў услугу кадэтам, бо быў прычынай аб'яднаньня Менскай інтэлігэнцыі ў к.-д. партыю.

Аб царскім маніфэсьце мы даведаліся толькі 31 (18) кастрычніка. Аб гэтым маніфэсьце мне сказаў супрацоўнік менскай газэты „Северо-Западный Край“. Я пасьпяшыў на вокзал Лібава-Роменскай чыгункі, бо з часу чыгуначнай забастоўкі галоўная наша база была там, і там можна было спаткаць усіх нашых працаўнікоў. Да гэтага пляцу пачалі падыходзіць некаторыя асобы, а затым і групы рабочых. Хутка ўвесь пляц запоўніўся народам. Вестка аб маніфэсьце цара з надзвычайнай хуткасьцю абляцела ўвесь горад, а затым хутка гэты маніфэст зьявіўся ўжо ў друкаваным выглядзе. У горадзе пачаліся маніфэстацыі з чырвонымі шгандарамі. На вокзальным пляцы распачаўся мітынг, куды перашоў таксама і сход чыгуначнікаў. Да 31 (18) кастрычніка сходы ўвесь час адбываліся ў III клясе Лібава-Роменскага вокзалу). На вокзальным пляцы ўвесь дзень бязупынна адбываўся мітынг. Прамоўцы зьмянялі адзін другога [2]). Калі паявіўся друкаваны маніфэст, усе далейшыя выступленьні былі прысьвечаны гэтаму маніфэсту. Нашы прамоўцы крытыкавалі маніфэст і зазначалі, што пакуль цар застаўся на троне, пакуль самаўладзтва ня звалена, аб ніякай свабодзе ня можа быць і гутаркі.

Апрача партыйных прамоўцаў, былі выступленьні і розных грамадзян з натаўпу. Настрой грамады ўсё болей і болей падымаўся. На пляц прышлі маніфэстацыі. Адна маніфэстацыя зьмянялася другой. У ліку першых дамаганьняў, якія выставіліся сабраўшымся народам, было дамаганьне аб найхутчэйшым вызваленьні політычных вязьняў.

---

[1]). Паводле слоў т. Гурвіча, на дакладзе Моргуліеса прысутнічаў і прымаў удзел у спрэчках таксама і т. Каменеў, які быў у кастрычнікаўскія дні ў Менску. Факт выступленьня т. Каменева на гэтым сходзе ў мяне зьнік з памяці.

[2]). У ліку прамоўцаў, якія выступалі ад імя РС-ДРП, на пляцы былі т. т. Каменеў. Сямён, Язэп і інш ; выступалі бундаўцы і эсэры.

Тут-жа выбралі дэпутацыю да губарнатара Курлова, якая павінна была выставіць яму гэтае дамаганьне ад імя „народу“. Гэта дэпутацыя зараз-жа накіравалася да губарнатара.

У горадзе ў гэты час адбываліся на ўсіх вуліцах маніфэстацыі з чырвонымі штандарамі. Адчуваўся павышаны настрой. Перад чырвоным штандарам павінны былі зьнімаць шапкі ўсе,—прымушалі зьнімаць шапкі і паліцыю і вайсковых. Як бачым, гэты настрой удзельнікаў маніфэстацыі перадаваўся і абываталям. Асобныя грамадзяне, віншавалі адзін другога з „свабодай“, цалаваліся.

Мітынг на вокзальным пляцы з нецярпеньнем чакаў рэзультатаў перамаўленьняў дэлегацыі з губарнатарам Курловым па пытаньні аб вызваленьні палітычных вязьняў. Нарэшце, зьявілася вялікая маніфэстацыя з чырвонымі штандарамі. Маніфэстанты на руках несьлі толькі што выпушчаных з турмы таварышаў. У ліку вызваленых быў Грыша Беленькі, Абрам-„купец“ і некаторыя бундаўцы. Абрам-„купец“ быў сапраўдным чыстакроўным пролетарам. „Купцом“ яго звалі затым, што ён служыў „прыказчыкам“. Абрам-„купец“ быў малады, але вельмі шчыры і заядлы рэволюцыянэр. Ён часта пападаў у засьценак то за распаўсюджваньне лісткоў, то за зьбіцьцё гарадавова або шпіёна, то за які небудзь другі „фокус“. Ня раз ён быў зьбіты паліцыяй, але і паліцыя ня раз атрымоўвала адплату ад яго. Ён адчуваў нейкую фізычную агіду да паліцыі і з асаблівай агідаю адносіўся да існуючага ладу. Гэты „купец“ гатоў быў аддаць усё жыцьцё партыі, калі-б гэта было патрэбна. Ён нічога ніколі не вымагаў ад організацыі. Такіх тыповых рэволюцыянэраў-масавікоў у партыйных організацыях у той час, калі масавы рух толькі нарастаў, было шмат.

Грамада радасна вітала вызваленых таварышаў. Адну работніцу, „Міру“, грамада падняла на руках. Апошняя, трымаючы чырвоны штандар, вітала вызваленых. Затым далі слова вызваленаму Грышу, які зьявіўся на трыбуне. У гэты час я і некаторыя таварышы заўважылі, што салдаты ў баявым узбраеньні па адным спускаюцца з паветранага чыгуначнага маста, накіроўваючыся каб акружыць мітынг. Салдаты быццам нерашуча і маўкліва рабілі свой паход. З грамады раздаліся выклікі: „Гэта салдаты далучаюцца да народу!“. Пачуліся выклікі: „Няхай жывуць рэволюцыйныя салдаты!“... Але гэты выклік дзіўна застыў у паветры. Бяз усякага папярэджаньня пачалася частая карабінавая стральба. На адзін момант грамада засталася нярухомай, але затым, адразу зразумеўшы, у чым справа, рынулася ўсёй масай у адзін бок. Гэтыя выстралы пачкамі чуліся доўга. Грамада завіравала, валячыся і душачы адзін другога. З трудом мне ўдалося выкарабкацца з-пад цэлай гары ляжаўшых на мне раненых і пабітых людзей. Апынуўшыся каля плоту якогасьці цырку, я пералез цераз гэты плот і вышаў з сфэры агню. Выстралы і карабінавая траскатня, хоць і радзей, але яшчэ чуліся; мусіць такім-жа чынам, як і я, прабраўся і т. Тамаш (сьлёсар, аб якім я ўжо гаварыў). які раптам апынуўся каля мяне. Мы разам пацягнуліся на яго кватэру.

Аддыхнуўшы ў яго крыху і абгаварыўшы гэткае становішча, мы вырашылі зараз-жа высьветліць становішча ў горадзе і накіраваліся на кватэру Валынскіх. Туды-ж пачалі зьбірацца і другія таварышы, якія вярнуліся з курлоўскай засады і з гораду. Цяжка было яшчэ на першы час выявіць колькасьць ахвяр. Тут мы толькі даведаліся, што загінуў прысяжны паверaны, соцыял-дэмократ, т. Ентыс. Тав. Ентыс быў вельмі сымпатычны таварыш, які прымаў удзел у рабоце ўякасьці пропагандыстага. Тав. Ентыс загінуў не на пляцы. Яму ўдалося выбрацца з агню, але яго забіла куля гарадавога, які выстраліў у яго

ў упор і забіў напавал на вачох усіх, па дарозе ўжо ў горад. Як пазьней выявілася, тав. Ентыса забіў гарадавы па прозьвішчы Якубовіч, які дзейнічаў па загаду памоцніка прыстава Бэрнацкага. Гэты гарадавы забіў яшчэ 4 чалавек. Пазьней было паднята сьледзтва супроць гэтага гарадавога, але яно ні да чаго не прывяло.

Пазьней пачалі пастунаць дадатковыя і болей падрабязныя весткі. У ліку забітых былі Абрам-„купец“, толькі што вызвалены з турмы, Нехамка—актыўная і перадавая працаўніца, якая адна з першых далучылася да нашае арганізацыі ў Менску, і шмат іншых[1]).

Вельмі жудасны малюнак можна было бачыць на дварэ яўрэйскай багадзельні. Там было асабліва шмат трупаў—ахвяр курлоўскага расстрэлу. Іх прывозілі туды з вокзальнага пляцу. Ня толькі ўся трупярня, але і другія будынкі ў дварэ былі перапоўнены трупамі забітых. Некаторых трупаў нат‘ нельга было пазнаць. Па ранах забітых было відаць, што расстрэл быў зроблены разрыўнымі кулямі. Паводле афіцыяльных даных, якія выходзілі ад менскага пракурора, лік забітых і раненых дасяг роўна 150 чалавек. Паводле паведамленьня Курлова, забітых—52, раненых—123[2]).

У дварэ багадзельні і на вуліцы каля багадзельні было шмат народу. Чуваць было плач родных і знаёмых забітых.

Наагул, курлоўскі расстрэл удзельнікаў мітынгу на Вокзальным пляцы не зрабіў уплыву на баявы рэволюцыйны настрой рабочых гораду. Вынікам гэтага расстрэлу зьявілася яшчэ куды большая злосьць у рабочых, умацаваньне позыцыі нашай партыі і выкрыцьцё, нават, перад абывательскай масай манифэсту 30 (17) кастрычніка і яго тварцоў; ён быў для нас лішнім доказам таго, што толькі рэволюцыйнай барацьбой, скінуўшы самаўладзтва, можна заваяваць свабоду.

У Менску пасьля расстрэлу пачалося поўнае бязуладзтва: паліцэйская ўлада як-бы зьнікла. Пачалася закулісная барацьба паміж прокурорам Бібіковым і губарнатарам Курловым з прычыны здарыўшагася.

Няпрыкметным чынам жыцьцё ў горадзе рэгулявалася, галоўным чынам, пастановамі, якія выходзілі ад нашай арганізацыі, у іншых выпадках узгодненыя з забастовачным комітэтам чыгунак. Забастоўка адбывалася ў ранейшым парадку. З асаблівай інтэнсыўнасьцю адбывалася ў гэтыя дні і месяцы работа нашай друкарні, выпускаючы часамі два лісткі ў дзень, адгукаючыся на ўсе падзеі дня. Апрача работы нашай тэхнікі, за гэты час практыкавалася не адзін раз друкаваньне лісткоў у прыватных друкарнях.

Пасьля расстрэлу на службе збораў Лібава-Роменскай чыгункі адбылося аб‘яднанае пасяджэньне прадстаўнікоў Менскай групы з прадстаўнікамі „Бунду“, эсэраў і чыгуначнікаў. На гэтым пасяджэньні выпрацаваны рэзолюцыі і прынят шэраг дамаганьняў да ўраду.

Гэтыя дамаганьні надрукаваны ў выпушчанай Менскай групай проклямацыі з прычыны расстрэлу 31 (18) кастрычніка.[3])

---

[1]) Тав. Троцкі (Сямён) быў нейкім цудам ня ранены, пальто яго было прастрэлена ў некалькіх мясцох.

[2]) Газэта „Двадцатый век“ 1906 году, ад 1/IV (№ 8) 13. Справаздача па справе Курлова ў Сэнаце, паднятая прокурорам Віленскай судзебнай палаты. З гэтае справаздачы відаць, што стралялі ў рамаду 18 кастрычніка 1-я, 2-я і 1 -я роты Окскага палка. На справе лік ахвяр быў большым. Гл. арт. Метліна: „Курлоўскі растрэл“.

[3]) Тэкст проклямацыі гл. ў „Дадатку“ № 1.

**Рэдакцыя.**

**В. Метлін.**

# Курлоўскі расстрэл.

Нарэшце зьбянтэжаны ўрад пад націскам забастоўкі рашыўся пайсьці на ўступкі, і 17 кастрычніка быў агалошаны маніфэст.

З самай раніцы 18-га кастрычніка на мітынг чыгуначнікаў зьявілася вельмі многа народу і чыгуначнікаў, і наагул жыхароў гораду.

Заля 3-е клясы не магла зьмясьціць усіх тых, што прыходзілі, і таму пастаноўлена было распачаць мітынг проста на пляцы ля вокзалу.

Як мітынг пачаўся, дык найперш прапанована было зрабіць захады, каб вызваліць політычных вязьняў. Была абрана дэлегацыя ў складзе 12 асоб, якой належала падаць адпаведныя вымаганьні губарнатару Курлову. У склад гэтае дэлегацыі ўвашлі ад чыгуначнікаў—Метлін, Валынскі, Жаба, потым некалькі чалавек бундаўцаў, менскі прысяжны паверыны Ентыс ды інш.

Гадзіне аб 11-ай дэлегацыя выправілася на пляц Волі ў памяшканьне губарнатара, а мітынг ля вокзалу цягнуўся парапейшаму.

Дэлегацыю Курлоў прыняў неадкладна.

— Чым магу служыць?—запытаў губарнатар.

— Ад імя народу, які сабраўся на мітынг на пляцы ля вокзалу, просім Вас, у зьвязку з маніфэстам 17 кастрычніка аб дараваньні констытуцыі і політычных вольнасьцяй, вызваліць з турмы політычных вязьняў.

Губарнатар зрабіў зьдзіўленую міну. З ухмылкай і нібы ня цямячы, ён растлумачыў, што, бач, аб констытуцыі нічога ня ведае і што наадварот—у стасунку да політычных вязьняў мае ад ураду наказы характару адваротнага просьбам дэлегацыі, але ўсё-ткі, „ідучы на спатканьне народу“ і „прымаючы на сябе адказнасьць, ён гатовы просьбу задаволіць“.

Дэлегацыя была крыху нават зьдзіўлена тым, як ветліва яе спаткалі, бо ў душы шмат хто з членаў яе крыху баяліся, што будуць арыштаваны зараз-жа, як паведамяць аб сваіх вымаганьнях. І хто мог, бачыўшы ўхмылку на твары губарнатара і чуўшы яго загад аб вызваленьні політычных вязьняў, прадбачыць той жудас, што здарыцца на вокзальным пляцы праз некалькі гадзін па загаду гэтага самага губарнатара?

Дэлегацыя накіравалася з памяшканьня губарнатара ў турму і адтуль, разам з вызваленымі ў ліку каля 15 чалавек (якія адбывалі кару ў „адміністрацыйным парадку“), вярнулася на пляц ля вокзалу.

А там, на пляцы, мітынг адбываўся сваім парадкам. *Прамоўца за прамоўцай кідалі ў натоўп словы аб жудасьцях царызму, аб уціску, бяспраўнасьці народу, аб „жалком“ маніфэсьце, аб тым, што нават гэты маніфэст не выклікае давер'я; гаварылі аб констытуцыі ды г. д.*

„Прэч самаўладзтва! Няхай жыве рэспубліка!“—такі вось быў канец кожнае прамовы.

Калі выклікі захапленьня спаткалі прышоўшую ўжо дэлегацыю і вызваленых політычных вязьняў, было ўжо *каля 4 гадз. па паўдні.*



Група параненых у часе Курлоўскага расстрэлу.



Роза Шабад



Надзея Шабад

Рэволюцыянэркі, загінуўшыя ў часе Курлоўскага расстрэлу.



Пуліхаў. Ураджэнец г. Менску, вучань, выдатны член партыі с.-р. За замах на менскага губарнатара Курлова павешаны.



Пуліхаў напярэдадні кары сьмерцю.

У гэты самы час заўважылі, што да вокзалу падвялі войска. Старшыня мітынгу П. О. Жаба, які быў у складзе дэлегацыі, пачуў нешта нядобрае, абвесьціў мітынг зачыненым і прапанаваў у той самы час прайсьціся па горадзе з маніфэстацыяй.

Як толькі гэта было абвешчана, з боку пуцяправоду пачалася страляніна залпамі. Стралялі салдаты па загаду афіцэра.

Крыкі страху і стогны параненых пачуліся на пляцы і прылеглых вуліцах Натоўп у роспачы кінуўся, хто куды мага. Адны кідаліся з боку ў бок на пляцы, ня ведаючы, куды бегчы, другія пералязалі праз платы, трэція кла́ліся на зямлю.

Праз некалькі хвілін пляц апусьцеў. На зямлі ляжалі толькі трупы забітых, параненых ды цэлыя горы шапак і жаночых капялюшоў. Як выявілася пазьней, забітых было 80 чалавек, а параненых да 300.

У тых, што ўцякалі з вокзальнага пляцу ў горад па Міхайлаўскай вуліцы, было зроблена некалькі стрэлаў з IV-га паліцэйскага вучастку, які зьмяшчаўся на рагу Міхайлаўскай вуліцы і Васільлеўскага завулку. Тут-жа гарадавы, які выбег з варот, стрэліўшы з рэвольвэру, адразу забіў прысяжнага паверанага Ентыса.

За юрысконсультам Лібава-Роменскай чыгункі І. І. Метліным гнаўся па Унівэрсытэцкай, а пасьля на Сярпухоўскай вуліцы нейкі чалавек у цывільным адзеньні з рэвольвэрам у руках ды зьбіраўся страляць, і Метлін быў выратаваны сторажам, вядомым пад мянушкай „Федзька-сілач“, Пашковым, які зусім неспадзявана выскачыў з варот управы чыгункі (пасярэдзіне між Магазыннай і Падгорнай вуліцамі) і кулаком выбіў у невядомага рэвольвэр з рук.

Як выявілася пазьней, Курлоў даў быў сакрэтны загад паліцэйскім агентам забіць членаў быўшай у яго дэлегацыі, і толькі дзякуючы шчасьліваму выпадку, выратаваліся ўсе, апрача прысяжнага паверанага Ентыса.

У той самы дзень увечары на кватэры Ентыса члены дэлегацыі, якая хадзіла раніцай да Курлова, сябры ды знаёмыя забітага былі на панафідзе. Настрой быў цяжкі, прыгнечаны... Чакалі арыштаў і новых рэпрэсій.

У тую самую ноч (з 18 кастрычніка на 19) каля 2-ой гадзіны ўсе асобы, якія прымалі актыўны ўдзел на мітынгу 17 кастрычніка, і члены дэлегацыі, што хадзіла да губарнатара, былі пакліканы да судовых сьледчых розных вучасткаў гораду дзеля апытаньня аб расстрэле народу войскам, які здарыўся на Вокзальным пляцы. Выявілася, што новы, нядаўна назначаны ў Менск, малады, лібэральна настроены пракурор Бібікаў, абураны самачыннай крывавай расправай Курлова з мірнымі грамадзянамі на Вокзальным пляцы, узьняў на ногі сьледчы апарат, дзеля таго каб распачаць справу супроць Курлова, які асабіста быў адказны за расстрэл.

Праз месяц сабраны пракурорам матэрыял быў пасланы ў Міністэрства Юстыцыі. З Пецярбургу тэрмінова для дазнаньня быў камандыраваны ў Менск сэнатар. Але... як і трэба было спадзявацца, апошні прызнаў, што ўсе акалічнасьці справы, якія папераджалі падзеі 18 кастрычніка, былі такія, што губарнатар Курлоў „имел право принять решительные меры“.

Пасьля такога заключэньня сэнатара, пракурора Бібікава, бязумоўна, „зьелі“, інакш кажучы,—ён быў звольнены з пасады.

Гэтае звальненьне было ў канцы лістапада, але яшчэ за колькі дзён да свайго звальненьня Бібікаў патрапіў аддаць пад суд гарадавога, які забіў на Міхайлаўскай вуліцы 18 кастрычніка прысяжнага павера-

нага Ентыса. Гарадавы быў засуджаны на $1^1/_2$ гады арыштанцкіх рот, але... праз тыдзень ён быў паміляваны „высочайшим указом" і... пераведзены ў Пецярбург у царскую варту.

20 кастрычніка, гэта значыць праз 2 дні пасьля расстрэлу на Вокзальным пляцы, на Золатагорскіх каталіцкіх могілках хавалі забітага Ентыса. На пахаваньні было больш за тысячу чалавек. Але вулічнай дэмонстрацыі, што мелася быць, ня было: Курлоў папярэдзіў, што ўсякія спробы наладзіць яе, кончацца дрэнна—давядзецца мець справу з казакамі.

Каля магілы казалі прамовы і раздавалі праклямацыі, ахвярованыя падзеям 18 кастрычніка, *выдадзеныя Менскай Групай РС-ДРП.* У праклямацыі мелі намер вымагаць безадкладнага звальненьня губарнатара Курлова, паліцмайстра Норава, жандарскага палкоўніка Вільдэмана-Клопмана ды жандарскага падпалкоўніка Марчэнку, выдаленьня з гораду казакоў, роспуску паліцыі і перадачы аховы парадку і грамадзянскае бясьпекі ў рукі гораду, забесьпячэньня на сродкі дзяржавы сем'яў забітых і параненых, поўнай свабоды сходаў, неўмяшаньня адміністрацыі і ўзброенага войска (гл. дадатак 1).

Аднак, спакойны і ўрачысты парадак у часе пахаваньня забітага таварыша быў неспадзявана парушаны. Ад націску натоўпу трэснуў плот. Нэрвовым, напалоханым нядаўнымі падзеямі людзям здалося, што гэта стрэлы. Усе кінуліся ўцякаць, і на магіле засталася толькі невялічкая група блізкіх да Ентыса сяброў.

Што датычыць іншых ахвяр расстрэлу на Вокзальным пляцы 18 кастрычніка, дык целы іх сама паліцыя вывезла за горад і закапала нямаведама дзе. Пахаваны беспасрэдна сваімі блізкімі былі толькі тыя, хто памёр пазьней ад параненьняў. Але гэтыя хаўтуры адбыліся толькі ўжо звычайным парадкам—ніякіх прамоў на магілах ніхто не казаў.

**Н. Цімофеева** (Маруся Маленькая).

# Аб рэволюцыйным руху сярод вучнёўскай моладзі ў пачатку 1905 году ў г. Менску.

У пачатку 1905 году рэволюцыйная пропаганда сярод вучняў сярэдняй школы ў Менску вялася вучнёўскай організацыяй пры Менскай групе „Искры". Гэтая організацыя складалася з 7-мі чалавек, быўшых членамі соцыял-дэмократычнай партыі, па фракцыі бальшавікоў, і чалавек 15—20 спачуваючых.

У кіруючай партыйнай частцы былі· 1) Ленскі Мікола (мянюшка „Валяр'ян"), 2) Судзілоўскі Аляксандар, 3) Кохамскі Васіль, 4) Ліпштэйн Зофія, 5) Шабад Надзея (забітая на вокзальным пляцы 18 кастрычніка 1905 году), 6) Любімаў Уладзімер, 7) Цімафеева Надзея (мянюшка „Маруся маленькая"). Прадстаўніком ад Комітэгу, альбо, як ён называўся, Менскай групы партыі, быў Чапінскі (мянюшка „Ардцём").

Праца наша праводзілася, галоўным чынам, сярод вучняў менскіх школ. Ёй перашкаджала з'організованая ў той час група „Лига спасителей отечества", на чале якой стаялі: Міхайла Данько і Тасьман. „Лига" паставіла сабе за мэту высьледжваць нас і перашкаджаць нашай працы, што ім удавалася значна лепей, як поліцэйскім агентам. Пасьля 1905 году гэтая „лига" перайменавалася ў „лигу свободной любви".

Ня гледзячы на ўсялякія перашкоды, праца наша ўзмацнялася і ўплыў павялічваўся. У нас налічвалася значная колькасьць гурткоў ува ўсіх школах, з усімі школамі была наладжана цесная сувязь, адусюль з вучнёўскай організацыі былі прадстаўнікі.

Лекцыі ў гурткох тады пачыналіся звычайна „ад Адама". Адны пропагандыстыя пачыналі з гісторыі культуры, другія з політэкономіі, трэція з гісторыі літаратуры, але ўсе, паступова падрыхтаваўшы слухачоў, пераходзілі да крытыкі існуючага ладу і да гісторыі рэволюцыйнага руху. Трэба сказаць, што і на заводах часта прыходзілася трымацца тэй самай тактыкі, і толькі на тых заводах, дзе насьпявала забастоўка або дзе яе ўжо ўдалося правесьці, магчыма было адразу „браць быка за рогі".

Ад Менскай групы мы атрымалі нелегальную літаратуру, якая йшла з-за меж. За прачытаньне кожнае кніжкі браўся пэўны ўзнос, які йшоў на папаўненьне парткасы. Членскі ўзнос быў 25 кап. Наяжджалі таварышы з цэнтру і іншых гарадоў, чыталі рэфэраты на політычныя тэмы. На гэтыя лекцыі запрашаліся, апрача членаў партыі, больш сьвядомыя і верныя спачуваючыя.

Усе дырэктывы вучнёўская організацыя атрымлівала ад комітэту „Искры".

Былі паміж намі і меншавікі, але дырыжорскі кіёк быў, наколькі я памятую, ува ўсе гады маёй працы ў Менску ў руках бальшавікоў.

Першае масавае выступленьне вучняў адбылося ў лютым. Штуршок быў даны весткаю аб біцьці вучняў у Курску (12 лютага).

16 лютага ў саборным доме, у кватэры сьвяшчэньніка Чудзіновіча ў яго адсутнасьць, пад акомпанімэнт плачу матушкі і абамленьняў паповен, мы наладзілі банкет з цэльным шэрагам дакладаў на палітычныя тэмы. Даклады гэтыя былі разьмеркаваны выключна паміж партыйнымі членамі організацыі. Аднак, пасьля 2-х альбо 3-х дакладаў на кватэру зьявілася начальства мужчынскай гімназіі з членамі „лиги" Але нам усё-ж такі ўдалося ўцячы.

18-га лютага 1905 году а 10-ай гадз. раніцы адбылася масавая дэмонстрацыя рабочых і вучняў. Было гэта так. А 10-ай гадзіне раніцай кінула працу мужчынскае Комэрцыйнае вучылішча і пашло з песьнямі да Марыінскай жаночнай гімназіі на Падгорнай вуліцы. Мы зьнялі з працы сваіх, ня гледзячы на век, і далучыліся да комэрсантаў, накіроўваючыся да мужчынскай гімназіі, дзе ўжо чакалі знаку, і г. д. па ўсіх школах. Паступова да нас пачалі далучацца групы рабочых з'організаваных „Искрай" і „Бундам". Дэмонстрацыя павялічвалася. Прымала ўдзел у дэмонстрацыі да 5.000 чалавек. Гэта была першая дэмонстрацыя ў Менску з гэткай вялікай колькасьцю ўдзельнікаў.

Па загаду поліцмейстара Норава, па тротуарах галоўных вуліц былі пастаўлены казакі з нагайкамі, але Мусін-Пушкін, які ў той час быў губарнатарам і адначасна, па звычаі таго часу, апякуном большасьці школ, ня даў сваёй згоды на расправу, выехаў сам насустрач дэмонстрантам, умяшаўся ў іх рады і, ня гледзячы на нашыя протэсты, ішоў далей з намі, угаварваючы разыйсьціся па дамох. Ня ведаю, чым кіраваўся губарнатар, але дзякуючы яго прысутнасьці, ня былі пушчаны ў ход нагайкі; без яго, я думаю, Нораў здолеў-бы выклікаць які-небудзь беспарадак і ўчыніць тую самую расправу, якая адбылася ў Курску. Дзякуючы гэтаму, рабочыя, прымаўшыя ўдзел у дэмонстрацыі, абкружаныя дзяцьмі й вучнямі былі таксама абаронены ад зьдзекаў. Магчыма, што ўчынак Мусіна-Пушкіна дыктаваўся грамадзкімі поглядамі тых кол, да якіх ён належаў сам і ўдзелам у вучнёўскім руху дзяцей арыстократыі: кватэра, дзе ўмаўляліся дэмонстранты, належала, напрыклад, маршалку дваранства Матвееву, дзеці менскай арыстократыі ўсе актыўна альбо пасыўна ўдзельнічалі ў дэмонстрацыі, большасьць з іх, хоць ня былі прыняты ў склад вучнёўскай організацыі, выконвалі розныя даручэньні і ў шмат каго з іх на кватэрах зьбіраліся гурткі і чыталіся рэфэраты.

У мужчынскую гімназію ўвашлі вучні, партыйныя працаўнікі з Комітэту і частка з'організованых рабочых. Наколькі я памятаю, выступалі толькі члены РС-ДРП, гаварылі аб зьнішчэньні самаўладзтва, аб супярэчнасьцях клясавых інтарэсаў, аб 8-гадзінным працоўным дні і г. д.

На вуліцы, ля дзьвярэй гімназіі адбывалася наступная сцэна: застаўшыяся дэмонстранты з песьнямі разышліся, а поліцыя паставіла ля дзьвярэй столік і крэсла, запаслася алоўкамі і паперай і пастанавіла перапісаць удзельнікаў мітынгу, з захаванай надзеяю вылавіць „посторонних". Аднак, пры выхадзе з мітынгу мы перахітрылі поліцыю. Мы выстраіліся гэтак: наперадзе сын Мусіна Пушкіна, за ім дзеці больш значных асоб гораду ззаду кіраўнікі вучнёўскай організацыі, а ў сярэдзіне гэтага кола—партыйцы (якраз тыя, каго пад імем „посторонних" і зьбіралася злавіць поліцыя). З моцным націскам выперлі дзьверы: поліцыя, убачыўшы сына губарнатара, зьбянтэжылася; некалькі сэкунд было досыць, каб мы выскачылі на вуліцу, а пад нашым прыкрыцьцем і старшыя таварышы. Дэмонстрацыя скончылася добра.

Школы не працавалі два тыдні. 14 чалавек вучняў з розных школ былі намечаны к звальненьню. Наколькі я памятую ўзяўся нас ратаваць дырэктар мужчынскага Комэрцыйнага вучылішча Круглы. Клопаты яго былі пасьпешнымі і нам дазволілі трымаць выпускныя экзамэны. Настаўнікі зьдзекваліся над намі, ацэнка нашых вед была значна ніжэйшай за сапраўдную, але атэстаты, хоць і праз паліцыю, праз год мы атрымалі.

Мусін-Пушкін быў накіраваны на спакой у свой маёнтак. Круглы быў звольнены. У Менск на пасаду губарнатара быў назначаны Курлоў.

**Е. Марахавец.**

# Сялянскі рух 1905—1907 г. г. і соцыял-дэмократыя ў Беларусі і Літве[1]).

У Менскай губэрні, паводле слоў крэспондэнта Вол. Эк. Таварыства, агітацыя с.-д. мела вялікі ўплыў[1]). У Менскім павеце, у раёне м-ка Столбцы, з вясны 1905 г. ў шмат мясцовасьцях пашыралася с.-д. літаратура (м. Задвор'е, в. Заямы, в. Стэчкі і інш.); праклямацыі з цікавасьцю чыталіся сялянамі, хаця-ж і не падабалася ім, што пішуць «супроць цара». Пад кіраўніцтвам с.-д. улетку 1905 г. было праведзена некалькі забастовак сельска-гаспадарчых рабочых і рабочых-плытагоншчыкаў (у Столбцах, у Заяме, у Старым Сьвержні, у Мікалаеўшчыне[2]). Халомецкая організацыя (Рэчыцкага павету) у той-жа час праводзіць забастоўку наймітаў у маёнтку Сідкава (50 чалавек). Сяляне аколічных вёсак аднесьліся да забастоўшчыкаў прыхільна і адмовіліся працаваць у экономіі, ня гледзячы на пагрозы пристава. У выніку плата за працу была значна павышана, рабочы дзень скарочан[3]).

Таварышы з Мазырскай групы Палескага Комітэту ў чэрвені м-цы організавалі забастоўку сельска-гаспадарчых рабочых у вёсцы Дудзічы каля Мазыра; на сходзе былі апрацаваны запатрабаваньні для прад'яўленьня абшарніку; тут-жа прамоўца з Мазырскай групы вёў гутарку і на палітычныя тэмы, заклікаючы не плаціць падатку і не даваць рэкрутаў і запасных. Сяляне ўважліва слухалі і выражалі ўхвалу[4]).

Копыльская група Паўночна-Заходняга Комітэту (Слуцкага пав.) у 1905 годзе пашырала сярод сялян лісткі ў часы кірмашу ў мястэчку, наладжвала палітычныя дэмонстрацыі з удзелам сялян; адна дэмонстрацыя была наладжана ў студзені, пры провадах эмігрантаў у Амэрыку, другая—14 (1) сакавіка, з удзелам каля 300 чалавек. 20 (7)чэрвеня быў наладжан мітынг у лесе, на якім прысутнічала каля 200 чалавек «крестьян и евреев»; варочаліся яны ў мястэчка са сьпевам рэволюцыйных песень[5]).

У чэрвені м-цы 1905 году група выдала лістоўку на гэктографе «Да сялян», у якой заклікала іх «далучыцца» да РС-ДРП і выставіць гаспадаром-абшарнікам свае запатрабаваньні[6]). У другой лістоўцы «Да расійскага сялянства», выданай гэтак сама ў чэрвені, Копыльская група заклікае сялян да барацьбы супольна з рабочай клясай, за дэмократычную рэспубліку. У вадносінах да абшарнікаў лістоўка імкнецца ўтрымаць сялян ад тэрорыстычных выступаў: «Ня трэба рабаваць і руйнаваць». Нельга рабіць гвалтаўніцтва над абшарнікамі і іх маёнткамі—трэба паказаць, што селянін ня дзікун які-небудзь, а такі-ж

---

[1]) Адрывак з артыкулу, надрукованы ў часопісі «Пролетарская революция», № 6 у 1925 г.

[2]) Аграрн. движ. в России 1905-1906 г. г., т. I ст. 373.

[3]) «Искра», № 109, ст. 5.

[4]) «Искра», № 107, ст. 6.

[5]) «Пролетарий», 1905 г., № 14, ст. 5.

[6]) «Социал-Демократ», 1905 г., № 9, ст. 12.

[7]) «Архіў Гістпарту», № 8873.

самы чалавек, як і ўсе. Трэба імкнуцца каб зямля перашла да селяніна на аснове закону; да тых-жа часоў ніхто ня мае права стаць на работу, пакуль усе запатрабаваньні ня будуць здаволены[1]).

У той-жа час групай былі апрацаваны і запатрабаваньні для сельска-гаспадарчых рабочых, датычныя вялічыні платы за працу і тэрмінаў выдачы яе, увядзеньня 12 гадзіннага рабочага дня, адмаўленьня ад ужываньня закону 12-га чэрвеня 1886 г. пры наняцьці с.-г. рабочых, адказнасьці абшарнікаў за няшчасныя здарэньні ў часе працы, далікатнага абхаджэньня з рабочымі і інш.[2])

У 1906 годзе ў Менску пры комітэце існавала Акруговая сялянская організацыя, якая мела вялікія сувязі ў вёсцы. Амаль што ва ўсіх гарадох і мястэчках былі невялічкія групы ці асобныя таварышы, якія працавалі сярод сялян: яны пашыралі літаратуру, ладзілі мітынгі, організоўвалі сялянскія комітэты.

У некаторых мясцовасьцях былі організаваны валасныя комітэты з сялян, якія зьбіралі грошы, выпісвалі літаратуру, запрашалі агітатараў. На працягу цэлага лета было наладжана ня менш 50—60 мітынгаў, пашырана па некалькі тысяч «Выбаргскай адозвы», «Маніфэсту да ўсяго сялянства», адозвы «Да арміі і флёты» і розных легальных брошур, організован шэраг сялянскіх комітэтаў. Сялянскія гушчы прымалі с.-д. агітацыю, паводле слоў менскага корэспондэнта «Пролетария», надта ахвотна: монархічныя забабоны ўжо выжыты, ідэя поўнаўладнага ўстаноўчага сходу і дэмократычнай рэспублікі карыстаецца вялікай популярнасьцю, на мітынгі, пры ўмовах папярэдняй падрыхтоўкі, зьбіраецца да 1.000—2.000 чалавек. Аднак сувязь між асобнымі групамі, а гэтак сама між імі і комітэтам—надта слабая, з прычыны чаго Менскі Акруговы Комітэт парашыў устрымацца ад правядзеньня рэкруцкай кампаніі[3]).

Аб працы РС-ДРП у Магілеўскай губ. ў 1905 г. вядома вельмі мала. Капыськая група Палескага комітэту (Горацкага павету) улетку 1905 г. пашырала сярод сялян проклямацыі, ладзіла ў аколічных вёсках масаўкі, на якіх прысутнічала да 200 чалавек. Было організавана супраціўленьне продажу маемасьці мясцовых сялян за нядоімкі; продаж не адбыўся; гэты выпадак падняў аўторытэт групы на вачох сялянства[4]).

У м-ку Лядах Горацкага павету 28 (15) жніўня 1905 г. была наладжана масаўка, на якой прысутнічала да 150 сялян. Выступаў прамоўца ад Смаленскага комітэту, які вёў гутарку пра productionовішча сялян, пра думу, пра соцыялізм. Была прынята рэзолюцыя з патрабаваньнем звароту адрэзаў; пастаноўлена выгнаць папа і старшыню, абраць сялянскі комітэт, не плаціць подаці і не даваць рэкрутаў[5]).

У канцы 1905 ці ў пачатку 1906 году ў сяле Жгуні Гомельскага павету ўзьнік невялікі с.-д. гурток, які складаўся з рабочых Дабрускай фабрыкі, чыгуначнікаў і будаўнічых рабочых, меўшых цесную сувязь з зямлёй. Гурток трымаў сувязь з Палескім комітэтам; сябры яго чыталі агітацыйную літаратуру на вячорках і сходах мясцовых сялян і рабочых, пашыралі лістоўкі ў суседніх вёсках, выступалі на сельскіх сходах. У першую думу ад сялян с. Жгуні быў пасланы наказ за подпі-

---

[1]) «Архіў Гістпарту», № 8875.
[2]) « « № 8876.
[3]) «Пролетарий», 1906, ст. 8; «Социал-Демократ, 1906 г., ст. 6.
[4]) «Пролетарий», 1905 г., № 16, ст. 5; «Искра», № 110, ст. 6.
[5]) «Социал-Демократ», 1905 г., № 14, ст. 6.

сам і пячаткай старасты, складзены ў меншавіцкім духу. У час выбарнай кампаніі ў другую думу с. Жгунь высунула кандыдатуру Аўчарава, беспартыйнага, спачуваючага с.-д.; аднак, ён быў «раз'яснен», як жыхар Пецярбургу, патраціўшы сувязь з зямлёй; гэта падарвала прэстыж гуртка сярод сялян. З разьвіцьцём рэакцыі шмат сяброў гуртка адышло ад працы, некаторыя павыяжджалі; у часы выбараў на Лёндонскі зьезд найбольш актыўныя сябры гуртка (у якім у той час налічвалася 36 чалавек) былі арыштаваны[1]).

Пры Магілеўскім Акруговым Комітэце ў 1906 годзе была асобная колегія па працы ў вёсцы. Сяляне адносіліся спачуваюча да с.-д.; організацыя беспртыйных сялянскіх комітэтаў праходзіла з посьпехам; ладзіліся сялянскія конфэрэнцыі. Пасьля роспуску першай думы пашыраліся «Выбаргская адозва» і лістоўка «Да сялян», выданая Магілеўскім Акруговым Комітэтам, праводзілася агітацыя сярод навабранцаў за адмаўленьне ад яўкі на прызыў[2]). У восень 1906 году ў адным з сёл Аршанскага павету адбылася сялянская конфэрэнцыя, якая была склікана мясцовай групай РС-ДРП; сабраліся дэлегаты з чатырох валасьцей, абраныя на сельскіх сходах. З дакладаў з месц выявілася, што па вёсках маюцца с.-д. і с.-р. гурткі; уся ўвага сялян за апошні час аддаецца выбарам у думу. На конфэрэнцыі апрацаваны плян дзеяньня на валасных, павятовых і губэрскіх выбарных сходах; прынята рэзолюцыя, у якой выказваецца надзея, што дума «дапаможа народу з'організавацца для далейшых дзеяньняў»[3]). Сувязь з вёскай захавалася ў Магілеўскай організацыі і ў 1907 г.: у пэрлюстраваным ахранкай лісьце з Магілеву ў Пецярбург ад 1 чэрвеня (19 мая) 1907 г. за подпісам Голіонка паказваецца 22 вясковых адрасы для дасылкі лістоў с.-д. фракцыі думы да жыхарства[4]).

Пры Віцебскай групе Паўночна-Заходняга Комітэту яшчэ ў 1904 г. была сялянская с.-д. організацыя, якая налічвала ў восень 1904 г. 75 організаваных сялян; чытаючых літаратуру было звыш 200[5]). Спачатку 1905 г. па вёсках Віцебскай губэрні раскідаліся проклямацыі Паўночна-Заходняга Комітэту[6]). У сакавіку Полацкая організацыя выдала гэктографаваную лістоўку «Да сялян», якая заклікала да барацьбы з царскім урадам за спыненьне вайны, скасаваньне выкупных выплат, зварот адрэзкаў, аслабаненьне беднаты ад падаткаў, увядзеньне свабод і скліканьне ўстаноўчага сходу[7]).

Як сьведчыць корспондэнт «Искры», у адным з мястэчак Віцебскай губэрні (мястэчка не названа) была з'організавана амаль што ўся яўрэйская і сялянская моладзь (90 чалавек); працавалі 3 пропагандыцкіх гурткі, была ўтворана баявая дружына. Смаленскі комітэт даваў літаратуру і час-ад-часу дасылаў прамоўцаў. На масаўкі кожны раз прыходзілі сяляне з аколічных вёсак за 5-8 вёрст ад мястэчка; слухачоў зьбіралася за 150 чалавек. Сяляне з ахвотай чыталі с.-д. лістоўкі, разносілі па вёсках проклямацыі і брошуры і чыталі іх усёй вёсцы. Організаваных сялян па вёсках было каля 60. 22 (9) ліпня ў

[1]) М. Прокопцов. Из воспоминаний старого большевика, ст. 11-21. Кандыдатура Аўчарава высоўвалася, як мы бачылі, і на выбарах у трэцюю думу (глядзі ст. 77), мабыць, у тым-жа сяле Жгуні.

[2]) «Социал-Демократ», 1906 г., № 5, ст. 8.

[3]) «Смоленский Вестник», ад 24/XII-1906 г. (Выразка ў Архіве Асобнага аддзелу Дэпарт. Паліцыі, 1907 г., 5 ч., 33, л. 24).

[4]) Арх. Асобн. Аддз. Дэп. Паліц., 1907 г., 5 ч., 33, л. 24.

[5]) «Искра», № 78, ст. 8.

[6]) Арх. Асоб. Аддз. Дэп. Паліц., 1905 г., 5 ч., 37.

[7]) Арх. Асобн. Аддз. Дэп. Паліц., 1905 г., 5 ч., 23, л. 19-а; 37, л. 119.

мястэчку была наладжана дэмонстрацыя ў памяць 22 (9) студзеня з рэволюцыйнымі сьпевамі; за ядром сьвядомых рабочых і сялян ішоў вялікі натоўп кабет, старых і дзяцей. Вураднік арыштаваў аднаго з дэмонстрантаў, але натоўп разбурыў яго кватэру і аслабаніў арыштаванага. 10-га верасьня (28 жніўня) прыехалі два прамоўцы са Смаленскага комітэту, вялі гутарку пра дзяржаўную думу і па просьбе сялян пра с.-р. і лібэралаў, прапаноўвалі бойкатаваць думу і абіраць, заместа царскіх урадаў, сялянскія рэволюцыйныя комітэты[1]).

12-га сьнежня (29-га лістапада) на валасным сходзе ў мястэчку Скурдаліне Дзьвінскага павету, які адбыўся пры ўдзеле прыехаўшых з Дзьвінску прамоўцаў с.-д., была прынята рэзолюцыя, у якой сяляне выказвалі рашучасьць: 1) далучыцца да барацьбы гарадзкіх рабочых, 2) рыхтавацца да ўзброенага паўстаньня, 3) пачаць паўстаньне з адмаўленьня ад выплаты подацяй і пастаўкі рэкрут і захапленьня ўсяе зямлі[2]). Наогул-жа ў Дзьвінскім павеце, як сьведчыць корэспондэнт «Пролетария», у 1905 г. праца сярод сялян абмяжоўвалася распаўсюджваньнем літаратуры; актыўная праца пачалася ўсяго толькі пасьля разгону думы: па вёсках ладзіліся мітынгі-гутаркі, там-сям узьнікалі сялянскія групы, па 12-20 чалавек, якія імкнуліся разабрацца ў програмных пытаньнях; запатрабаваньне на літаратуру ў гэты час было надта вялікае[3]).

Надта мізэрныя весткі маюцца пра працу с.-д. у Смаленскай губэрні. У 1905 годзе Смаленскі комітэт выдаў «Ліст селяніна соцыялдэмократа да сялян», які заклікае сялян аб'ядноўвацца, узбройвацца для барацьбы за ўстаноўчы сход, адмаўляцца ад выплаты подацяй, не даваць рэкрутаў і запасных, бойкатаваць начальства і абіраць сялянскія комітэты[4]). У Смаленскім павеце, паводле вестак корэспондэнтаў Вольна-Экономічнага Таварыства, с.-д. вялі актыўную працу сярод сялян; пасьля кастрычнікавага маніфэсту зьбіраліся мітынгі, прымаліся рэзолюцыі, ладзіліся дэмонстрацыі з чырвонымі сьцягамі. «Сяляне,—піша адзін з корэспондэнтаў, студэнт-зямляўласьнік,—ня надта разумелі прамовы і на адным мітынгу маглі прызнаць соцыялізацыю зямлі, а на другі дзень абяцаць змагацца пад штандарам адзінай соцыял-дэмократычнай партыі»[5]). Пасьля роспуску думы, Смаленскі Комітэт пастанавіў агітаваць за складаньне прыгавораў аб няяўцы і ўкрываньні новабранцаў. У Дарагабускім павеце адбыўся зьезд валасных старшынь, які пастанавіў (магчыма, не бяз уплыву с.-д.) не даваць рэкрутаў. У другім павеце (павет не названы) такая-ж пастанова была прынята сялянскім зьездам[6]).

Пры Віленскім комітэце РС-ДРП у другой палове 1905 г. склалася акруговая оганізацыя, у задачы якой уваходзіла кіраўніцтва партыйнай працай у шэрагу павятовых гарадоў і мястэчак, а гэтак сама праца сярод сялян. З мясцовых організацый Віленскага комітэту значную працу сярод сялян праводзілі Смаргонскія (Ашмянскага павету) і Падбародзкая (Віленскага павету) групы. Час-ад-часу акруговы комітэт склікаў конфэрэнцыі, на якіх абгаварваліся як агульна-палітычныя пытаньні, так і пытаньні мясцовага значэньня[7]). У канцы студзеня 1906 году ў Вільні адбылася конфэрэнцыя, на якой удзел прымалі

---

1) «Искра», № 112, ст. 6.
2) «Сев. Голос», 1905 г., № 1, ст. 4.
3) «Пролетарий», 1906 г., № 10, ст. 7.
4) Арх. Гістпарту № 7953.
5) «Агр. движ. в России 1905-1906 г. г», т. I, ст. 363—382.
6) «Пролетарий», 1906, № 4, ст. 6; «Социал-Демократ», 1906 г., № 3, ст. 6.
7) И. Юренев. Работа РС-ДРП в Северо-Западном Крае. «Прол. Рев.», 1924 г., № 8-9, ст. 186-187.

Смаргонская, Сьвянцянская, Гародзенская, Ашмянская і Лідзкая групы. Конфэрэнцыя ўхваліла ніжэйшую рэзолюцыю аб працы ў вёсцы:

«Конфэрэнцыя прызнае, што ў сучасны політычны момант перад с.-д. у вёсцы стаяць ніжэйшыя задачы: а) організацыя пад штандарам РС-ДРП усіх пролетарскіх і напоўпролетарскіх адзінак з мэтай: 1) абароны іх клясавых інтарэсаў і 2) найвялікшага рэволюцыяваньня дэмократычных адзінак вёскі; б) узмацненьне рэволюцыйнага дэмократычнага руху ў вёсцы; в) наданьне стыхійнаму руху ў вёсцы сьвядомасьці і організаванасьці, адхіліўшы ад яго рэакцыйныя прымешкі і бунтарскія адзінкі. Дзеля ажыцьцяўленьня гэтых задач конфэрэнцыя лічыць неабходным: 1) імкнуцца організаваць вясковых пролетараў і напоўпролетараў у самастойныя соцыял-дэмократычныя групы; 2) організаваць рэволюцыйныя сялянскія комітэты, якія павінны зьяўляцца баявымі організацыямі рэволюцыйнага сялянства—а) для пашырэньня і кіраўніцтва рэволюцыйным рухам у вёсцы аж да ўзброенага паўстаньня сялянства і б) для правядзеньня конфіскацыі манастырскіх, габінэцкіх, удзельных, прыватна-ўласьніцкіх і іншых зямель; 3) шырока пропагандаваць ідэю рэволюцыйнага самакіраўніцтва, падкрэсьліваючы, аднак, што практычнае правядзеньне гэтай ідэі ў жыцьцё павінна быць строга організавана і памагчымасьці прыстасавана да агульнага рэволюцыйнага ўздыму; 4) выдзеліць з існуючых організацый найбольш актыўныя сілы, склаўшы з іх мясцовыя і цэнтральныя сялянскія групы з мэтай плянавага правядзеньня ўсіх партыйных лёзунгаў і ажыцьцяўленьня пастаўленых намі задач у вёсцы; 5) конфэрэнцыя прызнае, што найлепшым спосабам колектыўнага правядзеньня захопу зямель і пераходу да новых формаў зямляўладаньня зьяўляецца заворваньне грамадой захопленай зямлі, якую конфэрэнцыя ўпарта рэкомэндуе, як сыстэму, якая не замацоўвае захопленыя землі за асобнымі грамадзянамі; 6) у мэтах найвялікшага посьпеху працы ў вёсках, конфэрэнцыя лічыць неабходным выданьне нелегальнага популярнага сялянскага органу. Рэдакцыя павінна стаяць на пункце погляду рэзолюцыі конфэрэнцыі, але разам з тым пажадана наладзіць дыскусыйны аддзел популярнага характару[1]).

У чэрвені 1906 году адбыўся правал акруговай конфэрэнцыі; большасьць актыўных працаўнікоў акруговага комітэту была арыштавана і ў канцы 1906 году акруговая організацыя ледзь-ледзь існавала [2]). Смаргонская організацыя, самая моцная з організацый Віленскага комітэту, працягвала, аднак, актыўную працу і пасьля правалу. У сярэдзіне жніўня адбылася конфэрэнцыя Смаргонскага раёну, на якой прысутнічалі дэлегаты ад 5-ці мястэчак і валасьцей, прадстаўляючы сабой каля 650 сяброў партыі.

Конфэрэнцыя прыняла ніжэйпаданую рэзолюцыю: «У мэтах аслабленьня ўраду і рэволюцыяваньня шырокіх гушч народу, у асаблівасьці сялянства, імкнуцца ўсімі сіламі да правядзеньня ў жыцьцё пастаноў выбаргскае адозвы аб адмаўленьні ад платы подацяй і выдаваньня рэкрутаў. З гэтай мэтай організацыі павінны пашырыць

[1]) «Последние Известия», 1906 г., № 1, ст. 9-10. Перадрукована ў «Пролет. Рев.», 1924 г., № 8-9, ст. 204-205.

[2]) И. Юренев. Цыт. тв., 187.

сярод жыхарства шырокую як вусную, так і пісьмовую агітацыю, пабуджаць сялян да складаньня прыговораў на валасных і сельскіх сходах у вадпаведным кірунку, пры раскладцы подацяй адмаўляць у асыгнаваньні на ўсе патрэбы, за выключэньнем тых, якія служаць інтарэсам народу (школ і інш.)»[1]).

Пра працу с.-д. у Віленскай губэрні ў 1907 годзе ў архіве дэпартаманту паліцыі маецца зводка агентурных вестак па Віленскім, Вілейскім, Сьвянцянскім і Дзісьненскім паветах. Згодна гэтых вестак, у траўні м-цы з Новавілейску ў аколічныя вёскі (Міцкуны, Варняны, Табурышкі, Грыгойцы, Лозьнікі, Стрэльчукі, Рукойны) прыяжджалі агітатары с.-д., якія пашыралі нелегальную літаратуру, пераконвалі сялян устрымлівацца сялян ад куплі зямлі праз банк і ад перасяленьня ў Сібір і запэўнялі, што дзяржаўная дума хутка разьедзецца па тэй прычыне, што народ не настолькі арганізаваны, каб падтрымліваць думу, а ўрад патрабаваньняў думы выконваць не жадае. У Вілейскім павеце ў гэты час былі с.-д. арганізацыі, апрача г. Вілейкі, у м. Курынец, у Маладэчыне, Даўгінаве, Ільлі, Лебедзеве і Дунілавічах, зьвязаныя з Віленскім комітэтам. Дзісьненская група, зьвязаная з Дзьвінскім комітэтам, вяла працу ў Лужках, Глыбокім, Паставах, Германовічах, Шаркаўшчызьне і Друі; у сярэдзіне траўня Дзьвінскі комітэт быццам даў дырэктыву ўстрымлівацца ад сутычак з паліцыяй і ўстрымліваць сялян ад аграрных непарадкаў да «канчатковага вырашэньня» аграрнага пытаньня ў дзяржаўнай думе. У м. Нова-Сьвянцянах у ліпні м-цы існавала сялянская арганізацыя РС-ДРП, якая праводзіла моцную агітацыю і пашырала сялянскую літаратуру [2]).

Апрача пахаджэньня гэтых вестак, самы характар паведамленьняў прымушае адносіцца да іх з вялікай асьцярогай: у сьпісе літаратуры, якая быццам пашыралася ў Віленскім павеце соцыял - дэмократамі, побач з літаратурай соцыял-дэмократычнай, паказана і літаратура эсэраўская. Дзісьненская група яднала быццам ня толькі сяброў РС-ДРП і Бунду, але і нават с.-р.; падобная-ж блытаніна адносна партыйнасьці маецца і ў вестках па Вілейскім павеце і т. п. Праверыць гэтыя весткі, пры адсутнасьці іншых матэрыялаў, немагчыма.

У канцы сакавіка 1906 г. адбыўся зьезд арганізацый Паўночна-Заходняга саюзу РС-ДРП, які констатаваў існаваньне цэлага шэрагу акруговых арганізацый, якія зьяўляюцца асяродкамі працы сярод сялян. У некаторых мясцох існуюць «сялянскія асяродкі, якія абхопліваюць цэлы шэраг вёсак, а часам і цэлыя акругі ў Менскай губ., часткай у Віцебскай і Віленскай» [3]). Допіс у № 9 «Волны» лічыць, аднак, працу сярод сялян паўночна-заходніх губэрань «вельмі нездавальняючай». Прычыны гэтаму, па думцы аўтара допісу, ніжэйшыя: 1) недастача працаўнікоў і сродкаў: сяляне зьвяртаюцца з просьбай даць агітатараў і лістовак,—аднак, здаволіць іх няма чым; 2) непадрыхтаванасьць партыйных працаўнікоў да працы сярод сялян, якая патрабуе асобных мэтодаў і прыёмаў, спэцыфічных навык; 3) разрозьненасьць працы, адсутнасьць згаворанасьці арганізацый між сабою, непагоджанасьць лёзунгаў. Чарговымі задачамі аўтар допісу лічыць: 1) скліканьне спэцыяльнай конфэрэнцыі аграрнікаў усяе краіны і 2) пабудаваньне асобнага краявога сялянскага асяродку, які-б яднаў усю працу [4]).

---

[1]) «Социал-Демократ» 1906, № 1, ст. 8.

[2]) Арх. Асоб. Аддз. Дэп. Паліц. 1907 г. 5 ч., 6, л. л. 45-47 об і 53.

[3]) «Волна», 1906, № 8, ст. 4.

[4]) «Волна», 1906 г. № 9, ст. 4.

Конфэрэнцыя організацый паўночна-заходніх губэрань, якая адбылася пасьля выбараў у другую думу (дакладнай даты ўстанавіць не ўдалося), прыняла ніжэйшую рэзолюцыю, якая пабочна характарызуе становішча вясковай працы ў часе выбараў:

> «Рэкомэндуецца ўсім організацыям адразу павялічыць агітацыю сярод жыхарства (асабліва сярод сялян) з прычыны адбытых выбараў і іх вынікаў у Паўночна-Заходнім краі. Гэта агітацыя мае мэтай растлумачыць сялянам, што выбары далі дэпутатаў, варожых інтарэсам сялянства; што прычынай гэтаму зьяўляецца абыходжаньне сялянскіх выбаршчыкаў. У вадозвах, якія выдаюцца ў кожнай губэрні, павінны быць паказаны ўсе памылкі і праступкі сялянскіх выбаршчыкаў кожнай губэрні, тактыка гарадзкіх выбаршчыкаў і абшарнікаў у адносінах да розных нацыянальных організацый і г. д. Разам з тым, мяркуючыся з мясцовымі асаблівасьцямі, пажадана павялічыць сярод сялян кампанію, каб выказаць недавер'е выбаршчыкам, спачуваючым праходжаньню абшарнікоў, якія былі падкуплены і г. д... Для організацыі пролетарскіх гушч вакол соцыял-дэмократычнай фракцыі ў дзяржаўнай думе і ўплыву на ўсю дзейнасьць думы, конфэрэнцыя організацый Паўночна-Заходняга краю прызнае пажаданым усюды, дзе магчымасьць дазволіць, організоўваць рабочых і сялянскіх упоўнаважаных і выбаршчыкаў, прычым мысьліць, што організацыя рабочых упоўнаважных павінна пайсьці асобна ад організацыі сялянскіх упоўнаважаных... Організацыі павінны прыкласьці ўсе патугі да пабудаваньня кампаніі ўпоўнаважаных і выбаршчыкаў ад сялянства. Лічачыся з фактычнымі цяжкасьцямі выкананьня гэтае працы сярод сялянства, конфэрэнцыя рэкомэндуе організацыю зьездаў па найбольш дробным тэрыторыяльным адзінкам»[1]).

Сярод літоўскага сялянства працу праводзіла, галоўным чынам, Соц.-Дэм. Партыя Літвы. У значнай меры пад яе кіраўніцтвам адбываўся тут сялянскі рух, які вызначыўся ў наладжаньні адкрытых мітынгаў і дэмонстрацый, у протэстах супроць ураду і ксяндзоў, зачыненьні манаполек, зьмена мясцовай улады і забастоўках сельска-гаспадарчых рабочых[2]).

У 1904 і 1905 г.г., як піша В. Міцкевіч, партыя апіралася пераважна на заможнае сялянства, якое наймала рабочых на пастаянную працу; гэта быў тады самы сьвядомы і самы рэволюцыйны элемэнт літоўскай вёскі, які ўжо здаўна адчуваў цяжкасьць бяспраўя, поліцэйскага уціску і нацыянальнага прыгнечаньня. Заможнае сялянства было ў большасьці і сярод тых 2.000 дэлегатаў ад валасьцей, якія прысутнічалі на ўсялітоўскім зьезьдзе ў Вільні 4-5 сьнежня (21-22 лістапада) 1905 году. Кіраўнічая роля на зьезьдзе прыналежала да С-ДПЛ, хаця-ж яна і ня прымала ўдзелу ў скліканьні яго. Зьезд прыняў прапанованую ёю рэзолюцыю, якая заклікала, між іншым, «не плаціць подацяй, зачыняць манапольки, ня пушчаць дзяцей у расійскія пачатковыя школы, у Ковенскай, Віленскай і Гарадзенскай губэрнях ня йсьці ў валасны суд і іншыя царскія ўрадовыя ўстановы, ня пушчаць сваіх братоў у вайсковую службу і ў выпадку патрэбы баставаць усім працоўным гораду і вёскі».

У 1905 г. ў С-ДПЛ зьяўляецца опозыцыя, якая высоўвае на першы плян працу сярод сельскага пролетарыяту; пад кіраўніцтвам опозыцыі

---

[1]) Арх. Асобн. Аддз. Дэп. Пол., 1907, 5 ч., 6, л. л. 14, аб—15 аб.

[2]) «Агр. движение в России 1905-1906 г. г.», т. I, ст. 363-397-399—В. Мицкевич, (Капсукас), 1905 г. в Литве, «Прол. Рев.», 1922, № 11, ст. 63—68.

адбываецца шэраг забастовак панскіх рабочых, выбухае, нават, у трох вёсках забастоўка батракоў, працуючых у шматзямельных сялян; але пакуль забастоўкі сялянскіх батракоў адбываліся ў нязначным ліку, гэта не адхіліла ад партыі заможнага сялянства.

Да канца 1905 г. рух сярод сялян-батракоў і сялян-напоўпролетараў значна пашыраецца, між тым як заможнае сялянства, пад уплывам уціску ўраду і дзейнасьці карных экспэдыцый, а гэтак сама нарастаючага руху сельскага пролетарыяту, паволі адыходзіць ад рэволюцыі і нават пераходзіць у лягер рэакцыі. У зьвязку з гэтым у шэрагах С-ДПЛ узмацняецца ўплыў опозыцыі, які адбіваецца і ў рэзолюцыях партыйнай конфэрэнцыі ў студзені 1906 г. Падагульваючы рэволюцыйны рух 1905 году, які праходзіў у значнай меры пад кіраўніцтвам партыі, конфэрэнцыя азначае яго значныя посьпехі. «Амаль што ўсюды ўдалося выгнаць з валасьцей старую ўладу, пастаўленую царскімі чыноўнікамі: паліцыю, земскіх начальнікаў, валасных пісароў і старшынь, валасных судзьдзяў і настаўнікаў-расійцаў. Сяляне не плацілі подацяй царскаму ўраду, зачынялі манапалькі, не давалі рэкрутаў. У шэрагу мясцовасьцяй сяляне, зьніштожыўшы стары лад, уводзілі новы. Да выбараў прыцягваліся ўсе жыхары воласьці, незалежна ад становішча і пахаджэньня; абраныя ставіліся для выкананьня валасных абавязкаў амаль што ўсюды рэволюцыйным парадкам». Але разам з тым конфэрэнцыя прызнае, што ў працы партыі на вёсцы існуе і дробна-буржуазны нахіл. «Узмацняючы рэволюцыйнае пачуцьцё ў самых шырокіх гушчах, жадаючы прыцягнуць іх да ажыцьцяўленьня зьмены ва ўкладзе мясцовага жыцьця, нашы таварышы часта не зварачалі ўвагі на агітацыйную працу сярод сапраўдных сельскіх пролетараў і не заўсёды стаялі на пункце пагляду клясавай барацьбы, хаця-ж у шэрагу мясцовасьцяй, асабліва за апошні год, ясна выявілася супярэчнасьць інтарэсаў пролетараў і буйных сялян і абшарнікаў. Пры пабудаваньні новага ўкладу самымі актыўнымі і сьмелымі працаўнікамі аказаліся пролетары і сялянская галота, якія працуюць у вабшарнікаў і сялян ці валакуць сваё гарапашнае жыцьцё на маленькіх кавалках зямлі».

Пасьля конфэрэнцыі партыя зьвяртае найбольшую ўвагу на працу сярод пролетарскіх і напоўпролетарскіх пластоў вёскі, робячы перагляд сваёй програмы і тактыкі. Верасьнёўская конфэрэнцыя 1906 г. апрацавала проект аб'яднаньня С-ДПЛ з РС-ДРП, але амаль што поўнае разбураньне партыі ў канцы 1906 г. перашкодзіла ажыцьцяўленьню проекту [1]).

Працу сярод сялян Літвы і Беларусі праводзіў гэтак сама і Бунд [2]). Корэспондэнты Вольна-Экономічнага Таварыства з Аршанскага і Рагачоўскага паветаў Магілеўскай губэрні паведамляюць пра значную ролю ў сялянскім руху «яўрэяў-агітатараў», «агентаў с.-д.», «якія высылаюцца ад Бунду» [3]).

У верасьні 1905 г. ў м. Любавічы Аршанскага павету і сярод аколічных сялян пашыраліся проклямацыі Бунду пра булыгінскую думу [4]). Пашырала проклямацыі ў 1905 годзе сярод сялянства і Прапойская організацыя Бунду (Быхаўскі павет) [5]).

---

[1]) В. Міцкевіч (Капсукас). Цыт. тв., ст. 68-72.
[2]) «Агр. движ. в России 1905-1906 г. г.», т. I, ст. 363.
[3]) » » » » » » т. I, ст. 375-378.
[4]) «Посл. Известия», 1905, № 253, ст. 9.
[5]) «Посл. Известия», 1905, № 243, ст. 4.

Ігуменская (Чэрвенская) організацыя Бунду (Мен. г.) паведамляе, што сяляне з аколічных вёсак часта зьвяртаюцца да яе за літаратурай і просяць прыслаць ім агітатараў для правядзеньня агітацыйных сходаў [1]). У Рэчыцкім павеце Менскай губ., як паведамляе дэлегат лістападаўскага зьезду сялянскага саюзу, «жыды (мабыць, бундаўцы) з'організавалі сялянскія дэмократкія гурткі і папярэдзілі пагром» [2]).

У Люцыне (Віцебскай губ.) у часе кірмашу 19 (6) студзеня 1905 г. сярод сялян было раздана 850 экз. розных проклямацый; сяляне засталіся вельмі здаволенымі, шкадавалі, што мала. 15 (2) лютага Люцынская організацыя раздала сярод сялян ліст Гапона да рабочых [3]).

Невельская організацыя (Віцебскай губ.) у студзені 1905 г. выдала гэктографаваную лістоўку «Браты-сяляне», якая заклікала патрабаваць на сходах спыненьня вайны і рыхтавацца да паўстаньня супроць самадзяржаўя [4]). У сакавіку выдана надрукованая ў друкарні лістоўка «Сяляне», падпісаная «Групай сялян соцыял-дэмократаў», з пячаткай Невельскай організацыі Бунду. Лістоўка закранае між іншым пытаньне аб паклёпах на яўрэяў і заклікае сялян далучыцца да рабочых, каб разам скінуць ярмо царскай улады і выйсьці на змаганьне супроць абшарнікаў і чыноўнікаў за народную волю [5]). Другая (гэктографаваная) лістоўка, пад тым-жа загалоўкам выданая Невельскай організацыяй у красавіку 1905 г., кажа пра нарастаючы сялянскі рух у Расіі і заклікае невельскае сялянства да барацьбы,—«Досіць чакаць і пакутваць» [6]).

З Краслаўкі (Дзьвінскага павету) у сакавіку 1905 г. паведамлялі, што бундаўскія лістоўкі вельмі популярны сярод сялян, сяляне бяруць іх на расхват, прапануюць за іх нават грошы. Пры організацыі была ўтворана асобная комісія для працы сярод сялян. 5-га сакавіка (20-га лютага) у Краслаўскім валасным праўленьні меўся адбыцца вялікі сход сялян, на які павінен быў прыехаць губарнатар.

Прыехаўшыя сяляне зьвярнуліся да організацыі за парадай: як трымацца на сходзе. Організацыяй былі надрукованы на гэктографе лістоўкі з формулёўкай сялянскіх патрабаваньняў, праведзены былі два мітынгі на вуліцы, на якіх прысутнічала каля 300 чалавек; прамоўцы вялі гутарку пра вайну і заклікалі да палітычнага змаганьня. Чакаючы губарнатара, бундаўскі прамоўца зноў выступіў з прамовай; прамова выклікала вялікае спачуваньне з боку сялян [8]). «У кастрычніку,— піша корэспондэнт Вол. Экон. Таварыства з чорнасотніцкімі поглядамі,—на рынку м. Краслаўкі сабраліся яўрэі (Бунд) у колькасьці некалькіх сот і ў прысутнасьці народу разгарнулі чырвоныя і чорныя сьцягі, выступалі з прамовамі супроць монарха, улады, рэлігіі і ўласнасьці. Да гэтага спэктаклю прыслухоўваліся і прысутнічалі без найменшага супярэчаньня асобы мясцовай улады, што і дало повад сялянам развважаць так, што ад гэтага часу можна рабіць усё» [9]).

---

1) «Посл. Изв.» 1905 г., № 252, ст. 8. Параўнай таксама «Агр. движ. в России 1905-1906 г. г.», т. I, ст. 373-374.
2) Мат. к крест. вопрос., ст. 36.
3) «Посл. Извест.», 1905, № 220, ст. 2.
4) Арх. Асобн. Аддз. Дэп. Пол., 1905, ч. 37, л. 95.
5) Арх. Асобн. Аддз., л. 177.
6) Арх. Асобн. Аддз., л. 123.
7) «Посл. Известия», 1905, № 223, ст. 3.
8) «Агр. Движ. в России 1905-1906 г.г.», т. I, ст. 368.

Пружанская арганізацыя Бунду (Горадзенскай губ.) гэтак сама мела сувязь з аколічнымі вёскамі, але праца мела заваду ў тым, што не хапала належнай літаратуры [1]).

Як бачым, усе соцыял-дэмократычныя партыі Паўночна-Заходняга краю—РС-ДРП, С-ДПЛ і, у меншай меры, вядомы Бунд—вялі вялікую працу ў вёсцы. Праца вялася як сярод многалічнага тут сельскага пролетарыяту, так і сярод сялянства наогул. Соцыял-дэмократыя кіравала забастовачным рухам сельскіх рабочых, утварала сярод іх партыйныя ячэйкі, організоўвала палітычныя выступленьні сялянства, будавала беспартыйныя сялянскія організацыі. Посьпеху соцыял-дэмократычнай працы ў гэтай краіне, паміма значнага разьвіцьця тут капіталістычных адносін, дапамагаў вялікі лік мясцовасьцяй гарадзкога тыпу, якія маюць цесную сувязь з наўкольнымі вёскамі. Рэдка ў якім-небудзь горадзе ці мястэчку ня было хоць-бы маленькай соцыял-дэмократычнай групы, якая была рэволюцыйным фэрмэнтам дзеля аколічнага сялянскага жыхарства. У Літве, апрача гэтага, рэволюцыяваньню сялянства дапамагаў цяжкі нацыянальны уціск, пад уплывам якога сялянскі рух хутка здабыў палітычную ахварбоўку, і соцыял-дэмократычная агітацыя знаходзіла сабе, такім чынам, ужо падрыхтованы грунт.

---

[1]) «Посл. Изв.», 1905, № 245. ст. 3; «Агр. движ. в России 1905-1906 г. г.», т. I, ст. 394.

**Г. Л. Шклоўскі.**

# Бабруйск напярэдадні 1905 году.

*(З асабістых успамінаў).*

У чэрвені 1903 году, як я вярнуўся з Швайцарыі ў Расію, дык быў арыштаваны на пагранічнай станцыі Аляксандрова; пасьля трохмесячнага арышту я быў высланы на 3 гады да месца прыпіскі ў горад Бабруйск.

У той час ва ўсёй Паўночна-Заходняй краіне, наколькі я памятаю, ня было ніводнае партыйнае організацыі, за выключэньнем бундаўскіх. Праца сярод неяўрэйскіх рабочых калі дзе і вялася, дык вельмі слаба, і вялася яна сіламі бундаўскіх організацый. Паасобныя партыйцы, наколькі мне даводзілася жыць у гэтых мясцох, працавалі ў бундаўскай організацыі.

Як «Бунд» вышаў з партыі, дык пытаньне аб працы партыйцаў у бундаўскіх раёнах набывала востры характар. Каб організаваць партыйную групу, трэба было хаця крыху орыентавацца на мясцовых умовах, намацаць грунт, наладзіць сувязі, але нічога гэтага нельга было зрабіць паміма бундаўскай організацыі.

Гэтыя абставіны і прымусілі мяне пачаць сваю працу ў Бабруйску ў бундаўскай організацыі.

Ужо ў першыя дні майго прыезду ў Бабруйск у мяне былі вельмі гарачыя спрэчкі з паасобнымі таварышамі з бундаўскай галоўкі, прычым адносіны іх да іскраўцаў былі вельмі злосныя, тупыя і сьведчылі аб тым, што атрута нацыяналізму, на грунце дробна-буржуазнай абмежаванасьці, за апошні год зрабіла значныя посьпехі. Выключэньнем сярод іх зьяўляўся мой брат. Ён больш як год працаваў у Бабруйску і быў там адным з самых популярных масавых працаўнікоў, але ў пытаньні аб рознагалосьсях паміж «Бундам» і партыяй ён сталай позыцыі яшчэ не займаў. Сваю інформацыю ён атрымліваў толькі ад бундаўскіх колаў, літаратуру ён атрымліваў толькі бундаўскую. «Искра» трапляла туды рэдка, а №№ «Искры» з артыкуламі супроць «Бунду» туды зусім не траплялі. Толькі ён адзін уважна слухаў мяне, каб сапраўды разабрацца ў вельмі важным для гэтае краіны пытаньні [1]).

Зусім іншыя адносіны да гэтага пытаньня я спаткаў сярод рабочых. Яны былі мала ўспрыімнымі да нацыяналістычных ідэй «Бунду», якія тады ўпарта прышчаплялі да іх. У лісьце да Л. І. Аксэльрод, які я паслаў да яе, прыкладам, месяцы праз паўтары пасьля майго прыезду ў Бабруйск і выняткі з якога яна пад назвай «З прыватнага ліста» надрукавала ў № 53 «Искры» ад 25 лістапада 1905 году, я пісаў: «Большасьць з тых сьвядомых яўрэйскіх рабочых, з якімі мне давялося спатыкацца, энэргічна і рашуча даюць адпор тым тэндэнцыям, што

---

[1]) Леў Шклоўскі неўзабаве павінен быў уцячы з Бабруйску, уцёк заграніцу і там далучыўся да бальшавікоў.

імкнуцца прышчапіць ім прадстаўнікі «Бунду», інтэлігэнты. Самі-ж інтэлігэнты-пропагандыстыя мне скардзіліся, што рабочыя зьяўляюцца зусім няўспрыімнымі да тых артыкулаў Арбэйтэр-Штыме («Рабочы голас»—ц. ор. «Бунду»), дзе праводзяцца нацыяналістычныя погляды». Падзел на рабочых і інтэлігэнтаў, які праводзіцца ў гэтым лісьце, не зьяўляўся агітацыйным прыёмам, бо ліст мой да друку не прызначаўся і, бязумоўна, адпавядаў таму настрою, які я тады спаткаў у Бабруйску.

Я ўмовіўся з лідэрамі Бабруйскай організацыі, што буду працаваць у іх, яны паставілі мне ўмову ня весьці іскроўскай агітацыі. Я з ахвотай згадзіўся на гэту ўмову, бо добра ведаў, што такое становішча доўга не пратрывае, а я тымчасам здолею наладзіць патрэбныя мне сувязі з масавікамі бундаўскай організацыі. Так яно і здарылася.

Ня прыпомню дакладна, але здаецца быў я кооптаваны ў Бабруйскі комітэт «Бунду», у кожным разе, добра памятаю, што на пасяджэньнях яго я заўсёды быў, а ў тыя часы комітэт быў установай архіконсьпірацыйнай і лішніх людзей, нават найбольш актыўных, туды ня пускалі.

Я пастараўся з першых-жа дзён зьвярнуць усю сваю ўвагу на моладзь, злажыў некалькі гурткоў і пачаў весьці сыстэматычную пропаганду, але стараўся да часу не зачапляць нацыянальнага пытаньня і тую частку організацыйнага пытаньня, якая зьяўлялася прычынай рознагалосьсяў паміж «Бундам» ды партыяй. Я наладзіў сувязь і з тым дзесяткам неяўрэйскіх рабочых, якія знаходзіліся пад бундаўскім уплывам і сярод якіх вёў парцу брат мой і С. З. Гарэлік (Артур).

Я працаваў блізка месяца. У хуткім часе мне прышлося быць у Барысаве і там, паводле прапановы мясцовых бундаўцаў, я на сходзе актыву прачытаў даклад аб рознагалосьях паміж «Бундам» і партыяй.

На сходзе было каля 50 чалавек. У выніку дыскусіі сход аднадушна стаў на мой бок.

Сход патрабаваў, каб я ўнёс рэзолюцыю, якая і была прынята. У гэтай рэзолюцыі я абмежаваўся толькі замацаваньнем прынцыповае позыцыі, але ня мог рабіць ніякіх прапаноў практычнага характару, бо пункт погляду ЦК па гэтым пытаньні мне ня быў вядомы [1]).

У варнэй з сваіх пазьнейшых корэспондэнцый з Бабруйску я пісаў:

«За мінулыя 9 м-цаў абставіны зьмяніліся. Агітацыя, якую ўпарта вёў за гэты час «Бунд» і якая не спатыкала аніякага адпору з боку партыі, прывяла да таго, што ад яго («Бунду») адшчапілася толькі параўнаўча невялікая колькасьць рабочых; рэшта-ж успрыняла нацыяналістычныя прынцыпы сваіх кіраўнікоў» [2]).

Тымчасам зьвязку з ЦК у мяне ўсё яшчэ ня было, я мусіў працаваць на сваю рызыку і страх і ўзяўся за організацыю партыйнае групы. Дня і месяца стварэньня Бабруйскае групы я дакладна ня памятаю. У маёй памяці захавалася ўсяго толькі тое (але і за гэта паручыцца не магу), што калі ў сьнежні 1904 году перад тым, як я прыехаў у Менск, я наладзіў разьвітальны сход, дык казаў тады аб 11-ці месяцах існаваньня групы,—значыцца, яна была організована ў студзені 1904 году. Тав. Галынскі, аднак, думае, што яна была організована крыху раней.

Памятую, што і пасьля таго, як бундаўцы мяне ўхілілі ад працы, я яшчэ кіраваў адным гуртком, організованым мной. Гэты гурток складаўся з маладых, прыхільных да «Бунду» інтэлігэнтаў, сярод якіх быў і памянёны т. Леў Галынскі, які зрабіўся потым маім бліжэйшым па-

[1]) Больш падрабязна аб гэтай дыскусіі гл. № 53 «Искры»—«З прыватнага ліста».
[2]) Гл. «Искра» № 72, ад 25 жніўня 1904 году.

моцнікам па працы ў Бабруйскай групе партыі. З гэтым гуртком я сыстэматычна займаўся кожны вечар. Мы прашлі «Комуністычны маніфэст», «Разьвіцьцё навуковага соцыялізму», Эрфурцкую програму і побач вялі доўгія гутаркі па пытаньнях програмы ды тактыкі соцыял-дэмократыі і гісторыі рабочага руху.

З самага пачатку між мной і слухачамі было ўмоўлена, што гурток ня мае фракцыйнага характару, але ў выніку нашых вельмі грунтоўных заняткаў толькі адзін ці два засталіся бундаўцамі, рэшта зрабіліся гарачымі, актыўнымі і праканаными партыйцамі, пры дапамозе якіх я будаваў Бабруйскую організацыю партыі.

Першасткова ў групу ўваходзілі выключна рускія рабочыя, з якімі да мяне падтрымлівалі сувязь бундаўцы. Я ўсё яшчэ ўстрымліваўся ад варожых крокаў у стасунку да «Бунду», і хаця ў мяне было шмат ужо прыхільнікаў у шэрагах бундаўскай організацыі, я, аднак, у склад нашае партыі групы іх не залічаў. На гэта я адважыўся крыху пазьней, бо прымусілі мяне на гэта самі бундаўцы.

Неўзабаве пасьля агалашэньня Руска-Японскае вайны (26 студзеня 1904 году) наша група выступіла з проклямацыяй супроць вайны пад назвай «Да ўсіх рабочых гораду Бабруйску». У распаўсюджаньні гэтае проклямацыі прымалі ўдзел і некаторыя бундаўцы. Калі вярхоўкі «Бунду» даведаліся аб гэтым, дык супроць нашае групы павялі асабліва моцную агітацыю і стараліся даказаць, што распаўсюджаньне іскраўскіх проклямацый—«палітычная распуста» (гл. кор. «Из Бобруйска» ў № 72 «Искры»). Пасьля гэтай гісторыі наша група начала дзейнічаць больш рашуча, залічыла ўсвой склад тых, што сталі на наш пункт пагляду, былых бундаўцаў ды начала весьці працу сярод яўрэйскіх рабочых.

---

Праца нашае групы пачала паволі, але стала пасоўвацца наперад. Была створана цэнтральная група (комітэт), былі оранізаваны гурткі, наладжаны нядрэнныя сувязі з тымі невялікімі фабрычнымі прадпрыемствамі, што меліся ў Бабруйску і дзе працавалі, галоўным чынам, беларускія рабочыя. Завялі сваю тэхніку[1]). Тэхнікай мы абавязаны былі, галоўным чынам, тав. Е. Райкіну—рабочаму друкарні Фрыдлянда, фанатычна адданаму іскраўцу. У дзень ён цягаў шрыфт ды іншыя дукарскія прылады, а ў вечары ён наладжваў варштат ці друкаваў нашы лісткі. Апрача таго, тав. Райкін, які потым працаваў у маскоўскай тэхніцы, а зараз знаходзіцца ў Амэрыцы і, як казалі мне, далучаецца да комуністых; у друкарні шмат працаваў яшчэ тав. Галынскі. Тэхніка ў нас была зусім нядрэнная; памятаю, пад канец 1904 году мы выдавалі невялічкія брошуры, збор рэволюцыйных песень ды інш.

Цакрысе наладзілася ў мяне сувязь з цэнтрам. Першым заявіўся да мяне агент ЦК тав. Ліцьвінаў (Фэлікс). Гэта быў першы іскравец, з якім я спаткаўся пасля арышту і з якім я мог пагутарыць і параіцца аб справах.

Памятаю, з якою прагнасьцю я распытваў яго аб падрабязгах расколу, памятаю, як не хацелася мне даваць веры таму, што Плеханаў, Мартаў і Аксэльрод цяпер разважаюць інакш, ня так, як яны разважалі да майго ад'езду з-заграніцы. Але літаратура, што прывёз Ліцьвінаў, зусім ня двухзначна пацьвярджала правільнасьць яго інформацыі. Артыкулы Мартава, Аксэльрод, а потым і Плеханава мяне зьдзівілі, вачам не даваў веры, але гэта быў факт. Усе погляды экономістых, пад больш сьвежай і таленавітай падлівай, яны падносілі, як

---

[1]) Так звалася ў той час падпольная друкарня. **Заўвага рэдакцыі.**

самыя найноўшыя погляды рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі. Я шмат думаў у тыя дні ды ночы. Хаця аўторытэт Леніна быў для мяне тады значна меншы за аўторытэт Плеханава, Аксэльрод ды інш., я нарэшце мусіў сказаць сабе, што падзяляю погляды Леніна і «большасьці» і іду за бальшавікамі. У такім вось духу я пакіраваў працу ў Бабруйскай групе, якая зрабілася бальшавіцкай.

Я не хачу гэтым сказаць, што яна раз і назаўсёды зрабілася бальшавіцкай. Не, як і шмат якія нашы організацыі, яна ў розныя часы прымала розны напрамак. Зьмяняліся людзі, зьмяняліся і плыні, і калі я, напрыклад, у весну 1906 году прыяжджаў туды па даручэньні маскоўскага Бюро ЦК перад Стокгольмскім зьездам, дык вяршкі Бабруйскае групы азначана спачувалі меншавіком і ўсяк саботавалі мае даклады аб парадку дня зьезду. Асабліва, памятую, завіхаўся тады нейкі Этынгер, бязумоўна чужы для нас чалавек, які ў той час граў, аднак, кіраўнічаю ролю ў Бабруйскай організацыі [1]).

З прадстаўнікоў цэнтру, якія прыяжджалі ў Бабруйск, успамінаю яшчэ агента ЦК «Вадзіма» (Пасталоўскі, у 1907 г. ад партыі адышоў), потым, галоўнага дзеяча П.-З. комітэту Міхаіла (Корнеўскага, з 1906 г. аб ім больш нічога ня чуў, мабыць адышоў ад партыі), які пражыў у Бабруйску больш за два месяцы. З рэфэратарамі прыяжджалі да нас і Столпнер (меншавік, чытаў па нацыянальным пытаньні) і нябожчык таварыш Уладзімераў (тады прымірэнец) з Палескага комітэту, чытаў, калі не памыляюся, аб вайне.

Уплыў наш тымчасам узрастаў і ўзрасталі нашы сілы як сярод беларускіх, так і сярод яўрэйскіх рабочых. Мы патрапілі наладзіць некалькі забастовак у некаторых прадпрыемствах, дзе працавалі выключна беларускія рабочыя, якіх да таго часу рух не захапіў быў і якіх цяжка было організаваць.

Да стварэньня нашае групы рэволюцыйны рух быў моцны толькі сярод яўрэйскіх рабочых, і поліцыі лёгка было давесьці, што «бунтуюцца» толькі жыды. Варожасьць адсталых рабочых да рэволюцыянэраў «дэмократаў» была вельмі вялікая, яе пераносілі і на тых таварышоў не-яўрэяў, якія пасьля ўтварэньня нашае групы пачалі весьці агітацыю сярод беларускіх і іншых не-яўрэйскіх рабочых мас, на іх часта глядзелі, як на людзей, што «прадаліся жыдом».

З асаблівым посьпехам праароблена праца сярод беларускай масы, калі вышаў з турмы ў пачатку траўня 1904 году малады хлопец Федзя Сімончык, які вызначаўся сваёй адданасьцю, спрытнасьцю і здольнасьцю рабіць уплыў на самыя адсталыя, забітыя слаі рабочых. Ён быў найцаннейшым працаўніком для нашае групы. Галоўным чынам мы яму абавязаны пасьпехам нашае групы сярод беларускіх рабочых, яму мы былі абавязаны і сувязямі, якіх нам патрапіла наладзіць з салдатамі бабруйскае залогі.

Сын беднага селяніна, круглы сірата з пяці год, рана выкінуты галечай у горад, ён шмат нацярпеўся ўсякага гора, пакуль ня стаў на ногі. Яшчэ хлопчыкам ён пачаў спатыкацца з «дэмократамі» і застаўся рэволюцыянэрам бальшавіком на ўсё жыцьцё. Яго колькі раз саджалі ў турму, ссылалі і высылалі, але ён ніколі не пакідаў шэрагаў рэволюцыі. За Керанскім ён на румынскім фронце ледзь уцёк ад меншавікоў, якія хацелі расстраляць яго, як «заядлага бальшавіка».

З актыўных беларускіх таварышоў-рабочых, апрача Федзі, успамінаю яшчэ таварыша Конона (з сям'і стараввераў, забітага потым на

---

[1]) Гр. Этынгер, як мне казалі, цяпер «паважны» нэпман у Маскве.

Заходнім фронце грамадзянскае вайны) ды Грышу-гарбара (прозьвішча не памятаю). Апошняга з'агітаваў тав. Сімончык, і ён з заядлага антысэміта і хулігана зрабіўся вельмі працавітым членам нашае групы. З Бабруйску ён пераехаў потым кудысь у Польшчу, дзе быў арыштаваны, сасланы ў Сібір, дзе ён і памёр ад сухот.

Памятую, як я аднойчы ўлетку 1904 году дзяжурыў некалькі дзён на нейкіх могілках, недалёка ад цагельні, рабочыя якой, дзякуючы агітацыі Федзі, забаставалі. Гэта былі самыя адсталыя рабочыя, учора толькі выкінутыя з вёскі і трапіўшыя ў самую бязьлітасную эксплёатацыю. Федзя ўвесь час знаходзіўся сярод іх і час-часом зьяўляўся да мяне на могілкі дзеля справаздачы ці за парадай. Забастоўка штохвілю магла спыніцца. Туды прыходзіла паліцыя і пагражала рабочым арыштам. Аднак забастоўку мы выгралі, і аўторытэт «Искры» адразу моцна падняўся нават на бундаўскай біржы.

Чым большымі былі нашы пасьпехі, тым большай была ненавісьць бундаўцаў ды іншых дробна-буржуазных організацый да «Искры». Успамінаю вось якое здарэньне.

З Бабруйску я паслаў шэраг допісаў у «Искру»[1]). Адзін з іх («Искра» № 70) апісваў бойку паміж сыоністымі і соцыял-дэмократамі на могілках у зьвязку з наладжанай там панахідай па доктару Герцэлі. Бойка адбылася тады, калі кантар пачаў сьпяваць пацеры за цара і абуроныя соцыял-дэмократы адказалі на гэта крыкамі: «Прэч самаўладзтва!» Тады здарылася жаласьлівае аб'яднаньне кіраўніка рабочае фракцыі сыоністых, нейкага грамадзяніна Кутнера (адэскі студэнт) з прыставам: першы камандваў баявым атрадам (дзеля абароны ад магчымых пагромаў кожная організацыя тады мела свае атрады), а прыстаў—сваймі паліцэйскімі і супольна яны накінуліся на соцыялдэмократаў.

Допіс гэты, натуральна, ня мог спадабацца г. Кутнеру ды яго сябром, якія ведалі, што рэволюцыйнае ў той час студэнцтва за гэта яго не пахваліць. Цікавым, аднак, у гэтай гісторыі было тое, што за Кутнера палічылі патрэбным заступіцца бундаўцы...

У глухой провінцыі ўсе, бязумоўна, ведалі, хто зьяўляецца аўтарам корэспондэнцыі, і хаця яна была зусім офіцыяльная (ад «мясцовай групы»), але мяне неяк паклікалі на сход «інтэлігэнцыі» дзеля суду нада мной. Я захапіў з сабой т. Галынскага і, здаецца, яшчэ кагось з нашае групы на суд «інтэлігэнцыі».

Аб тым, што гэткі суд нада мной падрыхтоўваецца, я, бязумоўна, ведаў; ведаў я і тое, што адважных сыоністых на гэты суд падбухторваюць бундаўцы. Старшыня сходу, некі Ж. Гінзбург[2]), растлумачыў мне вялікае значэньне гэтага сходу, дзе прымае ўдзел уся бабруйская інтэлігэнцыя ды прадстаўнікі ўсіх організацый (і тут-жа паказаў мне на прадстаўнікоў Бундаўскага комітэту); а з прычыны таго, што і я-ж, напэўна, лічу сябе за інтэлігэнта, дык...

«Абвінавачаньне», аднак, прад'явілі мне ня ў тым, што г. Кутнер будзе сябе нялоўка адчуваць сярод студэнтаў; але ў тым, што я выдаў яго паліцыі... Я выслухаў красамоўнага прамоўцу і ў адказ заявіў, што допіс выходзіць ад нашае групы, хаця-б я і зьяўляўся аўта-

---

[1]) Яны надрукованы ў № 53 ад 25 кастрычніка 1903 г., № 64 ад 18 красавіка 1905 г., № 66 ад 15 траўня 1904 г., ад 25 ліпня 1904 г. і № 72 ад 25 ліпня. Магчыма, што іх было больш.

[2]) Сын багатага купца, вельмі здольны; вывучаў філёзофію ў Гэйдэльбэргскім унівэрсытэце, урэшце стаў закладчыкам кадэцкай організацыі ў Бабруйску.

рам яго і што ні я асабіста, ні наша група ня лічым гэты выпадковы сход компэтэнтным судзіць нас, што за адзіных судзей над намі мы лічым нашу партыйную організацыю ды яе цэнтры, куды мы раім зьвярнуцца з скаргай на нас, а таму прымаць удзел у судзе ні я, ні нашая група ня будзем.

Калі мы накіраваліся выходзіць, дык старшыня крыкнуў мне ў здагон: «Значыцца, вы сябе ня лічыце за інтэлігэнта?» Я паціснуў плячамі і прапанаваў сходу, ад няма чаго рабіць, абгаварыць і гэтае пытаньне. Мы пашлі.

Гісторыя на тым ня скончылася. Калі я праз колькі дзён у вечары зьявіўся на нашай біржы, да мяне падбеглі два маладых сыоністых і прабавалі пабіць мяне, але іскраўскія хлапцы так люта расправіліся з імі, што адзін з іх пасьля гэтага цэлы месяц павінен быў адлежвацца ў ложку.

Каб характарыстыка нашых адносін да «Бунду» была поўнай, трэба дадаць, што, ня гледзячы на нашы шматразовыя прапановы, бундаўцы ўпарта адмаўляліся ад агульнай дыскусіі з намі перад масай па пытаньні аб выйсьці «Бунду» з партыі, хаця яны былі ў некалькі раз дужэй за нас.

У спрэчках паміж бальшавікамі і меншавікамі бабруйскія бундаўцы падтрымлівалі апошніх і казалі, што «Искра» бяз Леніна значна больш прыстойная.

Тымчасам рэволюцыйная хваля падымалася ўсё вышэй ды вышэй, і я пачаў разважаць над тым, каб выехаць з Бабруйску. Я пастанавіў дзеля пачатку пераехаць у Менск. Нагляду паліцыі я ўжо даўно не адчуваў. Тое, што я асьцярожна трымаў сябе ў першыя месяцы прыезду, зусім заспакоіла паліцыю наконт мяне, і яна пачала думаць, што маё высланьне зьяўляецца відавочным непаразуменьнем і зусім больш не чапалі мяне. Майго выезду з Бабруйску яна зусім не заўважыла. Выехаў я ў сьнежні 1904 году.

Я мушу ў сваіх успамінах аб Бабруйску спыніцца вось на якім выпадку з провокатарам Калесьнікавым. Гэта быў малады рабочы, надзвычай успрыімны, надзвычайна адважны баявік, сябра нашай групы. Але ў пачатку 1906 году ён пазнаёміўся з някім казачым афіцэрам палка, які кватараваў тады ў Бабруйску; яны пачалі разам выпіваць, і Калесьнікаў, мабыць, пад яго уплывам, стаў провокатарам, аб чым стала вядомым крыху пазьней.

Калі я прыехаў у Пецярбург у весну 1906 году перад Стокгольмскім зьездам, дык павінен быў выступіць на адным сходзе. Перад самым адчыненьнем сходу зьявіўся Калесьнікаў і пачаў мяне ўгаварваць, каб я зараз-жа пашоў, што паліцыя ведае пра наш сход і паслала за казакамі. Сход быў зачынены, а хвілін праз дзесяць зьявілася паліцыя з казакамі, акружыла памяшканьне, але нікога ўжо не знашла.

Перад ад'ездам у Бабруйск я атрымаў ад Маскоўскага Бюро ЦК даручэньне абавязкова здабыць пашпартныя блянкі. Пагутарыўшы ў Бабруйску з хлопцамі, мы пастанавілі наладзіць напад на якое-небудзь валаснае праўленьне ды забраць там патрэбныя нам пашпартныя блянкі. Мы абралі Стэпскае валаснае праўленьне, што знаходзілася за вёрст 15 ад м. Парычаў. Да справы прыцягнулі нашага лепшага баявіка М. Калесьнікава. У Парычы мы прыехалі на параходзе. Тут знаёмы фурман павінен быў даць нашым баявіком пару коні, на якіх яны гадзіне аб 11-ай у ночы павінны былі выправіцца ў Стэпі. Аднак, калі пачаў падыходзіць час ад'езду Калесьнікаў пачаў угаварваць мяне не рабіць гэтага. Ён зусім ня быў палахлівы хлапец, і я ніяк ня мог зра-

зумець прычыны, чаму ён адгаварвае мяне ад ажыцьцяўленьня задуманага пляну. Я выправіў двох таварышоў паглядзець, ці няма лішняга народу на вуліцы. Тыя пахадзілі крыху па вуліцы, накіраваліся да рэчкі (каб ехаць у Стэпі, трэ' было перабрацца праз Бярэзіну) і ўбачылі каля парому вурадніка. Яны зашліся да знаёмых, што жылі на беразе рэчкі, і ад тых даведаліся, што вураднік вось ужо дзьве гадзіны як стаіць ля парома бяз жаднае, здаецца, прычыны... Ад паездкі прышлося адмовіцца.

Прыблізна праз год Калесьнікаў быў канчаткова выкрыты, і забіты с.-р. Рывіным [1]). Калі я даведаўся, што Калесьнікаў—провокатар, я ўспомніў пра два папярэджаныя ім правалы і падумаў, што сышоўшы з галавы хлапец пераджываў тады цяжкія хвіліны: іскравец змагаўся ў яго душы са здраднікам...



[1]) Тав. Рывіна засудзілі за гэта забойства да кары сьмерцю, якую замянілі 20-ма г.г. катаргі. Вышаўшы з катаргі ў 1917 г., т. Рывін далучыўся да РКП(б) і зьяўляецца адным з самых адданых членаў яе. **Г. Ш.**

**Гарэлік.**

# З гісторыі рэволюцыйнага руху ў Бабруйску*).

## Організацыя групы „Іскра“.

У чэрвені месяцы 1903 году ў Бабруйску організаваўся гурток экстэрнаў-вучняў, кіраўніком якога зрабіўся Шклоўскі Г. Л. У ліку членаў гуртка былі т.т. Галынскі Л., Ясенеў, Зэльдзін Ошэр, Кустановіч З., Гезунтэрман, Перлін і інш., усяго 8 чалавек. Гурток займаўся вывучэньнем марксызму. Паступова ён пачаў папаўняцца рабочымі, і лік членаў яго дашоў да 25 чалавек. У верасьні гурток абвясьціў сябе групай РС-ДРП і наладзіў сувязь з Менскім Паўночна-Заходнім Камітэтам РС-ДРП.

Першыя сходы гуртка адбываліся на Пушкінскай вуліцы ў д. № 6.

Падпольная кватэра была на Альхоўскай вуліцы, у доме № 158, у пакоі на гары, дзе пражывалі Ясенеў і Кустановіч.

Як толькі організавалася гэтая група РС-ДРП, „Бунд“ павёў з ёй напружную барацьбу, даводзячы, што гэта група „самазванцаў“-вучняў нічога супольнага з рабочым рухам ня мае.

Аднак, ня гледзячы на кампанію, паднятую „Бундам“ супроць групы, апошняя, не пакідаючы пашыраць свой уплыў сярод рабочых, з посьпехам прасоўвалася ў мала закранутыя рэволюцыйным рухам заводы на ўскраінах.

Вялася некаторая праца і сярод сялян; напрыклад, была наладжана сувязь з вёскай Шацілкі. Сярод вайсковых праца пачалася толькі ў канцы 1905 году. Тады-ж пачала організоўвацца баявая дружына „Іскры“, куды ўвашло звыш 30 чалавек.

У пачатку 1904 году Шклоўскі дастаў друкарню, якая зьмяшчалася на вуліцы Кароля Лібкнэхта (быўш. Сталыпінская), паміж Пушкінскай і Кастрычнікавай вуліцамі, у доме Нісэнбаума. (Гэтая друкарня праваліласа ў 1905 годзе ў ліпні месяцы).

Увесь 1904 год там працавалі Галынскі Л. і друкар Райкін. У канцы 1904 году на месца Галынскага стаў Сашка „піцерскі“, які прыехаў з Пецярбургу.

## Група эсэраў.

Гэтая група організавалася ў сярэдзіне 1904 году. Эсэры мелі некалькі членаў сярод каменшчыкаў, рабочых лесазаводаў і друкароў. У групу таксама ўваходзіла некалькі вучняў з быўшай тады ў Бабруйску школы садоўніцтва і агародніцтва. Асаблівага ўплыву эсэры ня мелі. Былі спробы з іх боку наладзіць сувязь з сялянствам, але далей пашырэньня літаратуры гэтыя спробы ня йшлі. Наогул, пра чыннасьць эсэраў даведваліся толькі ў часе дыскусій, калі выступаў опонэнт з іх

---

*) Складзена аўтарам паводле матэрыялаў Бабруйскага Гістпарту. *Увага рэд.*

групы, і калі-ні-калі ў часе дэманстрацый, калі яны йшлі з сваімі лёзунгамі. Уся праца іх сконцэнтравалася ў гуртках, дзе яны займаліся самаадукацыяй і праходзілі палітычныя навукі.

## Эканомічны рух 1904 году.

У 1904 годзе шырака разьвінаецца саюзная праца сярод рабочых розных цэхаў. Эканомічныя забастоўкі адбываюцца ўсё часьцей. У рух уцягваюцца і адсталыя рамесьнічыя цэхі: перапекі, шаўцы і іншыя. Сярод іх зьяўляюцца першыя гурткі. У красавіку месяцы ўзьнікае забастоўка ў краўцоў. Рабочыя патрабуюць пераходу ад зьдзельнай працы на тыднёвую. Забастоўка цягнецца 3 тыдні. Супроць гаспадароў, якія ўпіраліся, наймаючы штрэйкбрэхераў, ужываюць эканомічны тэрор. Забастоўка скончылася перамогай рабочых. У гэты самы час адбываецца забастоўка будаўнікоў у падрадчыка Ерамічкага з патрабаваньнем 10-гадзіннага працоўнага дня. Забастоўка цягнецца дзень і канчаецца перамогай рабочых. Праз месяц адбываецца забастоўка будаўнікоў у Беленькага з такім-жа пасьпяховым вынікам. У лістападзе месяцы організоўваецца ў майстэрнях мэблі камісія па ахове працы. Камісія рэгулюе беспрацоўе і наглядае, каб рабочыя не працавалі звыш устаноўленага часу. Калі даведваліся, што рабочыя працавалі звыштэрмінова, штрафавалі гаспадара. Гаспадары адказалі лёкаутам, які цягнуўся 6 тыдняў і скончыўся згаджэньнем.

У ліпні была праведзена забастоўка на мылаварні Голанта. Патрабаваньні: зьмяншэньне працоўнага дня да 9-ці гадзін і лепшае абыходжаньне з рабочымі. Праца на мылаварні асаблівай кваліфікацыі не патрабавала, і гаспадар зараз-жа наняў другіх рабочых, беларусаў. Для правядзеньня за астоўкі выдзелілі т. Гарэліка Эф. І. і двух беларускіх рабочых з цагельні. Голант сам заварваў цаган, а рабочыя павінны былі здымаць мыла. Але кожны раз у яго здымалі рабочых перад самым здыманьнем мыла. Гэтак рабілі разоў з пяць. Голант панёс вялікую страту. Тады ён запрасіў Гарэліка Эф. І. да сябе ў сад піць гарбату, а сам паслаў за паліцыяй. Гарэлік заўважыў гэта і пасярэдзіне гутаркі неўспадзеўкі вывернуў на Голанта гарачы самавар. Затым ён накіраваўся ў магазын Голанта, дзе прадавалася мыла, зьняў адтуль прыказчыкаў, замкнуў магазын і забраў ключы. Голант быў змушаны, нарэшце, уступіць. Забастоўка, якая цягнулася два з паловай тыдні, была выйграна.

## Палітычныя партыі к 1905 году.

1905 год застаў Бабруйск у вялізным узбурэньні. Буйнейшыя рэвалюцыйныя партыі разьвінулі напружаную чыннасьць.

Найгалоўнымі рэвалюцыйнымі партыямі былі „Бунд“ і „Іскра“. Сярод рабочых уплыў „Бунду“ быў вялікі. Поўная адсутнасьць да 1903 году ў Бабруйску другіх рэвалюцыйных партый дазволіла „Бунду“ зрабіцца адзіным кіраўніком яўрэйскага рабочага насельніцтва ў горадзе. У далейшым, імкнучыся гэты ўплыў умацаваць, „Бунд“ усё больш уносіў нацыянальных момантаў у сваю програму, адыходзячы, такім чынам, у лягер дробна-буржуазных партый.

Група „Іскры“, якая зарадзілася ў канцы 1903 году, пасьля выйсьця „Бунду“ з шэрагаў РС-ДРП, атрымала сваё поўнае разьвіцьцё ў рэвалюцыйныя дні 1905 году.

Стварыўшыся з групы экстэрнаў-вучняў пад кіраўніцтвам т. Шклоўскага Г., яна паступова попоўнілася выхадцамі з „Бунду“ і распрапагандаванымі рабочымі заводаў і прадпрыемстваў гораду.

„Бунд“ накінууся на групу, ужываючы ўсіх мажлівасьцяй, каб шчарніць яе ў вачох рабочых.

Каб утрымаць свой уплыў на яўрэйскіх рабочых, „Бунд“, іграючы на нацыяналістычных пачуцьцях адсталай часткі рабочых, называў іскраўцаў „асымілятарамі“, „гоямі“ і стараўся давесьці, што сярод яўрэйскіх рабочых павінна і можа працаваць толькі яўрэйская партыя, якая вядзе сваю працу толькі ў яўрэйскай мове.

Да 1905 году „Бунд“ ігнараваў „іскраўскую“ організацыю і праводзіў усе выступленьні самастойна. Але паступова, з ростам „Іскры“, з пашырэньнем яе ўплыву на заводах, „Бунд“ быў вымушаны лічыцца з ёю. Пачынаючы з студзеня 1905 году, усе сур'ёзныя масавыя выступленьні ўжо праводзяцца сумесна з „Іскрай“, хоць справа не абыходзілася бяз спрэчак, затым што „Бунд“ пнууся верхаводзіць у гэтых выступленьнях.

Група „Іскры“ зварачала галоўную сваю ўвагу на абхват рабочых, яшчэ ня ўцягнутых „Бундам“ у рэволюцыйны рух: цесьляў, каменьшчыкаў, заводзкіх рабочых, часткай—на працу сярод сялян, а пазьней і сярод вайсковых.

Найбольшае сваё разьвіцьцё гэтая праца набывае ў 1905 годзе. Замацоўваецца сувязь з гісэрняй (чыгунна-ліцейным заводам) б. Сьмяцішэўскага, дзе маецца моцная ячэйка, з маслабойняй, дражджовым і цэлым шэрагам пільняў.

У кастрычніку 1905 году для працы сярод вайсковых выдзяляецца бюро з шасьцёх членаў, так званая вайсковая група організацыі „Іскры“.

Група працуе пад непасрэдным кіраўніцтвам прыехаўшага к таму часу працаўніка-профэсыянала—тав. Вольгі.

Праца сярод сялян замыкалася ў распаўсюджваньні проклямацый і выездах працаўнікоў „Іскры“ для правядзеньня сходаў. Сувязь падтрымвалася праз некалькіх распропагандаваных сялян. Праца вялася ў б. Бортнікаўскай воласьці праз т. Конана і ў в. Шацілкі.

У выніку гэтай працы ў Бортнікаўскай воласьці ў канцы 1905 г. былі выпадкі масавай высечкі лесу, за што некалькі сялян былі сасланы ў Архангельскую губэрню.

Гэтыя высечкі шырокага распаўсюджаньня не набылі і хутка спыніліся.

Апрача „Бунду“ і „Іскры“, рэшта быўшых у Бабруйску груп, нават у часе ўздыму 1905 году, ня здолелі разьвінуць досыць моцнай працы.

Група эсэраў, вельмі нязначная, прабавала самастойна працаваць на заводах, сярод вайсковых, сярод сялян, але значнага распаўсюджаньня не атрымала.

Група ПЦ (поалей-цыён), СС (сыяністыя-соцыялістыя) і ЯС (яўрэйскія-соцыялістыя) здавальняліся невялікім уплывам сярод дробнабуржуазных слаёў гораду і налічвалі ў сваіх шэрагах усяго некалькі дзесяткаў рабочых.

З буржуазных груповак на Яўрэйскай вуліцы, апроч сыяністых паогул (ад якіх і адшчапіліся толькі што памянёныя групоўкі), да 17 кастрычніка 1905 году нікога не адчувалася. Толькі ў часе выбараў у дзяржаўную думу як расійская, гэтак і яўрэйская буржуазія гораду йшла за кадэтамі.

Аддзяленьне „саюзу рускага народу“ організавалася толькі к канцу 1905 году, калі лёс рэволюцыі быў ужо вырашаны, і рэакцыя пачала выпускаць свае кіпці.

К канцу 1905 году „Бунд“, „Іскра“[1]), эсэры і інш. мелі ўжо сваебаявыя атрады, куды ўваходзілі найбольш актыўныя і сьмелыя маладыя людзі гэтых організацый.

Атрады гэтыя набылі шырокае распаўсюджаньне ў часе організацыі самаабароны, калі па ўсёй Расіі (пры бліжэйшай дапамозе самадзяржаўя і па яго ініцыятыве) прашла хваля яўрэйскіх пагромаў.

Толькі дзякуючы моцнай організацыі гэтых баявых атрадаў, аб існаваньні якіх ведалі ўлады, Бабруйск гэтыя пагромы мінулі.

Моцна разьвілося ў гэтым годзе распаўсюджаньне проклямацый. Усе організацыі, пачынаючы з „Бунду“, „Іскры“ і канчаючы ледзь прыкметнай ЯС, закідвалі горад, казармы і лягеры лістоўкамі, адозвамі і іншымі друкаванымі матэрыяламі. Праца па распаўсюджваньні проклямацый звычайна вялася ўначы і толькі зрэдку ўдзень. Іх запіхвалі ў зачыненыя акеніцы, кідалі ў скрынкі для паштовай корэспондэнцыі, клалі ля дзьвярэй, кідалі ў двор, перадавалі дзятве, рассыпалі ля казармаў і ўжывалі цэлы шэраг іншых спосабаў, абы толькі распаўсюдзіць іх як болей. Паліцыя толькі зубамі скрыгала, бясьсільная даць рады такому дажджу проклямацый.

Аўторытэт рэволюцыйных організацый і іх працаўнікоў быў вельмі высокі. Напрыклад, найактыўны працаўнік „Бунду“ ў Бабруйску Нахке Юхвід ці „Нахке“, як яго проста звалі ў горадзе, карыстаўся вялізарнай популярнасьцю сярод насельніцтва і вялізнай пашанай у рабочых. Нярэдка здараліся выпадкі, калі двое спорщчыкаў прыходзілі да паліцмайстара за вырашэньнем пытаньня, дык той іх адсылаў да Нахке са словамі: „Ідзеце да Нахке, ён вас разьбярэ, ён-жа ваш паліцмайстар“, і шмат якія спрэчкі сапраўды разьвязваліся аўторытэтам Нахке. Пры правядзеньні палітычных выступленьняў досыць было запатрабаваць ад імя Нахке, як крамы зараз-жа зачыняліся. З неслухамі абыходзіліся срога, і паліцыя ня мела сілы іх абараніць. Такія выпадкі толькі ўзмацнялі веру ў магутнасьць „дэмократаў“ (так абывателі называлі ўсіх рэволюцыянэраў).

Галоўным месцам сходаў былі сынагогі, якія для гэтай мэты захапляліся на час сходу. Сходы праводзіліся і на прыватных кватэрах. спэцыяльна найманых.

Улетку сходы праводзіліся ў лесе ў капцох, у 3-х вярстох ад гораду, у жалезнага маста, супроць востраву, куды зьяжджаліся на чаўнох, нібы пракатацца.

Стаўпленьні на рабочых біржах павялічыліся.

Біржа „Іскры“ была па Альхоўскай вуліцы паміж Сталыпінскай і Прысусьцьвеннай вуліцамі (цяпер вул. Кароля Лібкнэхта і Інтэрнацыянальная).

„Бундаўская“ біржа была па Соцыялістычнай вуліцы (б. Мураўёўская) паміж Скобелеўскай і Сталыпінскай (цяпер К. Маркса і К. Лібкнэхта).

Эсэраўская—па Шасэйнай (цяпер вул. Парыскай Комуны) паміж Альхоўскай і Аляксееўскай (цяпер Урыцкай) і г. д.

Біржы гэтыя досыць часта мяняліся ў залежнасьці ад паліцэйскіх умоў.

Проклямацыі і лістоўкі друкаваліся на гэктографах і ў патаемных партыйных друкарнях. „Іскра“ мела сваю невялікую друкарню. Апроч

[1]) Так называлі тады ў масах РС-ДРП. Гэтая назва была, зразумела, няправільнай таму што „Іскра“ ў гэты час была органам меншавікоў, і таму нельга было бальшавікоў называць „іскраўцамі“. Тым ня менш соц.-дэмократы бяз розьніцы кірункаў па традыцыі называліся „іскраўцамі“. *Увага рэд.*

таго, шырака практыкаваўся захоп тых друкарань, якія меліся ў горадзе. Баявы атрад неўспадзеўкі займаў друкарню, затрымоўваючы ўсіх уваходзячых і выходзячых, пакуль не заканчвалася друкаваньне патрэбных матэрыялаў.

Гэты спосаб друкаваньня шырака практыкаваўся асабліва „Бундам“, які меў моцныя атрады.

У гады рэакцыі гэта зрабілася ўжо немагчымым.

К 1905 году лічбенасьць рэволюцыйных організацый была такою: „Бунд“ налічваў звыш 1.000 чалавек, „Іскра“—да 150 чалавек, рэшта організацый—ад 50 да 100 чалавек.

## Студзеньская дэмонстрацыя.

Калі ў Бабруйск дашла вестка аб крывавых падзеях 9-га студзеня, адбылася нарада кіраўнікоў „Іскры“ і „Бунду“; быў створаны аб'яднаны забастовачны камітэт і прынята пастанова 14-га ўладзіць дэмонстрацыю. Уначы былі раскіданы проклямацыі з апісаньнем жудасных падзей і заклікам уладзіць політычную забастоўку.

Раніцай атрады „Бунду“ і „Іскры“ усюды прыпынялі працу на прадпрыемствах і заводах. Пры гэтым рабочыя рамесьнічых прадпрыемстваў хутка выконвалі патрабаваньні атрадаў, але горай абстоіла справа на заводах. У рэволюцыйны рух былі ўцягнуты больш кваліфікаваныя рабочыя, якія складалі меншасьць усёй рабочай масы завода. Большасьць-жа рабочых складалася з мяшчан гарадзкіх ускраін і акольных сялян; дзеля таго, што яны працавалі сэзонна, то іх склад быў зьменным, а таму праца сярод іх была цяжкаватай. Гаспадары пагрозамі звальненьня стрымлівалі цёмных забітых рабочых ад забастовак.

Як прыходзілі атрады, машыны прыпыняліся і на заклік гудка ў двары зьбіраліся ўсе рабочыя заводу. Тут-жа праводзіўся невялікі мітынг, і захопленыя рабочыя накіроўваліся на другія заводы.

Гэтак адна за аднэй спынілі працу пільні, цагельні і г. д. Але на дражджоўні аб'яднаны іскраўска-бундаўскі атрад спаткала няўдача. Калі атрад зьявіўся ў двор дражджоўні і патрабаваў, каб прыпынілі працу, то прыказчык, які там знаходзіўся, заўпіраўся і пачаў пагражаць рабочым звальненьнем, калі яны кінуць працу.

Рабочыя заводу, спудзіўшыся пагрозы прыказчыка, кінуліся на прышоўшых рабочых, каб прагнаць іх з двара. У гэты час у двор заводу ўвашоў другі атрад рабочых, толькі што прыпыніўшы працу на гісэрні б. Сьмяцішэўскага. Гэты атрад пачаў прыпыняць працу і здымаць рабочых дражджоўні. Між тым прыказчык перадаў па тэлефону ў поліцыю, і адтуль хутка прыляцела сотня казакаў і рота салдат. Казакі заўзята білі забастоўшчыкаў. Некаторыя з рабочых гэтага заводу далучыліся да казакаў. Казакі павалілі ля брамы чалавек 5 і бязьлітасна лупцавалі іх канчукамі і прыкладамі. Ледзьве ўсе выбіліся.

У ліку зьбітых быў Федзька—іскравец, Плаўскі В.—таксама іскравец, Хайка дзі Кляперн (жанчына), Левін Э., Гесель Вольфсан, Бендат, Гарэлік Эф. М. (бундаўцы) і іншыя. Асабліва зьбітай была Хайка дзі Кляперн, якая потым ледзь вычуняла ад гэтага.

Прыпыніць працу на дражджоўні ў гэты дзень было ўжо немагчыма, бо ў двары вартавалі салдаты.

Дражджоўня вельмі рэдка далучалася да ўсеагульных выступленьняў. За ўвесь рэволюцыйны пэрыод яе ўдалося прыпыніць толькі два разы, дый то толькі з дапамогай шматлічнага атраду і моцных пагроз.

Увесь дзень вуліцы гораду былі перапоўнены вайсковымі часткамі і казакамі.

Магазыны былі зачынены, прадпрыемствы не працавалі. Па вуліцах разьяжджала сотня тэкінцаў, якая нядаўна прыехала ў горад.

Напярэдадні і ў дзень політзабастоўкі адбываліся масавыя сходы ў сынагогах. Днём паспрабавалі ўладзіць дэмонстрацыю.

З сынагогі цесьляў вышлі і, стаўшы на Кастрычнікавай вул. (б. Тацьцянаўская), пашлі па Комсамольскай (б. Адамаўская) уніз да Пушкінскай. Ля Пушкінскай вуліцы ўзьнялі чырвоны сьцяг, які ахоўвалі члены баявога атраду. І тут саткнуліся з казакамі, адбылася бойка. Казакі хацелі адабраць сьцяг, але члены баявога атраду: Бендат, Гарэлік Эф. І., Левін і іншыя не давалі. Казакі стралялі ў паветра, білі канчукамі. Б. А.[1]) адказваў тым самым. Пры гэтым Гарэліку Эф. І прастрэлілі руку. Урэшце, дэмонстрацыя разышлася, уносячы з сабой сьцяг. Ніхто ня быў арыштаваны. Увечары ізноў праводзіліся сходы. Уначы на вуліцах зьяўляліся натаўпам, выходзячы нечаканна з-за брам, і на рагох вуліц выкідвалі чырвоны сьцяг з крыкамі „далоў самадзяржаўе" і разьбягаліся. Прыбегшыя казакі ўжо нікога не знаходзілі, а ў гэты час на другім рагу тож самае рабіла другая група.

Цэлы дзень казакі, як шалёныя, лёталі па вуліцах, лупцуючы ўсіх, што трапляліся ім, маладых людзей.

### Эканомічныя забастоўкі.

Пачынаючы з канца студзеня месяца па горадзе прашла хваля эканомічных забастовак. Забастоўкі былі ў будаўнікоў, у рабочых пілень, бровараў, цагелень, у маёнтку Хмельнікава, а таксама адбылася агульная забастоўка ўсіх хатніх служак гораду.

Ня гледзячы на вялікі ўздым 1905 году, правядзеньне забастовак на ўскраінах, дзе знаходзіліся заводы, было зьвязана з вялізнымі труднасьцямі, і гэтым тлумачацца нязначныя посьпехі, дасягнутыя на заводах, і вялікая ўпартасьць гаспадароў. У горадзе забастоўкі праходзілі лягчэй і ў большасьці рабочымі выйграваліся.

У лютым месяцы адбылася забастоўка ў столяра-падрадчыка Матуса Keймана з патрабаваньнем павялічэньня заробкавай аплаты (на 50 кап. у тыдзень). Скончылася забастоўка поўным задаволеньнем рабочых.

У пачатку красавіка месяца адбылася забастоўка на цагельні Лазінскага. Забастоўка была праведзена організацыяй „Іскры", і ёю кіравалі Шклоўскі Л. і Гальперын.

Забастоўка мела вельмі ўпарты характар: раз-по-разу зрывалася „штрэйкбрэхерамі", супроць якіх прыходзілася часамі ўжываць і фізычную сілу.

Быў організаваны збор грошай на дапамогу бастуючым. Забастоўка была выйграна рабочымі, якія атрымалі частковае задаволеньне.

У канцы красавіка месяца адбылася агульная забастоўка сталяроў сумесна з цесьлямі і каменьшчыкамі. Забастоўка станоўчых вынікаў не дала.

У траўні месяцы організавалася сэкцыя маляроў, якая налічвала 50 чалавек. Сэкцыя выдзеліла бюро, у якое ўвашлі: Гірш Свэйт, Гірш Самэс і Абрам Замэ.

Пад кіраўніцтвам бюро была праведзена першая забастоўка маляроў у Сьляпяніна з-за нявыплаты маляру Голубу грошай. Забастоўку выйгралі.

---

[1]) Баявы атрад. *Увага рэд.*

Пасярэдзіне траўня прашла забастоўка каменьшчыкаў у прыватных падрадчыкаў. Патрабаваньне рабочых аб скарачэньні працоўнага дня да 10-ці гадзін было задаволена.

Апошнімі днямі траўня месяца адбылася забастоўка рабочых вяровачнай вытворчасьці. Да іх прылучыліся рабочыя гісэрні і пілень.

Галоўныя патрабаваньні былі: скарачэньне рабочага дня, дабаўка пэнсіі, паўтары гадзіны на абед і іншыя.

Забастоўка скончылася частковым задаволеньнем патрабаваньняў рабочых.

### 1-ае траўня 1905 году.

1-га траўня прадпрыемствы не працавалі за выключэньнем некалькіх заводаў. Маса рабочых з раньня напоўніла вуліцы. Цэлую ноч па горадзе распаўсюджваліся проклямацыі.

Двое іскраўцаў Бекер і Рашке Левін накіраваліся з проклямацыямі ў лягер, куды правёў іх знаёмы салдат. У лягеры Бекер і Рашке (абодва былі яшчэ маладыя, гадоў 16-17) разышліся ў розныя бакі. Бекер пакінуў аднаму днявальнаму зьвязаны пакуначак проклямацый, каб той перадаў фэльдфэбалю. Нічога не падазраючы, днявальны ўзяў. То-ж самае ён зрабіў яшчэ ў некалькіх палатках. Ідучы назад, ён нашоў на дваіх мірна драмаўшых салдат, каля якіх і раскідаў штук дзесяць проклямацый. Гэта згледзіла некалькі салдат, што працавалі поблізу. Яны злавілі Бекера і моцна пабілі. На ім падралі ўсю адзежу і хацелі завесьці ў паліцыю, але ён адпрасіўся.

Праз увесь дзень па горадзе лёталі казакі, разганяючы стаўпленьні людзей. На рагі вуліц раз-по-разу выскаквалі групы маладых людзей з крынкамі: „Далоў самадзяржаўе!“ Ашалелыя казакі, ня могучы дагнаць іх, нападалі на першых стрэчных маладых людзей і неміласэрна іх зьбівалі. Дзьверы дамоў наглуха зачыняліся з баязьні, што ўсьлед за ўцекачамі ўскочаць казакі, якія пры гэтым бязьлітасна зьбівалі ўсіх, каго знаходзілі ў доме.

### Забойства Генкіна.

Частыя маніфэстацыі на вуліцах Бабруйску, шэраг эканомічных забастовак, бесьперарыўныя весткі і чуткі аб буйных забастоўках і масавых дэманстрацыях ува ўсіх гарадох Расіі да апошняга распалілі атмосфэру ў горадзе. У той час, як популярнасьць „дэмократаў“ усё ўзрастала, казакі і паліцыя былі абкружаны атмосфэрай варожасьці й нянавісьці. Гэта яшчэ больш уводзіла іх у злосьць і павялічвала іх лютасьць.

20-га ліпня ўвечары група казакаў у здагоне за падазронымі асобамі на рагу Слуцкай і Соцыялістычнай (б. Мураўёўская вуліца) натрапіла на чорнарабочага Генкіна, які працаваў на пабудове. Казакі бяз дай прычыны пачалі лупцаваць яго канчукамі. Генкін паспрабаваў быў бараніцца ад іх рыдлёўкай. Тады адзін казак выхапіў шаблю і сеануў ёю Генкіна па галаве. З расьсечанага чэрапу пырснула кроў, Генкін паваліўся.

Цяжка перадаць тое ўзбурэньне, якое ўзьнялося ў горадзе. Магазыны зараз-жа пачалі зачыняцца. Генкіна завезьлі ў больніцу, куды пачалі сыходзіцца масы народу. Праз некалькі гадзін Генкін памёр. У той-жа дзень адбылася нарада кіраўнікоў партыйных організацый. Пастаноўлена было абвясьціць назаўтрае ўсеагульную забастоўку протэсту і ўладзіць Генкіну ўрачыстыя хаўтуры.

Уначы былі надрукаваны проклямацыі і распаўсюджаны па горадзе і на ўскраінах.

Раніцай часткі баявых атрадаў абышлі ўсе заводы і прадпрыемствы, прыпыняючы на іх працу і забіраючы з сабой рабочых.

Горад нібы замёр, нават ламавікі і драгалі ня выехалі. Спынілася таксама і дражджоўня.

Да больніцы к 10-й гадзіне раніцы сабраўся вялізны натаўп людзей. Стройнымі шэрагамі сталі яны па Шасэйнай вуліцы. Каб ня даць нікому магчымасьці ўцячы ў выпадку панікі, усе члены баявых атрадаў зрабілі вялізны ланцуг вакол усёй колёны, пабраўшыся за рукі.

Паліцыі і казакаў нідзе ня было відаць. Горад на некалькі гадзін быццам перашоў ва ўладу дэмонстрантаў.

Яшчэ напярэдадні была сабрана скрываўленая адзежа Генкіна і яе несьлі цяпер на дрэўцы замест сьцягу.

Гэтая брудная, аблітая крывёю адзежа нібы заклікала да помсты.

Немае маўчаньне павольна ішоўшых тысяч людзей, поўныя злосьці і нянавісьці палаючыя вочы казалі красамоўней слоў аб пачуцьцях масы.

На могілках выступала шмат прамоўцаў.

Па хаўтурох пачалі разыходзіцца. Баявыя атрады організавана прашлі па горадзе, хоць казакі і прабавалі былі пераняць іх.

Увечары па горадзе адбыліся сходы, і казакі зноў ужо шнырылі па вуліцах.

## Ліпеньская забастоўка.

7-га ліпня ад імя групы РС-ДРП і організацыі „Бунду“ была абвешчана ўсеагульная забастоўка з прычыны апошніх падзей у Лодзі, Адэсе і другіх гарадох. Забастоўка была папраўдзе ўсеагульнай. Замёрла ўсё жыцьцё гораду, працу прыпынілі нават служачыя банкаў, публічныя бібліотэкі, чыгуначныя і суднавыя грузчыкі. Моцны ўплыў на ўсіх зрабіла далучэньне амаль усіх фабрычна-заводзкіх рабочых. „Параўнайце 7-ае ліпня з студзеньскай забастоўкай у Бабруйску,—чытаем мы ў лістку, які пад'агульнівае вынікі забастовак,—і вы ўбачыце, як вырасьлі за гэтыя некалькі месяцаў рабочыя. У студзені рабочыя ня выступалі ўсе, як адзін. Мала было заводзкіх сярод нас, шумелі і гулі фабрычныя варстаты і гострым болем калоў у грудзі сьвядомых рабочых дым здрадніцкай завадзкой трубы. Ня тое цяпер, цяпер усе нашыя браты былі пад сьцягам соцыял-дэмократыі“.

Характэрны адносіны да забастоўкі поалей-цыён. Як протэст супроць „Бунду“, які ня лічыў магчымым уваходзіць у згаджэньне з П-Ц, як з організацыяй, яны пастанавілі пачаць забастоўку толькі з 1-ай гадзіны дня. Паводле ўдалага выразу аднаго з рабочых, тутэйшыя П.-Ц. да першай гадзіны дня протэставалі супроць „Бунду“, а з 1-ай гадзіны—супроць самадзяржаўя.

Паліцыя мобілізавалася. Дэманстраваць ня было магчымасьці. Казакі вар'ятавалі. Горад стаўся падобным на вайсковы лягер. Пераходжалых трэсьлі па тры разы. Падазроных люта зьбівалі. Паліцмайстар загадваў адчыняць крамы; прабаваў і просьбаю і грозьбаю: штрафам у 50 рублёў, абяцаньнем „ахоўваць“, але ўсё было дарэмна. „Загадана, трэба зачыніць, трэба дапамагчы соцыялістым“, — казалі крамнікі;—„вы ахоўваеце нас сягоньня, а яны нас знайдуць заўсёды“. Страх перад „дэмократамі“ і спачуваньне да іх зрабілі сваю справу.

Адна турэцкая булачная, якая гандлявала пад аховай гарадавых, падпала бойкоту. Як толькі быў распаўсюджаны адпаведны лісток, бу-

-лачная адразу спусьцела. Гаспадар булачнай усяляка апраўдваўся: яго, нібы, прымусіла паліцыя, абяцаў больш гэтак не рабіць. Крамнікі былі ўсе ашаломлены і праняліся пашанай да рэволюцыянэраў.

### Правал друкарні „Іскры“.

У канцы ліпня была арыштавана падпольная друкарня „Іскры“. Гэтая друкарня знаходзілася ў доме № 70 па Комсамольскай вуліцы (б. Адамаўская) у пакоі на гары. Там-жа знаходзіўся сьцяг і ўся літаратура організацыі. Кватэру займаў іскравец Фэлікс Зэльдзін.

Таго вечару ён быў на сходзе. Калі ён зьвяртаўся дадому, то здалёк згледзіў, што дом абкружаны паліцыяй, і адрузу сьцяміў, у чым справа.

Пры арышце друкарні затрымалі двое дзяўчат, якія выпадкова знаходзіліся ў доме. Праз некалькі дзён іх выпусьцілі, як ня меўшых ніякага дачыненьня да друкарні. З іскраўцаў ніхто ня быў заарыштаваны.

* * *

Праца організацый узмацнялася. Запасалася аружжа. Распаўсюджвалася шмат літаратуры і проклямацый. Хваля экономічных забастовак перакінулася ў суседнія маёнткі. Баставалі батракі ў маёнтках: Міхалева, Бортнікі, Янніка, Вакулічы і іншыя. Гэтыя забастоўкі праводзіліся выдзеленымі для гэтай мэты членамі організацыі „Іскры“, якія з дапамогай дробных баявых атрадаў кіравалі імі, здымаючы сілай найбольш упартых штрэйкбрэхераў.

У гэтай прасякнутай электрычнасьцю атмосфэры надышла ўсеагульная чыгуначная забастоўка.

### Кастрычнікавая забастоўка.

Як толькі спыніліся чыгункі, была ўзмоцнена агітацыя сярод чыгуначнікаў і рабочых дэпо.

Для падтрыманьня ўсеагульнай забастоўкі была абвешчана трохдзенная агульна-гарадзкая забастоўка. Ня гледзячы на загады паліцыі, усе магазыны былі зачынены, прадпрыемствы не працавалі. На трэці дзень усюдых пачалі адчыняцца крамы, тады выдзелілі атрад для іх зачыненьня. У вадным вялікім гуртовым магазыне за зачыненымі акеніцамі працавала некалькі прыказчыкаў. Атрад зараз-жа зьняў іх з працы, лямпы разьбіў і зачыніў магазын. У ятак атрад пабіў сальніка, і крамы зараз-жа пачалі зачыняцца. Вяртаючыся назад, рабочыя атрады натыкнуліся на групы гарадавых. Аднаго з іх моцна пабілі, адабраўшы ад яго рэвольвэр, а другі ўцёк.

Па Соцыялістычнай вуліцы (б. Мураўёўская) на атрад зрабілі напад казакі і той насілу адбараніўся. Некаторыя з рабочых былі пры гэтым няшчадна зьбіты.

Назаўтрае забастоўка была спынена.

У часе забастоўкі былі заарыштаваны тры т.т.: Пашкоўскі, Вольфсан А. і Злотнік, засьпетыя за раскідваньнем проклямацый у крэпасьці. Яны адседзілі некалькі месяцаў, пасьля чаго былі выпушчаны.

### Кастрычнікавыя „дні свабоды“.

Вестка аб маніфэсьце 17-га кастрычніка была атрымана ў Бабруйску 19-га. Гэта выклікала ў горадзе нязвычайнае ажыўленьне. Усе вышлі на вуліцу. Паліцыя зусім сумелася і не паказвалася. Казакаў таксама ня было відаць. Увечары на Шасэйнай вуліцы ля полігону быў праведзены мітынг. Затым адбылася дэмонстрацыя.

Прамоўцы заклікалі не даваць веры „свабодзе", данай зьверху, а весьці далейшую барацьбу за скіданьне царызму.

Праз цэлую ноч па горадзе хадзілі людзі, пелі, слухалі прамоўцаў. Да рэволюцыйных песень, крыкаў „ура" і лёзунгаў дамешвалася сухая трасканіна рэвольвэрных стрэлаў: гэта з вялікай радасьці члены баявых атрадаў стралялі з сваіх рэвольвэраў у паветра.

На трэці дзень, у суботу, у садзе тэатру адбыўся вялізны мітынг. Сад быў бітма набіты народам. Людзі ўкрылі платы, дрэвы, некаторыя паўзлазілі на дахі. Ішла гарачая дыскусія. Выступаўшых эсэраўскіх і сыянісцкіх прамоўцаў спаткалі обструкцыяй, і яны былі змушаны пайсьці. За імі ўсьлед пашла жыдкая купка іх аднадумцаў. Мітынг прашоў пасьля гэтага з вялікім уздымам. Сцэна, што адбылася ў садзе, паказала, што з зьмяншэньнем націску рэакцыі ўсе тактычныя і програмныя партыйныя спрэчкі, якія зладзіліся раней, цяпер выплываюць больш выразна вонкі.

Аб'яднаны камітэт з прадстаўнікоў усіх рэволюцыйных партый гораду раскідаўся. У ім засталіся толькі прадстаўнікі „Бунду" і „Іскры".

Увечар у той самы дзень у зале Штока (цяпер клюб саўработнікаў) адбыўся шматлічны сход „Бунду". Ён зацягнуўся да 1-й гадзіны. На хутка ўладжанай трыбуне красаваўся вялізны портрэт Кароля Маркса ў чырвонай раме, убранай кветкамі. Сход аднагалосна ўхваліў пастанову заняць залю Штока і ўладзіць у ім рабочы клюб.

Не пасьпелі яшчэ паразыходзіцца, як атрымалася паведамленьне аб крывавым расстрэле, уладжаным губарнатарам Курловым у Менску.

Радасьць зьмянілася цяжкой раздумай. Людзі з цяжкім сэрцам паразыходзіліся па хатах.

Яшчэ цэлы месяц горад цешыўся з свабоды. Паліцыя была надзвычайна пасыўнай. З гэтага шырака карысталі ўсе партыі, праводзячы шматлічныя масоўкі, уладжваючы мітынгі і сходы. Проклямацыі масамі распаўсюджваліся па горадзе і ў казармах.

Прадпрыемствы працавалі часткай, па большасьці ўсе знаходзіліся на вуліцах. Гаспадары за прагульныя дні ня вылічвалі.

А між тым весткі з другіх гарадоў Расіі рабіліся ўсё больш пахмурымі.

Царскае самадзяржаўе ўзялося за ўладжваньне пагромаў, якія крывавай хваляй прашлі па шмат якіх гарадох.

У Бабруйску распачалі організацыю дужай самаабароны.

## Падрыхтоўка самаабароны.

Усе організацыі ўзяліся за ўмацаваньне баявых атрадаў, узмацняючы іх узброеньне.

Баявыя атрады былі ўзброены адменнымі рэвольвэрамі і мелі ў выстарчаючым ліку набояў.

У лесе, недалёка ад гораду, дружыньнікі вучыліся страляць. Апрача аружжа для баявых атрадаў, куды ўваходзілі самыя адборныя члены організацыі, было назапашана шмат агністрэльнага і халоднага аружжа і для рэшты рабочых. Кавалі зрабілі шмат пік, штыхоў, гострых наканцоўнікаў, якія асаджваліся на палкі і маглі служыць добрым аружжам для нападу й абароны. Былі нарыхтованы канчукі з тоўстымі сьвінцовымі і жалезнымі наканцоўнікамі.

Пажарная дружына ўвесь час была напагатове. Там заўсёды меўся ў запасе вар, якім меліся абліваць, у выпадку непарадкаў, пагромшчыкаў.

Быў створаны шматлічны нелегальны Чырвоны Крыж, куды ўваходзілі больш фізычна слабыя члены організацый. Набылі шмат мэдыкамантаў і перавязачных матэрыялаў, былі прызапашаны насілкі. У гэты Чырвоны Крыж уваходзілі й дактары. Яны чыталі лекцыі перад членамі Чырвонага Крыжа, як падаваць першую дапамогу параненым і як даглядаць за імі.

У грашох нястачы ня было. таму што насельніцтва з ахвотай зьбірала грошы для організацый. Яўрэйская гарадзкая буржуазія, якая баялася за сваё жыцьцё і за цэльнасьць сваёй маемасьці, раскашалілася і давала грошы. колькі трэба было.

Атрады ня мелі сталага месца прыпынку, а штодня мянялі яго.

З раньня, бывала, заявяць якому-небудзь заможнаму абывацелю, што ў яго ў гэты дзень будзе стаяць атрад з гэтулькіх вось асоб. Той рыхтаваў для іх яду й месца для начлегу. 4-5 атрадаў штодня дзяжурылі па горадзе.

Каб папярэдзіць непарадкі, якія маглі ўзьнікнуць нечакана, па горадзе хадзілі разьведчыкі або патрулі. Гэтыя разьведчыкі, загрымаваўшыся, праходзілі на сходы „саюзу рускага народу", які організаваўся тады ў Бабруйску (так званая „чорная сотня").

У Бабруйску пагрому ня было. Улады, па чыёй ініцыятыве і пры чыім патураньні звычайна ўзьнікалі пагромы, як відаць, баяліся ў Бабруйску дапусьціць да пагрому, улічваючы сілы рэволюцыйных організацый.

## Вайсковая група РС-ДРП

У кастрычніку месяцы прыехала ў Бабруйск Вольга (Рэвека Шнэерсон)—профэсыяналка [1]). Яна была накірована з Менску Паўночна-Заходнім Камітэтам РС-ДРП, куды яна прыехала пасьля сасланьня яе мужа на катаргу.

Гэта была нязвычайна энэргічная жанчына.

З яе прыездам у Бабруйску ствараецца вайсковая група організацыі „Іскры".

Яшчэ ў студзені 1905 году Галынскі Леў на кватэры аднаго свайго знаёмага, зубнога доктара Кацэнельсона, пазнаёміўся з двума афіцэрамі соцыял-дэмократычных праконаньняў.

З адным з гэтых афіцэраў Цьвятковым Галынскі пасябраваў пачаў часта бываць у яго на кватэры.

Галынскі дастаўляў Цьвяткову літаратуру і газэту „Іскру".

Цьвяткоў гэтую літаратуру распаўсюджваў сярод знаёмых афіцэраў, бяручы за чытаньне плату і перадаючы грошы Галынскаму для організацыі.

Аб сваім знаёмстве з афіцэрамі Галынскі перадаў у організацыю, запытаўшы, як іх скарыстаць. Але організацыя не знашла сьпярша магчымым сур'ёзна заняцца працай у войску. Тады Галынскі пачаў дзейнічаць самастойна. Ён угаварыў Цьвяткова організаваць гурток з салдат яго роты і самому весьці сярод іх заняткі. Цьвяткоў згадзіўся. Падабраўшы групу салдат, ён пачаў займацца з імі ў вольныя вечары, зачыніўшыся ў сваім пакоі.

Затым ён неўспадзеўкі згінуў з Бабруйску, падазраючы, як відаць, правал.

Галынскі, згаварыўшыся з толькі што прыехаўшай Вольгай, пастанавіў стварыць вайсковую групу з працаўнікоў організацыі „Іскры".

---

[1]) Так зваліся „профэсыянальныя рэволюцыянэры", занятыя выключна партыйнай працай па даручэньні сваёй організацыі. *Увага рэдакцыі.*

Група павінна была працаваць самастойна, карыстаючыся толькі падтрыманьнем організацыі.

Група была організавана пасьля абвяшчэньня маніфэсту 17-га кастрычніка. У яе ўвашлі: Вольга, Галынскі, Рубінштэйн, Ясенеў і Кустановіч.

Праца групы пачалася ў спрыяючы момант. Дзякуючы „свабодзе“, якая трымалася ў горадзе з месяц, бесьперарыўна адбываліся мітынгі і сходы, на якіх прысутнічала шмат салдат. Досыць часта для апошніх уладжваліся асобныя сходы, на якіх выступалі і прамоўцы з салдат.

Членамі вайсковай групы была ўстаноўлена сувязь з канвойнай камандай, мясцовым шпіталем, Крамлёўскім і Клязьмінскім пяхотнымі палкамі, артылерыйскім паркам, запасной батарэяй і нават з казакамі.

Лепш за ўсё наладжана была сувязь з канвойнай камандай. Старшы унцер-афіцэр (начальнік Бабруйскай канвойнай каманды) Мазель быў соцыял-дэмократ. Апрача Мазеля, быў яшчэ адзін соцыялдэмократ, салдат Мандэль. Некаторыя салдаты, не зьяўляючыя соцыялдэмократамі, служылі сувязьзю паміж сваёй часткай і вайсковай групай, распаўсюджвалі літаратуру і проклямацыі, прыводзілі салдат на сходы і г. д.

Такім чынам, у лістападзе месяцы ўжо ствараецца вайсковая організацыя. Яна складалася з бюро, так зв. „сходкі“, куды ўваходзілі прадстаўнікі розных воінскіх частак і вайсковыя працаўнікі РС-ДРП. Штаб вайсковай організацыі знаходзіўся на кватэры ў Вольгі на рагу Сямёнаўскай (цяпер вул. Лекерта) і Альхоўскай, у гасьцініцы Уфлянда, (цяпер дом Вольфсана, а потым у Г..ускім заежджым доме. Туды схадзіліся члены вайсковай групы для абмеркаваньня розных неадкладных спраў. Звычайна зьбіраліся два разы ў тыдзень; пры гэтым адбываліся заняткі з прадстаўнікамі частак пад кіраўніцтвам тав. Вольгі. Апрача гэтага, на кватэру часта прыходзілі прадстаўнікі частак за літаратурай і патрэбнымі інструкцыямі.

З салдат і фэльчароў, якія далучыліся да організацыі, можна назваць: Салановіча, Піньчука Паўлу, Баралоўскага, Крыштановіча, Крамнёва, Мухіна, Козырава, Мандэля, Мазеля (соцыял-дэмократы), Лукі і іншых.

З вязьнямі дысцыплінарнага батальёну аж да паўстаньня ў ім сувязі ня было. Літаратура дастаўлялася туды толькі праз салдат першай роты, якія адны мелі магчымасьць папасьці ў горад, ды часамі праз хворых шпіталю, якія ачуняўшы зьвярталіся ў дысцыплінарны батальён.

У лістападзе адбылося паўстаньне дысцыплінарнага батальёну, на некаторы час ускалыхнуўшае ўвесь горад.

## Дысцыплінарны батальён.

У царскай арміі адносіны да салдат былі пагарджальныя. Нядзіўна, што „ніжнія чыны“ адчувалі сябе ў арміі вельмі дрэнна; салдаты, найбольш чулыя к абразам і сьмелыя, часамі прабавалі праяўляць свой „непакорлівы характар“. Для такіх „непакорлівых“ царскім самадзяржаўем быў спэцыяльна прыстасаваны дысцыплінарны батальён.

Усё ў гэтай спэцыяльнай царскай установе было дапасавана для вырабкі з салдата, які правінаваціўся, „вернападданага ніжняга чына“.

Пераступіўшы парог дысцыплінарнага батальёну, вязень рабіўся зусім бясправўным.

Тут існаваў культ розаг, асьвянцаны спэцыяльнымі правіламі.

Гэтак, ротны камандзір мог даць ня больш як 30 розаг, старшы за яго афіцэр, аж да батальённага камандзіра, меў права даць ужо і 100 розаг. Зразумела, не забаранялася даваць і некалькі разоў па 30. Розгі праз увесь дзень і ноч моклі ў вадзе і, калі толькі ні захацеў, павінны былі быць у выстарчаючым ліку.

Ролю экзэкутараў выконвалі унцер-афіцэры. Апошнія выконвалі сваю ролю адменна; яны секлі паволі, з прыпынкамі, адчуваючы вялізную асалоду ад енкаў сваёй ахвяры. Стаяўшы пры гэтым ротны ці батальённы грозна падбадзёрваў экзэкутара. Усе вязьні абавязаны былі пры гэтым прысутнічаць, бо за адсутнасьць пагражала 30 розаг. Аб бяссэнсавай лютасьці ў адносінах да вязьняў дае ўяўленьне наступны выпадак.

Адзін вязень, прабыўшы ў дысцыплінарным батальёне 3 гады, папаў туды ў другі раз на тры гады. Ён адседзіў і гэтыя тры гады. Усяго 6 год, і назаўтрае яго павінны былі ўжо выпусьціць. Якраз напярэдадні ён быў пастаўлены вартаваць; у часе варты ён пачаў круціць сьвістком на вяровачцы. Выпадкова сьвісток вырваўся з рук і папаў на дах. Ня доўга думаючы, ён прыставіў дошку і палез за сьвістком. Натрапіўшы на гэта батальённы, падазраючы ўцёкі, хаця-ж ён быў зусім бяссэнсоўны напярэдадні звальненьня, загадаў усыпаць салдату 100 розаг, не жадаючы нават выслухаць яго тлумачэньняў.

На другі дзень няшчасны пашоў дадому, уносячы з сабой у грудзёх вечную нянавісьць да сваіх катаў.

Адным з інквізытарскіх спосабаў мучэньня салдат быў спосаб, якім іх будзілі. Раніцай, калі яшчэ ўся казарма сьпіць глыбокім перадранешнім сном, у казарму ўводзіліся барабаншчыкі і пачыналі барабаніць. Вязьні спалохана ўскаквалі з пасьцеляў; шмат у каго на ўсё жыцьцё заставалася разладжанай нэрвовая сыстэма.

Яду давалі тры разы ў дзень: раніцай хлеб з сольлю (гарбаты не давалі), удзень—абед, а ўвечар—вячэра. Цукар ня толькі не давалі, але не дазвалялі мець. Калі знаходзілі ў каго цукар, то каралі. Толькі ў сьвяты выдавалі па тры кавалкі цукру.

Вязьні ўсіх чатырох рот знаходзіліся ў казармах і далей двара ня мелі магчымасьці хадзіць. І то яшчэ ня ўсе мелі права знаходзіцца ў двары. Гэта дазвалялася толькі вязьням першай роты, куды пападалі найбольш ціхія салдаты, якія добра трымалі сябе, зналі добра службу, ні разу не прабавалі ўцякаць і не сядзелі ў карцэры. Рэшта-ж выходзіла ў двор у вызначаныя гадзіны. Салдат першай роты досыць часта адпушчалі ў горад. Спатканьні з крэўнымі дазвалялі тры разы на тыдзень.

Асабліва страшэнна ўплываў на дысцыплінарных доўгі тэрмін сядзеньня. За самую малую правінку давалі па году і па два. Гэтае доўгае сядзеньне, досыць часта адзіночкаю, часта ўперамешку з карцэрам выклікала моцнае абурэньне з боку салдат батальёну.

Апісваемыя абставіны, у якіх знаходзіліся ў дысцыплінарным батальёне вязьні, адносяцца к 1902-1903 году. Пазьней рэжым памякчэў.

### Першы выбух.

Склад дысцыплінарнага батальёну быў амаль напалову з матросаў, таму што іх служба была вельмі цяжкая, тэрмін вялікі, дысцыпліна надзвычайна срогая, і яны таму часьцей ад другіх караліся за самае маленькае непаслухмянства.

У батальёне было шмат людзей разьвітых, пісьменных, мацней адчуваўшых палачны ўціск, нахабныя адносіны начальства. Такія часьцей за ўсё і пападалі ў дысцыплінарны батальён.

У студзені 1905 году, аднойчы пасьля вячэры і малітвы, калі пратрубілі сыгнал да сну, вязьні замест таго, каб паразыходзіцца па казармах, сабраліся ўсе ў сталовай.

Дзяжурны афіцэр, сумеўшыся, накіраваўся ў сталовую і спытаў аб прычыне раптоўнага сходу. Адразу ніхто не адказаў, і на хвіліну настала маўчаньне. Затым вышаў адзін—Пазьнякоў (сын дырэктара вучылішча ў Самары) патрабаваў ад імя ўсіх адмены цялеснага пакараньня і аб скарачэньні тэрміну сядзеньня. Афіцэр прапанаваў ім зараз-жа разыйсьціся, абяцаючы перадаць патрабаваньне начальніку батальёну. Але вязьні пачалі настойваць, каб зараз-жа выклікалі камандзіра для падачы патрабаваньня яму непасрэдна. Начальнік батальёну зьявіўся і прыняў патрабаваньне. Пасьля гэтага ўсе разышліся. Справу гэтую замоўчалі. Толькі Пазьнякоў быў адасланы для адбываньня пакараньня ўглыб Расіі.

Гэты выпадак быў нібы вяшчуном таго, што павінна было здарыцца і здарылася ў канцы 1905 году.

## Паўстаньне дысцыплінарнага батальёну.

У лістападзе месяцы раніцай паўстаньне выбухла.

Вязьні ў ліку 1.000 чалавек сабраліся ў двары. Яны патрабавалі, каб выклікалі палкоўніка Шанскага, быўшага тады начальнікам батальёну, і комэнданта крэпасьці генэрала Дагаева. Бачучы дарэмнасьць сваіх спроб супакоіць іх, афіцэр зараз-жа паслаў па начальства. Апошняе зьявілася і ўзвысіла было грозна голас, патрабуючы, каб тыя зараз-жа пачалі заняткі, што было спаткана крыкамі абурэньня. Затым прадстаўнікі вязьняў выклалі свае патрабаваньні.

Начальства выслухала іх і абяцала дакласьці аб гэтых патрабаваньнях куды трэба.

Узбурэньне дысцыплінарнага батальёну выклікала вялікую зьбянтэжанасьць сярод афіцэрства.

У Бабруйску стаялі тады: 237 пяхотны Крамлёўскі полк, 238 пяхотны Клязьменскі полк, 1-ы рэзервавы артылерыйскі парк і іншыя дробныя часткі. Яны былі ненадзейныя і можна было чакаць, што ўзбурэньне перакінецца і да іх.

Была паслана тэлеграма камандуючаму войскамі акругі з просьбай прыслаць войскі для ўсьцішэньня паўстаўшых.

Як толькі ў горадзе даведаліся пра паўстаньне, зараз-жа выправілі туды прамоўцаў і засыпалі вязьняў проклямацыямі. У двары казармы адбываліся бесьперарыўныя мітынгі. Галоўны верхавод і кіраўнік паўстаньня Якушаў незабаўна зьвязаўся з вайсковай організацыяй „Іскры“.

Вязьні хацелі былі разьехацца, але іх стрымалі ад гэтага і ад розных неорганізаваных выступленьняў.

Сярод вайсковых частак усяго гарнізону вялі агітацыю з мэтай нэйтралізаваць іх і, калі будзе магчыма, прыцягнуць для падтрыманьня паўстаўшых.

Між тым у дысцыплінарным батальёне быў поўны парадак. Вязьні прагналі ўсіх сваіх афіцэраў і выдзелілі камандзіраў з паміж сябе. Яны разьбілі быўшы ў двары цэйхгаўз і ўзялі адтуль баявыя патроны. Стрэльбы былі ва ўсіх, толькі забаранялася іх трымаць у казармах. Запасаў яды было даволі, і абеды, і вячэры варыліся, як і заўсёды. Здавалася, што нічога асаблівага не адбылося.

Цікавей за ўсё было тое, што салдаты заставаліся ў казармах і адтуль ня выходзілі. У горадзе рэдка хто з іх зьяўляўся.

Нарэшце, дні праз 3-4 пасьля паўстаньня, на падмогу мясцоваму войску была выслана з Менску вайсковая частка[1]) „Карная экспэдыцыя Арлова“.

Калі салдаты прыбылі з Менску, іх адразу закідалі проклямацыямі з заклікам не выступаць для ўсьцішэньня. На вакзале, як толькі салдаты зьлезьлі з цягніка, выступіў з прамовай „вольноопределяющийся“ Кажамякін, але яго агітацыя ня мела ніякіх вынікаў. Кажамякін быў хутка арыштаваны. Начальства пастанавіла ўжыць усе меры да хутчэйшай ліквідацыі выступленьня дысцыплінарцаў. Раніцай казармы дысцыплінарнага батальёну былі абкружаны новапрыбыўшай часткай, казакамі і артылерыяй. Наводзячы арматы артылерыйскай батарэі на казармы, зьвярнуліся да вязьняў, каб яны здалі аружжа і выдалі ўсіх верхаводаў.

Паўстаўшыя змушаны былі здацца.

Пасьля было арыштавана 36 чалавек, якія былі аддадзены пад вайсковы суд.

Організацыя РС-ДРП запрасіла ў абаронцы арыштаваных прысяжнага паверанага Сокалава. Але суд адмовіўся дапусьціць грамадзянскую абарону, і падсудным далі казённага абаронцу.

Суд адбыўся ў лютым 1906 году. Адна група была засуджана да кары сьмерцю, другая на катаргу.

Абараняўшы падсудных казённы абаронца выступаў з вялікай прамовай, якая была абвінавальнай у вадносінах да ўлады. За гэта яго самога пасьля судзілі, і ён атрымаў два гады астрогу.

Пасьля суду была выпушчана проклямацыя да Бабруйскага гарнізону аб занадта жорскім прысудзе. Пры распаўсюджваньні гэтых проклямацый была арыштавана жонка аднаго засуджанага Пятрова-Паўлава Ганна Пятрова і засуджана на два гады астрогу.

### Уцёкі дванаццаці.

Адсуджаным сьмяротнікам організацыя „Іскры“ пастанавіла дапамагчы ўцячы. Гэтай справай кіравала Вольга.

Вязьням перадалі мікстуру, якая выклікала стан хворасьці. Пасьля прыняцьця мікстуры, вязьні былі прызнаны хворымі, і іх накіравалі ў шпіталь. Пятроў-Паўлаў сымуляваў „прыпадак“. (Якушава, быўшага ў ліку прысуджаных да кары сьмерцю, чамусьці пакінулі на гаўптвахце).

У шпіталі ўсе сьмяротнікі знаходзіліся ў аднэй палаце, якая была на 3-ім паверсе. У сярэдзіне была пастаўлена варта з 2-х унцер-афіцэраў, знадворку варты ня было. Апрача сьмяротнікаў, у палаце знаходзіліся і сьледственыя хворыя вязьні.

Вязьням перадалі нажоўкі з ручкай і яны хаваліся ў Піньчука Паўла (кашавара шпіталю), які павінен быў перадаць іх у патрэбны момант. Праз яго-ж ішла перапіска аб тым, як уцячы. Прысуд павінен быў быць хутка зацьверджаны і, каб уцячы, патрэбна было сьпяшацца.

Уладжаньню ўцёкаў дапамагалі ўсе працаўнікі вайсковай групы „Іскры“.

У суботу Галынскі Л. і Салановіч (фэльчар шпіталю) пашлі намячаць плян уцёкаў. Як-жа яны зьдзівіліся, калі, падышоўшы да шпіталю, знашлі там двух вартаўнікоў, якія стаялі якраз пад акном палаты сьмяротнікаў. Яны западозрылі правал. Галынскі зараз-жа пабег у горад.

Праз гадзіну да Вольгі на кватэру прыбег Піньчук і перадаў, што нічога небясьпечнага ня здарылася. Для сьмяротнікаў унізе была

---

[1]) Як паведамляе Пятроў-Паўлаў, прыбыла цэлая пяхотная дывізія. *Увага рэдакцыі.*

наладжана ў сутарэньні лазьня, і часова, пакуль яны былі ў лазьні, паставілі туды варту, але, як толькі вязьні вернуцца з лазьні, варту зараз-жа зьнімуць.

Увечары да крэпасьці пашло чалавек 10. Рубінштэйн, які павінен быў быць у ліку памагаючых уцёкам, на пярэдадні, калі нёс у кішэні кіслату для сьмяротнікаў (туды перадавалі кіслату, якой часта яны намазвалі краты, каб іх пастунова пераядала), паваліўся, разьбіў бутэльку з кіслатой і абліў сабе пры гэтым абедзьве нагі. Чуць дашоў да гораду, дзе яму падалі дапамогу.

Не хапала тады коняй, бо Рубінштэйн павінен быў прыбыць з канём. Тады профэсыянал „Бунду“ Ісаак Гарбаты, па просьбе самой Вольгі, прыслаў двух бундаўц ў з коньмі: Гарэліка Эф. І. і Норкіна В.

Людзі з коньмі сталі на крыжаваньні, дзе шаса паварочвае на вакзал; з імі сталі яшчэ двое. Рэшта на чале з Галынскім, які кіраваў уцёкамі, пашлі да шпіталю. З імі была скрынка з адзеньнем для сьмяротнікаў, якія павінны былі апрануць яе пасьля таго, як выйдуць з шпіталю. Каля шпіталю людзі былі расстаўлены на пэўнай адлегласьці адзін ад аднаго, каб паказаць вязьням, куды ўцякаць. З тае прычыны, што варта ў крэпасьці мянялася кожныя дзьве гадзіны, то абавязкова на працягу гэтых дзьвёх гадзін патрэбна было ўсё пасьпець зрабіць. Час для ўцёкаў быў выбраны між гадзінай і трыма. Вялікая труднасьць была з вартай, якая стаяла ў сярэдзіне. Спачатку хацелі яе забіць, але пасьля пашкадавалі і згаварыліся папрабаваць раней даць ім на сон, забіваць-жа ў крайнім выпадку.

У крэпасьць да шпіталю зашлі з боку ракі. Шпіталь знаходзіўся недалёка ад варот крэпасьці, якія выходзілі на раку. Паблізу была гаўптвахта. Трэба было сачыць, каб часавы гаўптвахты не заўважылі падазронага руху каля шпіталю.

Усе сталі на свае месцы.

Прашло поўгадзіны, а ў шпіталі ўсё спакойна, ня чуваць ніякага руху. Прашло яшчэ поўгадзіны. На трэцім паверсе цьмяны сьвет пачаў перабягаць з аднаго падаконьніка на другі. Прашоў яшчэ некаторы час, а чаканага сыгналу ўсё няма. Хутка павінна была зьмяняцца варта, стаяць далей было ўжо небясьпечна. Усе з трывогай сышліся і хутка пашлі ў горад, не разумеючы, чым вытлумачыць бязьдзеяньне вязьняў.

На другі дзень вязьні перадалі ліст, што ім ніяк не ўдалося дабіцца, каб варта заснула, бо снатворныя папяросы не зрабілі ніякага ўплыву. Тады парашылі праз Пінўчука перадаць дзьве бутэлькі моцнага сьпірту і зварыць для варты сытую салодкую кашу.

Піньчук павінен быў усыпаць належную дозу опія ў кашу і пачаставаць варту пасьля таго, як яна вып'е гарэлку.

Акрамя гэтага перадалі й папяросы, у якіх табак быў перамешаны з сонным парашком. Перадалі дакладную сыгналізацыю і пароль. Калі-ж і на гэты раз ня ўдасца даць варце на сон, то парашылі яе забіць. Далей зацягваць уцёкі было немагчыма.

А гадзіне ночы ўсе зноў былі на сваіх месцах.

З рамізьнікамі стаў Лейбэ Клас (калёсьнік), у варотах паклалі адзеньне для вязьняў. Для кожнага ўцекача было нарыхтавана па 10 руб. (грошы даў Пагадзіцкі Уладзімер, які прыехаў купляць аружжа для Пецярбурскай вайсковай арганізацыі).

А пачатку другой пачалася сыгналізацыя. Галынскі сьвіснуў. З палаты адказалі. Некалькі хвілін перасьвістваліся, і хутка Галынскі пачуў, як пачалі перапілоўваць краты. Перапілавалі хутка, за якіх не-

будзь 10 хвілін. Кавалак жалеза сарваўся і з грукатам пакаціўся ўніз, стукаючыся аб карнізы, Галынскі прыціснуўся да дрэва. Вартаўнік высунуўся з акна, паглядзець у чым справа. Здалёку пачуўся тупат уцякаўшых коняй, таварышы там парашылі, што справа правалілася. У гэты час з акна палаты высунулася цёмная фігура. Галынскі так і абмёр. Ноч была цёмная, хмурная і нават блізка вельмі цяжка было разглядзець прадметы.

Усё зрабілася ў адзін момант. Галава вартаўніка хутка схавалася, і адначасна зьверху зьвісла вяроўка з зьвязаных ручнікоў. Фігура хутка і ціха апынулася ўнізе, ня гледзячы на раней адданае распараджэньне, кінулася ўлева, у бок ад варот.

Галынскі аслупянеў. Ён крыху адсунуўся ад дрэва і коратка засьвістаў. Фігура, якая бегла, пачуўшы сьвіст, ад нечаканасьці ўзьбегла на ўзгорак і, ня ведаючы што рабіць, спынілася. Сьвіст паўтарыўся. Фігура нарэшце адказала, але ў цемнаце аніяк нельга было разабраць, хто гэта сьвістаў; і тады Галынскі выхапіў насавую хустачку і махнуў ёй у паветры. Хустачку заўважылі і адказалі сьвістам. Фігура кінулася на сыгнал, Галынскі хутка пашоў насустрэч. У цемнаце яны наткнуліся адзін на аднаго. Уцякач назваў пароль, але ў сьпешцы пераблытаў. Галынскі замяшаўся, і ў той-жа момант перад яго вачыма бліснуў нож. Ён хутка схапіў уцекача за руку і той ад нечаканасьці выпусьціў нож. Яны пазналі адзін аднаго. Гэта быў адзін з дысцыплінарцаў Пятроў-Паўлаў (цяпер ў Маскве член Массавету).

Ад радасьці ён кінуўся абнімаць і цалаваць Галынскага, але той яго хутка спыніў і напомніў аб іншых. Пятроў схамянуўся і кінуўся быў зноў бегчы да акна. Галынскі яго затрымаў і накіраваў да варот.

Галынскі падышоў да акна і тузануў за вяроўку. Хутка адзін за другім пачалі спускацца другія фігуры. Пароль рэдка хто ведаў, усе зблыталі.

Галынскі, ня лічачы і не правяраючы, усіх накіраваў да варот. Нарэшце ўсе зьлезьлі. Зьверху ніхто больш не паказваўся. Галынскі хутка пашоў да варот. Там ля скрынкі стаяла купка людзей, ледзь усьцягваючы на сябе першае папаўшае пад рукі адзеньне. Да зьмены варты заставалася ўсяго 15 хвілін.

Рамізьнікі да таго часу вярнуліся на месца. Яны забралі Кажамякіна і Мандэля, якія сядзелі пад сьледзтвам, і паехалі ў горад. А рэшта разышліся хто куды. Дысцыплінарцы накіраваліся да вакзалу, адкуль разьехаліся; з іх двое, як потым стала вядома, пашлі ў горад.

Кажамякін і Мандэль паехалі ў Амэрыку. З дысцыплінарцаў двое: Пятроў-Паўлаў і Калашнікаў былі затрыманы—першы ў Астровічах, а другі ў вёсцы Бярозаўцы—і ізноў накіраваны ў Бабруйск. Двое: Фёдараў і Белавусаў, якія хаваліся ў горадзе, праз некалькі дзён накіраваліся ў Парычы да Шклоўскага. Хутка яны ўцяклі заграніцу. Але Белавусаў там ня ўседзеў, вярнуўся ў Расію і быў арыштаваны. У Менскім астрозе ён разам з двума таварышамі ў 1907 годзе забіў аднаго провокатара, які выдаваў анархістых, і дазорчага таго астрожнага карыдору, у якога былі ключы ад камэры провокатара. Усіх трох павесілі ў тым-жа самым астрозе.

Усяго ўцякло 12 чалавек. У палаце яшчэ было некалькі чалавек сьледзтвенных, але яны пабаяліся ўцякаць.

Варта гэтак паўпівалася, ды да таго-ж і опій зрабіў сваю справу, што доўга не магла ачухацца. Калі ўвашлі ў камэру і хваціліся ўцёкшых, то варту ледзь разбудзілі.

Уцёкі дванаццаці зрабілі ў горадзе цэлы перапалох. Імя вайсковай організацыі было ва ўсіх на языку. Поліцыя шукала ўсюды, але дарэмна.

Піньчук быў западозраны і організацыя парашыла адправіць яго заграніцу. Гэта ўдалося. Дзякуючы гэтаму на Піньчука можна было зваліць большую частку віны і гэтым самым лягчэй выратаваць іншых фэльчароў шпіталю, якія памаглі ўцячы.

### Пасьля бунту.

Пасьля ўцёкаў дванаццаці, Якушову кара сьмерцю была заменена вечнай катаргай. Ён быў сасланы ў Сібір. У лік сасланых на катаргу з дысцыплінарнага батальёну ўвашлі гэткія асобы (прозьвішчы ўзяты з архіву Бабруйскага астрожнага замку):

1. Сяргей Пятроў
2. Мікалай Пятроў
3. Іван Кошын
4. Васіль Быстроў
5. Мік. Сернакоў
6. Міх. Грабяшкоў
7. Сьцяпан Казанцаў
8. Кадыроў Кадыф
9. Калашнікаў Зьмітро
10. Герэвіч Лявон
11. Васільлеў Іван
12. Мачыгін Павал
13. Фёдараў Васіль
14. Якушоў І.

Гэтыя таварышы былі перш прысуджаны да кары сьмерцю, якая пасьля была ім заменена катаргай.

Апрача іх, на катаргу былі засуджаны наступныя таварышы:

1. Віктараў
2. Беларусаў
3. Волкаў
4. Макараў
5. Міхайлаў
6. Кананавіч
7. Скорадумаў
8. Саволаў
9. Краснышоў
10. Мачалкін
11. Жураўлёў
12. Ерашэўскі
13. Ліваndoўскі, які пасьля аказаўся провокатарам, і іншыя

Усяго было саслана на катаргу абвінавачаных у паўстаньні больш за 30 чалавек.

* * *

Ліквідацыя паўстаньня дысцыплінарнага батальёну была пачаткам разгулу рэакцыі ў горадзе.

Магутны рэволюцыйны ўздым кастрычнікавых дзён 1905 году пашоў на спад. Поліцыя падняла галаву і пачала выкараняць „крамолу“.

Хутка праваліласяя вайсковая організацыя: у красавіку 1906 г. была арыштавана Вольга і саслана ў Сібір. Галынскі і іншыя ўдзельнікі ўцёкаў часова зьніклі з гораду. Вайсковая організацыя, такім чынам, раскідалася.

Мозель праваліўся яшчэ раней. Ён быў перакінуты ў другі горад і там даведаўся, што яго хочуць арыштаваць. Тады ён аднойчы на варце кінуў стрэльбу і ўцёк. Хутка яму ўдалося перабрацца заграніцу.

* * *

Пасьля вайсковага суду над верхаводамі бунту ў дысцыплінарным батальёне зрабілася ціха. Афіцэрства старалася не абураць вязьняў і не асабліва прыціскала заняткамі.

Глухая затоеная злосьць палала ў грудзёх у салдат і шукала сабе выйсьця. І вось пачалося збойства тых салдат, якія пры задушэньні



Шклоўскі Г. Л.—закладчык групы бальшавікоў у Бабруйску ў канцы 1903 году.

паўстаньня называлі прозьвішчы верхаводаў. Нечакана на салдата ў карыдоры кідалася некалькі чалавек—яму накідвалі на галаву шынэль і зьбівалі да поўсьмерці. Хутка пачалі пускаць у ход нажы. Аднаго за другім падкалолі чатырох салдат 4-й роты. Аднаго салдата знашлі аднойчы раніцай няжывым на пасьцелі, і ўскрыцьце не магло устанавіць з чаго ён памёр. Думалі, што яго задушылі падушкай.

Жыць у дысцыплінарным батальёне стала вельмі цяжка. На тых, хто памшчаўся за выкрыцьцё верхаводаў ў дзень задушэньня паўстаньня, пабітыя падказвалі начальству. Вінаватых у гэтых збойствах вайсковы суд бязьлітасна прысуджваў да кары сьмерцю.

## Арышт Наймона.

У канцы 1905 году быў арыштаваны эсэр Наймон. 11-га сьнежня ён пашоў распаўсюджваць проклямацыі, атрыманыя з Менску ад Паўночна-Заходняга Камітэту эсэраў. Калі ён раздаваў астатнія проклямацыі, то быў схоплены гарадавым і прыставам. Яго пацягнулі ў вучастак. Наймон пачаў упірацца. Ведаючы, што недалёка знаходзіцца бундаўскі баявы атрад, ён падняў крык аб ратунку.

Баявы атрад зараз-жа прыбег, але ў гэты час на дапамогу гарадавым прышлі салдаты. Баявы атрад быў вымушаны адмовіцца ад умешваньня.

Наймона прывялі ў вучастак і там вельмі моцна зьбілі, а пасьля адправілі ў астрог.

Ён быў засуджаны на катаргу, адкуль быў вызвалены ў 1917 годзе ў часе лютаўскай рэволюцыі.

## Экспропрыяцыя.

У 1906 годзе пачынаецца ў краі паласа экспропрыяцый. Бабруйская організацыя „Бунду“ зрабіла адну экспропрыяцыю ў Шчэдрыне. У пасланы туды атрад увашлі: Нахке, Вольфсан Гесэль, Бендан, Ашкіназі Абрам, Крах Ліна, Гарэлік Эфроім-Ічэ і Гельфанд Ічэ. Яны зрабілі напад на манапольку і на паштова-тэлеграфную кантору і забралі там 3.600 руб. грошай, на 360 руб. паштовых і гербавых марак, 3 наганы і адну шаблю. Затым Нахке паехаў у Вільню і завёз грошы ў ЦК, але ЦК быў вельмі нездаволены экспропрыяцыяй і адмаўляўся ўзяць грошы. Дашло да таго, што хацелі распусьціць бабруйскую організацыю „Бунду“. Але ўрэшце ўсяго грошы прышлося ўзяць, бо было-б недарэчна вярнуць іх назад. А бабруйскай організацыі была дадзена срогая інструкцыя ў далейшым экспропрыяцый не рабіць.

Пасьля гэтага ў горадзе было зроблена яшчэ некалькі экспропрыяцый, але організацыя ніякага дачыненьня да іх ня мела. Пры спробе правядзеньня экспропрыяцыі на махорачнай фабрыцы быў забіты яе ўласьнік Сацісон. Экспропрыятары былі арыштаваны і некаторыя павешаны. Між імі быў Самуіл Шапіра—анархісты.

У Бабруйску групы анархістых ня было, а былі толькі асобныя анархісцкі настроеныя людзі. У ліку іх быў памянёны Шапіра, Вайнэр Язэп і Коля Тэпер, абвясьціўшы сябе анархістым у 1905 годзе. Ніякай дзейнасьці анархістыя не праяўлялі, калі ня лічыць выступленьняў на рэфэратах у якасьці опонэнтаў.

## Набор.

Набор, які павінен быў адбыцца ўвосень 1905 году, быў адкладзены, з прычыны бурнага пэрыоду, на студзень 1906 году. У студзені ў горад пачалі зьяўляцца навабранцы з усяго павету. Трывожны

настрой яшчэ ня зусім улёгся і ўплыў рэволюцыйных організацый яшчэ адчуваўся ў горадзе. У набор павінна было пайсьці і шмат рэволюцыянэраў, з іх большасьць членаў Бабруйскага камітэту „Бунду“, бюро профэсыянальных саюзаў, баявых атрадаў і шмат іншых актыўных працаўнікоў. Усе яны зьявіліся ў „воинское присутствие“.

Павятовы маршалак, які засядаў тады ў „присутствии“, вышаў на вуліцу да навабранцаў і прапанаваў ім выбраць прадстаўнікоў, якія сачылі-б за правіловым прыёмам навабранцаў. Выдзелілі траіх чалавек: Нахке Юхвіда, Ашкіназі і Вольфсана Гесэля.

Усе навабранцы—члены організацыі атрымалі раней інструкцыі, як трымацца. Калі пачалі іх выклікаць, кожны гаварыў, што ён здаровы, і на пытаньне: якой веры, давалі адзін адказ: „соцыял-дэмократ“; заявілі, што не прызнаюць мілітарызму і г. д.

На зборным пункце былі праведзены два мітынгі: адзін сярод гарадзкіх навабранцаў, другі сярод павятовых.

Пасьля прыёму, калі павінна была адбыцца адпраўка навабранцаў, палова з іх разьбеглася. Шмат якія выехалі ў Амэрыку, два—у Адэсу і некаторыя—у Вільню.

·Нахке пабаяліся прыняць у Бабруйску і адаслалі на камісію ў Менск. У Менску ён таксама быў вядомы, як выдатны рэволюцыянэр, і яго, ня гледзячы на хворасьць, прынялі і адправілі ў Віленскі полк. Прабыўшы ў палку чатыры тыдні, ён паехаў у Адэсу, дзе жыў нелегальна, па пашпарту сына аднаго бабруйскага вадавоза, выехаўшага ў Амэрыку.

З Адэсы ён потым пераехаў у Феодосію.

## Выбары ў думу.

Увесну 1906 году адбываліся выбары ў дзяржаўную думу. Соцыял-дэмократычнай організацыяй і „Бундам“ было пастаноўлена гэтыя выбары бойкатаваць. Праведзена было некалькі сходаў членаў організацыі і спачуваючых, дзе была даказана неабходнасьць бойкоту і дадзены адпаведныя інструкцыі для зрыву сходаў.

Рэшта жыхарства ўсё-ткі рыхтавалася да выбараў. Кадэты склікалі агульны сход, пад старшыньствам „левага“ буржуя Эстрына, але бундаўцы, прышоўшы на сход, сваёй агітацыяй сарвалі яго.

Дні праз тры зноў быў скліканы сход. На гэты раз сход ужо праходзіў пад аховай поліцыі і обструкцыя бундаўцам не ўдалася.

Тады яны парашылі дзейнічаць крыху йначай. Выдзелілі трох чалавек і далі ім такую бомбу, якая пры выбуху выдзяляла сьмярдзючыя газы. Гэтых трое былі: Ічэ Гельфанд, Гінзбург Язэп і Гарэлік Эф. І.

У самы разгар сходу разарвалася бомба, і з-за панікі, якая паднялася сход разышоўся.

Пасьля гэтага з гарадзкой управы пачалі выдаваць бюлетэні да дому.

Тады было выдзелена паўтара дзесятка чалавек, якія, абходзячы дамы, вялі агітацыю за непаданьне бюлетэню. Былі распаўсюджаны таксама проклямацыі, якія заклікалі да бойкоту выбараў; у выніку гэтай агітацыі шмат хто не скарыстаў сваіх бюлетэняў.

## Забойства гарадавога Карпенкі.

У 1906 годзе ў Бабруйску быў забіты гарадавы Карпенка. Гэтага гарадавога ўсе ненавідзелі, як аднаго з самых сярдзітых гарадавых гораду.

Аднойчы, позна ўвечары, Карпенка накіроўваўся па Шасэйнай

вуліцы да дражджоўні, недалёка ад якой ён жыў. Па дарозе ён зашоў у харчэўню выпіць кілішак гарэлкі. Калі Карпенка вышаў з харчэўні, адзін з членаў організацыі „Бунду“, які даўно яго пільнаваў, вышаў яму на пярэймы і трыма стрэламі з рэвольвэру забіў яго на месцы.

Таварыш, забіўшы Карпенку, ня быў знойдзены.

На другі дзень павінны былі адбыцца хаўтуры Карпенкі.

Поліцыя была вельмі ўзбурана, і можна было чакаць усякіх непарадкаў з боку кіраваных ёю цёмных элемэнтаў.

Баявыя атрады да таго часу ўжо раскідаліся; большасьць іх членаў паразьяжджаліся, у горадзе засталося ня шмат дружыньнікаў. Але з боязьні, што могуць вынікнуць эксцэсы, дружыньнікі былі сабраны, і на сцэну зьявілася аружжа, якое ў некаторых захавалася.

Дружыньнікі нарыхтавалі аружжа і, разьмясьціўшыся недалёка ад галоўнай вуліцы, пачалі сачыць за хаўтурнай процэсіяй.

Хаўтурная процэсія прашла ціха. Але, ідучы назад, натаўп зрабіў напад на пякарню Вэйцмана, выбіў там шыбы і пачаў рабаваць. Паднялася паніка. Дружыньнікі хутка прыляцелі, некаторых пагромшчыкаў зьбілі, а рэшту паразганялі. Спраўнік, які прыбег туды, хутка навёў парадак.

## Арышт друкарні РС-ДРП.

У траўні месяцы 1905 г. прыехалі з Адэсы „іскраўцы“—бабруйчанін Лейба Клас (калёсьнік) і дзяўчына Гішке. Яны прывезьлі з сабой добра абсталяваную друкарню, якую адразу завезьлі на Менскі форштадт і схавалі ў садзе.

Пасьля гэтага, згаварыўшыся з бундаўцам Гарэлікам Э. І., у якога на кватэры часта спатыкаліся члены розных організацый, паставілі друкарню зьмясьціць на тым-жа дварэ, рог Соцыялістычнай і К. Лібкнэхта (б. Мураўёўская і Сталыпінская), у доме Гекеля. Гарэлік ўзяўся дамовіцца з гаспадаром.

Пасьля кароткіх перамаўленьняў быў наняты пакой з асобным ходам. Яго заявілі на імя члена організацыі „Іскры“ тав. Шэйніна Шолама—краўца.

Друкарня працавала месяцаў з пяць. Удзень нікога там ня бывала і працавалі толькі ўночы. А гадзіне дванаццатай уночы прыходзілі, калі патрэбна было друкаваць, і раніцой выходзілі, забіраючы з сабой пакункі з надрукованымі проклямацыямі або іншымі друкованымі матэрыяламі.

Працай кіравай Лейба Клас.

На гэтым-жа дварэ жыў Лазінскі Бэня, які быў арыштаваны ў 1903 г. поліцыяй пры правале бундаўскай друкарні. З таго часу ён знаходзіўся ў поліцыі на падазрэньні.

У канцы кастрычніка месяца ён прышоў да Гарэліка і перадаў, што яго гэтай ноччу трэсьлі. Шукалі вельмі старанна і перавярнулі ўсё ў доме. Адыходзячы, загадалі яму нікому не казаць пра пера-траску. Усю раніцу ён быў у нерашучасьці, але ўдзень ня вытрымаў і перадаў Гарэліку, ніяк ня могучы ўцяміць, чаму гэта яго трэсьлі. Гарэлік адразу згадаўся, у чым справа: напэўна, шукалі друкарню, на якую нехта падказаў, але абмыліліся адрасам і папалі выпадкова да Лазінскага. Неабходна трэба было падумаць, як выратаваць друкарню і папярэдзіць працаўнікоў. Гарэлік пабег шукаць Класа.

Калі ён зьявіўся з Класам і іншымі працаўнікамі, было ўжо позна. Цямнелася, і каля двара дзяжурылі шпіёны. Аб ратаваньні друкарні нечага было й думаць. Трэба было паклапаціцца аб сабе.

А дванаццатай гадзіне ўночы паліцыя ўжо стукалася да Гарэліка; яго пературэсьлі як найстараньней. але нічога не знашлі, бо ён пасьпеў загадзя схаваць усё, што магло-б яго скомпромітаваць. Яго ўсё-ж такі арыштавалі і вывелі на двор, дзе стаялі ўжо арыштаванымі ўсе кватаранты дому. Іх усіх павялі ў паліцыю.

Позна ўночы паліцыя знашла друкарню. Быў арыштаваны Шэйнін, на імя якога была заяўлена кватэра друкарні.

Гарэлік, Лазінскі і іншыя кватаранты дому прасядзелі каля 6 тыдняў, а пасьля за недахопам доказаў супроць іх былі выпушчаны. Шэйніна некаторы час цягалі па астрогах. Ён прасядзеў у Бабруйску месяцы з два, пасьля ў Менску тры месяцы. З Менску яго накіравалі ў Барысаў, дзе ён прасядзеў два месяцы, а адтуль ён быў дастаўлены этапам у Бабруйск для суду. Везьлі яго з адным бяспашпартным, якога павінны былі накіраваць у павятовую паліцыю. Па дарозе канвой пераблытаў і замест бяспашпартнага накіраваў у павятовую паліцыю Шэйніна. Туды звычайна накіроўваліся ня надта вялікія злачынцы, і нагляд за імі быў даволі слабы. Там якраз нікога з начальства ня было, і ім сказалі пачакаць. Стражнік, які прывёў Шейніна, задрамаў. Шэйнін выскачыў тады праз акно і прыбег да аднаго таварыша. Некалькі дзён ён хаваўся ў горадзе, а пасьля быў адпраўлены організацыяй заграніцу. Ён асяліўся ў Парыжы.

## Аднаўленьне вайсковай організацыі РС-ДРП.

У чэрвені 1906 году прыехаў з Адэсы Галынскі Л.

У горадзе было тады ціха. Камітэтам організацыі РС-ДПР ніякай працы тады не вялося.

Галынскі ўбачыўся са старымі таварышамі: Ясеневым, Кустановічам, і яны парашылі зноў наладзіць вайсковую організацыю.

Наладзілі сувязь з канвойнай камандай. Начальнікам канвойнай каманды быў цяпер Лука, быўшы пры Мозелі малодшым унцер-афіцэрам. Ён і тады быў ужо зьвязаны з вайсковай організацыяй, і яго зноў уцяглі ў працу. Праз Зельдзіна Ошэра наладзілі сувязь з мясцовым шпіталем. Устанавілі сувязь з артылерыйскім паркам, з пяхотнымі часткамі. Салдаты, якія толькі што вярнуліся з фронтаў, ахвотна бралі літаратуру і газэты. Калі набралася 12 чалавек, уладзілі сход на Шасэйнай вуліцы. Праз тыдзень прышло ўжо 18. Пасьля гэтага сходы пачалі ўладжвацца кожную нядзелю.

Наладзілі сувязь з нестраявымі ротамі, а праз Вольфсан (цяпер фармацэўтка)—з дысцыплінарным батальёнам і з вязьнямі 1-ай роты, організаваўшы там групу. Цесная сувязь была з фэльчарам батальёну, які часьцей мог бываць у горадзе і зьяўляўся прадстаўніком дысцыплінарнага батальёну.

Да вайсковай групы далучаецца і Тайба Мопсік (мянюшка „Таня“), каторая заводзіць сувязь з салдатамі 8-й роты і іншых частак, якія знаходзіліся на Менскім форштадзе.

Апарат вайсковай групы быў сконструяваны гэтак: кіраваў працай цэнтральны сход, які складаўся з 4-х чалавек; туды ўваходзілі: Галынскі Л., Кустановіч, Ясенеў і Тайба Мопсік. А да іх была прыкамандыравана па просьбе Галынскага адна курсістка (пропагандыстка) з „Бунду“, якую яны скарыстоўвалі для заняткаў з прадстаўнікамі вайсковых частак. У другі сход уваходзілі прадстаўнікі розных вайсковых частак, лік якіх даходзіў да 30 чалавек. Ад некаторых частак было па два прадстаўнікі. Былі і такія часткі, якія прадстаўнікоў ня мелі;

яны абслугоўваліся прадстаўнікамі іншых частак, якія распаўсюджвалі сярод іх літаратуру і стараліся ўцягнуць каго-небудзь з іх у працу.

Сходы прадстаўнікоў адбываліся па нядзелях на кватэры Тайбы Мопсік, на Гогалеўскай вуліцы. Кіраўніком быў Галынскі Л., які разам з курсісткай (пропагандысткай) займаўся з удзельнікамі гэтага сходу. Ён-жа падтрымліваў з імі сувязь ад імя вайсковай організацыі. Пасяджэньні цэнтральнага сходу „чацьвёркі“ адбываліся ў майстэрні ў Тайбы Мопсік, па Сямёнаўскай вул. Там была явачная кватэра ці штаб-кватэра, як яе называлі.

Вайсковая організацыя наладзіла сувязь з пецярбурскай вайсковай організацыяй праз Пагодзіцкага Уладзімера Арцёмава. Гэта быў член пецярбурскай вайсковай організацыі—эсдэк (профэсыянал). Ён даў трохі грошай. Праз некаторы час ён прыслаў Галынскаму ліст, дзе паведамляў аб адпраўцы пасылкі на імя Каці Ісаевай (тэлеграфісткі). Галынскі паказаў Ісаевай ліст і сказаў пароль „для адмірала“, пасьля чаго Ісаева аддала пасылку і зьвярнула назад ліст. Пасылка аказалася вельмі каштоўнай для бабруйскай вайсковай організацыі. Там было шмат літаратуры і проклямацый.

На гэтым сувязь з пецярбурскай організацыяй і спынілася.

Грошы для вайсковай організацыі даставалі ў Ніны Пагадзіцкай, якая зьбірала іх сярод студэнтаў і курсістак. Апрача гэтага, вайсковая організацыя даставала ўсё патрэбнае, як проклямацыі, грошы, людзі, ад соц.-дэмокр. організацыі.

Аднойчы пасьля заняткаў сходу, прадстаўнік артылерыйскага парку перадаў, што ў парку салдаты набору 1903 году вельмі ўзбураны тым, што іх яшчэ не адпускаюць дамоў, і сваім нездавальненьнем заражаюць іншых салдат.

Пасьля абмеркаваньня пытаньня было пастаноўлена абвясьціць забастоўку салдат артылерыйскага парку, выставіўшы патрабаваньне аб звальненьні салдат набору 1903 году.

У наступную нядзелю Галынскі перадаў на сходзе прадстаўнікоў пастанову організацыі. Сход з гэтай пастановай згадзіўся. Тады Галынскі прапанаваў Папову сабраць чалавек 12—15 салдат, найбольш аўторытэтных і падрыхтаваных, і зрабіць з імі нараду.

На другі дзень увечары Галынскі і Тайба Мопсік накіраваліся ў гай. Там было чалавек 15 салдат набору 1903 году і ўся ячэйка артылерыйскага парку.

Галынскі перадаў ім пастанову вайсковай організацыі і зазначыў ім, што гэта адзіны спосаб, якім можна зрабіць уплыў на начальства, каб яно адпусьціла адслужыўшых тэрмін салдат.

Салдаты, якія сабраліся, з ім згадзіліся. Ён ім зазначыў, што неабходна ўцягнуць у забастоўку ўсіх салдат артылерыйскага парку. Гэта было тым лягчэй зрабіць, што ў артылерыйскім парку служыла шмат быўшых рабочых вялікіх заводаў, якія прывыклі да солідарных выступленьняў. З ліку сабраўшыхся выдзелілі забастовачную камісію для кіраваньня забастоўкай. Галынскі абяцаў ім назаўтрае перадаць, які дзень назначаны для забастоўкі, папярэдзіўшы раней, каб без распараджэньня вайсковай організацыі яны нічога не рабілі.

Хутка забастоўка пачалася. Ніхто за працу ня браўся. У дзень, калі пачалася забастоўка, вайсковая організацыя РС-ДРП выпусьціла лістоўкі па ўсім гарнізоне з зазначэньнем справядлівасьці патрабаваньняў артылерыйскага парку. Лістоўкі былі надрукованы у соц.-дэмократычнай друкарні і цераз прадстаўнікоў былі ў значным ліку распаўсюджаны сярод вайсковых частак. Лістоўкі вельмі паднялі дух забаставаўшых салдат.

Праз тыдзень прыехаў інспэктар артылерыі з Вільні, сабраў усю каманду і спрабаваў угаварыць яе ўзяцца за працу. Салдаты атрымалі распараджэньне з генэралам не гаварыць, бо патрабаваньні іх былі выкладзены ў лістоўцы, якая мелася і ў інспэктара. Але адзін салдат ня вытрымаў і выступіў з зазначэньнем на няправільныя адносіны да іх. Салдата на другі дзень арыштавалі. Забастоўка цягнулася. Праз некаторы час салдат набору 1903 году пачалі распускаць дамоў. Забастоўка спынілася.

Перад ад'ездам салдат былі выпушчаны праклямацыі, у якіх адзначаліся добрыя вынікі забастоўкі і пасьпяховае заваяваньне артылерыйскім паркам сваіх праў. Гэта было ў канцы верасьня месяца.

На гэтым праца вайсковай організацыі і спынілася.

Другога кастрычніка быў арыштаваны Галынскі Л., выдадзены провокатарам Калесьнікавым. У яго захапілі ліст Пагодзіцкага, дзе быў адназначаны пароль і спосаб атрыманьня пасылкі. У сувязі з гэтым была арыштавана Ісаева Каця, а ў Пецярбурзе—Пагодзіцкі Уладзімер. У Уладзімера знашлі ліст яд сястры Ніны, дзе яна пісала, што перадала Галынскаму грошы. Арыштавалі і яе.

Галынскі паслаў з астрогу запіску для Зусі Кустановіча. Запіска трапіла ў рукі астрожнай адміністрацыі. Арыштавалі і Кустановіча.

Суд адбыўся 2-га кастрычніка 1907 году ў Бабруйску. Судзіла выязная сэсія віленскай судовай палаты. Падсудных абараняў Пятрусэвіч (быўшы на першым устаноўчым зьезьдзе РС-ДРП у 1898 годзе дэлегатам ад Кацярынаславу) і яшчэ адзін малады прысяжны паверады з Пецярбургу. Судзіліся: Галынскі, Пагодзіцкая Ніна і Ісаева Каця.

Галынскага засудзілі на 4 гады крэпасьці, але, як няпоўналетняму, зьнізілі кару да 3-х год. Ніна і Каця атрымалі па аднаму году.

Вайсковая організацыя раскідалася.

Кустановіч адседзеў тры месяцы, быў здаты ў салдаты, а адтуль уцёк у Амэрыку. Тайба Мопсік выехала ў Аргэнтыну. Ясенеў пакінуў горад.

### Забойства провокатара Калесьнікава.

У выдачы друкарні РС-ДРП западозрылі соц.-дэмократа Калесьнікава М., каменшчыка па профэсіі. За ім пачалі сачыць. Падазрона, што ён вельмі п'янстваваў, кідаўся грашыма ў той час, як заработак яго быў зусім невялікі. Доўга не ўдавалася ўстанавіць яго сувязі з паліцыяй, хоць за ім і сачылі іскраўцы, бундаўцы і эсэры.

Аднойчы Гесель Расін з групай таварышаў паехалі на лодцы пракатацца. Сярод іх быў таксама і Калесьнікаў. На беразе ён пашоў нарваць кветак, заставіўшы на лодцы жакетку. Калі ён адышоўся за кусты, таварышы палезьлі ў кішэні і знашлі там дакуманты, сярод якіх была кніжка з яго фотографічнай карткай, выдадзеная Рыскай ахранкай. Факт провокатарства быў устаноўлены.

Забіць Калесьнікава ўзяліся два эсэры: Рывін Лазар і Расін Гесель. Улетку 1907 году яны свой намер выканалі. Але Калесьнікаў не адразу памёр ад ран. Адвезены ў больніцу, ён пасьпеў назваць забойцаў. Праз дзень яны былі арыштаваны.

Суд адбыўся ў Вільні. Расіна прысудзілі да кары сьмерцю, якая была яму заменена 15-цю гадамі катаргі. Рывіна саслалі на вечную катаргу.

### Дастаўка пашпартоў.

У сувязі з узмацненьнем консьпірацыі патрабавалася больш дакумантаў для нелегальных. Бабруйская організацыя „Бунду“ разьвіла

ў гэтай галіне досыць вялікую чыннасьць. Гарэлік Эф. І. быў спэцыяльна выдзелены для гэтай працы, і ён амаль што ўвесь час знаходзіўся ў Асіповічах, рэгулюючы дастаўку такіх дакумантаў. Асабліва добра ўдалося наладзіць дастаўку пашпартоў у Азарычах.

Азарычацкі стараста нікога ня выкрэсьліваў з кніг, ні памёршых, ні выехаўшых. За 15—25 рублёў ён выдаваў пашпарты на прозьвішчы такіх памёршых і выехаўшых арганізацыі „Бунду“, просячы толькі, каб яго безадкладна паведамлялі ў выпадку правалу. Бабруйская арганізацыя „Бунду“ шырака карысталася гэтым, нямала дапамагаючы і свайму Цэнтральнаму Камітэту.

Вельмі цікавы такі выпадак. Адзін з удзельнікаў Якуцкай драмы [1]), неяк выкруціўшыся ад кары сьмерцю, зусім выпадкова праз год праваліўся на кватэры ў аднаго таварыша ў Кацярынаславе і быў арыштаваны. Патрэбна было ўстанавіць, хто ён такі. Ён некаторы час абдурваў паліцыю, валаводзячы, а тымчасам зьнёсься з Цэнтральным Камітэтам „Бунду“ і прасіў даць яму якое-небудзь прозьвішча. ЦК „Бунду“ зьнёсься з Бабруйскім Камітэтам і паведаміў арыштаванага, за каго ён павінен сябе выдаваць. Сьледавацель зрабіў запыт у Азарычы, ці ёсьць у іх такі; адказалі, што ёсьць, але, ня верачы, сьледавацель адправіў арыштованага ў Бабруйск для ўстанаўленьня правіловасьці адказу, вочнай стаўкай з сваякамі таго прозьвішча, якім назваўся арыштаваны. Аб гэтым паведамілі старасту. Стараста прыгатаваўся. Атрымаўшы фотографічную картку арыштаванага, ён прыгатаваў двух падстаўных дзядзькоў, паказаў ім картку і навучыў, што рабіць. Хутка тыя былі выкліканы ў Бабруйск.

У Бабруйскім астрозе „дзядзькі“ з крыкамі радасьці кінуліся на шыю свайму „сваяку“. Плян удаўся, і ўвечары новы азарычацкі мешчанін быў выпушчаны. На другі дзень ён зьнік з гораду.

Азарычацкі стараста ўрэшце ўсяго быў западозраны паліцыяй. Ня маючы супроць яго ніякіх доказаў, яго ўсё-ж такі не зацьвердзілі на наступных выбарах. Ня гледзячы на гэта, стараста і далей займаўся сваёй працай. Ведаючы на памяць усіх, хто лічыўся па кнігах, ён раіў за плату як атрымаць пашпарт, называючы адпаведнае прозьвішча. Атрымаўшы прозьвішча, новаму старасту пасылалі ліст з просьбай выслаць пашпарт. Нічога не падазраючы, лёгкаверны стары неадкладна высылаў пашпарт.

Нарэшце дзейнасьць быўшага старасты была выкрыта, і ён быў змушаны ўцячы ў Амэрыку.

Азарычацкая дастаўка спынілася, аддаўшы падрад на гэта другім мястэчкам.

* * *

У канцы 1906 году адбыліся выбары ў другую дзяржаўную думу. „Бунд“ і „Іскра“ прынялі актыўны ўдзел у правядзеньні гэтых выбараў. Ім удалося тады правесьці ад пролетарскай часткі гораду Гінзбурга, які паехаў выбаршчыкам у Менск.

---

[1]) У лютым 1904 году ў Якуцку група палітычных ссыльных у 57 чалавек арганізавала протэст супроць зьдзекаў царскіх апрычнікаў. Забарыкадаваўшыся ў адным доме, яны патрабавалі зьмякчэньня рэжыму. Дом некалькі дзён знаходзіўся пад блёкадай, а пасьля быў абстрэляны. Пазьней гэтых ссыльных сурова засудзілі. Якуцкія падзеі знашлі гарачы водгук ва ўсёй краіне, у прыватнасьці ў шмат якіх гарадох і мястэчках Беларусі.

## Экономічная барацьба пасьля 1905 году.

Экономічная барацьба бабруйскіх рабочых, ня гледзячы на уціск рэакцыі, ня спынялася і пасьля 1905 году.

У лістападзе месяцы 1905 году была зроблена спроба арганізаваць легальны саюз будаўнікоў усіх цэхаў.

Атрымаўшы ад поліцмайстара дазвол, склікалі агульны сход рабочых. На сходзе прысутнічаў чыноўнік поліцыі і два гарадавыя. Сход дазволілі з такой умовай, каб гаварылі на расійскай мове, не чапалі палітычных пытаньняў. Аднак, умова ня была датрымана: выступалі на палітычныя тэмы і гаварылі ў яўрэйскай мове.

Чыноўніка загадзя завялі ў другі пакой, дзе яму была пастаўлена багатая закуска. Гарадавыя-ж каля дзьвярэй толькі вачыма плюскалі.

Сход выбраў дэлегатаў для перамаўленьняў з губарнатарам аб дазволе на арганізацыю саюзу. Але яны атрымалі адказ.

У канцы 1906 году быў абвешчаны гаспадарамі сталярных майстэрань лёкаўт. Пачалося з-за забастоўкі на невялікім прадпрыемстве, дзе гаспадар звольніў аднаго рабочага, які ня слухаўся яго. Саюз патрабаваў прыняць рабочага назад, абвясьціўшы забастоўку ў прадпрыемцы. Патрабавалі павышэньня заработку і 9-гадзіннага працоўнага дня. Тады гаспадары змовіліся, стварылі сваё бюро і патрабавалі ад рабочых, каб тыя вялі перамаўленьні з бюро. Атрымаўшы адказ, гаспадары абвясьцілі лёкаўт. Лёкаўту падпалі больш як 200 сталяроў.

Барацьба была вельмі ўпартая. Гаспадары прапанавалі 11-гадзінны працоўны дзень і старую аплату. Рабочыя настойвалі на 9-гадзінным працоўным дні і не хацелі прызнаваць гаспадарскага бюро.

Забастоўка цягнулася два з палавінай месяцы і скончылася згаджэньнем. Рабочыя прызналі бюро гаспадароў, а гаспадары згадзіліся на 9-гадзінны працоўны дзень і далі невялікую прыбаўку.

У тым-жа годзе гаспадары абвясьцілі бойкот усім актыўным працаўнікам сэкцыі маляроў, ня хочучы прыймаць іх на працу.

Тады маляры правялі сход і самі разьмеркавалі рабочых на працу. Гаспадары не згадзіліся з гэтым.

Была абвешчана забастоўка. У часе гэтай забастоўкі праваліўся адзін агульны сход маляроў. Забастоўка была прайграна.

У 1906 годзе было перавыбрана кіраўніцтва краўцоў. У яго ўвашлі 9 чалавек: 5 мужчын і 4 жанчыны. Кіраваў прадстаўнік „Бунду". На першым-жа сваім пасяджэньні нававыбранае кіраўніцтва было арыштавана поліцыяй у поўным складзе. Арыштаваныя прасядзелі два тыдні і заплацілі яшчэ па 20 р. штрафу. Па выхадзе з астрогу правялі забастоўку краўцоў і шапачнікаў, у выніку чаго дабіліся пераходу з паштучнай працы на тыднёвую аплату.

У 1907 годзе адбылася забастоўка сталяроў, якія працавалі ў рамесьнічай школе. Гаспадары патрабавалі, каб рабочыя працавалі паштучна, а рабочыя адмовіліся. Забастоўка была рабочымі выйграна.

У 1907 годзе гаспадары, скарыстаўшы слабасьць саюзу краўцоў і недастачу заказаў, ізноў дабіліся ўвядзеньня паштучнай аплаты.

У 1908 годзе краўцы высунулі гаспадаром наступныя патрабаваньні: гадовую працу з жніўня па жнівень месяц і $8^1/_2$-гадзінны працоўны дзень. Гаспадары адказалі лёкаўтам. Тады рабочыя арганізавалі колектыў, куды зьмясьцілі частку рабочых, а рэшту падтрымлівалі з касы. Лёкаўт быў зламаны і рабочыя выйгралі.

У 1906 годзе прашла забастоўка перапекаў, у якой прынялі ўдзел больш 200 чалавек. Патрабаваньні: 10-гадзінны працоўны дзень, у су-



Група ўдзельнікаў паўстаньня Бабруйскага дысцыплінарнага батальёну, расстрэляных у 1906 годзе.



Дзерава, на якім вешалі рэвалюцыянэраў у 1905—1908 г.г.

боту заступаць на працу ня з вечару, а з гадзіны ночы. Гаспадары адмовіліся здаволіць запатрабаваньні рабочых і пачалі наймаць штрэйкбрэхераў. Тады „Бундам“ быў высланы невялікі атрад, які павінен быў зьняць з працы штрэйкбрэхераў. Калі атрад прышоў зьнімаць рабочых у пекарню братоў Караваевых, адзін з іх схапіў прадстаўніка атраду Бернштэйна за горла і пачаў яго душыць. Тады Бернштэйн выхапіў рэвольвэр і забіў яго. Падняўся перапалох і атрад зьнік. Бернштэйн некаторы час хаваўся, а пасьля выехаў у Амэрыку.

Забойства Караваева напалохала гаспадароў, якія ўжо баяліся працаваць з штрэйкбрэхерамі. Перапекі ў сваю чаргу пачалі баяцца расьсьледаваньняў паліцыі. І тыя, і другія пашлі на ўступкі. Гаспадары згадзіліся на 10-гадзінны працоўны дзень, а перапекі павінны былі пайсьці на некаторае зьніжэньне заработнай аплаты.

У 1907 годзе хлебапёкі патрабавалі ад гаспадароў павялічэньня аплаты з выпечкі і аплаты працы падмайстроў і вучняў непасрэдна гаспадаром. (Раней ім плаціў майстар, які іх наймаў). Гаспадары адмовіліся, і была абвешчана забастоўка.

Цягнулася яна цэлы месяц і толькі пасьля таго, як была выкрыта здрада члена камітэту перапекаў Лейбэцке, які выдаваў гаспадаром усе пляны і пастановы рабочых, забастоўка была выйграна. Лейбэцке быў вельмі моцна зьбіты і яму прапанавалі пакінуць горад у 24 гадзіны, што і было ім выканана.

У красавіку 1908 году адбылася забастоўка хлебапёкаў, патрабаваўшых павышэньня заработку. Забастоўка цягнулася адзін тыдзень і была імі выйграна. Тое самае адбылося і ў булачнікаў.

Дробная экономічная барацьба вялася і ўрэшце цэхаў: у сьлесароў, блехароў, гарбароў і іншых.

У 1908 годзе экономічная барацьба ўжо сьціхае, а к канцу гэтага году паступова замірае.

1906, 1907 і 1908 гады былі гадамі сьціхаючага рэволюцыйнага руху.

„Бунд“ пераносіць сваю працу ў профэсыянальныя саюзы, але паступова яна замірае разам з дзейнасьцю самых саюзаў.

РС-ДРП працуе яшчэ ў 1906 годзе, паступова заміраючы ў 1907 годзе.

Гэтыя дзьве мацнейшыя рэволюцыйныя організацыі гораду, хаця часта і блёкаваліся для сумесных выступленьняў, ня спынялі заядлых спрэчак паміж сабою. „Бунд“, лічыўшы сябе адзіным прадстаўніком яўрэйскіх рабочых мас, з нездавальненьнем глядзеў на ўзмацненьне організацыі РС-ДРП, намагаўся падарваць яе аўторытэт сярод гарадзкіх рабочых і дзейнічаць, дзе гэта было мажліва, самастойна, ігноруючы організацыю РС-ДРП.

Сыяністычныя групоўкі спынілі сваё існаваньне яшчэ раней, у канцы 1905 году. Эсэраўскі гурток к канцу 1907 году зусім спыніў сваё існаваньне.

У 1908 годзе партыйных організацый няма. Засталіся толькі явачныя кватэры „Бунду“ і „Іскры“, дзе спыняліся калі-ні-калі прыяжджаўшыя ў горад партыйныя працаўнікі.

Падтрымлівалася сувязь паміж асобнымі старымі працаўнікамі, якія часамі зьбіраліся на інтымных вечарох.

Партыйная літаратура трапляла ў горад па асобных адрасох. Шырокага распаўсюджаньня яна ня мела і чыталася толькі асобнымі таварышамі.

Над краінай навісьлі чорныя хмары рэакцыі.

---

**А. Бейлин.**

# З рэвалюцыйных успамінаў.

*Утварэньне группы РС-ДРП у Мсьціславі.*

Група РС-ДРП (або «Искра», як яе тады называлі) у Мсьціслаўлі склалася пасьля прыезду некаторых таварышоў: Барысенкі, Лейбэра, Кагана, Жытамірскага, Ісака Раскіна і інш. Калі я пакінуў «Бунд» і далучыўся ў групу «Искры», там было ўсяго 13 чалавек. Брат мой Давід Бэйлін ужо некалькі месяцаў перад гэтым актыўна працаваў у групе. Хутка туды ўступіў М. Фрэйдлін і Максімаў з Янаўкі. Мы ўзяліся за вярбоўку рабочых і агітацыяй на біржы стараліся перацягваць рабочых з «Бунду» ў «Искру».

Добра была наладжана сувязь з некалькімі рабочымі з капалень, якія прыехалі на сваю гаспадарку дзеля працы на полі. Яны добра пашыралі літаратуру па вёсках, асабліва карысны былі нам два рабочыя з вёскі Суздалаўкі—Міхееў і Гарэлка. Гэтыя шахцёры, яшчэ маладыя хлапцы, шмат дапамаглі ў справе організацыі забастоўкі парабкоў і сялян, што працавалі ў маёнтку Рыкі. Гэты маёнтак Бучынскага, акружаны вялікім лікам вёсак, знаходзіўся за 7 вёрст ад гораду. Гэтыя вёскі не маглі выпусьціць карову, каня і нават курыцу, каб не папасьці на зямлю памешчыка, і з прычыны гэтага былі прымушаны дарэмна апрацоўваць гэты вялізны маёнтак. Забастоўка была добра організована; яе падтрымалі ўсе парабкі і частка вёскі, але вынікі былі дрэнныя, бо былі прысланы стражнікі, прымусіўшыя частку парабкоў і сялян узяцца за працу. Але мы заваявалі вялікую прыязьнь парабкоў і насельніцтва. Яны зразумелі, што гэтая нашая рэволюцыйная організацыя бароніць іх інтарэсы.

Літаратуры мы досыць атрымлівалі з двох месц: Магілеву і Смаленску. Мы зьвязаліся тады з фурманамі, якія вазілі ў Магілеў сьпірытус, а з Магілеву ў Мсьціслаўль—піва. З гэтымі фурманамі адпраўлялі і атрымлівалі пошту.

Такім-жа спосабам былі наладжаны зносіны і з Смаленскам.

* * *

У 1905 годзе на адным агульным пасяджэньні груп РС-ДРП і «Бунду» мы згадзіліся 1-га мая сьвяткаваць разам.

Пастанавілі: ва ўсіх майстэрнях у гэты дзень не працаваць, усіх слуг і прыказчыкаў старацца зьняць з працы і ўцягнуць у сьвяткаваньне, організацыям с.-д. і «Бунду» сабрацца а 9-й гадзіне раніцы ў гаі каля жаночага Тупічынскага манастыра і адтуль з чырвонымі сьцягамі накіравацца ў гарадзкі сад (бульвар), абысьці навокал управу поліцыі праз базарны пляц, а на пляцы наладзіць мітынг, сьпець марсэльезу і бундаўскую «клятву» (ды швуэ) і накіравацца назад з песьнямі праз вуліцу Волі, а 4-й гадзіне дня паразыходзіцца. Так і

зрабілі. Чырвоныя сьцягі нясьлі пад абаронай баявога атраду, частка якога ішла ўперадзе, а частка ззаду дэманстрацыі, каб даць адпор у выпадку набегу паліцыі.

Арганізаваная дэманстрацыя, у якой прымала ўдзел амаль 200 чалавек, нечакана для нас самых навяла паніку на ўсю паліцыю. Гарадавыя, што стаялі на варце (гарадавы Курылін, стары паліцэйскі Цітаў, гарадавы Несьцераў) зьнялі шапкі і зьбянтэжана глядзелі на нас... Калі праходзіла дэманстрацыя, самі крамнікі бяз нашай прапановы зачынялі крамы. Яны стаялі бяз шапак, пакуль праходзіла дэманстрацыя. Да яе з усіх бакоў далучаліся захопленыя дзеці і масамі беглі за намі ўсьлед...

Гэта дэманстрацыя паказала тады тым рабочым, якія з розных прычын ня прынялі ўдзелу ў сьвяткаваньні 1-га мая і рэвалюцыйным руху, як арганізованая маса рабочых робіцца грознай сілай у вачох сваіх ворагаў.

**Сялянскія забурэньні.**

Аграрныя непарадкі і забастоўкі ў маёнтках у 1905 годзе ахапілі амаль увесь павет.

Мсьціслаўскі павет меў у сабе вялізны лік маёнткаў, якія рабілі становішча вёсак бязвыхадным. Маёнткі былі так разьмеркаваны, зямляўпарадкаваньне было так заблытана, што сяляне не маглі павярнуцца і з усіх бакоў былі ў залежнасьці ад памешчыкаў. Памешчыкам гэта было выгадна, і яны задарма апрацоўвалі свае маёнткі. Большасьць маёнткаў аддаваліся ў арэнду, і арандатары з вялікай энэргіяй эксплёатавалі і канчаткова зьнясільвалі сялян.

Сяляне пачалі паліць акольныя маёнткі. Памешчыкі выяжджалі ў горад, каб пазбавіцца небясьпекі быць забітымі. У сяле Высокім на мяжы Мсьціслаўскага і Красьненскага паветаў, з поўвярсты ад мястэчка Кадзіна, сяляне адкрыта ў дзень забілі папа за тое, што той, як яны даведаліся, сакрэтна аб усім паведамляе паліцыю і выдае ўсіх. Такім амаль што парадкам быў забіты васьміпудовы поп вёскі Калесьнікі Мсьціслаўскага павету. Забушавала стыхійнае бурнае мора сялянскіх непарадкаў.

Мсьціслаўская паліцыя са сваімі стражнікамі ня мела магчымасьці справіцца з гэтымі забурэньнямі і ня ведала, што рабіць. Вёска Карабчыно, што знаходзіцца на адлегласьці 3-х вёрст ад гораду, адмовіласяісьці працаваць да памешчыка маёнтку Казімірава. Паехалі стражнікі і вярнуліся, нічога не зрабіўшы. Вайсковых сіл у Мсьціслаўлі ня было. Толькі пры воінскім начальніку была канвойная каманда лікам каля 20 чалавек, якая займалася выключна адпраўкай этапаў з Мсьціслаўля ў Магілеў і назад.

* * *

23 чэрвеня, гэты дзень застаўся ў маёй памяці, быў адзін консьпірацыйны супольны сход групы РС-ДРП і «Бунду» ў памяшканьні «Мойшэ-вадавоза», каля гарадзкой лазьні. Безадкладнасьць сходу была выклікана тым, што ў Мсьціслаўль прыяжджаў полк для прыдушэньня аграрных паўстаньняў. Аб гэтым нас паведаміў пісар воінскага начальніка, з якім мы мелі сувязь. Тое самае нам сказаў старшы канвойны Давідаў, які часта бываў на агульных сходах арганізацый. Значыцца, гэта была праўда.

Была маса прапаноў, як наладзіць сувязь з палком, які спосаб працы ўжываць сярод салдат, аб сродках і г. д.

На гэтым сходзе была назначана пяцёрка, якая павінна была наладзіць сувязь з салдатамі палка. У гэтую пяцёрку ўвашлі: Максімаў, Фрэйдлін, брат мой Давід Бэйлін, Шараеў, Судзілоўскі і я.

Шараеў хутка «засыпаўся» [1]) ў сваёй вёсцы, і ён прымушаны быў паехаць назад у Юзаўку. Мы засталіся працаваць чацьвёра.

161 пех. Аляксандрапольскі полк зьявіўся, прыблізна, у канцы чэрвеня. У самым горадзе застаўся толькі адзін батальён; рэшта былі разьмеркаваны па мястэчках: у Хіславічах, Шамаве, Крычаве, Татарску і інш., а таксама па вёсках, у большасьці па сялянскіх хатах.

З першых дзён было вельмі цяжка наладзіць сувязь з салдатамі.

У Лесава (дзед Фрэйдліна) знаходзіўся на кватэры адзін афіцэр палка, капітан Філончык. Да афіцэра з дакладам вельмі часта прыходзіў унтэр-афіцэр Клімаў. Фрэйдлін з Клімавым пазнаёміўся і падружыўся. Фрэйдлін нас таксама пазнаёміў з Клімавым. У часе аднэй пагулянкі ў гаі Фрэйдлін загаварыў адкрыта з Клімавым і запытаўся, ці паможа ён у «працы». Клімаў згадзіўся. Ад Клімава мы даведаліся, што салдаты накіраваны з загадам задушыць усякія забурэньні і сялянскія бунты і што полк гэта выканае.

Клімаў—цьвярскі цясьляр; да вайсковай службы ён працаваў у Петраградзе. Мы былі ўпэўнены ў яго шчырасьці; кемлівы і спрытны, ён нам тады шмат дапамагаў. Ён пазнаёміў нас з некалькімі салдатамі, мы праз яго пачалі перадаваць лістоўкі, наладжвалі гутаркі ў бярэзьніку. Таварышы Фрэйдлін і Максімаў пралезьлі ў лазьню ў той час, калі там мыліся салдаты і наладзілі там сход. Сход прашоў добра. Наагул праца ў тых умовах, у якіх мы знаходзіліся, ішла здавальняюча, больш рабіць чаго нельга было. У вёсцы, у якой знаходзіліся салдаты, мы амаль і не працавалі; было мала людзей і сіл, каб можна было пасылаць на працу, якая ўскладнялася яшчэ і тым, што вельмі часта перакідалі салдат. Іх перакідалі з аднэй воласьці ў другую. Сялянскае нездаваленьне рабіла ўплыў на салдат, яны «псаваліся» сярод гэтых абставін, і камандзіры прымушаны былі перакідаць салдат з месца на месца, перашкаджаючы гэтым прызвычаіцца і добра пазнаёміцца з насельніцтвам і яго нездаваленьнем.

* * *

Улетку 1905 году ў Мсьціслаўскім павеце было шмат здарэньняў экспропрыяцый. Была абрабавана манаполька ў вёсцы Шматаўка Асьлянскай воласьці, хацелі, але ня ўдалася, зрабіць экспропрыяцыю ў Мазолаўскім жаночым манастыры і інш. мясцох. Экспропрыятараў не знашлі, забойстваў у зьвязку з экспропрыяцыямі ня было. Як мы потым даведаліся, экспропрыяцыя была сымулявана самым загадчыкам манапольні і загадчыкам пошты. Заўсёды ў гэтых выпадках арыштоўвалі дзесяткі чалавек з ліку насельнікаў, зьбіралі сотні арыштаваных, якіх ставілі на вочную стаўку з загадчыкам манапольні, начальнікам пошты і г. д. Досыць было «нібы пацярпеўшым» сказаць: «цьвёрда ўпэўняць не магу, але, здаецца, была такая шапка, боты» і г. д., і ні ў чым не павінныя рабочыя адпраўляліся ў турму і засуджаліся на катаргу, а шмат іх ні ў чым не павінных павесілі.

[1]) Г. зн. праваліўся. **Увага рэд.**

Для характарыстыкі таго водгуку, які знаходзілі сярод організацыі дзеяньні паліцыі, адзначу наступнае здарэньне. На адным сходзе Лейбэр паставіў пытаньне (яго падтрымалі актывістыя Юдашэ, Хачэ) аб тэроры супроць паліцыі, бо прыстаў мястэчка Хіславічы (гэта вялікае мястэчка ў 32 вярстах ад Мсьціслаўля), дзе Лейбэр вёў палітычную працу, пабіў сялян; Лейбэр прапанаваў засудзіць прыстава на сьмерць, а таксама забіць Мсьціслаўскага паліцэйскага Яноўскага, які займаецца шпігоўствам і лупцаваньнем. Ён таксама прапанаваў зрабіць і «экс» (экспропрыяцыю) для павялічэньня сродкаў организацыі. Выніклі гарачыя спрэчкі і пропозыцыю Лейбэра прызналі шкоднай, супярэчнай програме РС-ДРП. Пропозыцыя была правалена, але шмат хто ў душы былі згодны з ім. Я не галасаваў, але таксама падтрымліваў пропозыцыю Лейбэра. Лейбэр заявіў, што ён з гэтай пастановай ня згодзен і пакідае за сабою права чыннасьці, ня выходзячы з організацыі.

Бясспрэчна, што задуманую справу Лейбэр выканаў-бы. Пэўна таксама, што знашлося-б шмат таварышоў, якія былі-б гатовы ажыцьцёвіць тэрорыстычныя акты і «эксы», бо цяжка апісаць, колькі ў той час энэргіі было, а скарыстаць яе ўсю пакуль што ня было як, бо тая праца, якую мы рабілі, не магла яе вычарпаць. Да таго-ж, на жаль, тэорытычна мы зусім ня былі падрыхтаваны. Гэта няўхільна выклікала абмылкі і няўменьне зразумець, што карысна і што шкодна.

Пропозыцыя Лейбэра не ажыцьцёвілася. Лейбэр быў арыштаваны, і ў часеператраскі ў яго знашлі нелегальную літаратуру. Ноччу яго прывязьлі ў Мсьціслаўль і пасадзілі ў турму. Аб гэтым арышце мы даведаліся толькі праз дзень...

### Кадзінскі бунт.

У ночы да мяне прышоў устрывожаны Фрэйдлін і паведаміў са слоў Клімава, што два батальёны салдат сягоньня ў ночы адпраўляюцца ў мястэчка Кадзін (на мяжы Мсьціслаўскага і Красьненскага паветаў), куды адпраўляюцца ўсе пяхотныя і конныя стражнікі, прыстаў і спраўнікі з прычыны таго, што там выбухнулі аграрныя паўстаньні. Камандзірам назначаны капітан Філончык, які склікаў усіх камандзіраў рот і ўзводаў і зьвярнуўся да іх з прамовай, што яны накіроўваюцца задушыць бунт, абараняць «веру, царя и отечество». На казарменым двары ён з такой самай прамовай зьвярнуўся да салдат. Салдаты крычэлі «ўра».

Я і Фрэйдлін пашлі на бульвар, каб спаткаць каго-небудзь з «сваіх». Мы спаткалі Юдашу, сказалі ёй аб усім, што ведалі. Сабралі ў яе кватэры іншых таварышоў і сталі радзіцца. Я ўзяўся паехаць у Кадзін, дзе жыў мой старэйшы брат—саматужнік, спадзяючыся, што ў яго мне нбудзе бясьпечней і я буду паведамляць Мсьціслаўль. Згадзіліся, але напаткалі перашкоду—ня было грошай, каб заехаць, а дастаць таксама ня было магчымасьці. Позна ў ночы Юдашэ пабегла шукаць Абрашу Гурвіча (ён працаваў у аптэцы), каб узяць у яго колькі рублёў. Гадзіны праз дзьве яна прынесла 3 рублі, і досьвіткам я паехаў у Кадзін.

Хурманом маім быў Лейвік, які ўжо не аднойчы вазіў нас... Ён ніколі не адмаўляўся вязьці: толькі скажы яму, зараз-жа запрагае каня і нават не таргуецца. Гэта быў заўсёды маўклівы, але сабе на ўме чалавек. Ён ня любіў шмат пытацца, даведвацца, але адчувалася, што ён шмат ведае і разумее...

Ён нядаўна перад тым вызваліўся з турмы, дзе прасядзеў 4 месяцы за тое, што ў яго ў возе ў мястэчку Крычаве знашлі 2 бутэлькі гарэлкі. Усё гэта здарылася з-за асабістае справы,—ён адмовіўся адзін раз везьці задарма жонку вураднiка, і за гэта хоць і непавіннага яго пасадзілі ў турму. На подпісы і просьбы, запэўняючыя, што ён ніколі гарэлкай не гандляваў і не гандлюе, не зьвярнулі ўвагі. Засудзілі і за судовыя выдаткі прадалі чатыры ліхтары, у якіх гарэлі суботнія сьвечкі, і адну падушку, пакінуўшы яму адну маленькую падушку. Ён гэта балюча перажываў... у гэтага маўклівага чалавека было страшэнна многа нянавісьці да паліцэйскага самавольства...

Я з ім парадзіўся, як нам лепей праехаць. Мне здавалася, што ўсюды залогі, затрымліваюць і абшукваюць і нават арыштоўваюць. У часе падарожы мы разгаварыліся. Ён быў вельмі здаволены, што з ім вядуць гутарку; я адчуваў, што ў душы ён жадае памагчы мне і спраўдзіць маё «давер'е», і мне самому было неяк шкода, што ад гэтага вернага карыснага Лейвіка я мушу таіць, куды і чаго я еду.

У Кадзін мы прыехалі каля другой гадзіны дня. Цераз масток нас прапусьцілі без перашкод: на мосьце стаялі чатыры салдаты, але, як мы потым даведаліся, быў загад у мястэчка прапускаць, а з мястэчка ня выпускаць без дазволу. Па мястэчку заднімі завулкамі я йшоў пехатой. Яно было перапоўнена салдатамі, стражнікамі і паліцыяй. На конях разьяжджалі казакі, якіх прыслалі з Смаленску, каб наладжваць парадак.

Я за сваё жыцьцё ня бачыў столькі войска. Мне было незразумела: навошта была патрэбна такая армія, і дзе сялянскія бунты, калі нічога ня відаць і навокал магільная цішыня...

Я прышоў к брату; ён спаткаў мяне з радасьцю. Усе ў доме былі напалоханы. Дзеці ляжалі прыкрытыя на ложку, нібы хворыя. Жонка брата толькі й рабіла, што хавала ў падпечак і ў іншыя месцы свае транты, лавіла курэй і замыкала ў хлеўчык і малілася, каб яўрэйскі вялікі бог з неба над імі зьлітаваўся. Брат запытаўся, чаго я прыехаў. Я яму сказаў, што даведаўся аб мясцовых здарэньнях і, непакоячыся за іх, прыехаў, каб даведацца, ці ўсе жывы і здаровы і ці ўсё добра абышлося.

Лейвік спыніўся ў каваля Шэйніна каля возера. Па маёй просьбе ён мне перадаваў тое, аб чым даведваўся. Да яго прыходу мяне аб тым-сім паведаміў брат.

Істота здарэньня была вось у чым: у часе самай гарачай працы на полі, калі ў доме заставаліся толькі дзеці, да Івана Харсеева, селяніна мястэчка Кадзіна, прыехалі стражнікі, зрабіліператраску і арыштавалі яго сына—Андрэя Харсеева.

Прычыны арышту былі наступныя: Андрэй вёў рэвалюцыйную працу, але па сваёй сялянскай адкрытасьці, дрэнна таіў сваю рэвалюцыйную дзейнасьць, ён правёў забастоўку ў маёнтку буйнейшага памешчыка Галынскага, вёў агітацыйную працу, карыстаўся вялікім уплывам і прыязьню сялян акольных вёсак. Зразумела, паліцыя пастанавіла «ўбраць яго». Яго пільнавалі, калі ён вяртаўся з поля ў дзень да хаты, арыштавалі і няпрыкметна завезьлі ў маёнтак Кадзін, які знаходзіўся побач з мястэчкам. Там яго зьвязалі, палажылі ў воз, наверх налажылі сена, два стражнікі надалі возу такі выгляд, як-бы яны нікога не вязуць, селі наверх і паехалі ў кірунку на Шамава. Але сястра Андрэя пабегла ў царкву і забіла трывогу. Бліжэйшыя сяляне кінуліся з поля конна, думаючы, што пажар...

Даведаліся яны, што арыштавалі Андрэя і, ненавідзячы памешчыка і стражнікаў, абураныя сяляне кінуліся даганяць стражнікаў.

Стражнікі не пасьпелі далёка ад'ехацца, іх дагналі, забілі і вызвалілі Андрэя. Сяляне на поле не вярнуліся. Узброеныя каламі, каменьнем, сякерамі, сахарамі, яны пашлі ў наступленьне на памешчыка.

Памешчык ніколі ня жыў у сваіх шасьцідзесяці маёнтках. Галынскі знаходзіўся заграніцай, тут-жа былі давераныя ўпраўляючыя, якія, з дазволу «пана» Галынскага, зьдзекваліся над сялянамі.

Мне потым апавядалі сяляне, што яны працуюць на памешчыка дарэмна больш, чым на сваёй гаспадарцы. Яшчэ горшым зрабілася становішча местачковага насельніцтва, сялян і яўрэяў, калі памешчык Галынскі, з дапамогаю провокатараў і падстаўных сьведак з свайго мястэчка, адабраў абшары мястэчка ў сваю ўласнасьць. Памешчык з мястэчкам судзіўся шмат год, у ўпартых разбураліся хаты і яны высяляліся з мястэчка. Памешчык на свае сродкі трымаў у сваіх маёнтках некалькі соцен стражнікаў. У вадным маёнтку Кадзіне было 100 стражнікаў, якія, з дапамогаю бізуноў, прымушалі ўсё насельніцтва быць пакорным.

Здарэньне з Андрэем вывела з цярплівасьці масы; гэта вялізная і страшэнная грамада паўстала на свайго адвечнага ворага-памешчыка. Пашлі ўсе прыгнечаныя, без падзелу па нацыянальнасьцях, з мястэчка і вёскі. Стражнікі разьбегліся. Бязумоўна, што калі-б у гэты гарачы час яны трапілі ў рукі паўстанцаў, дык іх-бы забілі. Гэта было бурнае мора, якое вышла з берагоў і зьнішчала перад сабою ўсё варожае і ненавіснае. Маса была гатова ісьці змагацца за вызваленьне, але ня было рэволюцыйнай організацыі, якая кіравала-б паўстаньнем.

Назаўтра напёрлі столькі стражнікаў, казакаў і салдат, што аб барацьбе не магло быць ніякай гутаркі.

Было больш за 500 стражнікаў, 200 казакаў, 3 батальёны салдат. Гэту карную экспэдыцыю нагналі з Смаленску, Краснага, Мсьціслаўля, Шамава, Горак і шмат якіх іншых месцаў.

Пачалася лютая расправа. Па паказаньні ўпраўляючага маёнткам, арыштоўвалі сотні сялян і лупцавалі іх да поўсьмерці. Ужываліся нячуваныя катаваньні і выпыты. «Паліцэйскае мастацтва» было выяўлена ў поўнай меры. Шмат сялян паўцякала ў лясы, пакідаўшы бяз ўсякага дагляду свае гаспадаркі. Акружаныя вайсковай сілай лясы абстрэльваліся. Жанчын казакі і стражнікі гвалтавалі. Сяляне, што паўцякалі з сваіх хат, былі абвешчаны бандытамі і з імі распраўляліся як «захочацца» стражніку. Вёскі былі запруджаны стражнікамі. Засеяныя палі зьнішчаліся, тапталіся. Вёскі Грышына, Высокае, Фёдараўка, Жукава, Андросава, Тамава, Вярбілова, Калодзіна, Быкава, Хацян, Выразуб, Дзянісаўка, Палом, Салонінава і маса іншых зьяўляліся вайсковым лягерам. Цэлымі днямі вазілі грамадамі зьбітых арыштаваных з крывавымі знакамі, са зьвязанымі назад рукамі. Гэту масу замучаных сялян трымалі пад моцнай вартай у пунях. Есьці ім не давалі. Крэўныя таксама ня прыносілі яды, бо баяліся, каб і іх не арыштавалі. Па вёсках і мястэчках панавалі нячуваныя рабункі і гвалт. У мястэчку ламалі крамы і раскрадалі тавары. Крамнікі не паказваліся і не пярэчылі, бо баяліся быць забітымі ці арыштаванымі.

Больш за ўсіх завіхаліся ў драпежніцтве і гвалтах наступныя стражнікі, якія і цяпер жывуць у Мсьціслаўлі: Чыхірын, Маслакоў з Мсьціслаўля і Яхім Паляўчонак і Яхім Малышоў з Кадзіна. Гэтыя жывыя сьведкі вельмі добра памятуюць свой удзел у гэтай справе.

Таксама добра памятуюць гэта кадзінцы, якія адчувалі ўсё гэта на ўласнай скуры; страцілі сваю свабоду і потым пашлі на катаргу, адкуль іх вызваліла толькі рэволюцыя: Іван Харсееў, Лука Харсееў, Левін, Іван Явонаў, Тодар Зубкоў, Рысін, Гаўрыкаў Савелі, Магідаў, Міхаэль Шэйнін, Пруднікаў, Уласаў і шмат іншых. З імі мне прышлося сядзець у Мсьціслаўскай і Магілеўскай турмах.

Уся вайсковая маса, пакуль «не заспакоіла насельніцтва», знаходзілася на яго ўтрыманьні: рабілі набегі на статкі кароў, забіралі дробную скаціну і апошні кавалак хлеба і інш. Стражнікі шаблямі забівалі сьвіней у дзень у самым мястэчку і вёсках. Пакалечаныя сьвіньні з адсечанымі нагамі ляжалі сярод вуліцы, і нема раўлі. Ніхто ня мог сьпірацца. У арыштаваных конфіскавалі ўсё, што было ў гаспадарцы...

Гэта бязьмерная самавольства цягнулася сем дзён. Увесь час ішло бязупыннае п'янства стражнікаў і казакаў. У маёнтку быў бровар, сьпірытусу было колькі хочаш, і «добры ўпраўляючы» не шкадаваў яго для ўсьмірыцеляў.

Я стараўся ўбачыцца з Андрэем Харсеевым, але мне не ўдалося. Ён разумна зрабіў—уцёк... А бяз яго я ніяк ня мог сабраць дакладных вестак аб тым, што здарылася. Ніякіх зносін з Мсьціслаўлем я ня меў, ніхто ня езьдзіў, нікога не прапускалі. Я хацеў спаткаць Клімава, але і гэта не ўдалося.

Я толькі даведаўся, што адна рота салдат, на чале з ротным камандзірам Віткоўскім, паўстала супроць рабункаў і гвалтаў п'яных стражнікаў і нават паставіла варту каля маёнтку, каб ня выпускаць адтуль стражнікаў. П'яных стражнікаў арыштоўвалі. Таксама быў арыштованы камандным начальствам роты Шамаўскі прыстаў, які на падводах «пад шумок» перапраўляў з Кадзіна к сабе ў Шамава (ад Кадзіна 15 вёрст) нарабаваныя рэчы. Чым гэта справа скончылася, невядома. Можна напэўна сказаць, што скончылася яна для прystава ня кепска. Чым больш арыштоўвалі, гвалтавалі, рабавалі працоўных, п'янствавалі, «навадзілі» парадак, тым больш паліцэйскія атрымлівалі падвышэньня ў рангах, ордэны і ўзнагароды.

Андрэй Харсееў праз некаторы час быў арыштаваны, і колькі часу ён сядзеў, ня ведаю. Цяпер Андрэй Харсееў працуе ў Маскве.

Домік у Бабруйску, дзе друкаваўся маніфэст І-га зьезду РС-ДРП.

Зьлева направа: Х. Мірская, Н. Пятроў-Паўлаў і Л. Галынскі.

# 1905 год у Полацку.

*Успаміны т. т. Вітэнбэрга, Пінт, Гуткіна і інш.*

Першыя гады XX сталецьця ў Полацку адзначыліся шэрагам забастовак. Забастоўкі звычайна адзначаліся разьбіваньнем вакон у гаспадароў і звальненьнем штрэйкбрэхараў.

У гэтыя-ж гады ў горадзе засноўваецца некалькі падпольных організацый.

Рэволюцыйныя мітынгі яўрэйскія рабочыя наладжвалі нават і ў сынагогах. Гэта рабілася так. У часе чытаньня торы на трыбуне зьяўляецца прамоўца. У дзьверах сынагогі для абароны прамоўцы зьмяшчаецца атрад організацыі. Нікога не выпускаюць. З прычыны таго, што рэлігійныя абываталі часамі галасам перашкаджалі прамоўцу, даходзіла справа і да бойкі.

### Протэст супроць здарэньняў 9 студзеня 1905 г.

У палове студзеня 1905 году прышлі ў Полацк з Піцеру весткі аб расстрэле рабочых, якія ішлі 9-га студзеня з пэтыцыяй да цара. Гэта выклікала вялікае абурэньне сярод рабочых нашага гораду. Быў наладжаны раней за ўсё агульны сход «Бунду» і РС-ДРП. Пастаноўлена было наладзіць дэмонстрацыю протэсту. Для абароны дэмонстрацыі наагул і часткова сьцягаў быў організаваны баявы атрад. На зборны пункт на дрывяным рынку сабралася каля 300 чалавек. Пасьля выступленьняў некалькіх прамоўцаў былі падняты чырвоныя сьцягі, і дэмонстрацыя са сьпевамі рэволюцыйных песень пашла па вуліцах гораду. На вуліцы К. Маркса дэмонстрацыю спаткаў атрад гарадавых з поліцмайстрам Фэйфэрам на чале. Пачулася ў дэмонстрантаў каманда: «Баявы рэволюцыйны атрад, наперад». Пачуўшы гэта, поліцмайстар спачатку быў адступіў. Сярод дэмонстрантаў чуліся воклікі асобных т.т., якія надавалі адвагі рабочым і заклікалі іх не разьбягацца. На гэтыя заклікі рабочыя адказвалі воклікамі: «Прэч самаўладзтва. Прэч вайну». Зьбянтэжаны поліцмайстар ня ведаў, што рабіць, і ў замяшаньні барматаў: «Ну, добра, панове, няхай будзе прэч самаўладзтва, толькі разыходзьцеся».

Тут раптоўна грукнуў провокацыйны стрэл, які выклікаў замяшаньне. Поліцыя хацела скарыстаць замяшаньне і адабраць ад рабочых чырвоныя сьцягі, але гэта ёй не ўдалося. Дэмонстрацыя ўсё-ж такі была разагнана шаблялі гарадавых. Каля 10-ці чалавек было арыштавана. Сярод арыштаваных былі: Кабалкінда Гінда дачка Полацкага буйнага гандляра мукой, у той час адна з баявых рэволюцыйна настроеных жанчын у Полацку, Гофман—радавы баявік з рэволюцыйнага атраду, Давін—таварыш, прысланы для рэволюцыйнай працы з Віцебскай організацыі «Бунду».

На другі дзень пасьля дэмонстрацыі рабочыя абвясьцілі політычную забастоўку, а поліцыя ў адказ на гэта абвясьціла ваеннае становішча.

### Вясновыя забастоўкі.

У весну адбыўся шэраг забастовак. Баставалі гарбары адзінкі, якія працавалі на крамнікаў. У забастоўцы прымалі ўдзел каля 70 чалавек. Выстаўляліся экономічныя вымаганьні. Забастоўка цягнулася два тыдні і скончылася перамогай забастоўшчыкаў. Пасьля забаставалі каменшчыкі. Забастоўка пачалася на паравым млыне Левіна, дзе забаставала каля 400 чалавек каменшчыкаў і чорнарабочых. Да бастуючых потым далучыліся каменшчыкі і інш. будаўнічых галін працы лікам каля 100 чалавек. Забастоўка цягнулася 3 дні.

### 1-га мая.

Напярэдадні 1-га мая была пашырана адозва да рабочых і работніц гораду Полацку. Організацыя РС-ДРП, што працавала тады ў вёсцы, разаслала па абшарах павету масу проклямацый. Для сьвяткаваньня 1-га мая РС-ДРП і «Бунд» організавалі блёк, які парассылаў сваіх прадстаўнікоў, каб зьняць у гэты дзень з работы ўсіх рабочых.

Сьвята прашло вельмі ўдала. Сход адбыўся за 4 вярсты ад гораду—у Салоніцкім лесе. Было на сходзе некалькі соцень чалавек рабочых. У горадзе хоць і ня было дэмонстрацыі, але сьвята адчувалася. Па вуліцах складаліся лятучкі па 5-6 чалавек. Крычалі «Прэч самаўладзтва» і разьбягаліся.

### Абстрэл дому Рыўліна.

У пачатку жніўня (прыблізна, 9-га) будаўнічыя рабочыя наладзілі сход, каб падрыхтавацца да забастоўкі. Месцам для сходу быў назначаны дом Рыўліна па Баравой вул. (раней цыкорная фабрыка). Былі парастаўлены вартаўнікі з паролем. Сход пачаўся а 8-й гадзіне ўвечары. Але раптам адзін з варты прыбег у дом і закрычаў: «Сход праваліўся». Дом быў ужо акружаны салдатамі. Пачаўся абстрэл. Кулі ляцелі проста ў вокны. Рабочыя, каб вырвацца з дому праз вокны, павыбівалі ўсе рамы разам са шкламі. Пачуўся нейкі незразумелы для салдат выбух. Салдаты, спалохаўшыся, адступілі ад сьцен дому. Гэта дало магчымасьць некаторым рабочым уцячы пад салдацкімі кулямі. У доме засталося чалавек 8. Салдаты, захапіўшы тых, што засталіся, пачалі лупцаваць іх прыкладамі стрэльбаў. У аднаго сталяра Фрыдмана, арыштаванага пасьля таго, як іх білі, была 21 рана.

У паліцмайстра Фэйфэра, які быў пры абстрэле дому, рабочыя пасьля абстрэлу кідалі каменьнем.

Назаўтра ў горадзе былі расклеены проклямацыі, ахвяраваныя абстрэлу, а рабочыя ў знак протэсту абвясьцілі політычную забастоўку.

У канцы гэтага-ж лета ў дзень адбыўся вялікі сход рабочых у Спаскім лесе. На сходзе пастанавілі наладзіць дэмонстрацыю ў горадзе. Перад вечарам на пляцы пачаўся мітынг. Не пасьпелі рабочыя расхінуць сьцягаў, як на іх накінуліся, з аднаго боку, пажарнікі з палкамі і бізунамі, а з другога—гарадавыя з голымі шаблямі. Пачалося лупцаваньне і арышты. Пры гэтым былі арыштаваны: студэнт Таргонскі (мітынгам кіраваў «Бунд»), Сакалінскі і другія.

### Забастоўкі чыгуначнікаў.

Улетку пачалася забастоўка сярод рабочых, якія будавалі Мікалаеўскую чыгунку. Першапачатковая забастоўка абхапіла чыгунку ад станцыі Дрэтунь да Полацку 2. Баставала да 3.000 чалавек—гарбароў, чорнарабочых, каменшчыкаў і інш. Цераз тыдзень першая тут забастоўка атрымала перамогу.

Рыга-Арлоўская чыгунка была захоплена хваляй забастовак пазьней.

Апавядаюць, што хваля забастовак на гэтай чыгунцы прышла з Рыгі. На разьвіцьцё забастоўкі па гэтай чыгунцы рабіў уплыў вельмі популярны ў той час таварыш, вядомы пад назвай «Максіма».

У кастрычніку ўвесь Полацак абхапіла агульная забастоўка. Усе рабочыя спынілі сваю працу. Тых, хто не хацеў баставаць, прымушалі. Рэволюцыйныя організацыі: РС-ДРП, «Бунд», партыя с.-р. організавалі аб'яднаны Рэволюцыйны Комітэт, які кіраваў і сачыў за агульнай забастоўкай, друкаваў проклямацыі, пашыраў рэволюцыйную літаратуру.

15 кастрычніка ўжо зачыніліся гандлёвыя ўстановы.

Пра поліцыю нібы і забыліся... Але хутка яна аб сабе напомніла.

### Абстрэл гораду салдатамі.

18 верасьня раніцою ў горадзе пачалі пашырацца чуткі, што цар выдаў маніфэст аб скліканьні народных прадстаўнікоў і аб розных «вольнасьцях». А поліцыя абвясьціла аб «вольнасьцях»... страляніпай па гораду. На верхнім рынку былі разьмеркаваны дзьве роты салдат, якія пачалі страляць у розных кірунках. Стралялі не ў бастуючых рабочых, не ў рэволюцыянэраў, нават ня ў «жыдоў», а проста ў тых, хто ішоў. Ад гэтай страляніны былі забіты: грамадзяне Ёсель Банк—27 год, Янкель Сьвярдлоў—37 год, Гутман Шацман—18 год, Залман Шальман—29 год, Лейба Абольскі—17 год, Доба Рохелева—65 год і Пётра Шалкоўскі 36 год [1]), а таксама ехаўшы селянін з канём. Паранена было некалькі дзесяткаў чалавек.

19 кастрычніка хавалі забітых гэтай страляніпай—яўрэяў. На могілкі ішлі з чырвонымі сьцягамі, нясьлі вянкі і гучна пелі рэволюцыйныя песьні. Хаўтурная процэсія спынілася каля турмы, вітала політычных вязьняў. Пасьля хаўтур шмат якія прамоўцы заклікалі зьнішчыць самаўладзтва, а адзін прамоўца—бальшавік, заклікаў да ўзброенага паўстаньня. З могілак разышліся з песьнямі і з воклікамі: «Прэч самаўладзтва» і «Няхай жыве соцыялізм». У гэты-ж дзень былі вызвалены політычныя вязьні.

20-га кастрычніка хавалі забітага 18-га кастрычніка тэлеграфістага Шалкоўскага. У царкве, дзе адпявалі цела Шалкоўскага, поп Емельяновіч, адзін з лютых чорнасоценцаў Полацку, сказаў гучную прамову, у якой адзначаў, што вінавайцамі гэтай сьмерці зьяўляецца не поліцыя, а яўрэі і інтэлігэнцыя. Хаўтурная процэсія мела недарэчны выгляд: паперадзе ішлі папы ў рызах з крыжамі і за імі гроб, а далей рэволюцыйныя організацыі з чырвонымі і чорна-жалобнымі сьцягамі. Папы сьпявалі свае модлы, а рэволюцыянэры—рэволюцыйныя песьні.

Пасьля хаўтур папы пасьпяшылі паразыходзіцца. Тут-жа быў організаваны вялікі мітынг. Выступалі прамоўцы ад розных організацый: ад «Бунду», РС-ДРП і нават ад радыкальна-буржуазных груп. Пасьля мітынгу ўсе накіраваліся вялікай дэмонстрацыяй па горадзе. З стрэх і бальконаў некаторых дамоў нас віталі і махалі чырвонымі сьцягамі. Поліцыя нічога не пачынала і не паказвалася на вуліцах.

У гэты самы дзень гарадзкая ўправа запрасіла прадстаўнікоў аб'яднанага рэволюцыйнага комітэту для організацыі аховы парадку ў горадзе. Была організавана народная міліцыя.

---

[1]) Шалкоўскі Пётра быў добрым прамоўцай і выдатным рэволюцыянэрам. Карыстаючыся з свайго становішча тэлеграфістага, ён перадаваў усе задачы і паведамленьні рэволюцыйным організацыям раней, чым царскім чыноўнікам.

На варту, разам з гарадавымі, былі пастаўлены міліцыянэры, назначаныя рэволюцыйнымі організацыямі.

### Пагром.

Чорнасоценцы ў горадзе Полацку тады зьвілі сабе моцнае гняздо. Кадэцкі корпус, вядомы Спаска-Ефрасіньнеўскі манастыр з надпісам: **«жыдам і сабакам увойсьце забаронена»**, другія два манастыры, Духоўнае вучылішча,—усе гэтыя ўстановы зьяўляліся для іх апорнымі пунктамі, дзе ў іх былі моцныя ячэйкі. На чале чорнасоценцаў стаялі: поп Емельяновіч, гарадзкі галава—гэнэрал Аргамакаў, мясцовы падатковы інспэктар Х... і інш.

22 кастрычніка пачалі пашырацца ў горадзе трывожныя чуткі, што чорнасоценцы рыхтуюць пагром. У гэты самы дзень адбывалася «мірная патрыотычная» маніфэстацыя. У гэты самы дзень увечар прадстаўнікі рэволюцыйных організацый другі раз былі запрошаны ў гарадзкую ўправу. Там ім абвясьцілі, што рыхтуецца патрыотычная маніфэстацыя з портрэтамі цара. Прадстаўнікі організацыі супярэчылі, даводзячы, што гэта маніфэстацыя выкліча пагром. Гарадзкі галава—гэнэрал Аргамакаў сказаў: «Я даю сваё гэнэральскае слова гонару, што пагрому ў горадзе ня будзе»... Але аб'яднаны комітэт, зразумела, ня мог верыць словам гэнэрала і пасьля наведаньня ў гарадзкую ўправу, зрабіў усе патрэбныя захады, каб забясьпечыць насельніцтва ад пагрому. Усяго было організована 6 атрадаў самаабароны, але атрады былі дрэнна ўзброены.

У нядзелю (23 кастрычніка) пасьля абедні на Пляцы Волі (тады «кадэцкі пляц»), сабраўся натоўп мясцовых чорнасоценцаў з папом Емельяновічам на чале. Тут было чорнасоценнае чыноўніцтва, старавеpы, гарадзкое хуліганства.

Прамоўцы-чорнасоценцы выступалі з пагромнымі прамовамі супроць яўрэяў і інтэлігэнцыі. Выступаўшы супроць пагрому адзін рускі інжынэр чуць ня быў забіты і ледзьве выратаваўся ад разьюшанага натоўпу.

З нацыянальнымі сьцягамі, з пяяньнем «боже, цара храні» і воклікамі «ўра» натоўп, з духавенствам на чале, накіраваўся да вокзалу. У некаторых яўрэйскіх дамох былі выбіты шыбы. У той час, калі натоўп вяртаўся назад, каля Інтэрнацыянальнай (быўш. Яўрэйскай вул.) прагучэлі провокацыйныя стрэлы. У натоўпе зьявіліся чуткі, што «жыды стралялі ў царскі портрэт». Портрэт быў сапраўды кінуты і растаптаны натоўпам, які кінуўся бегчы. Паліцыя пачала шукаць самаабарону. Пры дапамозе нейкага провокатара было адшукана памяшканьне 1-га бундаўскага атраду самаабароны, які знаходзіўся ў гасьцініцы «Золотой Якорь» па Савецкай вул. (быўш. Спаскай). Дом гэты быў акружаны салдатамі і паліцэйскімі. Дзьверы былі зламаны, і туды ўварваліся паліцэйскія на чале з гарадзкім галавою Аргамакавым і прыставам Шырачэнко. Аргамакаў прапанаваў кіраўніку атраду здаць зброю, запэўніўшы яго сваім словам «гонару» ў тым, што ён выпусьціць усіх, нікому не пашкодзіўшы.

Самаабарона была вельмі дрэнна ўзброена. Невялікі лік рэвольвэраў, бізуны і касьцеты,—вот і ўсё ўзброеньне. Здаецца, была адна стрэльба. Ня было бомб, якія ў такіх выпадках зьяўляюцца найлепшым сродкам супроць пагромшчыкаў. Некаторыя таварышы казалі, што ня трэба здавацца, прапануючы прабіцца са зброяй у руках, другія, бачачы, што на гэта німа ніякай надзеі, не згаджаліся. Нарэшце зброю аддалі.

Калі атрад пачаў выходзіць, баявікі адразу-ж напалі пад прыклады, штыкі і кулі чакаўшых іх салдат. Некаторыя т.т. літаральна былі замучаны да сьмерці, рэшта яшчэ жывыя былі дастаўлены ў больніцу, дзе шмат хто з іх ліку паўміралі ад ран. Апавядаюць, што жывымі ад усяго атраду засталіся толькі 3 чалавекі. Такі-ж самы лёс спаткаў атрад «Поалей Цыон», які знаходзіўся ў гасьцініцы «Парыж»; толькі некаторым удалося выратавацца, уцёкшы; рэшта былі замучаны на сьмерць або пакалечаны на ўсё жыцьцё.

Зьнішчыўшы атрады самаабароны, пагромшчыкі кінуліся рабаваць яўрэйскія крамы. Увесь верхні рынак і тыя крамы, што знаходзіліся побач з ім, былі зруйнаваны. Пагром цягнуўся некалькі гадзін, пакуль, нарэшце, паліцэйскія не адвялі пагромшчыкаў.

Праз дзень-два пасьля пагромаў у Полацку атрымалі газэты, якія паведамлялі аб тым, што хваля пагромаў прашла па ўсіх абшарах аседласьці, галоўным чынам, на поўдні. У Беларусі пагромы адбыліся: у Полацку, Воршы і ў некаторых мястэчках. У Менску-ж губарнатар Курлоў расстраляў дэманстрацыю на пляцы каля Віленскага вокзалу. Не заставалася ніякага сумненьня, што пагромы былі організаваны Дэпартамантам паліцыі праз мясцовыя групы чорнасоценцаў, якія пазьней організаваліся ў «саюз рускага народу».

**Братаньне яўрэйскай буржуазіі з пагромшчыкамі.**

Пасьля пагромаў у Полацку адбылося найагіднейшае здарэньне: яўрэйская буржуазія, разам са сваім духавенствам, мірылася з пагромшчыкамі і праваслаўным духавенствам. Пад гукі ўсіх званоў на Пляц Волі («кадэцкі пляц») сабраліся папы з протэсамі і іконамі, рабіны з торамі. Гаварыліся прамовы аб устанаўленьні згоды і спыненьні бязладзьдзя. Прадстаўнікі яўрэйскай буржуазіі з натоўпу крычалі: «Мір, мір!» і літаральна цалаваліся з пагромшчыкамі.

У сьнежні чакалі новага пагрому. З Менску выклікалі атрад рабочых лікам у 28 чалавек для абароны гораду; у чорных кашулях, у папахах, з вялікімі браўнінгамі—яны рабілі моцнае ўражаньне. Але на гэты раз пагрому ня было. Паліцмайстар, як гаварылі тады, атрымаў вялікі хабар.

Так скончыўся ў горадзе Полацку 1905 год.



**І Багдановіч.**

# Успаміны аб рэволюцыйным руху ў Слуцкім павеце.

Цэнтрам рэволюцыйнага руху ў Слуцкім павеце было м. Капыль, дзе ў свой час працавала група актыўных народавольцаў. У пачатку 1900-х гадоў у Капылі організавалася група соцыял-дэмократычнай рабочай партыі, якая ахапіла наступныя раёны: Нясьвіскі, Навагрудзкі, Клецкі, Ляхавіцкі, Цімкавіцкі, Слуцкі і Старобінскі. Троха пазьней організавалася група «Бунду». Наша соцыял-дэмократычная група мела сваю надпольную бібліотэчку на Нясьвіскай вул. у доме Рабіновіча.

Актыўнымі працаўнікамі тады былі: Шафрановіч «дзядзя»[1]) і гімназісты Карповіч, які пазьней забіў міністра Богалепава. Прыяжджаючы ў часе школьных адпачынкаў, студэнты і інш. моладзь вялі ў нас напружную рэволюцыйную працу. У 1902 годзе ў ліпені м-цы, аб адзьнаццатай гадзіне ўвечар быў забіты нашай організацыяй провакатар настаўнік Бэргер.

Пасьля гэтага ў нашым мястэчку было шмат арыштаў. Усяго было арыштавана 15 чалавек, з якіх частка, адседзеўшы 2-3 месяцы, была вызвалена, дзякуючы клопатам тав. Чэрнушэвіча Зьмітры, які ў тую пару служыў пісьмаводам у прыстава, а тры чалавекі: Красіцкі Іван, Драгунскі і Н. Малевіч, былі адпраўлены ў турму, як удзельнікі забойства. Пры гэтым трэба адзначыць, што галоўныя ўдзельнікі гэтага тэрорыстычнага акту былі вызвалены.

Вышэйпаказаныя тры таварышы да суду праседзелі ў турме 8 месяцаў. Намі былі запрошаны ў якасьці абаронцаў славутыя тады на політычным процэсам, прысяжныя паверанныя: Зарудны з Пецярбургу, Ратнер з Кіеву і Калашнікаў з Гомлю. Процэс цягнуўся тры дні. Царскаму суду не ўдалося выкрыць сапраўдных удзельнікаў справы, і нашы таварышы былі вызвалены.

У 1903 годзе мы ўжо наладзілі сувязь са шмат якімі вёскамі і абхапілі значны абшар. У лясох і на балоце ў урочышчах пад найменьнем: «Хайчына балота», «Яночкаў Лясок» і «Кунтораўка» мы наладж-

---

[1]) Дзядзя Шафрановіч быў раней народнікам. потым зрабіўся марксыстым. Гэта быў інтэлігэнтны, усебакова адукованы чалавек. Аб сабе самым, аб сваім уласным жыцьці ніколі не клапаціўся і жыў вельмі бедна. Усе свае сілы і энэргію ён ахвяраваў справе разьвіцьця капыльскай рэволюцыйнай моладзі. У Капылі ён офіцыяльна займаўся прыватнымі лекцыямі. Дзякуючы яго ўплыву і бязупыннай працы, пад яго кіраўніцтвам залажылася Капыльская організацыя РС-ДРП, дзе ён быў членам комітэту аж да 1907 г. У пачатку 1907 году ён, каб ухіліцца ад арышту. павінен быў пакінуць Капыль і жыў каля двох год нелегальна ў Менску пад найменьнем «Віктар». І там ён ня спыняў сваёй рэволюцыйнай дзейнасьці і бесьперапынку працаваў у партыі. У канцы 1908 году поліцыя пачала яго энэргічна шукаць. Жыць у Расіі для яго зрабілася немагчыма, і ён паехаў у Амэрыку. дзе і цяпер яшчэ жыве ў гор. Сіоксіці.

вялі досыць часта сходы, мітынгі, вялі падпольную працу, распаўсюджвалі літартуру, разьбіраліся ў супярэчнасьцях паміж цьвёрдымі і мяккімі «Искровцами»[1]).

У 1904 годзе дзейнасьць нашай організацыі значна ўзрасла і набыла такія разьмеры, што паліцыя не на жарты занепакоілася. На дапамогу паліцыі ў мястэчка былі прысланы дзьве роты салдат. Сярод салдат прысланых нам дзвёх рот, мы таксама з посьпехам вялі працу. Пры разьмеркаваньні па кватэрах салдаты наўмысьля расстаўляліся па кватэрах «крамольнікаў», у некаторых па 2, па 3 чалавекі, а ў Тараса Бульбы нават 7 чалавек. Нам гэта было зручна. Пачынаючы з асьцярожных гутарак за бутэлькай піва мы пасьпелі за кароткі час з'агітаваць салдат, якія рабіліся нашымі патайнымі сябрамі.

Надышоў 1905 год. Да гэтага часу наша організацыя мела 115 членаў, ня прымаючы пад увагу сялян, спрыяючых і дапамагаючых нам.

У 1905 годзе намі былі наладжаны забастоўкі краўцоў, гарбароў і будаўнікоў. Апрача таго, пад нашым кіраўніцтвам ажыцьцяўляліся забастоўкі батракоў у вакольных маёнтках.

У кастрычніку 1905 году была організавана агульная забастоўка. Былі пасьсяканы тэлеграфныя слупы і перарваны дроты на Грозаўскім і Несьвіскім гасьцінцах. У часе мітынгу і дэмонстрацыі мы сустрэліся з паліцыяй, пры гэтым чуліся стрэлы з рэвольвэраў, таксама спаткаліся з групай чорнасоценцаў, якія з каламі ў руках ішлі супроць дэмонстрантаў. Нашы хлопцы далі ім належны адпор. Кіраўнікоў і правадыроў чорнасоценцаў і монархістых: Антося Сьнітко, Ф. Контуса, Д. Махнаева мы як сьлед абабілі.

Зброю мы атрымоўвалі з Фінляндыі ад тав. Рэдзьеўскага, які пад відам сьлёсара працаваў у маёнтку Кацельнікі ў Еткі. Таксама па даручэньні с.-д. групы мы забралі стрэльбы з вайсковага складу ў гор. Несьвіжы ў ліку 250 шт. Стрэльбы вывозіліся намі запакаваныя ў скрынкі нібы яйкі.

Праца сярод салдат вялася энэргічна. Салдаты былі на нашым боку і з прычыны гэтага начальства часта мяняла роты, каб яны не пасьпелі папасьці пад наш уплыў.

Характэрны яшчэ наступны выпадак непаслухмянства салдат. Аднойчы паліцыя шукала лес высечаны ў памешчыка. Забраць знайдзеныя лясныя матэрыялы ёй не ўдалося. Тав. Чыпуль кінуўся на урадніка і зьбіў яго. Уся моладзь і старыя таксама кінуліся на паліцыю, а салдаты, што стаялі тут-жа, глядзелі і ўсьмяхаліся. Страляць яны адмовіліся, і прышлося царскім паслугачом няслаўна ўцякаць і працу сваю кінуць нявыкананай, а мы, сьпяваючы рэволюцыйныя песьні, пашлі дэмонстраваць па гораду.

Адзін раз мы наладзілі сход у доме Шлеймовіча на базарнай вул. У часе сьпяваньня рэволюцыйных песень наскочыў разьезд стражнікаў, якія пачалі разганяць нас. Арыштаваць нас ім не ўдалося, гэтаму перашкодзілі члены баявой організацыі, якія былі там на сходзе. Тав. Чыпуль першы скамандаваў: «узбройвайцеся, хто чым можа»; узброеныя таварышы былі пастаўлены каля акон і дзьверей, каб у дом не маглі ўлезьці стражнікі. Калі стражнікі кінуліся ў дзьверы, тав. Чыпуль ударыў аднаго бутэлькай так, што кроў пацякла па яго твары, потым ён спрытна вырваў у ваднаго стражніка стрэльбу, пасьля

[1]) «Цьвёрдымі» называліся бальшавікі. «мяккімі»—меншавікі.

чаго нам стала лягчэй змагацца з ворагамі. Азьвярэлыя стражнікі пачалі сьвістаць і клікаць к сабе на дапамогу. А мы, сьпяваючы «На баррикады мы пойдем, конституцию возьмем, марсельезу запоем», упарта бараніліся. Потым стражнікі кінуліся ў акно. Пры гэтым была адабрана стрэльба ў другога стражніка. Мы атрымалі перамогу, маючы дзьве стрэльбы ў сваіх руках. Стражнікі пачалі перамаўленьні аб згодзе, якая і была з імі заключана. Яны ўзялі дзьве бутэлькі гарэлкі, запэўнілі ў тым, што ня будуць ні аб чым гаварыць, прасілі вярнуць ім стрэльбы.

* * *

Капылянін Гомза працаваў у вайсковай організацыі. Ён быў арыштаваны і адпраўлены ў Менскую турму. Пры нашай дапамозе, яму ўдалося ўцячы. Ён некалькі дзён хаваўся ў Капылі, чакаў пакуль яму зробяць пашпарт. Перад выездам яму зажадалася разьвітацца са сваімі бацькамі. Поліцэйскія яго злавілі і арыштавалі, мы пастанавілі ўжыць усе меры, каб яго вызваліць.

Калі Гомзу адправілі ў Слуцк праз Раманава, намі былі накірованы туды члены баявой організацыі у тым ліку і я, каб зрабіць засаду ў часе падарожы. Была зроблена спроба вызваліць яго падчас адпачынку ў Раманаве, але яна не ўдалася. Ён замяшаўся і пабег ня туды, куды мы яму паказалі, і яго злавілі. Ён быў вызвалены потым у Слуцку пры дапамозе мясцовых таварышоў. Гомза, уцёкшы, некаторы час хаваўся пры яўрэўскай сінагозе на Школьным двары, а потым паехаў заграніцу.

* *

Адзін раз, у часе сходу на Клецкім завулку, пад аконом апынуўся стражнік Раман Малевіч і падслухваў, што робіцца ў доме. Наша варта ўбачыла гэта і прапанавала яму зайсьці ў дом. Ён быў прымушаны пакарыцца. У памяшканьні ён сам з сябе скінуў шаблю і рэвольвэр, стаў на калені і пачаў маліць даравать яму, клянучыся, што больш ня будзе выдаваць і адмовіцца ад сваёй ганебнай пасады. Ён нават стаў на стол і закрычэў як мага галасьней: «Прэч самаўладзтва! Няхай жыве дэмократычная рэспубліка!»

Скончыць бесьперашкодна сход нам не ўдалося, бо падасьпеў разьезд стражнікаў з вураднікам Рагачовым начале. Змагацца ня было магчымасьці, і мы групамі пачалі разьбягацца. Група, з якой я ўцякаў, напаткала разьезд у завулку. Далей уцякаць ня было куды. Што тут было рабіць? Я скамандваў: «пальба з калена», і ўсе нашы затрышчалі. У некаторых былі рэвольвэры. Гэты манэўр даў добрыя вынікі: «адважныя» стражнікі спалохаліся і кінуліся ў другі бок, а нам удалося ўцячы.

У 1906 годзе ў мястэчку Капыль сьвяткавалі гадавіну «крывавай нядзелі». К гэтаму часу ў м-ка быў прысланы атрад конных стражнікаў. Мы правялі агітацыю сярод грамадзян м-ка Капыля, каб яны не давалі памяшканьняў прысланым стражнікам. Бойкот стражнікаў меў посьпех, ня гледзячы на пагрозы і загады адміністрацыі. Грамадзяне не давалі стражнікам памяшканьня. Прышлося паставіць стражнікаў у доме аднаго з мясцовых поліцэйскіх.

У дзень сьвяткаваньня па ўсім мястэчку былі пашыраны і панаклейваны проклямацыі. Крамы былі зачынены.

Стражнікі зрывалі са сьцен проклямацыі і прапанавалі адчыніць крамы, але іх ня слухалі, ня гледзячы на адпаведны загад іспраўніка, з пагрозай штрафам да 300 руб. і арыштам.




Баравая вул. і месца, дзе была цыкорная фабрыка Рыўкіна.



Група параненых у часе абстрэлу гор. Полацку ў 1905 годзе.

Дэманстрацыя на пляцы прывабіла вялікую масу народу. Зьявіліся сяляне з акольных вёсак. З усіх бакоў чуліся воклікі: «Прэч царскіх наймітаў!» «Няхай жыве дэмократычная рэспубліка!». Паліцэйскія кінуліся разганяць натоўп, ужываючы бізуны, і нават далі залп у паветра. Члены нашага баявога атраду ў адказ зрабілі некалькі стрэлаў. Тав. І. Чыпуль, член баявога атраду, не сьцярпеў і выцяў стражніка Чудноўскага. Тады стражнік Крывашэй выстраліў, нацэльваючыся ў Чыпуля, але трапіў не ў яго, а ў рабочага, сталяра Гінзбурга. Параненага адправілі ў больніцу. Від пралітай крыві страшэнна абурыў прысутных. Яны пачалі закідаць стражнікаў каменьнем, кідалі на іх сякерамі і каламі. Стражнікі адступілі і схаваліся ў двор каля канцэлярыі прыстава. Пасьля гэтага ўвесь дзень мястэчка было пад нашым загадам. Дэманстранты да самага вечару вандравалі па вуліцах, сьпяваючы рэвалюцыйныя песьні.

---

Ф. Харах.

# Аграрныя непарадкі ў мястэчку Пясочын.

Здарэньні, аб якіх я пішу, адбываліся ў м-ку Пясочын, Слуцкай акругі, у 1903 годзе.

У мястэчку ў той час было да 300 сялянскіх двароў, пераважаючая большасьць якіх была малазямельныя з калькасьцю зямлі 1 да 3 дзесяцін.

Яшчэ за многа год да вызваленьня сялян у Расіі, сяляне мястэчка пачалі судзіцца з памешчыкам Наркевічам-Іодко за сваё вызваленьне, якога ім удалося дабіцца у 50-х гадох.

Але з вызваленьнем іх з-пад прыгону, яны вызваляліся і ад зямлі, якую яны займалі. Сяляне былі залічаны ў «мяшчане», і за зямлю, якою яны карысталіся, яны, паводле пастановы суду, павінны былі плаціць памешчыку арэндную плату.

Да 1902 году за большасьцю сялян лічыліся вялікія нядоімкі: хто не плаціў арэндную плату за 2-3 гады, а хто і за 10 год.

У пачатку зімы 1903 году ў мястэчка зьявіліся спаганяць нядоімкі Узьдзенскі станавы прыстаў, некалькі ураднікаў з суседніх валасьцей і некі важны пузач—прадстаўнік ад павету ці губэрні. Скаціну шмат якіх сялян яны сабралі ў стадоле карчмы, каб прымусіць сялян заплаціць нядоімкі, а калі не заплацяць—прадаць скаціну з торгу, або пагнаць яе з сабою.

Лютае абыходжаньне паліцыі, лупцаваньне ёю сялян у часе выгануската з іх хлявоў, у атмосфэры і без таго напоўненай злосьцю і ненавісьцю да паліцыі і памешчыка, вельмі ўзбурылі сялян, яны стыхійна, без усякага організацыйнага кіраўніцтва, умовіліся не плаціць ні граша, нават калі-б забралі з сабою ўвесь скот.

А 12 гадзіне дня на ганку карчмы пасядала ўсё начальства. Ужо адчуваўся бунтарскі настрой. Каб перамагчы згоднасьць сялян, торг пачалі з каня мясцовага кулака Заламея Ката, які, як ужо ведалі, быў згодзен заплаціць. Ён вінен быў больш за 300 руб. і хацеў ужо заплаціць гэтыя грошы. «Дзядзька не плаці», загаласілі мужчыны і бабы. Адзін з ураднікаў выцяў бізуном некага з натоўпу. Гэта зьявілася сыгналам. Абураны натоўп кінуўся на паліцыю і пабіў ураднікаў, замкі ў стадоле паламалі і скаціну разагналі па дварох. Прыставу ўдалося ўвярнуцца ад лупцоўкі; ён забег у заднія пакоі карчмы, зламаў акно, выскачыў на вуліцу і сеў у сваю карэту. Здалёк кідалі ў яго каменьнем і балотам. «Будзе вам, як сьлед за ваш учынак», пагразіў прыстаў уцякаючы.

Памешчык Наркевіч-Іодко, едучы ў мястэчка, даведаўся, што там робіцца, і палічыў за лепшае вярнуцца ў свой маёнтак і тэлеграфаваць губарнатару аб гэтым здарэньні.

Увесь дзень настрой сялян быў узьняты. Прагнаўшы паліцыю, яны лічылі сваю справу выйгранай.

Але ўжо назаўтра зьявілася 20 жандараў, а на трэці дзень раніцою яшчэ столькі-ж: была нядзеля, і жандары шнырылі па рынку, шукаючы крамольнікаў.

Падвечар у мястэчка прыехала каля дзесятка карэт: тут быў Ігуменскі іспраўнік, жандарскія палкоўнікі, судовыя дазнаўцы і інш. У вапошняй карэце ехаў сам Менскі віцэ-губарнатар. У мястэчку ўжо рыхтаваліся да яго прыезду. Вышлі спаткаць з хлебам-сольлю. Ад яўрэяў зьявіліся рабіны, сінагогальны старшыня і некалькі іншых «паважаных грамадзян».

«А вы ня прымалі ўдзелу ў бунце?» спаткаў іх віцэ-губарнатар.

Калі яму адказалі, што не, ён згадзіўся ўзяць хлеб. Сялянскую-ж дэлегацыю, якая таксама спаткала яго з хлебам ды сольлю, ён адмовіўся прыняць.

У вечары з Менску прыбыў карны атрад: 2 поўроты салдат, усяго 130 чалавек з камандным складам батальёну, на чале з батальённым камандзірам.

Салдат разьмеркавалі не па сялянскіх хатах, а ўсіх згуртавалі ў двох дамох, што стаялі побач на рынку.

Назаўтра раніцою губарнатар склікаў сялян на рынку каля царквы і казаў перад імі грозную прамову. Сяляне кінуліся на калені і прасілі даравацъ ім.

«Злачынцам няма дарунку»—быў яго літаральны адказ. Віцэ-губарнатар у той-жа дзень паехаў. Тут пачаліся арышты пачынальнікаў і ўдзельнікаў бунту. Арышты і выпыты цягнуліся некалькі месяцаў; арыштавана было да 30 чалавек сялян і сялянак ужо сярэдняга веку.

Салдаты прастаялі ў мястэчку 14 дзён. У сельскага старасты салдаты рэквізавалі карову, у некаторых інш. сялян—сьвіней Памешчык частаваў салдат: выдаваў ім па «driчку» і па сітніку.

Арыштаваныя прасядзелі ў Ігуменскай турме па 6-8 месяцаў да суду, а потым большасьць з іх засуджана была яшчэ на 4 месяцы. Па амністыі яны былі вызвалены да тэрміну. З пацярпеўшых мне вядомы: 1) Дамянік Клюйка, 2) Фёдар Лапіч, 3) Кацярына Нікановіч, 4) Даніла Клюйка, 5) Васіль Вастрэйка, 6) Юліс Стасевіч, 7)Аліпа Боран. Першыя 4 жывуць і дагэтуль.

Нядоімкі спаганяліся і пасьля таго, а зямля была хутка сялянамі выкуплена цераз банк на 36 год. Пачалі сяляне зноў плаціць ды плаціць. Плацілі-б і цяпер, ды Кастрычнік іх ад гэтага вызваліў.

С. Прудніkaў.

# Як царскія каты расправіліся з сялянамі ў вёсцы Сямёнаўка.

Рэволюцыйны рух у вёсцы Сямёнаўка, Калінінскае акругі пачаўся з чытаньня падпольнай літаратуры, якую дастаўляў Лазар Васілеўскі—найбольш пісьменны чалавек гэтае самае вёскі. Хутка пачалі наладжваць мітынгі. Сходы адбываліся ў лесе, а часамі на хутары, дзе жыў лясьнік, за дзьве вярсты ад вёскі Сямёнаўка. Дазвалялі быць на сходзе, галоўным чынам, дарослым, але былі і падлеткі. Каб ня выклікаць падазронасьці, Васілеўскі браў заўсёды з сабой гармонь.

У 1905 г., калі абвешчана была свабода, моладзь, пад кіраўніцтвам Васілеўскага, Якуба Старавойтава ды інш., пачалі наладжваць на вёсцы маніфэстацыі з чырвонымі сьцягамі і са сьпевамі рэволюцыйных песень.

Аб гэтых маніфэстацыях поп Бутома данёс земскаму начальніку Чалоўскаму. Апошні зьявіўся ў вёску якраз тады, калі група моладзі была на гуртковых занятках. Пабачыўшы земскага, хлапцы разьбегліся. Хутка пасьля гэтага ў Сямёнаўку зьявіўся карны атрад, які складаўся з 40 чалавек драгун, 18 стражнікаў і жандараў пад кіраўніцтвам земскага начальніка ды прыстава. Сяляне спаткалі іх з хлебам ды сольлю. Пачуўся загад: «Шапкі зьняць ды стаць на калені».

300 чалавек прастаялі на каленях на сьнягу 5 гадзін. Дзесяцкага Яўхіма Даніленкава і старасту Ўласа Даніленкава пры выпытах лупцавалі бізуном, у старасты палову барады выдралі, але адказу, дзе Лазар ды ўсе, што схаваліся, не атрымалі.

Стражнікі наламалі ляску ды сталі ў два рады. Потым пачалі праганяць сялян скрозь шых ды люта білі іх кіямі і прыкладамі стрэльбы; праганялі ўсіх раз з пяць. Твары ў шмат каго былі акрываўлены, не хапала зубоў, сьпіны былі спаласаваны.

Потым пачалося катаваньне; здымалі боты, скідалі штаны, кідалі голага на сьнег і лупцавалі. Кіі ў катаў парабіліся на шчэпкі. Сьнег пачырванеў ад крыві.

Драгуны ў часе бойкі ганяліся за дзеўкамі, лавілі курэй ды смажылі. Такія самыя расправы над сялянамі рабілі ў цэлым шэрагу вёсак: у Халдзееўцы, Царковішчы ды інш. У Царковішчы спалілі нават некалькі хат, дзе наладжваліся сходы. Так старанна душылі «крамолу» і баранілі памешчыкаў ды цара іхныя вернападданыя служкі.

Жыхары былі так тэрорызованы, што людзі цэлыя месяцы бадзяліся па лесе, хаваліся ў гумне. Больш выдатныя працаўнікі, як Сяргей Васілеўскі, Лазар Васілеўскі, Стафан Прудніkaў, мусілі зусім пакінуць родную краіну (апошнія два эмігравалі ў Амэрыку).

---

# ДАДАТАК

**Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!**

Расійская С.-Д. Р. Партыя.

Слава тым, хто загінуў у барацьбе за свободу!

## № 1. Грамадзянам гор. Менску.

Ужо! Ужо дарованая констытуцыя ахварбавалася крывёй грамадзян! Мы не пасьпелі яшчэ на ўчарайшым мітынгу высьветліць, што гэта за констытуцыя з самаўладзтвам, як самаўладзтва паклапацілася паказаць гэта відавочна. Самаўладзтва ня можа жыць бяз крыві народу, і пакуль яно існуе, кроў будзе ліцца шырокім струменем. Самаўладзтва—гэта пастаяннае ашуканства, гэта пастаянная пастка, гэта—рэкі крыві ды сьлёз, гэта гвалт над целам і душой, які ні на хвіліну ня спыняецца. І ад гэтага ня выратуе ніякая самаўладная констытуцыя. Крывавы Мікалай мог даць толькі крывавую констытуцыю, такую констытуцыю, якая пакідае яму магчымасьць і свабоду страляць у бяззбройны народ.

Толькі народная констытуцыя, народнае кіраваньне, дэмократычная рэспубліка здольна выратаваць з гэтага жаху крыві ды сьлёз. Няхай кроў забітых пры царскай свабодзе навучыць жывых разумець і змагацца за сапраўдную свабоду, за канчатковае скасаваньне самаўладзтва ды монархіі.

Кроў загінутых галосіць. Яна кажа: не давайце веры цару нават тады, калі ён гаворыць пра свабоду. Не давайце веры зьверу, калі ён ужо, здаецца, здыхае. Хутчэй, хутчэй дабівайце яго! Кожная лішняя хвіліна жыцьця яго—гэта сьмерць рабочых ды сялян, жанчын ды дзяцей, маладых ды старых, расійцаў ды яўрэяў, армян ды татар. Гэтая кроў кажа: вы занадта рана ўсьцешыліся. Не павінна быць радасьці на расійскай зямлі, пакуль жыве на ёй упыр—самаўладзтва, з констытуцыяй або без яе—усё роўна!

Раніцой Менск плакаў ад радасьці з прычыны констытуцыі, у вечары крывавымі сьлязамі расплаціўся за сваю радасьць. Няхай-жа крывёй забітых кожны паасобку і ўсе разам прысягнуць змагацца з царом да канца, да дэмократычнай рэспублікі! Цар з свайго боку абліў царскую свабоду народнай крывёй. Мы аддамо, мы абальлем гэтую самаўладную констытуцыю крывёй самаўладцаў і памоцнікаў цара і гэтым толькі даб'емся свабоды. Паўстаньце, вазьмецеся за зброю! Вось наказ загінутых на полі барацьбы. Няхай горад надзене жалобу, няхай спыніцца ўсё жыцьцё, і ў жалобным спакоі, у пахмурай цішы падрыхтуем апошні ўдар. Пакуль-жа няхай увесь горад вымагае: 1) каб неадкладна звольнілі з пасады менскага губарнатара Курлова, паліцмайстра Норава, палкоўніка Вільдэмана-Клопмана і жандарскага падпалкоўніка Марчанку і зараз-жа пачалі судовае дазнаньне супроць усіх асоб адміністрацыі і вайсковай улады, вінаватых у крывавай бойні 18 кастрычніка; 2) каб распусьцілі ўсю, якая ёсьць, паліцыю і перадалі ўсю справу аховы парадку і грамадзянскай небясьпекі ў рукі гораду і неадкладна вывелі з гораду казакаў; 3) каб забясьпечылі

сем'і забітых і параненых за кошт дзяржавы; 4) каб свабода сходаў была забясьпечана адсутнасьцю і неўмяшаньнем адміністрацыі і ўзброенай сілы.

Гэтыя вымаганьні, выпрацаваныя з агульнай згоды Менскай групы РС-ДРП, Менскага Комітэту «Бунду», Менскага Комітэту ПСР, Менскага аддзяленьня Ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў павінна зрабіцца вымаганьнямі ўсяго гораду.

Тым, хто загінуў,—слава, хто жыве—барацьба да канца.

Прэч самаўладзтва, няхай жыве дэмократычная рэспубліка!

**Няхай жыве змагальніца—рабочая кляса—і яе правадыр—соцыялдэмократыя!**

**Менская група Р. С.-Д. Рабочай Партыі.**

---

## № 2.

### Тэлеграма 7 сьнежня 1905 году.

Таварышы! Урад, які ўступіў пад націскам усеагульнай забастоўкі і абвесьціў 17 мінулага кастрычніка маніфэст аб свабодзе слова, сходаў, саюзаў і незачэпнасьці асобы, цяпер адмаўляецца ад свайго маніфэсту. Замест свабоды слова, ён зачыняе лепшыя газэты, замест свабоды сходаў—разганяе іх, замест незачэпнасьці асобы—арыштоўвае Савет рабочых дэпутатаў у Пецярбурзе, членаў сялянскага саюзу—у Маскве ды іншых грамадзян у другіх мясцох Расіі. Ён выкідае сотні тысяч заводзкіх рабочых на вуліцу, ён замірае галодных сялян пры дапамозе гэнэрал-ад'ютантаў куляметамі, ён аддае пад вайскова-палявы суд паўстаўшых сялян і матросаў.

Таварышы! Кожны з нас разумее, што без адзначаных вышэй вольнасьцяй і нашых саюзных організацый наша экономічнае і прававое становішча ня толькі не палепшыцца, але будзе ршчэ горшым. Урад напярэдадні банкруцтва, і мы рыхтуем страціць нават тыя грошы, што палажылі ў пэнсыённую касу ашчаднасьці. Ён забараняе і парушае вольнасьці, абвешчаныя маніфэстам 17 кастрычніка, і такім чынам сам робіцца бунтаўнічым; таму крамольнікі—гэта ня тыя, хто змагацца за свабоду, але сам урад, які парушае ім самым выданы закон.

Таварышы! Далей цярпець нельга! Урад кліча нас на новую бойку. Няхай будзе так. Віна за вынікі кладзецца на злачынны пецярбурскі ўрад.

Конфэрэнцыя дэпутатаў ад 29 чыгунак супольна з цэнтральным бюро Ўсерасійскага Саюзу чыгуначнікаў далучаецца да пастановы Савету рабочых дэпутатаў Пецярбургу ды Масквы і абвяшчае 7 сьнежня агульную політычную забастоўку. Абвяшчаем забастоўку і бяромся вярнуць войска з Манчжурыі і даставіць яго ў Расію значна хутчэй, чымся гэта зрабіў-бы ўрад, прычым зьвяртаемся да нашых братоў—вайсковых Манчжурыі, каб яны самі, як будуць ехаць па чыгунках, дапамагалі нашым організацыям і падтрымлівалі парадак, наладжаны намі. Пасажыраў, якіх захопіць забастоўка ў дарозе, мы даставім да бліжэйшага вялікага гораду па дарозе; апрача таго, мы прымем усе меры дзеля перавозкі хлеба для галадуючых сялян і харчу для таварышоў на калеі.

Ад старога ўраду чакаць больш няма чаго, ён зжыў сябе; толькі ўстаноўчы сойм, абраны ўсеагульным, роўным, простым і патайным галасаваньнем выведзе Расію з таго становішча, у якім апынулася

яна, дзякуючы злачыннаму ўраду, і датуль, пакуль свабодзе пагражае нсбясьпека, агульная політычная забастоўка ня можа спыніцца—яна павінна цягнуцца.

І вось, таварышы, сьмела і дружна на барацьбу за свабоду ўсяго народу; мы не адны: гарадзкі пролетарыят, перадавое сялянства і сьвядомая частка флёты ўжо паўсталі за народную свабоду, за зямлю, за волю!

---

## № 3.

### Да служачых і рабочых Лібава-Роменскай чыгункі.

Таварышы! Наш начальнік чыгункі да самага апошняга часу адносіўся да саюзу чыгуначнікаў корэктна, і мы, прадстаўнікі саюзу, зьяўляліся, на яго погляд, выяўнікамі патрэб служачых. Але цяпер наш урад выступіў адкрыта і гарэзна супроць усяго расійскага народу, так нядаўна яшчэ стомленага зацяжкай працай, галоднага ды забітага, а цяпер грозна паўстаўшага супроць беспрасьветнага адвечнага ўціску. Паміраючы ўрад, як прыгавораны дактарамі да сьмерці распусьнік, ня хоча згадзіцца з прыгаворам, імкнецца падмануць сябе і напружвае рэшту сіл, каб хоць у вапошні раз наглядзецца на замучаных ахвяр яго прагавітасьці і былой улады ды выціснуць з іх яшчэ хоць адну кроплю крыві. Але сіл ужо няма, ён мусіць ужываць ману і подкуп—усе сродкі лічацца добрымі. І вось мы бачым, з аднаго боку, пагрозы зьнішчыць дашчэнту шыбеніцамі ды кулямётамі ўсіх ворагаў ці прынамсі зрабіць няшкоднымі ворагаў самавольства і ўціску, засадзіўшы іх у турмы, з другога—абяцанкі ўсялякае нагароды тым, хто забыўся на гонар, сумленьне і сорам, спакусіўся міласьцінай і ўнясе ў шэрагі таварышоў—змагальнікаў за свабоду—ганебнае провокатарства, шпігоўства. Пры гэтым урад, самаўладны ўрад вялікай дзяржавы Расійскай робіць ганебныя ўмовы з адкідамі народу, наладжвае таварыскія зносіны з паскрэбкамі грамадзянства—хуліганамі, басякамі, золатаротцамі...

Злачынны ўрад раскрадае скарб, потам ды крывёй зробленыя пятакі ніжэйшых кляс насельнасьці, галоўных платнікаў падаткаў, але не забываецца і на верных служак сваіх—губарнатараў ды політыцыю; ён аддае ім у бясконтрольнае і безадказнае ўладаньне цэлыя краіны і губэрні, дае права гэтым сатрапам самавольна заводзіць надзвычайную абарону ці ваеннае становішча, што, апрача ўлады, дае ім «надзвычайныя» матэрыяльныя выгады і выпраўдвае гэты свой загад яўна фальшывымі весткамі аб злачынствах мас, якія прымаюць удзел у вызваленчым руху. Усё гэта не навіна! Фальшывы і злачынны ўрад ужо досыць сябе выявіў! Ніводны, хаця крыху сьвядомы чалавек, ужо не дае веры ўрадавым паведамленьням і абяцанкам.

Службовы абавязак, які—у некаторых выпадках—мацней за абавязак прыстойнасьці, прымушае і нашага начальніка чыгункі ўспрыняць прыёмы, якія дыктуе ўрад. І ён у сваіх прамовах да служачых ды рабочых і сваіх абвестках ужывае тыя самыя ганебныя спосабы, робіць уплыў маны, паклёпу, подкупу, застрашваньня і абяцанак. Ён не пасароміцца напісаць у в абвестцы, што Менскі Комітэт саюзу чыгуначнікаў кажа яўную няпраўду, не пасароміцца паклёпам па адрасу вашых выбарных абразіць усіх вас, абіраўшых у члены комітэту тых сваіх таварышоў, якім вы давяраеце.

Не, таварышы, не абраныя вамі члены комітэту казалі вам яўную няпраўду; ня тыя вашы таварышы, што за сваю адданасьць нашай агульнай справе трапілі ў няволю, нудзяцца за замком і за жалезнымі кратамі,—вам маніць наш фальшывы ўрад, бо абяцае тое, чаго ён ня хоча і ня можа спраўдзіць, і гэтую ману паўтарае сам начальнік чыгункі офіцыяльна, з прычыны свайго «службовага абавязку», і жадае, каб хутчэй спынілася забастоўка.

Не захоча ўрад адмовіцца ад матэрыяльных выгод свайго ўпрывілеяванага становішча і не захоча ён пазбыцца сваіх вялізных акладаў і атрыманьня дапаможных нагарод пры кожным выпадку свайго службовага і сямейнага жыцьця, як, напрыклад, пераборы на другую кватэру ды інш., не захоча ён адмовіцца ад вялізных выдаткаў на жандараў, шпегаў, сышчыкаў ды провокатараў, якія існуюць спэцыяльна для барацьбы з вызваленчым рухам; значыцца, і ня можа ён спраўдзіць сваіх абяцанак чыгуначнікам, бо амаль ужо пустая скарбніца ня вытрымае нават тых з вышэйпаказаных выдаткаў, якія можна лічыць за больш неабходныя. Урад і цяпер ашуквае вас, як ашукваў ужо неаднокраць раней, ён гатовы абяцаць вам усё дабро на зямлі, абы вы спынілі забастоўку, але ён ня спраўдзіць сваіх абяцанак, як ня спраўдзіў і таго, што абяцаў раней.

Вам абвяшчае начальнік чыгункі, што надрукованы ўжо загады аб комісіях прэтэнзій і бытавой, якія павінны былі адыграць важную ролю ў справе палепшаньня вашага бытавога і праўнага становішча, што начальства аб вас руплцца і абгаворвае пытаньні аб вашым побыце ды г. д. Вы ўжо ведаеце, таварышы, як «начальства» абгаворвае гэтыя пытаньні, вы ўжо ведаеце, што толькі ў тым выпадку на вашы зусім справядлівыя вымаганьні зьвяртаюць увагу, калі іх высоўвае організованая маса, якая зьяўляецца грознай сілай. Такой сілай зьяўляецца наш Саюз, заслужыўшы такую ненавісьць напалоханага ім ураду, але які нават цяпер, у часы самых адчайных спроб ураду дэзорганізаваць яго шэрагі і выхапіць адтуль лепшых яго дзеячоў, зьяўляецца яшчэ грознай сілай.

Нас не павінна палохаць пагроза зьняволеньня ў турме. Наш гарэзны ўрад, які паставіў на карту ўсё, нават сваё існаваньне,—урад, які адважыўся арыштаваць прадстаўнікоў рабочых мас Пецярбургу і Масквы і прадстаўнікоў сялянства, здолее забраць у палон толькі некалькі дзесяткаў правадыроў. Саюз ад гэтага не раскідаецца,—наадварот: гэта толькі павінна мацней згуртаваць масу, якая яшчэ цьвярдзей і галасьней будзе дамагацца вызваленьня сваіх членаў і заснаваньня такога парадку, калі узурпатары ўлады—нашы міністры з фарысеем Віттэ і нікчэмным ашуканцам Дурново на чале—сАступілі-б з свайго месца на карысьць выбарных ад усяго народу, яго лепшых людзей.

Адзінай гарантыяй трывалага пераходу да іншага ладу зьяўляецца ўстаноўчы сойм на падставе агульнага, простага, роўнага і патайнага галасаваньня ў выборчым праве бяз розьніцы роду, нацыянальнасьці, веравызнаньня. Без устаноўчага сойму ўсе абяцанкі ўраду, якія здолее вырваць у яго з рук націск сіл вызваленчага руху, будуць ня лепшыя за маніфэст 17 кастрычніка, ня лепшыя за шматок паперы, дадзены ўсёй Расіі і нам у тым ліку 18 кастрычніка, памяць аб якім ужо ніколі ня зьнікне.

Высунуўшы гэты лёзунг, таварышы нашы і ўся рабочая маса Пецярбургу і Масквы прынялі покліч ураду і вядуць упартую барацьбу з ім. Частка войска зразумела, што ўрад—вораг усяго народу, да






Васілеўскі Н., сод ыял-дэмократ. Палітычны староста Магі-

якога належаць і яны, далучылася да народных мас, якія ўжо вядуць змаганьне і чынна дапамагае ім. Уся Расія далучылася да забастоўкі, абвешчанай Саветамі рабочых дэпутатаў у Пецярбурзе ды Маскве, конфэрэнцыяй прадстаўнікоў 29 чыгунак і саюзамі, і ўжо амаль на ўсіх чыгунках часткова ці цалком спыніўся рух. Шмат якія з іх, дзякуючы пераходу часткі войска на бок змаганьнікаў, ужо ў руках паўстаўшых, і на іх наладжана часовае кіраўніцтва выбарнымі. Рух расьце, пашыраецца і на днях ахопіць усю Расію. Урад няздольны стрымаць такога націску грамадзянскіх сіл, ён мусіць уступіць, тым больш, што сьвядомасьць хутка пранікае ў шэрагі яго галоўных абаронцаў—у войска, якое пераходзіць ды пераходзіць на бок вызваленчага руху, і тым узмацняе шэраг народу, што змагаецца за грамадзянскія правы.

Сорам, таварышы, у такую сур'ёзную хвіліну быць маладушнымі. Ці памятаеце вы, таварышы, што казалі вам прамоўцы ў тую ўрачыстую хвіліну, калі мы сабраліся вялізным натоўпам на пляцы ля вакзалу і сьвяткавалі сваю першую перамогу над урадам? Яны аднадушна казалі, што гэта толькі першы этап на шляху да вызваленьня. Таму няхай жыве новы этап барацьбы! Няхай жыве забастоўка!

---

**№ 4.**

**Да рабочых і служачых Лібава-Роменскай чыгункі.**

Таварышы, ведайце вы ўсе, што цяперашняя ўсерасійская забастоўка чыгуначнікаў на сваім сьцягу выставіла агульнае галасаваньне, свабоду сходаў, саюзаў, слова, друку, незачэпнасьці асобы і мяшканьня, скасаваньня вайсковага становішча і рознае абароны, роўныя правы і законны лад для ўсіх; каб гвалтаў і ўсялякіх жахаў, што робіць урад ды яго каты, як, напрыклад, паляць шмат людзей на агні, наладжваюць пагромы, забіваюць, расстрэльваюць мірных жыхароў, адгэтуль не здаралася, каб усе вінавайцы гэтых злачынстваў: міністры, губарнатары, жандары, паліцмайстры і іншыя паганцы былі пакараны па суду і паводле законаў, што цяпер ужываюцца толькі да нядужых і безабаронных.

Таварышы, вы вымагаеце вызваленьня абранага вамі ў комітэт узамену за спыненьне забастоўкі; гэта сьведчыць, што вы даражыце людзьмі, якіх вы паставілі ў першыя шэрагі барацьбітоў за агульную справядлівую справу, у імя вернасьці дэвізу: «Усе за аднаго і адзін за ўсіх». Але, таварышы, вы памыляецеся, бо паддаецеся пачуцьцю сэрца, а таму мы ад сябе і ад імя вязьняў-таварышоў нашых заклікаем вас, не рабеце гэтага. Памятайце, таварышы, што сапраўдная забастоўка—гэта адзіны і апошні бяскрэўны спосаб у барацьбе нашай з ганебным і здрадлівым урадам. Не забывайцеся, таварышы, што, прынасячы ў ахвяру забастоўку, вы пакідаеце ў кіпцях крыважэрнага ўраду сотні тысяч зьняволеных ужо пасьля маніфэсту 17 кастрычніка і аддаеце тысячы пакутнікаў за дабро і свабоду народу на гібель, на шыбеніцу і расстрэл. Не, таварышы, калі нам давядзецца ўсім трапіць у турму і нават аддаваць жыцьцё, дык і тады, таварышы, мы вымагаем ад вас толькі адважнай цьвёрдасьці і аднадумнасьці ў барацьбе за агульную сьвятую справу вызваленьня, заклікаем вас мацней згуртавацца ў шэрагі, каб не паддавацца ні пагрозам, ні звадніцтву ворагаў, памятаючы, што шлях да свабоды і шчасьця—цяжкі, але хутка ўжо яго канец.

Няхай жывуць таварышы, няхай жыве свабода!

**Мясцовы забастовачны комітэт чыгуначнікаў**

## № 5.

### Абвінавальны акт

па справе аб забастоўцы чыгуначнікаў, якая адбылася ў Менску ў 1905 годзе.

У кастрычніку месяцы 1906 году ў г. Менску ў некаторых асоб, з ліку служачых ва Ўправе Лібава-Роменскай чыгункі, зьявілася думка аб неабходнасьці ўсім служачым гэтае чыгункі далучыцца да Ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў і арганізаваць у г. Менску з сябе мясцовы аддзел. За ажыцьцяўленьне гэтае думкі горача ўзяліся з ліку служачых ва ўправе адзначанай чыгункі наступныя асобы: юрысконсульт чыгункі Метлін, памоцнік яго Валынскі, тэхнік Гамзагурдзі, Павел Жаба, Мікола Рэверэльлі, інжынэр Кузьняцоў, Яўгені Спонці, майстар Левінскі, Нікольскі і тэлеграфістыя: Ляндахер, Максіменка і Дацка. Адзначаныя асобы тады-ж прынялі ўсе меры, каб распаўсюдзіць сярод служачых чыгункі ідэю аб неабходнасьці далучыцца да ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў з мэтай палепшаньня праз гэта іх праўнага і эканамічнага становішча. Прынятыя арганізатарамі мясцовага аддзелу саюзу меры, каб прыцягнуць членаў у саюз, былі вось якія: пашырэньне сярод служачых чыгункі экзэмпляраў статуту ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў, укладзенага цэнтральным бюро саюзу 22-24 чэрвеня 1905 году, раздача падпісных лістоў дзеля запісу ў сябры саюзу і наладжаньне ў асяродзьдзі служачых сходак, мітынгаў і сходаў, на якіх адзначаныя асобы ўгаварвалі служачых далучыцца да саюзу і тлумачылі ім карысьць гэтага, прычым, аднак, таілі палітычную мэту, да якое яны імкнуліся, і адзначалі толькі профэсыянальна-эканомічныя задачы саюзу. Асобам, якія не хацелі залічыцца ў члены саюзу, аганізатары апошняга пагражалі бойкотам, а асобам, што запісаліся ў члены саюзу, прапанавалі ўносіць на патрэбы апошняга па ½ капейкі з рубля тае пэнсіі або заробку, што яны атрымлівалі.

Дзякуючы гэткай агітацыі арганізатараў мясцовага аддзелу ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў і высунутай апошнімі ў якасьці галоўнай задачы саюзу—палепшаньне эканомічнага становішча служачых на чыгунцы, у члены саюзу запісалася вельмі многа служачых, так што ў тым самым кастрычніку месяцы, на адным агульным сходзе членаў саюзу, які адбыўся на ст. Менск Лібава-Роменскай чыгункі, прызнана было патрэбным арганізаваць выканаўчы орган мясцовага аддзелу саюзу—часовы комітэт, у склад якога і былі абраны асобы, што больш за другіх агітавалі за далучэньне да саюзу, а іменна: Гамзагурдзі, Жаба, Рэверэльлі, Кузьняцоў, Нікольскі і Фарманоўскі. Абавязкам гэтага часовага комітэту саюзу, апрача загадваньня бягучымі справамі саюзу, агульны сход вызначыў распрацоўку проэкту правіл для выбараў з агульнага ліку членаў саюзу сталага комітэту. Выпрацаваны часовым комітэтам проэкт адзначаных правіл быў прапанаваны сходу дзесятнікаў усіх паасобных служб управы Лібава-Роменскай чыгункі і быў зацьверджаны імі на пасяджэньні 15-га лістапада, прычым спосаб абраньня членаў комітэту, насупроць думкі паасобных членаў, быў прыняты, па рэкомэндацыі ўкладчыкаў правіл, такі, пры якім забясьпечвалася абраньне ў члены комітэту ранейшых членаў часовага комітэту або асоб, пажаданых ім. Паводле гэтых правіл сьпярша абіралі кандыдатаў па паасобных службах чыгункі, а потым з гэтых кандыдатаў агульным галасаваньнем усіх членаў саюзу абіраліся члены комітэту. Дзякуючы таму, што такі спосаб палегчаў агітацыю, асобы, якія хацяі карысталіся давер'ем сваіх беспасрэдных супрацоўнікаў, але былі непажаданы часоваму комітэту на выбарах,

што адбыліся 2-га сьнежня 1905 году, не прашлі ў члены комітэту і ў склад апошняга ўвашлі, за старшыню Гамзагурдзі, а членамі ўсе члены часовага комітэту з дадаткам некаторых патрэбных ім асоб, а іменна: Жаба, Рэверэльлі, Валамскі, Левінскі, Нікольскі, Ляндахер, Кулакоўскі ды Руцкі. Яшчэ за часовым комітэтам Менскага аддзелу саюзу, апошні, з дазволу начальніка Лібава-Роменскай чыгункі Машкова, наладзіў некалькі сходаў членаў саюзу ў памяшканьні службы збораў і адзін сход у залі «Парыж». На сходах гэтых, на якіх старшынявалі Метлін, Гамзагурдзі і Жаба, апрача членаў саюзу, прымалі ўдзел і староньнія асобы: мясцовыя рабочыя, студэнт і нейкія яўрэі— прадстаўнікі організацыі Бунду і соцыял-дэмократычнай рабочай партыі. У якасьці прамоўцаў на гэтых сходах звычайна выступалі: Метлін, Гамзагурдзі, Жаба, Нікольскі, Кузьняцоў і Валынскі, якія ў сваіх прамовах казалі аб задачах і мэтах саюзу, а таксама гаварылі прамовы на палітычныя тэмы. Між іншым, у прамовах сваіх яны ганілі ўрад, падбухторвалі супроць яго членаў саюзу, а таксама адзначалі тое, што забастоўкі зьяўляюцца неабходным сродкам барацьбы з урадам і папераджалі, што маецца быць забастоўка чыгуначнікаў і што яна будзе астатняй і рашучай бойкай з урадам. З ліку названых асоб Метлін, апрача таго, чытаў часамі на сходах паведамленьні з газэт аб розных падзеях, якія сьведчылі аб самавольстве ўраду, і аб гібелі барацьбіта за свабоду, Баумана.

Зьяўленьне на гэтых сходах у якасьці прамоўцаў яўрэяў члены саюзу спатыкалі сьпярша воража, дзякуючы чаму прамоўцы спачатку трымаліся вельмі асьцярожна, але пазьней, на далейшых сходах, яны здалелі зрабіць такі ўплыў на слухачоў, што прамовы іх, якія зьмяшчалі вымаганьне ўстаноўчага сойму і ўстанаўленьня ў Расіі рэспубліканскага ладу кіраваньня, сход слухаў бяз жадных протэстаў. Такім чынам у гор. Менску, у час з кастрычніка па сьнежань з'організаваўся і пачаў функцыянаваць Менскі аддзел усерасійскага саюзу чыгуначнікаў з яго выканаўчым органам—менскім комітэтам саюзу, які зусім неспадзявана для большасьці членаў саюзу выдаў загад аб агульнай забастоўцы як ва ўправе, так па калеі Л.-Р. чыг. З прычыны такога загаду комітэту саюзу на ўсёй Л.-Р. чыг. ў межах Менскай губ. спыніліся правільныя зносіны па чыгунцы, а таксама спыніліся і заняткі ў розных аддзелах управы чыгункі, прычым забастоўка гэта цягнулася з 8 па 13 сьнежня 1905 г. Адзначаную забастоўку чыгуначнікаў абвесьціў і кіраваў ёю на Л.-Р. чыгунцы Менскі комітэт саюзу ў якасьці выканаўчага органу мясцовага аддзелу ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў, на падставе загаду конфэрэнцыі дэпутатаў 29 чыгунак і цэнтральнага бюро ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў, зьмешчанага ў цыркулярнай дэпэшы з Масквы ад 7 сьнежня 1905 году. У гэтай дэпэшы заклікалася распачаць агульную палітычную забастоўку з 7-га сьнежня 1905 году ў імя скліканьня ўстаноўчага сойму на падставе агульнага, простага, роўнага і патайнага выбарчага галасаваньня. Тэлеграма конфэрэнцыі дэпутатаў 29 чыгунак і цэнтральнага бюро ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў з загадам пачаць забастоўку абвешчана была па паасобных службах управы Л.-Р. чыг. пад поўдзень 8 сьнежня 1905 г., прычым у Службе збораў тэлеграму гэту прачытаў служачы гэтага аддзелу начальнік гэтага аддзяленьня Галушка па загаду члена мясцовага комітэту саюзу—Рэверэльлі; у Службе пуці—старшынёй комітэту Гамзагурдзі; у канторы матэрыяльнай службы—членам комітэту Жабай, які ў адказ на протэст служачых супроць забастоўкі сказаў ім, што «другія за свабоду галаву на калодку кладуць, а вы ня хочаце далучыцца да заба-

стоўкі». Пасьля, тады-ж, 8 сьнежня, каля 2-й гадзіны па поўдні Менскі комітэт саюзу паслаў па калеі Л.-Р. чыг. тэлеграму служачым пачаць забастоўку, прычым падставай для гэтай тэлеграмы быў вызначаны зьмест дэпэшы, прысланай конфэрэнцыяй дэпутатаў 29 чыгунак і цэнтральнага бюро ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў ад 7-га сьнежня.

У дзень абвешчаньня забастоўкі Гамзагурдзі і Жаба зьявіліся на ст. Менск Л.-Р. чыг., каб спыніць рух і кіравалі натоўпам з 20 чалавек, якія выпускалі пару з паравозаў, а перад прыходам цягніка № 1 з Рамноў на дрэзіне паехалі яму насустрэч і спынілі яго перад сэмафорам.

Шмат дапамаглі ў наладжаньні забастоўкі члены саюзу: Левінскі, Руцкі, Кулакоўскі, Дацка і Максіменка, якія адчаплялі вагоны ў цягнікох, загадвалі ставіць паравозы ў дэпо і наагул ўсімі спосабамі клапаціліся, каб спыніць рух, у чым і дасягнулі поўнага посьпеху. Руцкі і Кулакоўскі, апрача таго, стаялі на чале натоўпу рабочых, якія пад уплывам нейкай групы рабочых, што прышлі на станцыю з гораду, разьбіралі мэханічныя часткі паравозаў, а потым у кампаніі з невядомымі асобамі выяжджалі на разьезд № 15, і з-пад цягніка, які вёў машыністы Корзун, узялі паравоз, паехалі на ім на станцыю Міхановічы, дзе абвесьцілі забастоўку і забралі там другі паравоз у машыністага Швэйера таксама з пад цягніка ды павялі іх на ст. Менск. Даць адпор забастоўшчыкам ня было магчымасьці, бо Руцкі пагражаў сьведку Корзуну рэвольвэрам, і ўся гэтая кампанія была ўзброена і страляла з рэвольвэраў.

Вельмі значную ролю ў агітацыі і кіраўніцтве забастоўкай гралі таксама тэлеграфістыя Ляндахер, Максіменка і Дацка. Двое апошніх разагналі жадаўшых дзяжурыць на тэлеграфе і пагражалі гвалтам і забойствам тым, хто не хацеў далучыцца да забастоўкі. Максіменка здымаў з паравозаў служачых на ст. Менск, а Дацка пагражаў тэлеграфістаму Папову абліць яго серным квасам за тое, што апошні быў супроць забастоўкі. Потым самое наладжаньне забастоўкі было ў значнай меры палегчана больш чым спрыяючымі адносінамі да забастоўкі тэлеграфістых на чыгунцы, якія прымалі і перадавалі тэлеграмы ад комітэтаў і членаў гэтых комітэтаў і ня выконвалі, па загаду Гамзагурдзі, як старшыні комітэту саюзу, цыркулярнае пропозыцыі свайго начальніка Баравіцкага адносна спыненьня злоўжываньняў. Тэлеграфісты Прышчэпенка, у часе забастоўкі, у якасьці дэлегата саюзу, у цягніку № 2, што накіроваўся з Гомлю ў Менск, трымаў сябе, як поўны гаспадар цягніка, даваў у дарозе тэлеграмы і нават зьбіраў па падпісным лісту грошы на карысьць саюзу.

Адзначаныя акалічнасьці пацьверджаны на папярэднім дазнаньні ў адпаведных частках паказаньнямі сьведак.

У выніку зробленых паліцыяй у некаторых служачых управы Л.-Р. чыг.ператрасак знойдзена: у Ляндахера—2 экзэмпляры сьпісаў членаў саюзу чыгуначнікаў службы тэлеграфу Л.-Р. чыг. ст. Менску; сьпіс кандыдатаў у члены менскага комітэту ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў; правілы, як рабіць выбары ў члены гэтага комітэту і рэзолюцыя агульнага сходу служачых і рабочых Л.-Р. чыгункі ад 23 кастрычніка 1905 году ў г. Менску, дзе зьмешчана пропозыцыя забастовачнай комісіі пры менскім комітэце ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў спыніць забастоўку. У Гамзагурдзі: экзэмпляр правіл, як рабіць выбары, рэзолюцыя агульнага сходу служачых і рабочых Л.-Р. чыг. 23 кастрычніка 1905 г. і проклямацыя мясцовага забастовачнага комітэту чыгуначнікаў, дзе гаворыцца, што гэтая ўсерасійская забастоўка чыгуначнікаў— адзіны і астатні бяскрэўны сродак у барацьбе з урадам за свабоду народу. У Валынскага: 5 экзэмпляраў статуту саюзу, экзэмпляр правіл, як рабіць выбары. У Левінскага: тэлеграма з Масквы ад конфэрэнцыі

дэпутатаў 29 чыгунак і цэнтральнага бюро ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў аб пачатку забастоўкі і копія тэлеграмы з Менску па станцыях Л.-Р. чыг. аб пачатку забастоўкі за подпісам Л.-Р-ага комітэту. У Метліна: протокол пасяджэньня агульнага сходу членаў усерасійскага саюзу чыгуначнікаў, групы Службы збораў Л.-Р. чыгункі ад 12 і 13 лістапада 1905 году ды экзэмпляр статуту. У Спонці: экзэмпляр правіл, як рабіць выбары. У Жабы: на аркушы паперы з пячаткай «Усерасійскі саюз чыгуначнікаў. Комітэт Л.-Р. чыг.» надрукованае на пішучай машынцы адозва політычнага характару ў саюз саюзаў. У Прышчэпенкі: падпісны ліст на карысьць забаставаўшых служачых Л.-Р. чыгункі з адзнакамі аб грашовых узносах і ў Дацка: друкованы статут саюзу і рэзолюцыя агульнага сходу служачых і рабочых Л.-Р. чыг.

Праглядам «статуту ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў» выяўлена, што саюз мае на мэце карэнным спосабам палепшыць матэрыяльнае і службова-праўнае становішча служачых і рабочых чыгункі; што дзеля гэтага саюз імкнецца да такога парадку, пры якім апрацоўка ўсіх урадовых законапалажэньняў і загадаў датычачых працы чыгуначнікаў, знаходзілася-б у руках самых служачых і рабочых і што з тае прычыны, што пры сучасным дзяржаўным ладзе Расіі такі парадак немагчымы, дык саюз высоўвае вымаганьне поўнай грамадзянскай свабоды і народнага прадстаўніцтва, якое забясьпечвала-б удзел усяго народу ў кіраваньні краінай; што ў члены саюзу могуць прымацца, апрача асоб, маючых адносіны да чыгункі і іншыя асобы, карысныя сваёй чыннасьцю; што саюз ня прымае цалкам палажэньне аднае якое-небудзь партыі і дазваляе ўнутры сябе свабоду програмнага самавызначэньня розных груп, пры ўмове, што яны прымуць за мінімум політычную і профэсыянальную програму саюзу, якую прымае зьезд саюзу; што ў сваёй грамадзянскай і політычнай чыннасьці саюз лічыць за магчымае наладжваць зносіны дзеля ўзгадненьня чыннасьці з іншымі грамадзянскімі організацыямі (партыямі, саюзамі ды інш.), пры ўмове, каб мэты гэтых організацый не супярэчылі політычнай і профэсыянальнай програме саюзу; што мэтай чыннасьці комітэтаў, зьездаў і цэнтральнага бюро саюзу, між іншым, зьяўляецца: падтрыманьне членаў саюзаў, якія пацярпелі пры стычках з адміністрацыяй па справах саюзу, падшуканьне месца зволеным з пасады па справах саюзу таварышом, вырашэньне пытаньняў аб неабходнасьці і сваячаснасьці ўсеагульнай забастоўкі, абвешчаньне часу пачатку і сканчэньня забастовак, організацыя бібліотэк з падборам такіх кніг, што высьвятляюць сучаснае становішча Расіі, наладжаньне сходаў, мітынгаў, лекцый, масавак і г. д., і што ўсе сродкі саюзу складаюцца з абавязковых штомесячных узносаў у памеры паловы процанту месячнай пэнсіі і заработку і з выпадковых паступленьняў, прычым 50 проц. гэтых сродкаў адлічаецца ў забастовачны фонд. З зьместу знойдзенай пры перагрусцы ў Е. Спонці брошуры аб «усерасійскім саюзе чыгуначнікаў», выданай С.-Пецярбурскім краёвым комітэтам саюзу, відаць, што мэты саюзу—барацьба з урадам, каб прымусіць апошні склікаць установчы сойм з народных прадстаўнікоў, абраных на падставе ўсеагульнага, роўнага, простага й патайнага выборчага галасаваньня, каб гэты сойм заснаваў, замест існуючага, новы дзяржаўны лад і што сродкам для такой барацьбы і дасягненьня пажаданай мэты зьяўляецца агульная забастоўка чыгуначнікаў, на наладжаньне якое саюзьнікі павінны накіраваць усе свае сілы і якая павінна цягнуцца датуль, пакуль ня будзе скліканы ўстаноўчы сойм. Прагляд адабраных у В. Левінскага 2-х тэлеграм ад 7-га сьнежня аб пачатку забастоўкі чыгуначнікаў і менскага комітэту саюзу ўстанавіў, што ў 1-ай тэлеграме конфэрэнцыя дэпутатаў

29 чыгунак, супольна з цэнтральным бюро ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў, далучылася да пастановы савету рабочых дэпутатаў Пецярбургу і Масквы і абвесьціла з 7 сьнежня ўсеагульную забастоўку, якая павінна ня спыняцца да скліканьня ўстаноўчага сойму, прычым у тэлеграме гэтай адзначана, што гарадзкі пролетарыят, працоўнае сялянства і сьвядомая частка флёты ўжо паўсталі за народную свабоду і ў 2-й тэлеграме да комітэту менскага аддзяленьня ўсерасійскага саюзу чыгуначнікаў паведамляе служачых аб пачатку забастоўкі з 8-га сьнежня а 12-ай гадзіне ўдзень і адзначае, што вышэй паданая дэпэша конфэрэнцыі заклікае да ўсеагульнай забастоўкі і што саюзьнікам Л.-Р. чыг. трэба таксама далучыцца да забастоўкі на падставе выманьняў конфэрэнцыі. З зьместу знойдзеных у часеператраскі ў В. Ляндахера «рэзолюцыі агульнага сходу служачых і рабочых Л.-Р. чыг. ад 23 кастрычніка ў Менску» і адозвы «коаліцыйнага савету» ад 11 сьнежня відаць, што комітэт менскага аддзяленьня чыгуначнікаў наладжваў па некаторых пытаньнях зносіны з соцыял-дэмократычнай партыяй, Бундам і соцыял-рэволюцыянэрамі.

На падставе гэтага прыс. пав. І. І. Метлін, П. Я. Гамзагурдзі, Н. О. Жаба, пам. прыс. пав. С. А. Валынскі, Н. О. Рэверэльлі, Г. І. Нікольскі, В. І. Левінскі, М. Н. Кузьняцоў, Е. І. Спонці, В. П. Ляндахер, В. Г. Максіменка, С. Д. Дацка, К. В. Руцкі, і К. П. Прышчэпенка вінавацяцца ў тым, што ў пэрод з 17 кастрычніка па 8 сьнежня 1905 году, у Менску, па згодзе між сабой, прымалі ўдзел у створаным імі супроцьзаконным таварыстве, пад назвай Менскі Комітэт Усерасійскага Саюзу Чыгуначнікаў, якое з іх ведама паставіла сабе за мэту сваёй чыннасьці скасаваньне існуючага ў Расійскай дзяржаве грамадзянскага ладу і для дасягненьня гэтае злачыннае мэты, у якасьці членаў адзначанага таварыства, накіравалі сваю чыннасьць на зьдзейсьненьне абвешчанай рэволюцыйнымі партыямі агульнай політычнай забастоўкі чыгуначнікаў, якую наладзілі на калеі Л.-Р. чыг. 8 сьнежня 1905 г., г. зн. у злачынстве, прадугледжаным 51, 1 ч. 126 і 3 п. 125 арт. карнае ўставы.

Д-р Рыўкін.

# Аршанскі пагром[1]).

У нас хадзілі чуткі аб пагроме і казалі, што прыстаў Мадзелеўскі загадвае сялянам прысьці са зброяй у горад, што памоцнік пісара Сяніцкі, Ігнацьцеў і Сірын вельмі агітуюць у горадзе сурод сялян, што сярод задняпроўскіх мяшчан агітуе мяшчанскі стараста Сокалаў і пачтовыя чыноўнікі Мурашка ды Кур'янаў. 19 і 20 кастрычніка ў нас, з поваду маніфэсту 17 кастрычніка, адбыліся дэмонстрацыі і хадзілі з чырвонымі сьцягамі. За прамоўцаў былі яўрэі і рускія, а 20 кастрычніка—пераважна расійская моладзь. (Гэта я кажу затым, што некаторыя думаюць, нібы прычына пагрому—дэмонстрацыі). 28 вярнуўся з павету спраўнік Высоцкі. Таго самага дня, увечары, задняпроўскія мяшчане зьбіраліся ў сябе ды крычалі: «Бі жыдоў!». Але дзякуючы таму, што сьцямнела і што зараз-жа наладзілася самаабарона, задняпроўцы перайсьці мост не адважыліся.

У пятніцу 21 кастрычніка, у дзень «восшествия на престол» з раніцы ў горад пачалі зьяўляцца сяляне з вёсак з віламі, косамі, стрэльбамі і г. д. Яўрэі зраньня пахаваліся. Сабраліся на пляцы ля сабору. Шмат хто ў гэты час заўважыў паліцэйскага пісара Ігнацьцева, у сялянскай вопратцы, які горача падбухторваў сялян. Тут-жа здарылася вось якая зьява: мясцовыя хуліганы Васіль Галубовіч і пашт. чыноўнік Кур'янаў прышлі да гарадзкога галавы Стратановіча вымагаць ад імя спраўніка, каб ён зьявіўся на пляц. Стратановіч ведаў настрой натоўпу і адмовіўся ісьці, кажучы, што спраўнік, калі трэба, можа да яго зьявіцца. Пасьля гэтага яны другі раз зьявіліся да галавы, узялі подручкі і «чэсьцю» павялі да спраўніка. Апошні спаткаў яго словамі: «Ты што, жыдоўскі бог, адмаўляешся партрэт насіць». Такой самай абразай ён спаткаў судзьдзю Волкава (гэтых двох хуліганы хацелі забіць, але яны сваячасна патрапілі ўцячы, вокны ў іх былі павыбіваны).

І вось, патрыотычная маніфэстацыя, якая складалася з гарадзкога галавы між двума хуліганамі, што несьлі партрэт цара, усяго начальства, паліцыі, афіцэраў ды салдат, вялізнага натаўпу хуліганаў і сялян, разам з папом а. Міхаілам і сьв. пратэсамі выправілася на вокзал. Па дарозе кідалі каменьнямі ў вокны яўрэйскіх хат. Калі праходзілі па рынку дык некаторыя пачалі ламаць замкі на зачыненых крамах, але Стратановіч зьвярнуў увагу на гэта спраўніка, і апошні часова спыніў рабунак. На вокзале Стратановіча ледзь не забілі, пакуль яму не ўдалося выехаць у Маскву.

Гэта прадмова. Уласна пагром пачаўся, калі маніфэстацыя вярталася з вокзалу. Ад вокзалу да гораду вярсты са дзьве. Першая хата ў горадзе, як заходзім, хата Хэйфера, чалавека вельмі багатага. Тут упяршыню пачалі, ня толькі кідаць каменьні—гэта рабілі яшчэ па дарозе туды,—ламаць плот і фортку. Адна з тых, якія выратаваліся, служанка Гіндзіна, апавядае, што тут-жа пачалі страляць у вокны праз ад-

---

[1]) Гэты ліст быў надрукованы ў «Днепровском Вестнике» ў Магілеве, у № 295. ад 3 лістапада 1905 году.

чыненыя акяніцы. Жанчыны, што знаходзіліся ў хаце, схапілі дзяцей і ўцяклі ў невялічкую хатку на двары, дзе жылі стары са старой. Адзін з зяцёў Хэйфэца М.[1]) з прыказчыкам Б.[2]) выбеглі на панадворак і хацелі пералезьці праз плот, але панадворак быў акружаны. Тады М. і Б. выстралілі з рэвольвэру. У гэты час плот ня вытрымаў. Б., падстрэлены яшчэ першым стрэлам, паранены салдацкай куляй у бок наскрозь, схаваўся ў сталовым пакоі за фіранкай, ля яго праходзілі і не заўважалі яго.

Весткі ў мяне: 1) ад агляду месца здарэньня і забітых зараз-жа пасьля забойства; 2) ад параненага Брэгера; 3) ад абабітай Гіндзінай[3]), якой пашчасьціла выратавацца; 4) ад некаторых удзельнікаў маніфэстацыі, «пасыўных назіральнікаў».

Усё адбывалася вось як: спраўнік, афіцэры і большасьць салдат засталіся на шасе. Прыстаў Мадзелеўскі, паліц. надзорца і паліц. пісары пачалі ламаць хату. З прычыны таго, што сяляне ім сьпярша не дапамагалі, начальства на іх прыкрыкнула: «што стаіцё?» Зяця М. тут-жа забілі. Служанку Г. білі кіямі, яна прыкінулася памершай, і, як толькі ад яе адышліся, яна ўцякла, хаця надзорца Ракоўскі крычэў: «Даганеце яе, дабеце!» Але яе не дагналі. Потым пачалася жудасная зьява: калі знашлі другіх жанчын, што схаваліся ў невялічкай хаце, дык кожную выцягвалі і забівалі кулямі, паленьнямі ды нажамі; калі-ж пачалі цягнуць малодшую дачку, дзяўчыну, дык сястра яе ўчапілася за яе і не давала. Сястры стрэлілі два разы ў вочы. Кожны раз пасьля забойства труп падымалі ўгару і «народ» крычаў «ура!».

Поп а. Міхаіл Маслок на шасе служыў імшу... І маліўся богу, які ўсіх любіць і ўсім усё даруе. Дзеяньне цягнулася блізка гадзіны. Стаяла войска з начальствам, трымалі царскі портрэт з пратэсамі і тут-жа ў сажнях каля дзесяцёх, у імя бога ды цара забівалі. Ды як забівалі! Старая[4]), якую я застаў ледзь-ледзь жывую, мела каля 10 ран: каля вуха чэрап быў праламаны, частка галавы з валасамі садрана, твар— суцэльны сіняк, на барадзе вялікая рэзаная рана... У старога язык быў выцягнуты і паколаты; зубы павыбіваны... Сястра Хая з вялікімі прастрэленымі чорнымі западзінамі замест вачэй рабіла жудаснае ўражаньне. Цела дзяўчыны[5]), голае, са скалечаным тварам, у лужыне крыві...

Не магу больш падрабязна апісваць: кроў стыгне ў жылах, валасы дубам становяцца пры адных успамінах.

Такім чынам забіты 5 жанчын і 3 мужчыны (1 стары). Больш забіваць ня было каго. Дзяцей чыгуначнік Кузьмін[6]) схапіў і ўцёк, ня даўшы іх забіць.

Калі скончылі з мёртвымі, пачалі рабаваць. Рабавалі паводле рангі. У той час, як народ і салдаты цягалі малакаштоўныя рэчы,

---

1) Міндлін.

2) Брэгер—сваяк і прыказчык Хэйфэца. Застаў яго з прастрэленым лёгкім. Надзея на выздараўленьне была не вялікая. Я лячыў яго. і ў часе перавязак ён, ледзь зводзячы дух, апавядаў мне падрабязгі. Не даваць веры чалавеку, які знаходзіцца на краю магілы, я ня мог. У часе суду нада мной ён адбываў вайсковую павіннасьць. Я вельмі прасіў выпытаць яго, але дарэмна.

3) Гіндзіна—дзяўчына, служка Хэйфэца, на судзе па маёй справе пацьвердзіла ўсё, мной напісанае. **А. Р.**

4) Стары ды старая Хайкіны жылі адны ў афіцыне на двары Хэйфэца. **А. Р.**

5) На судова-мэдыцынскім аглядзе выявілася, што дзяўчына Х'ена—дачка Хэйфэца—была згвалтована.

6) Памоцнік машыністага Кузьмін, узрушаны перажытым у часы пагрому, хутка захварэў на эпілепсію. Жыве дагэтуль. Жыве на вокзале, Пакгаўзная, 20. Вельмі бедны. **А. Р.**

З ахвяр Аршанскага пагрому.



Грындорф Мордха (з м. Шклову).



Авіром Саламон (з м. Дуброўны).

## З ахвяр Аршанскага п грому.



Ю.веиц Якаў (з м. Дуброўны).



Зільберборд (з м. Дуброўны).

надзорца Ракоўскі здымаў з пальцаў забітых пярсьцёнкі, а прыстаў Мадзелеўскі, як больш спрактыкаваны (ён раней служыў на катарзе) пачаў шнырыць ў буфэце, знашоў там портфэль з грашыма—9.400 руб. і забраў іх сабе, портфэль-жа пакінуў. Гэта бачыў паранены Брэгер, схаваны за вопраткай. Каб праверыць паказаньні Брэгера, я зьвярнуўся да зяця Хэйфэца—Блюміна; ён мне таксама казаў, што нябожчыцы-жонцы ён загадаў прыгатаваць грошы, каб заплаціць за лес, ён ведае, што 6.500 руб. узялі з банку, рэшту—з крамы. На маё пытаньне, ці давярае ён прыказчыку Брэгеру, Блюмін адказаў, што Брэгер—іх сваяк, у іх выгадаваўся, служыць у іх 12 год. Апрача таго, Брэгер апавядаў мне тады, калі ён сам ня ведаў, ці будзе жыць, ці не. Перад сьмерцю ня маняць.

На гэтым скончыўся першы дзень пагрому 21 кастрычніка.

Раніцой 22 кастрычніка—тыя самыя натоўпы сялян, з тымі самымі провокатарамі і тэй самай агітацыяй. Зноў маніфэстацыя. Справа цяпер пачалася з другога боку гораду—на Віцебскай шасе. Тры селяніна, якія знарок прыехалі ў горад, задраліся з яўрэйкай і выцялі яе шкворнам па боку.

Калі на яе крык выбег сусед-яўрэй з дачкой, дык яго выцялі сякерай па лобе, а дачку—аглаблёй па сьпіне. Дзяўчына завалілася і пачала корчыцца ў сударгах. Выбег сын першай яўрэйкі і выстраліў з рэвольвэра. Сяляне зараз-жа выпраглі коняй і паехалі ў паліцыю за падмогай. У гэты час ішлі ў горад на падмогу яўрэям дзесяць маладых яўрэяў з мястэчка Дуброўны. Пачуўшы крык, яны кінуліся праз поле ля Дняпра бараніць, па дарозе ўбачылі, што салдаты з афіцэрамі, са спраўнікам Высоцкім, прыставам Мадзелеўскім, надзорцам, разам з вялікім натоўпам хуліганаў і ўзброеных сялян, ідуць сюды. Маладыя людзі схаваліся ў рускай хатцы, што стаяла побач; але іх заўважылі і тут можна было бачыць малюнак з кітайскага жыцьця: грамадзянская кара сьмерцю.

Войска, сьпераду начальства і паліцыя, хуліганы выцягваюць па адным і кожнага забіваюць на сьмерць; аднаму зусім адсяклі галаву: галава і тулава—паасобку. Такім чынам было забіта 9 чалавек.

З прычыны таго, што дзяўчына яшчэ дагэтуль корчылася ў сударгах, хуліганы на вачох у ўсіх стукнулі каменем па галаве і прыкончылі яе. Субота на гэтым ня скончылася. Увечары задняпроўцы грамілі на сваю рызыку ды старых без дапамогі паліцыі і войска: павыбівалі вокны ў трох кватэрах і разбурылі краму Зархі. На пагромшчыкаў кінулася самаабарона. Праўда, і цяпер на самаабарону, якая йшла з Менскай вуліцы, пасланы былі салдаты пад кіраўніцтвам нейкага цывільнага. **Салдаты без начальства стралялі вышэй людзей.** Заўважыўшы гэта, самаабарона прагнала задняпроўцаў бяз жадных ахвяр для тых і другіх.

У той самы дзень у другім месцы здарыліся забойствы: на таварную станцыю Р.-А. чыг. прыехала 8 чалавек моладзі з Шклова—таксама на дапамогу. Натоўп хуліганаў пад кіраўніцтвам нейкага Мацьвея з в. Харборава завёў іх у лес, рэвольвэры адабраў і шасьцярых забіў (двом удалося ўцячы). Мацьвей хваліўся, што за гэта яму абяцалі нагароду ад начальства. Трупы пакалечылі ды кінулі ў будынак чыгункі [1]).

---

[1]) Артыкул д-ра Рыўкіна напісаны пазаўтра пасьля пагрому і таму даныя аб забойстве на станцыі ня зусім дакладныя: прыехала з. Шклова (г. з. затрымана, бо прыехаўшых з Шклова было значна болей) дванаццаць чалавек, а забіта—пяць. **Ув. рэд.**

Увечары таго самага дня да нас прыехаў віцэ-губарнатар Ладыжэнскі; разам з ім былі драгуны. Ён зараз-жа звольніў з пасады спраўніка Высоцкага, хаця на месца апошняга назначылі магілеўскага памоцніка паліцмайстра Мізгайла, які выславіўся яшчэ ў Магілеве тым, што ўмеў наладжваць бойні. У шмат каго на сэрцы адлягло, здавалася, «миновала чаша сия», але дзе там!

Прышло 23. Зноў натоўпы сялян, поклічы да біцьця, зноў зборышчы; трэці дзень пагрому. Крыві над'елі; трэба было расплачвацца мэталем за патрыотычную працу. Пасьля імшы з саборнага пляцу на базар паімчаліся драгуны, за імі хуліганы, а ззаду салдаты, дзякуючы чаму паважаныя асобы хуліганаў мелі з двох бакоў варту. Па дарозе пагромшчыкі выбівалі вокны ў яўрэйскіх хатах. Прышоўшы на рынак, драгуны сталі на адным боку Шклоўскай вуліцы сьпіной да пагромшчыкаў, а салдаты з другога боку зрабілі такі самы манэўр і вышла вайсковае карэ. Пагромшчыкі, з абаронай з усіх бакоў, пачалі пад кіраўніцтвам і па навучэньні паліцэйскага надзорцы, ламаць крамы і красьці тавары. Прычым надзорца навучаў дурняў, што раней трэба разламаць і расьцягнуць тавар у жалезнай краме Фрызмана і тады лёгка будзе адчыніць іншыя крамы. Пагромшчыкі слухаліся разумных парадаў і рабілі ўсё бяз спрэчак. Праца была спорная і выгодная, толькі раз часова перашкодзілі.

Драгуны [1]) паехалі праводзіць сялян, якія везьлі дадому нарабаванае дабро на вазох.

У гэты час самаабарона стрэліла залпам у пагромшчыкаў. Апошнія хутка разьбегліся, але драгуны, вярнуліся і стрэлілі ў адказ залпам па ўцякаўшай самаабароне (двое паранены ў нагу). Такім чынам пагромшчыкі маглі спакойна рабіць сваю справу.

Чаму рабунак спыніўся—ёсьць дзьве вэрсыі: паводле аднае—таму, што сьцямнела, а паводле другое—яўрэй П. з небясьпекай для свайго жыцьця прабраўся да паліцэйскага надзорцы і пачаў упрашаць яго: «Ці-ж я вам не даваў?..» Надзорца нібы адказаў: «Яўрэі мяне ўсё роўна заб'юць за маю чыннасьць»... і тады П. паручыўся яму сваім жыцьцём, што яго не закрануць. Варта было толькі надзорцы сказаць «досыць»—і рабунак спыніўся.

На нас, абыватэлей, жудасьці гэтага вечару пасьля ўсяго, што мы перацярпелі, зрабілі асаблівае ўражаньне. Абрабаваныя і напалоханыя жудасьцямі, якія рабіліся раней уцішку, у гэты вечар, звон як на пажар, частыя залпы, прабяжаўшыя пагромшчыкі з накрадзеным дабром, кіданьне то туды, то сюды баявога атраду нацягнулі нэрвы да немагчымасьці. Я адчуваў, што больш ня вытрымаю. Мазгі ў галаве пачалі варушыцца. Я ледзь не звар'яцеў, разумеючы, што больш трываць нельга...

---

[1]) Калі быў атрыманы гэты № «Днепровского Вестника» ў Воршы, дык камандзір драгун, лічачы, што я абразіў яго атрад, патрабаваў мяне ў дом Ляндо (дзе цяпер радзільны прытулак), каб даведацца праўды (?). Пыталіся ў сьведак, у драгун, якія адмаўляліся прызнацца, што прымалі ўдзел, але калі яўрэі даведаліся, што мяне павялі на дазнаньне, дык вялізная частка жыхароў другога раёну, у тым ліку пацярпеўшыя, прыбеглі і вымагалі, каб і іх спыталі, і яны пацьвердзілі, што я казаў праўду.

Камандзір сказаў, што драгунаў так раззлавала корэспондэнцыя, што ён ня можа запаручыцца за цэласьць гораду, і што трэба знайсьці якое-небудзь выйсьце, каб іх супакоіць.

Я тады згадзіўся напісаць рэдактару ліст аб тым, што драгуны самі не рабавалі і, наколькі мелі магчымасьць, спынілі забойствы. **А. Р.**

24-га раніцай частка прышоўшых на падмогу яўрэям, убачыўшы, што ніякай карысьці ад іх ня будзе, пастанавілі вярнуцца ў Дуброўну. Ім давялося пераходзіць праз мост. Убачыўшы хуліганаў, яны схаваліся ў нейкай хаце. Іх таксама выцягвалі па адным і забівалі. Трох, што засталіся, абабілі, хацелі кінуць іх у Дняпро, але тут падасьпела самаабарона і выратавала іх. Усяго налічваецца трыццаць чалавек [1]) забітых, з іх адзін рускі з атраду самаабароны, шэсьць жанчын і адзін стары, рэшта 23—зусім моладзь, якая аддала жыцьцё «за другі своя».

Гонар і слава загінутым гэроям!

З пагромшчыкаў не забіты і не паранены ніводзін. Крыху гэта тлумачыцца сыстэмай самаабароны; у іх пастанова—два стрэлы ў гару і толькі трэці проста [2]).



[1]) Параненых было значна болей. Параненых (пераважна ў галаву) я перавязваў: цяжка параненых—у доме Палякова на Шклоўскай вул. (дзе цяпер землес) і лёгка параненыя (амбуляторыя) прыходзілі да мяне ў хату, дзеля чаго я павесіў сьцяг з чырвоным крыжам. Дапамагаць перавязваць прыходзілі дзяўчаты. **А. Р.**

[2]) № газэты з гэтым артыкулам атрымалі ў нас у горадзе 5-га, у суботу. Казалі, што ў нядзелю, 6-га, прыдуць мяне забіць (я быў адзін, сям'я выправілася ў Магілеў) і папач з 5-га на 6-га да мяне прышло пачаваць шмат рабочых з самаабароны (памятаю братоў Тэўліных і іншых), а ў нядзелю прышлі і сталі наўкол ганку некалькі рабочых з Бараньскага заводу (цяпер «Чырвоны Кастрычнік»).

Гэтым мае прыкрасьці яшчэ ня скончыліся. У 1906 годзе мяне судзіў суд станавых прадстаўнікоў за паклёп у друку па скаргах папа Маслока і пыстава Мадзелеўскага. Па першай скарзе мяне апраўдалі, а па другой—мяне засудзілі на чатыры месяцы турмы, прычым выпытаць Бэргера, як жыхара другога гораду (Кронштадту), адмовіліся.

Судовая палата ў 1909 г. зьменшыла мне кару да 2 месяцаў турмы. **А. Рыўкін.**

# Сьпіс

## палітычных вязьняў у Магілеўскай губэрскай турме 1906, 1908 і 1909 г. г.

| Прозьвішча, імя і імя па бацьку. | Увага. |
|---|---|
| 1. Бейлін А. Г. | Сябра ЦКК КП(б)Б. |
| 2. Бейлін Д. Г. | Па аслабаненьні з турмы ў 1909 г. выехаў у Амэрыку. |
| 3. Фрэйдлін М. А. | Старшыня Мсьціслаўскага Павятовага Профбюро, комуністы, памёр 25 траўня 1925 г. ад сухот. |
| 4. Жытомірскі М. | Астаўся меншавіком, знаходзіцца ў Маскве на савецкай працы. |
| 5. Васілеўскі Н. | Аўтар брошуры „Калі будзе танная мануфактура“ знаходзіцца ў Маскве, працуе па Нарасьвеце ў Туркмэнскай рэспубліцы. |
| 6. Пястун | Інструктар ЦКК ВКП—комуністы. |
| 7. Яффэ | Працуе ў Якуціі, комуністы. |
| 8. Гусеў-Кесар | Невядома, дзе знаходзіцца. |
| 9. Лібінзон | „ „ „ |
| 10. Савіцкі. | Селянін Аршанскае акругі, невядома, дзе цяпер знаходзіцца. |
| 11. Лукашэвіч А.<br>12. Лукашэвіч М. | Знаходзяцца ў м. Круглым, Аршанскае акругі, працуюць на сваёй гаспадарцы. |
| 13. Каўфман | Невядома, дзе знаходзіцца. |
| 14. Езерская | Сябра партыі с.-р. страляла ў Магілеўскага губарнатара, пакончыла з жыцьцём праз самагубства на катарзе. |
| 15. Фрада<br>16. Пяроўскі<br>17. Каган<br>18. Рафейчыкаў | Былыя с.-р. асуджаны па аднэй справе, згубіў з імі сувязь, калі яны пашлі на катаргу. |
| 19. Ноткін | Былы с.-д. знаходзіцца ў Маскве. |
| 20. Шац. | Рабочы—наборшчык, цяпер знаходзіцца ў Амэрыцы. |
| 21. Ленскі | Былы с.-р., студэнт, да апошняга часу знаходзіўся ў Воршы. |
| 22. Гурэвіч. | Невядома, дзе знаходзіцца. |
| 23. Дольнік | „ „ „ |
| 24. Матраеў | Народны настаўнік, партыйнасьць невядома, у вапошні час працаваў у Смаленску па галіне Народнае Асьветы. |

| | |
|---|---|
| 25. Шарэнда . . . | Невядома, дзе знаходзіцца. |
| 26. Кайнэр. . . . | Знаходзіцца ў Маскве, нэпман. |
| 27. Ліўшыц . . . | Невядома, дзе знаходзіцца. |
| 28. Харсееў Іван. . . | Селянін, памёр у Сібіры, на катарзе. |
| 29. Харсееў Лукаш . . | Селянін, вярнуўся з катаргі пасьля рэволюцыі, жыве ў Кадзіне. |
| 30. Гаўрыкаў Савелі . . | Кадзінскі селянін, памёр на катарзе. |
| 31. Пруднікаў . . . | Вярнуўся з катаргі, жыве ў Кадзіне вёска Высокая. |
| 32. Уласаў . . | Вярнуўся з катаргі, жыве ў Кадзіне, вёска Салонікава. |
| 33. Шэйнін Міхась. . | Вярнуўся з катаргі пасьля рэволюцыі. |
| 34. Рысін<br>35. Мігідаў<br>36. Левін . .<br>37. Фрыдман | Памёрлі ад гвалтаваньняў на катарзе ў Арлоўскай цэнтралцы. |

Гэта яшче ня ўсё па Магілеўскай турме, шмат з таварышоў запамятаваў.

Па Смаленскай турме я добра памятую тав. Паўлава Аляксея, альбо, як звалі яго, „Аляксейчык", па маючыхся вестках памёр на катарзе ад сухот.

Па Віленскай Лукіскай турме памятую тав. Леўка, памёр ад сухот.

Рэшту запамятаваў.

Па сумеснай рэволюцыйнай працы ў Мсьціславе:

1. Хасін Лейба—кравец, комуністы, працуе ў Смаленску. Старшыня Губстрахкасы і старшыня саюзу швэйнікаў.

2. Брыскін Беньямін—друкар, комуністы, працуе ў Смаленску.

3. Гурэвіч Абраша—комуністы, працуе ў Маскве.

4. Барэйша Зьміцер—кравец. комуністы, працуе ў Смаленску.

**А. Бейлін.**

1925 г.

